канца XIX ст., калі атрымалі далейшае развіццё. Пасля публікацыі ў 1891 г. слоў удзельніка паўстання Францішка Багушэвіча „Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" гэты кірунак беларускай нацыянальнай ідэі быў узноўлены і ў пачатку XX ст. атрымаў хуткае развіццё.

Магчыма, нават больш важным кірункам стаў г. зв. „заходнерусізм". Яго важнасць нельга зразумець без усведамлення таго кантэксту, у якім ён пачаў развівацца. Справа ў тым, што для ўраджэнца Цэнтральнай Расіі ў сярэдзіне XIX ст. Беларусь, таксама як Украіна, Літва, Латвія ды інш., населеныя ўмоўна невялікімі народамі на захадзе Расійскай імперыі, была абсалютнай *terra incognita*. Адпаведна, калі адзін з ідэолагаў і заснавальнікаў заходнерусізму Міхаіл Каяловіч у 1860-я гг. пачаў пісаць пра „беларусаў", то, незалежна ад кантэксту, для многіх гэта было сапраўднае адкрыццё. У той час, калі „апазіцыйны" кірунак не мог развівацца, кірунак „праўладны" меў такія магчымасці.

Безумоўна, калі Мураўёў з паплечнікамі браў на ўзбраенне „заходнерусізм" і яго пастулаты, ён быў далёкі ад пошукаў адметнасці беларускага народа і ўмацавання глебы для фармавання беларускай нацыі. Яго цікавіла толькі абгрунтаванне прыналежнасці насельніцтва Беларусі да „агульнарускага" народа і доказ „законнасці" права Расійскай імперыі валодаць беларускімі землямі. Аднак развіццё „заходнерусізму" ў другой палове XIX ст. мела такія наступствы, якія Мураўёў не мог прадбачыць. На працягу апошняй трэці XIX ст. і пачатку XX ст. у межах гэтага кірунку быў назапашаны велізарны эмпірычны матэрыял па гісторыі і этнаграфіі Беларусі, які ў далейшым лёг у аснову навуковых і навукова-папулярных прац адпаведнай тэматыкі і быў выкарыстаны для абгрунтавання права беларусаў на самавызначэнне. Увогуле, менавіта ў межах „заходнерусізму" сфармавалася такая дысцыпліна як беларусазнаўства і менавіта дзякуючы прадстаўнікам гэтага кірунку ў адзіным у Расійскай імперыі Усеагульным перапісе насельніцтва (1897) з'явілася асобная графа „беларуская мова", хоць як частка „рускай мовы".

Зліццё двух гэтых кірункаў у адзіны, што адбылося ў пачатку XX ст., дало хуткі і магутны вынік. Калі ў канцы XIX ст. пра Беларусь і беларусаў звесткі яшчэ толькі распаўсюджваліся, то ў 1903 г. Беларуская Рэвалюцыйная Грамада ўжо патрабавала незалежнай рэспублікі для беларусаў, а ў 1918 г. была абвешчана незалежнай беларуская дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. Варта адзначыць, што ад згаданага заkліка Францішка Багушэвіча да абвяшчэння незалежнасці БНР прайшло ўсяго 27 гадоў! Мы не можам сцвярджаць, што паўстанне 1863–1864 гг. адыграла ў гэтым вызначальную ролю, бо нацыятворчыя працэсы адбываліся ва ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропе, але можна адзначыць, што гэта роля была істотнай.

# Як трэба разумець лозунг „За вольнасць нашу і вашу”?

## Доктор історичних наук Ігор Чорновол:

Декілька переглянутих мною польських інтернет-ресурсів в один голос стверджують, що гасло „За нашу і вашу свободу!” керівники повстання адресували солдатам і офіцерам російської армії. Але мені здається, що аудиторія цього гасла була не набагато меншою, ніж аудиторія гасла *Liberté, Égalité, Fraternité*. І це спрацювало дуже добре: міжнародний резонанс повстання 1863 р. був значний. Крім того, і це теж відомо, керівники повстання закликали приєднатися до повстання пригноблені народи Росії, передовсім — білорусів, литовців і українців.

Продовжу розвивати тему В. Антоновича, цього разу акцентуючи на впливі ідеології польського федералізму на його світогляд.

Покійна Річ Посполита спромоглася сформувати єдине й водночас поліетнічне інформаційне поле, яке продовжувало функціонувати ще й у XIX ст. Тому для поляків українці були тоді не „чужими”, а все ще „своїми”. І значною мірою навпаки. Свідчення цьому — „українська школа” польської літератури, яка існувала й у XX ст. Гадаю, у цьому контексті варто згадати й про походження В. Антоновича. Він був нешлюбним сином гувернантки Моніки Ґурської, яка по материнській лінії була внучкою князя Каспера Любомирського й української селянки, та Яноша Джиджая — випускника львівського університету, угорця „по мечу”, українця „по кужелю” — і носив прізвище білоруса Боніфатія Антоновича, з яким його мати взяла фіктивний шлюб перед його народженням.

Тож у період романтизму, коли народна традиція набувала особливої вартості, територіальний патріотизм шляхти України зміцнився. Не підлягає сумніву, що якби польське повстання перемогло, то незалежна Польща відродилася б у форматі федерації Польщі, Литви та Руси-України. Польська література, а згодом й історіографія все більше пропагували новий історичний міф — „ягайлонську ідею”, яка полягала в ідеалізації монархії нащадків Ягайла як польсько-литовсько-українсько-білоруської федерації, Люблінської унії й попередніх унійних спроб через акцентування на добровільности об'єднання Королівства Польського, Великого Князівства Литовського й Руси, багатоетнічности Речі Посполитої та рівноправності її народів. В. Антонович започаткував довготривале протистояння „ягайлонській ідеї” в українській історіографії, утверджуючи наратив „Руси-України” та відмежовуючи історію України від історії Польщі. У цьому відношенні В. Антонович був непоступливий і працював на цьому полі до останнього свого подиху. Але як виявилося, відкидаючи „ягайлонську ідею” в історіографії, він схвалював її як політичний проект. „… я і біль-

шість знайомих моїх, — писав він М. Драгоманову 8 вересня 1885 р., — маємо більше надії на здійснення федералізму південно-західнослов'янського, ніж російського, і що таку форму вважали б бажанішою". „Я теж волів би південно-західну федерацію замість північно-східної. Але що робити, якщо перша провалилася ще 1569 р., якщо не раніше?" — відповідав йому М. Драгоманов, натякаючи на Люблінську унію (*Архів Михайла Драгоманова. Т. 1: листування Київської старої громади з М. Драгомановим. 1870–1895*, Варшава 1938, с. 29, 32).

Погляди В. Антоновича пояснив М. Павлик — ревний послідовник М. Драгоманова в Галичині. 5 липня 1885 р., переконуючи М. Драгоманова неодмінно зустрітися з В. Антоновичем, бо в Україні ситуація змінилася „в головнім", М. Павлик додав такий коментар: „Певно: в тім, що тоді українці — прихильники Антоновича задумали були відірватися від Росії в осібну державу, а не добиватися політичної волі в зв'язки з Росією, — як радив Драгоманов" (*Переписка Михайла Драгоманова з Михайлом Павликом*, т. VI: 1882–1885, Чернівці 1911, с. 431).

Таким чином, польський федералізм, взагалі притаманний польській політичній думці XIX ст., у 1885 р., під впливом розвитку конфіденційних контактів В. Антоновича з польськими діячами, повстанцями 1863 р. зокрема, сприйняла й київська „Стара громада"; принаймні, якась її частина.

### Dr Darius Stalūnas:

Как известно, этот лозунг в разных формах на землях бывшего Польско-Литовского государства повстанцами использовался уже по крайней мере во время предыдущего восстания 1830–1831 гг. и в первую очередь был адресован русским. Надежда на помощь со стороны антицарски настроенного российского общества была очень сильна как раз во время восстания 1863–1864 гг. Со второй половины XIX в. и до сегодняшнего дня этот лозунг использовался в разных контекстах, но чаще всего для сплочения порабощенных народов Центральной и Восточной Европы против восточного соседа (Российской империи, Советского Союза, Российской Федерации). По моим наблюдением, в последние 160 лет этот лозунг часто имел не только антироссийские, но и антирусские коннотации, но эта тема вполне может стать объектом нового серьезного исследования.

Если же этот вопрос подразумевает рассуждения о целях восстания 1863–1864 гг., то и в этом случае ответ будет неоднозначным. С одной стороны, понятно, что многие повстанцы боролись за возможность свободно исповедовать свою (католическую) религию, а также за гражданские свободы и улучшение социального и экономического состояния крестьян. Проблемы возникают при определении политических целей. Нет сомнений, что большинство повстанцев боролись за отделение от Российской империи, но как руководители восстания представляли будущее государство или государства?

„Официальные" документы восстания подталкивают нас к мысли, что его руководители (особенно так называемые „белые") думали о восстановлении того государства, которое было уничтожено в конце XVIII века. В то же время, накануне восстания в дискуссиях между лидерами „красных" и русскими демократами или же в показаниях, данных пленёнными руководителями восстания в Литве царским властям, речь шла о разных формах федерации, о праве на самоопределение народов и т. д. Мне кажется, что такая неоднозначная картина требует нового взгляда на эту проблематику.

**Dr Olga Mascianica:**

Лозунг „За нашу и вашу свободу" следует рассматривать с учетом адресата. В отличие от предыдущих восстаний, агитация и пропаганда восстания 1863–1864 гг. была ориентирована на различные социальные группы — дворянство, крестьян и даже на женщин. Авторы агитационной литературы должны были учитывать способ мышления, ценности и ожидания потенциальных участников восстания.

В первую очередь речь шла о политическом значении термина „свобода". Манифест восстания (22 января 1863 г.), статьи виленской газеты „Chorągiew swobody" (июнь 1863 г.) говорили о возрождении Речи Посполитой, иногда употребляя лишь общий термин „свободная Польша" или „свободная Родина". Борьба за такого рода свободу воспринималась как основа для дальнейшего политического (даже в некоторой степени гражданского) развития общества. Следует отметить, что руководители восстания отмечали различие между регионами Речи Посполитой, например, между Польшей, исторической Литвой (Литва и Беларусь) и Русью (западная Украина). В литовской историографии существует мнение, что часть руководителей восстания (Константин Калиновский, Антанас Мацкявичюс) в случае успеха восстания подняли бы вопрос автономного статуса исторической Литвы. Также хочу обратить внимание на тот факт, что часть руководителей восстания, напр. Зигмунт Сераковский, рассматривали возможность федеративного устройства России. Еще в 1862 г. в обращении к военному министру Дмитрию Милютину Сераковский употребил термин „равные с равными, свободные со свободными", предлагая статус автономии для Польши и исторической Литвы, призывая царскую власть вернуть в судебные учреждения, школы, дворянские собрания употребление „местных языков и наречий", обеспечить свободу религиозной практики.

Работы литовских историков показывают, что в агитационных изданиях на литовском и белорусском языках особое значение имел тезис религиозной и социальной свободы. О социальной свободе говорилось в самом Манифесте восстания, который обещал безвозмездное получение крестьянами земельных наделов. Судя по активному распространению Манифеста, особенно благодаря католическому духовенству, которое было одним

из участников восстания, тезис социальной свободы мог поспособствовать активной мобилизации крестьян, недовольных реформой 1861 г.

## Prof. dr hab. Wiesław Caban:

Hasło „Za naszą i waszą wolność" okrzyknięte przez Joachima Lelewela w czasie powstania listopadowego z biegiem lat nabierało nieco innej treści. W 1831 roku wprost nawiązywało do wystąpienia dekabrystów i wspólnej walki Polaków i Rosjan przeciw caratowi. Trafiało ono do Rosjan w niewielkim stopniu, a to dlatego, iż obawiano się, że Polacy walczą o Rzeczpospolitą w granicach z 1772 roku. Kwestię tę najdobitniej ujął Maurycy Mochnacki. W *Powstaniu narodu polskiego w roku 1830 i 1831* (s. 61) napisał: „Polska była to rzeczypospolita ziem koronnych, litewskich i ruskich. W innym kształcie i dzisiaj jej nie pojmujemy! Zdobyć, to jest odzyskać Litwę i Ruś zamierza każde powstanie nad Wisłą. [...] Odwieczna Polska w odwiecznych swych granicach stoi dzisiaj na masach w Koronie, na szlachectwie w tak zwanych zabranych guberniach. [...] Głównym teatrem każdej wojny naszej z Moskwą są północne i południowo-wschodnie województwa [...]".

Tego stanowiska trzymały się wszystkie ugrupowania emigracyjne. Z tym problemem musiał się zmierzyć Komitet Centralny Narodowy. Po ogłoszonym przez Michaiła Bakunina w lutym 1862 roku. manifeście *Do rosyjskich, polskich i słowiańskich przyjaciół* doszło we wrześniu tegoż roku do rozmów z Hercenem w Londynie. Ostatecznie wypracowano kompromisowe stanowisko sprowadzające się do stwierdzenia, że Komitet Centralny Narodowy dąży do odbudowy Polski w dawnych jej granicach, pozostawiając narodom w nim zamieszkującym, tj. Litwinom i Rusinom, wolność zupełną pozostania w związku z Polska, lub też rozporządzenia według własnej woli.

Zanim doszło do tzw. kompromisu londyńskiego, z wielu kręgów polskich ugrupowań niepodległościowych wyszły głosy polemiki z Bakuninem. Przedstawmy tu jeden z nich, a mianowicie głos Bronisława Zaleskiego, uczestnika spisku z lat 40. XIX wieku na Litwie, zesłańca syberyjskiego, a od 1861 roku związanego z Hotelem Lambert. Bakunin w swej broszurze m. in. zaproponował, by ludność zamieszkała Litwę, Białoruś i Ukrainę po zwycięstwie nad caratem sama wypowiedziała się w sprawie swej przynależności, przeprowadzając plebiscyt. Zaleski w swej broszurze *Michaił Bakunin i odezwa jego do przyjaciół rosyjskich i polskich przez Litwina* (Paryż 1862) podkreślał, że skoro ziemie te dobrowolnie przyłączyły się do Rzeczypospolitej, to winny dalej dzielić z nią los. Nie zgadzał się na przeprowadzenie plebiscytu. Jego zdaniem było to podejście niewłaściwe, gdyż od czasów rozbiorów mieszkańcy ziem wschodnich dawnej Rzeczypospolitej byli przez władze carskie i prawosławnych popów odciągani od Kościoła katolickiego i poddawani wszelkiego rodzaju szykanom. Wytykał wprost Bakuninowi, że ten odwoływał się do plebiscytu tylko dlatego, że wiedział, iż wynik będzie korzystny dla Rosji.

Wracając do kompromisu londyńskiego można powiedzieć, że pozostał on jedynie na papierze. A najlepszym tego przykładem była odezwa Wydziału Za-

rządzającego Prowincjami Litwy z 4 kwietnia 1863 roku, w której wzywano braci Litwinów i Rusinów, stanowiących z Polską jedną nierozerwalną całość, do jak najściślejszego zjednoczenia się i skupienia wszystkich sil narodowych około zatkniętej chorągwi narodowej. Odezwę taką zredagowali ludzie, którzy mieli pełną świadomość, że masy chłopskie zamieszkujące ziemie nad Niemnem, Dnieprem, Dniestrem i Prypecią nie są tym samym, co wieśniacy znad Wisły i Pilicy.

I w ogóle hasło „Za wolność naszą i waszą" się zdezaktualizowało. Za wolną Polskę nie chciały się bić ani liberalne elity Petersburga sympatyzujące z Polakami w latach 1861–1862, ani Rosjanie z Koła Oficerów. Zrozumiano taktyczną wskazówkę Hercena z września 1862 roku, która brzmiała: „Nie wolno wam rozpłynąć się w sprawie polskiej, ale powinniście zachować w niej siebie dla sprawy rosyjskiej". Kwestia, według Polaków „ziem zabranych", a według Rosjan „ziem odebranych", była nie do pogodzenia.

## Prof. dr hab. Stanisław Wiech:

Powstanie styczniowego zamykające epokę romantycznej i bohaterskiej walki „Za naszą i waszą wolność" było ostatnim zrywem niepodległościowym zakładającym odbudowę Polski w granicach 1772 roku. Ułożony w styczniu 1863 roku przez poetkę Marię Ilnicką „Manifest do narodu" wzywał w imieniu władz powstańczych wszystkich Polaków „na pole walki już ostatniej, na pole chwały i zwycięstwa". Manifest równocześnie uznawał „wszystkich synów Polski bez różnicy wiary i rodu, pochodzenia i stanu wolnymi i równymi obywatelami kraju".

Zawarta w manifeście idea równości i wolności społecznej i narodowej została rozwinięta w odezwie Rządu Narodowego z maja 1863 roku, w której podkreślano łączność Królestwa Polskiego z Litwą i Rusią. Rząd Narodowy uznał te ziemie „za części zupełnie równe z Koroną i wespół z nią jedną państwową całość Polski stanowiące". Litwinom i Rusinom oficjalnie przyznawano prawo do „najrozleglejszego rozwoju narodowości ich i języka". Jedność i zarazem dużą autonomię trzech części przedrozbiorowej Rzeczypospolitej, o jaką po raz ostatni walczyli polscy powstańcy, manifestowały przyznana władzom powstańczym w Wilnie i Kijowie duża samodzielność w poczynaniach i kierowaniu powstaniem, jak też nowa pieczęć Rządu Narodowego, łącząca w całość herby Orła, Pogoni i Michała Archanioła.

Programowo określone w „Manifeście" i odezwie Rządu Narodowego cele powstania: wyzwolenie społeczne, narodowe i polityczne wszystkich mieszkańców dawnej Rzeczypospolitej, a więc walka nie tylko za „naszą", ale także i „waszą" (chłopów, Litwinów, Białorusinów, Ukraińców) wolność, stanowczo kłóci się i podważa wysuwane głównie przez pogromców powstania zarzuty, iż zryw niepodległościowy roku 1863 roku miał charakter partykularny i był wyłącznie „buntem polskiej szlachty i duchowieństwa katolickiego".

## Доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук:

У паўстанні 1863–1864 гг. лозунг „За вольнасць нашу і вашу" меў некалькі вымярэнняў. У першую чаргу адзначым палітычнае вымярэнне. Барацьба распачалася дзеля вызваленне ад расійскага панавання і вяртання ўласнай дзяржаўнасці. Праўда, форма адроджанай Рэчы Паспалітай бачылася па-рознаму ўдзельнікамі вызвольнай барацьбы. Відавочна імкненне віленскіх „чырвоных" да пэўнай самастойнасці, а можа, і незалежнасці гістарычнай Літвы. Між іншым пра гэта сведчыць стварэнне Каліноўскім і яго прыхільнікамі 1 лютага 1863 г. Часовага ўрада Літвы і Беларусі ў Вільні, а таксама сведчанні сучаснікаў Каліноўскага, у тым ліку з групы „белых". Часовы ўрад праіснаваў менш за месяц. У другой палове лютага да ўлады ў Вільні прыйшлі „белыя" на чале з Якубам Гейштарам, якія паступова перадавалі свае паўнамоцтвы Варшаве, што адлюстравалася ў зменах назвы віленскай паўстанцкай арганізацыі. У чэрвені яна ўжо называлася *Wydział Wykonawczy Rządu Narodowego na Litwie*.

Таксама вольнасць мела выразнае сацыяльнае вымярэнне, якое засведчыла наступленне новай эпохі вызвольнага руху, дзе палітычныя і нацыянальна-культурныя задачы перапляталіся з сацыяльнымі. У першую чаргу гаворка ішла пра аграрную рэформу, якая павінна была значна палепшыць становішча сялянства і вырашыць зямельную праблему. Гэта быў вельмі важны пункт праграмы „чырвоных", хоць сярод іх не было адзінства па пытанні глыбіні сацыяльных пераўтварэнняў. Не менш важным патрабаваннем была сацыяльная (станавая) роўнасць. Напрыклад, сяляне, мяшчане і шляхта фігуруюць як роўныя ў беларускамоўнай запісцы *Каімшчына на Літве і Белай Русі*, падрыхтаванай у маі 1863 г. у асяроддзі віленскіх „чырвоных".

Падобна, што для апошніх прыярытэтам быў менавіта сацыяльны аспект паўстання, таму шмат рабілася дзеля прыцягнення сялянства да барацьбы. Адзначу, што гэтыя задачы непазбежна выводзілі „чырвоных" на шлях беларускай нацыянальнай працы. Адпаведна вольнасць мела таксама нацыянальна-культурнае вымярэнне. У прыватнасці, Каліноўскі ўздымаў пытанне пра беларускія школы ў першай частцы *Лістоў з-пад шыбеніцы*. Беларушчына таксама прысутнічала ў абароне ўніяцкай (Грэка-каталіцкай) царквы як беларускай царквы.

Апошняе трэба трактаваць і як канфесійнае вымярэнне лозунга „За вольнасць нашу і вашу". Заваёва свабоды гарантавала роўнасць хрысціянскіх веравызнанняў, неўмяшальніцтва дзяржавы ў дзейнасць Рымска-каталіцкага касцёла і спыненне праследу вернікаў Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі. Дакументы сведчаць, што ўніяты Беларусі шукалі заступніцтва нават у папы рымскага, які ўвосень 1863 г. атрымаў ліст ад вернікаў з Віцебскай губ. Тэма праследу за прыналежнасць да ўніяцкай царквы была важным элементам паўстанчай агітацыі (гл., напрыклад, чарнавік ліста „*Do Ciabie Światy nasz Ojcze…*").

Як вядома, лозунг „За вольнасць нашу і вашу” ў момант свайго з'яўлення (1830) быў накіраваны на расіян, сярод каторых паўстанцы спадзяваліся знайсці саюзнікаў у змаганні з самаўладдзем. Надзеі не спраўдзіліся. У пэўным сэнсе Расія адказала на гэты заклік вершам Аляксандра Пушкіна *Клеветникам России* (1831), аўтар якога пагражаў смерцю ворагам Імперыі. Падобна, што падчас паўстання 1863 г. гэты лозунг меў ужо не толькі нацыянальны ці інтэрнацыянальны характар, але і сацыяльны. Прынамсі, у агітацыі віленскіх „чырвоных” заклік да барацьбы быў адрасаваны ўсім станам, якія лічыліся аднолькава прыгнечанымі „маскоўскай уладай”.

## Кандыдат гістарычных навук Дзмітрый Матвейчык:

Лозунг з'явіўся падчас Лістападаўскага паўстання. Упершыню ён прагучаў у Варшаве 25 студзеня 1831 г. на ўрачыстасцях, прысвечаных памяці дзекабрыстаў. Сцвярджэнні некаторых аўтараў, што лозунг выкарыстоўваўся яшчэ падчас паўстання 1794 г., пакуль не атрымалі дакументальнага пацвярджэння. Ён быў абвешчаны на дзвюх мовах — польскай („W imię Boga za naszą i waszą wolność”) і рускай („Во имя Бога за нашу и вашу вольность”). Яго аўтарам лічыцца гісторык Іаахім Лялевель, які прадстаўляў дэмакратычную, альбо рэспубліканскую, плынь у кіраўніцтве Лістападаўскім паўстаннем. І хаця лозунг пачаткова ўсяго толькі падкрэсліваў той факт, што за вызваленне ад панавання расійскіх імператараў змагаюцца як „палякі”, так і „рускія”, у далейшым яго „інтэрнацыяналізм” атрымаў больш шырокае гучанне.

Як сведчаць абставіны паходжання лозунга, яго першым адрасатам быў расійскі народ. Аднак з улікам палітычных рэалій 1831 г. можна выказаць меркаванне, што яго другі адрасат знаходзіўся на захадзе. Як вядома, у 1830 г. у манархічнай Францыі адбылася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя і была ўсталявана ліберальная манархія. Расійская імперыя, будучы адным з гарантаў палажэнняў Венскага кангрэсу 1815 г., паводле якога Францыя станавілася манархіяй на чале з дынастыяй Бурбонаў, мела намеры паслаць свае войскі на задушэнне рэвалюцыі. І менавіта гэтыя намеры маглі даць дадатковы імпульс да пачатку паўстання ў Варшаве ў лістападзе 1830 г. Таму лозунг мог мець адрасатам Францыю і французскі народ, на чыю дапамогу ў сваёй барацьбе паўстанцы спадзяваліся ўвесь час.

Менавіта такія ўласцівасці лозунга, як універсальнасць і інтэрнацыяналізм, забяспечылі яму доўгае жыццё. Інакш кажучы, ён браўся на ўзбраенне кожны раз, калі на землях былой Рэчы Паспалітай разгортвалася ўзброеная барацьба за незалежнасць. Прычым не было важным, за якую незалежнасць ідзе змаганне (Рэчы Паспалітай ці новых нацыянальных дзяржаў) і ад каго даводзіцца яе бараніць (ад Расійскай і Аўстрыйскай імперый, Прусіі, Савецкай Расіі ды інш.).

Падчас паўстання 1863–1864 гг. лозунг выкарыстоўваўся менавіта з тым жа пасылам, з якім ён быў народжаны. Не варта забываць, што паўстанцы

апрача таго, што змагаліся за аднаўленне Рэчы Паспалітай, былі яшчэ і рэвалюцыянерамі, бо нават прадстаўнікі лагера „белых" не ўяўлялі будучую дзяржаву без сацыяльных рэформ. Розніца паміж рознымі палітычнымі плынямі сярод паўстанцаў заключалася толькі ў тым, наколькі глыбокімі бачыліся гэтыя рэформы. Адпаведна, рэвалюцыйны пасыл адрасаваўся прадстаўнікам расійскай рэвалюцыйнай плыні, а інтэрнацыянальны — еўрапейскай грамадскасці, бо на дапамогу еўрапейскіх дзяржаў (у першую чаргу Францыі і Вялікабрытаніі) паўстанцы зноў спадзяваліся.

Універсальнасць і інтэрнацыяналізм лозунга таксама спрыяюць таму, што яго актуальнасць не знікла па сённяшні дзень. Можна прадбачыць, што ён будзе выкарыстоўвацца і ў далейшым.

## Якое месца займае паўстанне 1863 г. і яго героі ў памяці сучаснага грамадства Літвы, Польшчы, Беларусі і Украіны?

### Dr Darius Stalūnas:

Хотя начиная со второй половины XIX века в Литве всегда были публицисты и историки, которые с уважением относились к повстанцам 1863–1864 гг., писали о них статьи и книги, строили памятники, занимались перезахоронением останков участников восстания, в доминирующем нарративе это историческое событие воспринималось как чужое, „не наше", как „польские времена". „Своим" оно стало только в советское время, когда официозные историки превратили его в крестьянское восстание против „царизма и помещиков". Но этот нарратив доминировал только в первые десятилетия после Второй мировой войны. Параллельно функционировал и другой, тоже советский нарратив, который в этом восстании искал совместную борьбу революционеров — представителей „братских народов". К концу советской эпохи появилось все больше и больше публикаций, которые события 1863–1864 гг. описывали без каких-либо особенных идеологических коннотаций.

За последние 30 лет это восстание в Литве окончательно стало „своим". Этому способствовало много причин. Часть историков отказалось от этноцентрической концепции истории Литвы, и в центре их исследований был уже не литовский народ, понимаемый в этнических и лингвистических категориях, а литовское общество. Благодаря польским историкам (Юлиушу Бардаху, Яну Юркевичу), литовские исследователи „обнаружили" хотя польскоговорящее, но с Литвой политически идентифицировавшееся дворянство. К тому же всегда были нужны герои для подражания — борцы за свободу.

Но все-таки главная причина, объясняющая превращение этого восстания в важное литовское „место памяти", — это изменившаяся геопо-

литическая ситуация и новая иерархия врагов. Польша и поляки, которые в конце XIX — первой половине XX в. были для литовцев врагом № 1, за последние 30 лет стали союзниками, а место главного врага твердо заняла Россия. В такой ситуация очень легко инструментализировать это, как и более раннее, восстание для мобилизации антироссийских настроений. Особенно важным „местом памяти" в Литве оно стало во время юбилейного 2013 года, когда по инициативе как государственных структур, так и гражданского общества проходило много мероприятий (специальная сессия Сейма, показ документальных фильмов, выставки, статьи в разных изданиях, научные конференции и т. д.). Еще одним толчком к актуализации этого восстания стало обнаружение останков участников восстания в Вильнюсе, на горе Гедимина рядом с замком в 2017 г. и их государственные похороны с участием президентов Литвы и Польши, а также представителей других стран в 2019 г. 22 января 2022 г. литовские власти организовали официальное мероприятие на вильнюсских Росах, где похоронены руководители и участники восстания.

События 2013, 2017, 2019 и 2022 годов показывают, что восстание 1863–1864 гг. является важным сюжетом в официальном дискурсе. Сенсационное обнаружение останков повстанцев в центре Вильнюса, повторяющиеся мероприятия официальных властей, связанные с этим восстанием, позволяют предполагать, что оно занимает все более и более важное место в культурной памяти литовского общества (память о Январском восстании в польском обществе Литвы имела другую динамику и здесь не обсуждается). В то же самое время не совсем понятно, насколько хорошо инициаторы упомянутых мероприятий, а тем более литовское общество, понимают эпоху восстания, цели его руководителей, политические программы того времени. Обычно восстание 1863–1864 гг. описывается как „борьба за свободу" без объяснения сути этой свободы. В 2013 г. в памятных мероприятиях в Литве вообще не упоминалось, что восстание также происходило в Польше. С другой стороны, все знают, что боролись против России, а это сейчас самое главное.

## Dr Olga Mascianica:

На мой взгляд, особых перемен в исторической памяти общества Литвы относительно восстания 1863–1864 гг. не произошло. Даже обнаружение захоронения участников восстания в Вильнюсе для большинства жителей Литвы (я не говорю о той части общества, которая в профессиональном отношении связана с историей или просто увлекается исторической тематикой) стало не более чем интересным историческим фактом. Оно не пробудило особого интереса к самому восстанию.

Моя работа над книгой о повстанцах показала, что в историческом сознании общества восстание остаётся маргинальным событием. Довольно

часто посредством различных информационных средств мне приходилось рассказывать историю восстания, в первую очередь объясняя, какие цели имели повстанцы, кем они являлись, на какой территории развертывалось восстание. Для большинства общества Литвы XIX век более ассоциируется с национальным возрождением, борьбой за свободу литовской печати. Сложно ответить на вопрос, почему для общества восстание 1863–1864 гг. не стало частью исторической памяти. Может быть, это связано с тем, что повстанцы воевали за возрождение Речи Посполитой и не мыслили в современных политических и национальных категориях.

Необходимо отметить, что в последнее время в связи с изменившейся геополитической ситуацией восстание 1863–1864 гг. стало чрезвычайно актуальным в политическом дискурсе. Оно характеризуется как пример совместной героической борьбы поляков, литовцев, белорусов и украинцев с общим врагом. В этом дискурсе часто используется лозунг „За нашу и вашу свободу", который подразумевает, что помощь Украине обеспечивает спокойствие во всем регионе. Именно этим обусловлены инициативы политических структур Литвы в 2023 г. на всей территории государства проводить мероприятия, связанные со 160-й годовщиной начала восстания.

При этом возникает риторический вопрос: приведут ли эти обязательные мероприятия к существенным изменениям в исторической памяти литовского общества? Мне кажется, что восстание 1863–1864 гг. в памяти Литвы никогда не станет в общий ряд с временами Витовта Великого, партизанской борьбой или борьбой за государственную независимость Литвы в 1918 г.

## Кандыдат гістарычных навук Дзмітрый Матвейчык:

У памяці беларускага грамадства паўстанне 1863–1864 гг. заўжды займала важнае месца. Ужо на пачатку XX ст. пачалі з'яўляцца першыя беларускамоўныя публікацыі адпаведнай тэматыкі. Пазней яно трывала замацавалася ва ўсіх падручніках па гісторыі Беларусі XIX ст., незалежна ад палітычнай арыентацыі іх аўтараў. У 1920-я гг. вобраз паўстання атрымаў настолькі глыбокае ўкараненне, што адзін з першых мастацкіх фільмаў, знятых кінастудыяй „Белдзяржкіно", быў прысвечаны менавіта яму („Кастусь Каліноўскі", 1928 г.). На працягу канца 1920-х — першай паловы 1930-х гг. пазітыўны вобраз паўстання часам ставіўся пад сумненне савецкімі ідэолагамі, аднак з канца 1930-х гг. ён ізноў замацаваўся ў станоўчай ацэнцы і да канца савецкай эпохі амаль не змяняўся.

У 1990-я гг. абазначыліся тэндэнцыі да змены яго ацэнак са станоўчых на негатыўныя, а на пачатку XXI ст. прарасійскія прапагандысты ў Беларусі ацэньвалі яго выключна адмоўна, а ўдзельнікі паўстання выразна дэманізаваліся. У той жа час працягваў развівацца іншы прапагандысцкі кірунак, прадстаўнікі якога працягвалі ацэньваць паўстанне выразна станоўча, нават рамантызавана, а ў адносінах да іх удзельнікаў выкарыстоўвалі (і ро-

бяць гэта да цяперашняга часу) выключна хвалебную рыторыку. У сувязі з тым, што і адныя, і другія імкнуцца да як мага больш шырокага распаўсюду сваіх поглядаў, у медыйнай прасторы на сённяшні дзень бачны альбо адныя, альбо другія, што вядзе да вельмі скажонага ўспрыняцця паўстання г. зв. „шырокай грамадскасцю", прадстаўнікі якой не з'яўляюцца спецыялістамі-даследчыкамі і не могуць самастойна ацаніць тую ці іншую факталогію. У выніку „сярэднестатыстычны беларус" сёння ведае, што паўстанне было, і спрабуе яго ацэньваць у катэгорыях „пазітыўнага" альбо „негатыўнага". Разам з гэтым шырокі распаўсюд звестак пра Кастуся Каліноўскага вядзе да персаніфікацыі паўстання. Яго сувязь з постаццю Каліноўскага настолькі моцная, што ў бягучым маўленні ці палітычна-публіцыстычных тэкстах нярэдка ўжываецца словазлучэнне „паўстанне Каліноўскага". Увогуле ў сучаснай Беларусі адносіны да паўстання з'яўляюцца своеасаблівай „лакмусавай паперкай", па якой магчыма пазнаваць прыхільніка той ці іншай палітычнай плыні.

Аднак з тых жа 1990-х гг. у акадэмічным асяроддзі развіваецца ўласна навуковая плынь, якая імкнецца да пераадолення эмацыянальнага і палітызаванага ўспрыняцця як самой падзеі, так і яе ролі ў далейшай гісторыі Беларусі. Яе прадстаўнікі, а гэта, як правіла, супрацоўнікі навуковых устаноў і арганізацый, вядуць навукова-даследчую працу, а вынікі іх даследаванняў публікуюцца пераважна на старонках навуковых выданняў. За апошнія некалькі дзесяцігоддзяў з'явілася вялікая колькасць артыкулаў і кніг па тэматыцы паўстання, але па сённяшні дзень беларускай гістарыяграфіі паўстання 1863–1864 гг. выразна не хапае паўнавартаснай комплекснай навуковай манаграфіі.

## Кандыдат гістарычных навук Аляксандр Радзюк:

Нягледзячы на тое, што з часоў паўстання мінула 160 гадоў, трактоўка паўстання і, адпаведна, памяці аб ім з'яўляецца надзвычай актуальнай не толькі для асяродка прафесійных гісторыкаў, але і для ўсяго беларускага грамадства. Можна канстатаваць, што сёння ў Беларусі гэта падзея стала адным з эпіцэнтраў вайны розных гістарычных наратываў, якія прапануюць сучаснаму грамадству розныя трактоўкі і погляды на тыя падзеі.

Яшчэ нядаўна ў беларускай гістарыяграфіі панаваў погляд на паўстанне як на спробу ажыццяўлення сацыяльнай рэвалюцыі. Сцвярджалася, што незадаволеныя ўмовамі аграрнай рэформы 1861 г. беларускія сяляне пад кіраўніцтвам сацыял-рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага ўзняліся на барацьбу супраць царызму за зямлю і свабоду. У тыя часы было зроблена шмат для ўвекавечвання памяці як пра само паўстанне, так і пра асоб, з ім звязаных. У розных гарадах Беларусі з'явіліся вуліцы імя Каліноўскага ды іншых вядомых паўстанцаў, імя Каліноўскага было мемарыялізавана і ў іншыя спосабы. Важная роля ў справе пашырэння памяці аб паўстанні як

гераічнай падзеі беларускай мінуўшчыны належыць мастацкім літаратурным і музычным творам. Вялікае значэнне ў гэтым адыграў пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

У 90-я гады XX ст. разам з адыходам ад марксісцкай канцэпцыі гісторыі і спробамі пабудовы нацыяцэнтрысцкай гістарычнай мадэлі ў Беларусі адбыўся перагляд пэўных трактовак, якія тычыліся таксама паўстання 1863 г. Яго сутнасць заключалася ў адыходзе ад канцэпцыі сацыяльнай рэвалюцыі на карысць трактоўкі яго як нацыянальна-вызвольнай барацьбы за незалежнасць. Адпаведна, Кастусь Каліноўскі аказваўся не толькі адным з кіраўнікоў паўстання, але таксама першым „абуджальнікам" беларускай нацыі.

Але адначасна адрадзіліся ідэі заходнерусізму. Як і іх генетычныя папярэднікі XIX — пачатку XX ст., прадстаўнікі гэтай ідэалагічнай плыні адмаўлялі факт існавання беларускай нацыі і беларускай мовы. Трактуючы гісторыю Беларусі выключна з пазіцый расійскай імперскай ідэалогіі, яны шмат увагі ўдзялілі паўстанню 1863 г. Яно трактавалася як „інтрыга палякаў" і „бунт супраць законнай улады", а Каліноўскі характарызаваўся як „польскі тэрарыст". Апошняму ў якасці антыпода ўсяляк супрацьпастаўляўся Міхаіл Мураўёў, які нібыта выратаваў беларусаў ад апалячвання і акаталічвання. Падзеі апошніх гадоў сведчаць, што падобныя трактоўкі пашыраюцца не толькі праз сацыяльныя рэсурсы „неазаходнерусістаў". Усё часцей яны гучаць як элементы дзяржаўнай прапаганды.

## Prof. dr hab. Wiesław Caban:

Powstanie styczniowe jest żywe nie tylko w badaniach historycznych, ale w pamięci Polaków. Od początku lat 90. XX wieku obserwujemy intensyfikację działań organizacji regionalnych, które starają się pielęgnować mogiły, kopce i krzyże z czasów powstania styczniowego.

Przed przygotowaniem tego tekstu zrobiłem małe badanie, wykorzystując Internet. W czasie powstania styczniowego miało miejsce ok. 1 200 bitew i potyczek. Losowo wybrałem 120 miejscowości, gdzie doszło do bitwy lub potyczki, i proszę sobie wyobrazić, że o każdej tej bitwie są zamieszczone informacje, widnieją zdjęcia mogił i innych zabytków upamiętniających wydarzenia nocy styczniowej. Jednym słowem wokół wydarzeń sprzed 160 laty kształtują się tzw. małe ojczyzny, mające istotny wpływ na cementowanie tkanki narodowej. (Przykładowo można zajrzeć na stronę: https://tkn24.pl/tag/uroczysko-ormanicha/ lub http://powstanie1863.zsi.kielce.pl/index.php?id=s30

Trzeba także pamiętać, że powstanie styczniowe stało się inspiracją do powstawania grup rekonstrukcyjnych. Czy ktokolwiek jest w stanie policzyć, ile ich w ostatnich trzydziestu lat powstało w kraju? Ze swego doświadczenia wiem, że grupy rekonstrukcyjne z regionu świętokrzyskiego utrzymują kontakty ze swymi odpowiednikami z innych części Polski.

Byłem organizatorem i uczestnikiem konferencji z okazji okrągłych rocznic w 1993 roku, 2003 i wreszcie w 2013 roku. Na każdej z tych konferencji spotkałem coraz szersze grono badaczy, którzy przedstawiali nowe zagadnienia związane z przebiegiem wydarzeń z lat 1861–1864, zarówno w skali ogólnokrajowej, jak i regionalnej. Można się o tym w pełni przekonać oddając się lekturze publikacji pokonferencyjnych. Podobnie zapewne będzie, gdy zakończymy obchody 160. rocznicy.

## Prof. dr hab. Stanisław Wiech:

Obraz powstania, jego retrospekcje, ocena i pamięć o nim zmieniały się nieustannie. Największą dynamikę tych zmian wyznaczał dystans emocjonalny i czasowy. Bo przecież dla niektórych pamięć o powstaniu zanikała niemal tak szybko, jak wsiąkała krew przelana przez powstańców na polach bitew i stokach Cytadeli. Dla innych pamiątka powstania była przez całe dziesięciolecia żywa, skrzętnie pielęgnowana, dyktowała wręcz przyszłość, stanowiła podnietę, testamentowe odwołanie, gdy trzeba było wybrać lub odnowić drogowskazy narodowych dążeń.

Polska literatura, malarstwo, teatr, kultura przygarnęły tematykę powstania na różne sposoby. Trawiąc jego realia, spuściznę i mity, przekazały ponownie do odbioru społecznego jego wartości i znaczenie, przybliżyły zarówno te wzniosłe, jak i tragiczne momenty. Z tego materiału udało się częściowo zbudować bynajmniej nie jednorodną, lecz co ważne wspólną pamięć, która ma to do siebie, że w wymiarze narodowym konsoliduje, wzmacnia, daje punkt odniesienia, ogniskuje myśli i czyny. Wyrastające z pamięci o ludziach, miejscach i wydarzeniach z lat 1863–1864 poczucie obowiązku solidarnego współdziałania, ofiarności na rzecz dobra narodu i państwa polskiego było też zrodzonym z klęski zwycięstwem. Bo przecież w klęsce zawierają się elementy przyszłego zwycięstwa, tak samo, jak w zwycięstwie kryją się już zarodki przyszłej klęski. Doskonale ujął to żyjący w osamotnieniu na emigracji, lecz duchowo związany z pokoleniem powstańców 1863 roku Cyprian Kamil Norwid, który umierając w dwudziestą rocznicę powstania styczniowego napisał: „Upadek, który pozostawia po sobie następstwa żywotne, jest zwycięstwem".

Dowodem na żywą pamięć o powstaniu styczniowym są nie tylko uroczyste obchody rocznicowe, czy też organizowane w tym czasie marsze, apele, nabożeństwa, konferencje, rekonstrukcje historyczne itp. Bardziej przekonującym i zarazem ujmującym świadectwem mocnego zakorzeniania się tradycji powstańczych są możliwe do zaobserwowania, a udokumentowane choćby na stronach internetowych, coraz liczniejsze przykłady zaangażowania się lokalnych społeczności w odtworzeniu i utrwaleniu historycznych pamiątek związanych z powstaniem. Troska o mogiły powstańców, miejsca historyczne z czasów powstania (krzyże, kopce, pomniki, obozowiska), przekazy ustne, pamięć o lokalnych przywódcach i uczestnikach powstania — wszystko to w sposób namacalny dowodzi, że powstanie styczniowe stanowi jeden z najważniejszych obszarów zagospodarowa-

nych w polskiej pamięci historycznej. Te oddolne inicjatywy są także budującym przykładem wypełniania ciążącego na nas obowiązku oddania hołdu tej generacji, której być może nie dane było za życia cieszyć się mianem moralnego zwycięzcy.

## Доктор історичних наук Ігор Чорновол:

Галицька громадськість розпочала відзначати ювілеї повстань відкрито, не ховаючись, приблизно розпочинаючи з 1883 р. Спочатку зазвичай це були урочисті богослужіння в костелах або якісь незначні акції, вечір танців з метою збору коштів для потреб ветеранів повстання, наприклад. Вперше поляки відзначили ювілей повстання публічно 1888 р. Остаточно австрійська влада розпочала толерувати культ повстання 1894 р. — під час Галицької крайової вистави ім. Т. Костюшка (яку очолив уже згаданий кн. А. Сапіга, найбільша громадська імпреза за всю історію Галичини). 1903 р. святкування вперше отримали формат організованого масового заходу. Ювілей 50-річчя повстання (1913) — пік культу повстань, у Львові відбулися грандіозні урочистості, серед іншого — факельний похід на Пагорб повстанців Личаківського кладовища, де вже стояв пам'ятник. Відтак основним об'єктом пам'яті про 1863 рік у Львові стала повстанська дільниця Личаківського цвинтаря.

Львівське Товариство ветеранів 1863 р. постало 1887 р. Через декілька місяців поліція ліквідувала товариство, але 1888 р. воно відродилася під назвою Товариство взаємної допомоги учасників польського повстання 1863–1864 рр. Наприкінці 90-х років XIX ст. воно домоглося виділення на Личаківському цвинтарі у Львові окремого поля для поховання своїх членів. Тож зараз на східному краю Личаківського цвинтаря піднімається схований за зеленню дерев пагорб, на якому у 18 рядах під простими сталевими хрестами спочиває 230 повстанців. Цвинтар був впорядкований стараннями польського консулату в Києві 1985 р. і капітально відреставрований коштом польського уряду вже в XXI столітті. Із західного підніжжя на пагорб веде стежка, яка продовжується сходами. Сходи виводять до пам'ятника у вигляді чоловіка з типовими слов'янськими рисами, зачіскою, в одязі, з мечем та прапором Вітебської землі на потужному скельному постаменті. Пам'ятник виконали скульптор А. Дуда і Ю. Хмелінський у майстерні Олександра Заґурського (1907) на замовлення полковника повстання 1863 р. Йосифа Нєчуї-Мінєвського, який доробився значного маєтку під час будови Суецького каналу. Пам'ятник представляє реальну особу — Шимона Візунаса Шидловського.

Ш. Шидловський — постать загадкова. Він з'явився у Львові уже в літньому віці, без засобів для існування і знайшов притулок у монастирі сестер милосердя у Львові. На свята виходив з своєї келії, вбраний у білоруський селянський одяг, з повстанським прапором Вітебської землі. А оскільки й зовнішність мав незвичайну, то громадськість його легко впізнавала. Так Шимон став живим символом повстання 1863 р.

Про себе він розповідав таке. Походив з Вітебської землі і був нешлюбним сином князя Святополка-Мирського. Навчався в придворній військовій академії в Санкт-Петербурзі, був ад'ютантом генерала Трепова і врятував генералові життя під час замаху. 1861 р. повернувся на Білорусь, де взяв активну участь у підготовці повстання. Того ж року він вже тримав знамено Вітебської землі під час святкування роковин Городельської унії у місцевості Тілож на Вітебщині. Знамено походило з костела в містечку Сураж. У 1861–1862 рр. юнак пішки пройшов усю Правобережну Україну як емісар польського підпілля.

Згодом брав участь у боях з російською армією в Білорусі. Сураж на декілька днів захопив загін польських партизанів і коли вони відступили, Візунас забрав з собою згадане знамено. Був двічі поранений. Спочатку його наскрізь простромив російський багнет, що все ж не завадило йому залишитися в строю. Згодом він отримав вогнепальну рану в праву руку. Його врятували білоруські селяни, які не видали й вилікували його. Після того як рани загоїлися, переодягнений в білоруський селянський одяг юнак перейшов австрійський кордон. Помер 10 березня 1906 р. Після його смерті його знамено стало прапором Товариства взаємної допомоги учасників польського повстання 1863–1864 рр. 1923 р. товариство повстанців 1863 р. передало вітебський прапор Львівській кадетській школі, відтоді воно було знаменом львівських кадетів (J. Białynia-Chołodecki, *Szymon Wizunas Moczydłów Szydłowski (tegoż autobiografia). Przyczynek do dziejów lat 1863–1864*, Lwów 1924).

Шимон Шидловський — мабуть, прибране ім'я. Можливо, ця постать Ш. Шидловського невідома білоруським історикам. Тому я детальніше зупинився на його біографії для привернення уваги до його особи.

Що ж стосується українських діячів, то вони, хоча й у цілому досвід повстання 1863 р. оцінювали позитивно (крім москвофілів; „uciekienierzy" — так ті глузували з повстанців), в урочистих заходах участі не брали, вважаючи їх за польський національний ювілей. Єдиний виняток — Українська соціально-демократично партія, діячі якої засвітилися на ювілеях повстання 1863 р. не раз. Утім, проблема потребує додаткового дослідження.

Оскільки повстання 1863 р. дало поштовх до утворення і Інтернаціоналу (1864), Маркс, Енгельс і Ленін оцінювали його позитивно, радянська історіографія розглядала повстання 1863 р. в позитивному світлі, радянські школярі могли прочитати про нього в підручниках історії. Одним абзацом, щоправда, або й одним реченням. Не пригадую, щоб якось спеціально наголошували на повстанні 1863 р. на історичному факультеті Львівського державного університету ім. І. Франка. Зрештою, проблема польських повстань в радянський період — передовсім наукова проблема. Центром їх дослідження був Інститут слов'янознавства і балканознавства АН СРСР у Москві. Інколи до наукових досліджень залучалися й історики України,

декілька добрих монографій (російською мовою, у стилі „радянського позитивізму") було видано в Києві на столітній ювілей повстання.

Центральним пунктом пам'яті про повстання 1863 р. в Україні став, однак не Пагорб повстанців на Личаківському цвинтарі у Львові, а Київська фортеця. Там було ув'язнено декілька тисяч повстанців, кількох було страчено. Тепер це Національний історико-архітектурний музей „Київська фортеця". Першим польським високопосадовцем, який відвідав Київську фортецю з метою вшанування пам'яті про повстанців 1863 р., був президент Лех Валенса (1993). Відтак там встановили пам'ятний хрест і декілька меморіальних таблиць. Однак українські високопосадовці довший час уникали участі у цих польських акціях.

До відзначення 150-літнього ювілеї повстання вже долучалися й українські заклади культури — на рівні краєзнавчих музеїв, як правило, за співучасті польських або литовських дослідницьких центрів.

160-літній ювілей повстання 2023 р. в Україні вже відзначався за участі представників влади. Міністр культури та інформаційної політики Олександр Ткаченко, заступник міністра закордонних справ Євген Перебийніс, Надзвичайний і Повноважний Посол Польщі в Україні Бартош Ціхоцький та Надзвичайний і Повноважний Посол Литви в Україні Вальдемарас Сарапінас поклали квіти до меморіалу страченим учасникам повстання в Національному історико-архітектурному музеї „Київська фортеця"; заступник голови Львівської обласної військової адміністрації Юрій Бучко і Генеральний консул Республіки Польща у Львові Еліза Дзвонкєвич — на меморіалі повстанцям 1863 р. на Личаківському цвинтарі. А автор цих рядків залучений Південно-Східним науковим інститутом у Перемишлі (директор — професор Станіслав Стемпєнь) до організації вистави до 160-річчя повстання у Перемишлі, Варшаві та Львові.

# АРТЫКУЛЫ І ПАВЕДАМЛЕННІ

**Аляксей Ластоўскі,**
**кандыдат сацыялагічных навук (Вільня)**
**ORCID: 0000-0002-5034-7454**

## Бенедыкт Дыбоўскі і забыты праект „Белаляхіі”: альтэрнатывы беларускай ідэнтычнасці



Постаць Бенедыкта Дыбоўскага добра вядома ў Беларусі. Славуты даследчык Сібіры і Байкала нарадзіўся пад Менскам, што дазволіла ўпісаць Дыбоўскага ў пантэон беларускіх навукоўцаў. Яго імя прысутнічае ў энцыклапедычных даведніках, а прысвечаныя яму артыкулы рэгулярна з’яўляюцца ў СМІ. Памятаюць пра Б. Дыбоўскага і на лакальным узроўні ў вёсцы Дуброва Маладзечанскага раёна.

Гэтай папулярнасці моцна паспрыяла тое, што яго імя было ўведзена ў шырокі зварот у Беларусі яшчэ ў канцы 1960-х гадоў дзякуючы навукова-папулярным публікацыям Адама Мальдзіса[1] і Валянціна Грыцкевіча[2]. У БССР апрача беларускага паходжання для папулярызацыі Дыбоўскага давялося яго ўпісаць у рэвалюцыйна-дэмакратычны канон. На шчасце, у тыя часы ўдзел у паўстанні 1863–1864 гг., які паслужыў прычынай ссылкі Дыбоўскага ў Сібір, мог быць рэпрэзентаваны менавіта ў пазітыўным рэвалюцыйным ключы. Шматлікія эпізоды біяграфіі навукоўца таксама рабілі яго бяспечным для згадвання ў савецкія часы. У прыватнасці, ён крытыкаваў кала-

[1] А. Мальдзіс, *Падарожжа ў XIX стагоддзе: з гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва*, Мінск 1969, с. 143–150.

[2] В. П. Грицкевич, *Путешествия наших земляков: из истории страноведения Белоруссии*, Минск 1968, с. 173–185.

ніяльную палітыку расійскага імперыялізму і шмат намаганняў прыкладаў у абарону малых народаў Сібіры і Далёкага Усходу, быў адным з першых публічных і адданых дарвіністаў у польскай навуцы, вельмі рэзка крытыкаваў рэлігію і асабліва каталіцкі клір, у 1927 г. з удзячнасцю прыняў абранне членам-карэспандэнтам АН СССР.

Адначасна папулярызатарам яго асобы давялося ісці на некаторыя фальсіфікацыі. Напрыклад, у Мальдзіса чытаем, што Бенедыкт Дыбоўскі з радасцю сустрэў звесткі аб перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі, што ён не здолеў пераехаць у СССР, але падтрымліваў цесную сувязь з савецкімі навукоўцамі. Пацвярджэнне мае толькі апошняе. Дыбоўскі сапраўды падтрымліваў сувязі з расійскімі, а пасля 1917 г. — з савецкімі навукоўцамі. Але аналіз эпісталярнай спадчыны сведчыць, што да бальшавіцкай рэвалюцыі ён ставіўся крытычна[3], а наконт планаў пераезду ў СССР згадак знайсці не атрымалася.

У апошнія гады з’явіліся публікацыі пра сувязі Дыбоўскага з беларускай зямлёю, пра яго повязь з менскай гімназіяй[4] і побыт на Навагрудчыне[5]. Але да гэтага часу малавядомай застаецца яго грамадска-палітычная актыўнасць. Між тым Дыбоўскі не толькі папулярызаваў дарвінізм і мову эсперанта, змагаўся з ужываннем алкаголю і клерыкалізмам, ён публікаваў артыкулы і брашуры па самых розных аспектах грамадскага жыцця. У апошні час таксама з’явіліся публікацыі, у якіх аналізуецца яго роля ў пашырэнні еўгенікі ў Польшчы[6], а таксама яго называюць „протафеміністам”[7].

У гэтым артыкуле хачу звярнуць увагу на стаўленне Дыбоўскага да нацыянальнага пытання. Зразумела, што большасць прац, якія зрабілі яго славутым, маюць вузкі профіль натуральных навук (біялогія, заалогія, фізічная антрапалогія), але разам з тым ён пакінуў шмат успамінаў, публікацый па гістарычнай антрапалогіі, што былі праігнараваны і не ўвайшлі ў навуковы зварот. Больш за тое, аналіз поглядаў Дыбоўскага на нацыянальнае пытанне дазваляе зрабіць выснову, што менавіта ён быў аўтарам канцэпцыі „Белаляхіі”, якую можна лічыць альтэрнатыўным праектам беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Гісторыя з публікацыяй артыкула *Беларусь альбо Белаляхія* вельмі заблытаная, і я паспрабую прапанаваць уласную версію аўтарства гэтага ананімнага тэксту. Адразу

---

[3] *Korespondencja Benedykta Dybowskiego do Janusza Domaniewskiego w latach 1919–1920*, „Memorabilia zoologica”. Nowa Seria, 2019, nr 5, s. 33.

[4] Е. Ахвердова, *Бенедикт Дыбовский и минская мужская гимназия середины XIX века* [в:] *Професор Бенедикт Дибовський — визначний дослідник спільної природної спадщини Польщі, Білорусі та України*, Львів 2018, с. 67–86.

[5] А. Капилов, *Связи Бенедикта Дыбовского с Беларусью (1885–1930)* [в:] *Професор Бенедикт Дибовський — визначний дослідник...*, с. 102–121.

[6] A. Słoniowska, *Benedykta Dybowskiego program odrodzenia ludzkości*, „Galicja. Studia i materiały”, 2022, nr 8, s. 13–28.

[7] M. Skucha, *Benedykt Dybowski i Włodzimierz Popiel, albo o pewnym dyskursie profeministów polskich przełomu XIX i XX wieku*, „Pamiętnik Literacki”, 2016, nr 2, s. 47–64.

адзначу, што для поглядаў Дыбоўскага па нацыянальным пытанні характэрна спалучэнне рамантычнага светапогляду, ужо архаічнага для канца XIX — пачатку XX ст., з прагматыкай натуральных навук.

У публікацыях Мальдзіса і Грыцкевіча пытанне нацыянальнасці Дыбоўскага досыць лёгка вырашалася. Прадстаўнікі польскамоўнай шляхты станавіліся часткай беларускай гісторыі ўжо па факце нараджэння ў Беларусі. Гэта быў бяспечны шлях інтэграцыі польскамоўнай шляхецкай культуры ў беларускі канон, што было прынцыпова важным у той час. Але зараз варта на іншых тэарэтычных і метадалагічных прынцыпах паставіцца да пытання ідэнтычнасці ўраджэнцаў Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. Гэта быў вельмі складаны і дынамічны час нацыястварэння, калі паступова разбураліся патэрны палітычнай свядомасці, атрыманыя ў спадчыну ад Рэчы Паспалітай. Напрыканцы XIX ст. мы назіраем рост нацыянальнай мабілізацыі і з'яўленне „новых" народаў — літоўцаў, беларусаў, украінцаў. Апошняе таксама ўплывала на самаідэнтыфікацыю і мясцовай „польскай" шляхты.

Асоба і погляды Дыбоўскага якраз вельмі цікавыя ў гэтай сувязі. Ён пражыў доўгае і плённае жыццё, быў сведкам важных падзей, пачынаючы ад асабістага ўдзелу ў паўстанні 1863–1864 гг. Безумоўна, ён заўжды захоўваў пазіцыю польскага патрыёта, але ўважлівы аналіз сведчыць, што яго ідэнтычнасць была складанай і шматузроўневай. Яна нават не месціцца ў добра апісанай мадэлі *gente Lithuanus, natione Polonus*[8]. Самаўсведамленне — гэта не проста дэкларацыя сябе ў нацыянальных катэгорыях, гэта таксама сістэма каштоўнасцей і патэрны паводзін. Выпадак Дыбоўскага падаецца цікавым і паказальным. Ён можа быць выкарыстаны ў тым ліку дзеля пераасэнсавання феномену свядомасці на беларуска-літоўскіх землях у часы імклівых грамадскіх і палітычных змен.

Паспрабую паказаць розныя ўзроўні яго нацыянальнай свядомасці. Асновай для гэтага будзе вывучэнне пакінутых ім тэкстаў (у першую чаргу ўспамінаў), а таксама навуковых публікацый, эпісталярнай спадчыны, успамінаў пра Дыбоўскага.

Як для большасці прадстаўнікоў шляхты, для якіх важнейшым вызначальнікам сацыяльнага статусу было валоданне зямлёй, для Дыбоўскага цэнтрам атаясамлення сябе з Радзімай быў радавы маёнтак. Ён пакінуў падрабязнае апісанне маёнтка Адамарын, дзе нарадзіўся, у сваёй кнізе ўспамінаў *O Syberji i Kamczatce*, дакладней, у другім выданні гэтых успамінаў 1912 г. Пасля смерці брата Уладзіслава ў 1910 г. ён дадаў у кнігу кароткі біяграфічны нарыс, дзе падрабязна асвятляецца іх дзяцінства, праведзенае ў ваколіцах Менска[9].

---

[8] Ю. Бардах, *Шматузроўневая нацыянальная свядомасць на літоўска-рускіх землях Рэчы Паспалітай у XVII–XX стст.* [у:] *Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага*, Мінск 2010, с. 292–311.

[9] B. Dybowski, *O Syberji i Kamczatce*, Lwów 1912, s. IX–XX.

Гэтымі ўспамінамі Дыбоўскі не вылучаецца з мноства прадстаўнікоў польскамоўнай шляхты, якія пакінулі свае мемуары, дзе сустракаем агульныя тропы ідэалізацыі радавых маёнткаў. Па-першае, бачым гарманічнае спалучэнне сядзібы і наваколля з паэтызацыяй прыроды. Па-другое, сацыяльныя адносіны ўяўляюцца цалкам бесканфліктнымі, а менавіта землеўласнікі апякуюцца сялянамі ў патрыярхальнай манеры: „Адносіны да дваравой службы і да сялян былі сапраўды сямейнымі і наўпрост ідэальнымі"[10]. І, па-трэцяе, сядзібы шляхты ў такіх настальгічных рэпрэзентацыях прадстаюць носьбітамі высокай пісьменнай культуры і палітычнай традыцыі Рэчы Паспалітай, а з ліквідацыяй палітычных інстытутаў традыцыя перадаецца праз сямейнае выхаванне, што дазваляе рэтрансліраваць польскую культуру: „Мы лічылі Адамарын зямным раем, аточаныя цалкам старапольскай атмасферай. Мова, штодзённыя і ўрачыстыя строі, звычаі — усё было польскім"[11]. Цікава, што гэта замілаванне традыцыйным ладам жыцця ў аўтара спалучалася з дарвінізмам, антыклерыкалізмам і протафемінізмам.

Разам з тым у Дыбоўскага бачым цалкам прагматычны падыход да лакальнай ідэнтычнасці, калі яна пераўтвараецца ў сацыяльны капітал, калі лакальныя сувязі (сваяцтва, зямляцтва, супольнае навучанне) ператвараюцца ў сетку кантактаў, якія навуковец выкарыстоўвае падчас сваіх падарожжаў. Асабліва ўражвае дзённік падарожжа па Сібіры, калі ў кожным горадзе Дыбоўскі звяртаўся найперш да „сваіх", а менавіта да колішніх навучэнцаў Менскай гімназіі. Прытым ён амаль не выкарыстоўваў рэсурс навучання ў Дэрпцкім універсітэце. Відавочна, што гімназія ў Менску атаясамлівалася ў навукоўца з *Heimat* і служыла асноўным маркерам для вылучэння „сваіх". Падтрымка такой сеткі кантактаў патрабавала намаганняў. У мемуарах Дыбоўскі пісаў, што ён пастаянна распытваў пра агульных знаёмых, запісваў іх адрасы. Пры гэтым на старонках дзённіка ён згадваў не толькі калег і прыяцеляў па Менскай гімназіі, блізкіх яму па сацыяльным статусе. Яго цікавілі нават „простыя людзі", што паходзілі з родных мясцін. Сустрэчы з імі ў Сібіры ён занатоўваў у дзённік.

Як бачым, лакальная ідэнтычнасць — гэта не проста настальгічныя згадкі пра паходжанне. Яна прагматычна выкарыстоўваецца як аснова для сацыяльнага капіталу, для выбудоўвання сацыяльных сувязей, якія дапамагаюць у складаных жыццёвых сітуацыях.

Меншчына займала ў Дыбоўскага месца Радзімы, з якой ён адчуваў моцную повязь па праву нараджэння, сямейнага выхавання і школьнай адукацыі. Аднак аналіз яго разнастайнай спадчыны паказвае, што з часам у яго з'яўляецца новая Радзіма. Як ні дзіўна, гэта не Львоў ці агулам Галіцыя, куды ён перабраўся пасля сваіх сібірскіх вандровак на сталую прафе-

[10] Ibidem, s. X.

[11] Ibidem.

сарскую пазіцыю і дзе застаўся да сваёй смерці. Новая Радзіма ў яго — гэта Наваградчына.

Сталыя сувязі з Наваградчынай прасочваюцца найперш па яго біяграфіі, паколькі там пасяліўся брат Уладзіслаў, з якім Бенедыкта звязвалі моцныя асабістыя сувязі. З 1878 г. брат жыў у арандаваным ва Умястоўскіх фальварку Нюнькава, а калі стала дрэнна са здароўем, то перабраўся пад дагляд сястры Мальвіны Наргелевіч у Войнава (абодва маёнткі знаходзіліся ў ваколіцах Любчы). У гэты перыяд Бенедыкт Дыбоўскі кожнае лета наведваў Наваградчыну, у тым ліку і пасля смерці брата ў 1910 г.[12] Звычайна навучальны год ён праводзіў у Галіцыі, а ўлетку абавязкова ехаў на Наваградчыну. У цяжкую сітуацыю Дыбоўскі трапіў у 1914 г., калі з-за пачатку Першай сусветнай вайны як аўстрыйскі грамадзянін ён не здолеў адразу вярнуцца ў Львоў.

Чым жа Наваградчына так вабіла прафесара? У першую чаргу тым, што для яго яна была асвечана велічнымі постацямі Адама Міцкевіча і Тадэвуша Касцюшкі, якія былі надзвычай важнымі для светаўспрымання Дыбоўскага. Паводле ўспамінаў Юльяна Талька-Грынцэвіча, бліжэйшага сябра і навуковага паплечніка Дыбоўскага, таго часта папракалі ў засіллі правінцыялізмаў у яго мове (зразумела, што гаворка ідзе пра беларусізмы), на што той адказваў, што размаўляе на мове Касцюшкі і Міцкевіча[13]. Але Дыбоўскі не проста ганарыўся тым, што жыве на зямлі, якая нарадзіла гэтых герояў, ён шмат зрабіў для актуалізацыі гэтых постацей праз навуковую парадыгму, антрапалагічныя[14] і прыродазнаўчыя даследаванні.

Калі яго брат Уладзіслаў аналізаваў гербарый Наваградчыны, ужываны Міцкевічам у яго творах[15], то і для Бенедыкта было важна зрабіць профільны навуковы ўнёсак у вывучэнне і папулярызацыю спадчыны Адама Міцкевіча. Вядома, што ён рэгулярна бываў у Туганавічах. І, калі ў 1885 г. Вінцэнт Каратынскі апублікаваў у газеце „Tygodnik illustrowany" ўспаміны пра Туганавічы, то ў якасці ілюстрацый былі выкарыстаны апрацаваныя мастаком фотаздымкі Бенедыкта Дыбоўскага[16]. Цікава, што калі ў 1911 г. Адам Карповіч наведаў Туганавічы, то ў маёнтку ён сустрэў Дыбоўскага, які праводзіў для знаёмых экскурсію[17].

Як вядомы даследчык Байкала Дыбоўскі не мог прамінуць і апетае Міцкевічам возера Свіцязь. Яшчэ ў 1890 г. ён спрабаваў зафіксаваць яго памеры[18],

---

12 А. Капилов, *Связи Бенедикта Дыбовского с Беларусью (1885–1930)* [в:] *Професор Бенедикт Дибовський — визначний дослідник…*, с. 102–121.

13 Ibidem, с. 106.

14 Публікацыі ў часопісе „Kosmos" не ўводзіліся ў навуковы зварот беларускімі навукоўцамі.

15 W. Dybowski, *Rośliny litewskie w poezyach Adama Mickiewicza*, „Kosmos", 1898, t. XXII, s. 218–228.

16 W. Korotyński, *Wspomnienia o Adamie Mickiewiczu w Tuhanowiczach*, „Tygodnik Ilustrowany", 1885, t. 5, nr 129.

17 А. Капилов, *Связи Бенедикта Дыбовского с Беларусью…*, с. 113.

18 A. Rehman, *Jezioro Świteż i Kołdyczewskie,* „Wszechświat" 1891, t. 10, nr 45.

а ў 1898 г. апублікаваў апісанне возера, у якім навуковыя метады шчыльна пераклікаюцца з паэтычнымі апісаннямі[19]. Можна казаць пра асаблівую любоў Дыбоўскага да гэтага возера, бо ў 1912 г. ён апублікаваў яшчэ адзін артыкул пра Свіцязь (з фотаздымкамі Яна Булгака), у якім цытаваў вершы Міцкевіча і хваліў яго за дакладнае апісанне возера[20]. Таксама Дыбоўскі спрыяў вывучэнню „камня філарэтаў", рабіў яго здымкі, а фрагмент перадаў у мінералагічны музей Львоўскага ўніверсітэта[21].

Цікава і тое, што Дыбоўскі спрабаваў прапусціць асобу Адама Міцкевіча праз тагачасны навуковы апарат фізічнай антрапалогіі. Ён збіраў апісанні знешнасці і характару Міцкевіча, а таксама аналізаваў прыжыццёвыя партрэты. Сярод асноўных рыс вялікага паэта вылучаў гарачую любоў да Айчыны і прывязанасць да родных мясцін, што, на думку антраполага, таксама сведчыла пра адсутнасць у Міцкевіча „расава" чужых элементаў. Паходжанне паэта ды іншых жыхароў Наваградскай зямлі („наваградскіх тыпаў") ён характарызаваў у парадыгме змяшання блізкіх расавых элементаў „арыйскага паходжання": „Змяшаны тып, які паўстаў у выніку гарманічнага злучэння рыс кельцкага племені са змяшаным іберыйска-лігурыйскім племенем, а часткова — і з тэўтонскім"[22]. Шмат увагі Дыбоўскі надаваў пытанню, ці ёсць у Міцкевіча часткова „ізраільскае" паходжанне, з улікам звестак, што маці паэта Барбара Маеўская паходзіла з габрэйскай сям'і. Як даследчык, ён адмаўляў прысутнасці ў расава-антрапалагічным тыпе Міцкевіча „чужых" элементаў.

Найбольшую цікавасць для нас уяўляе фінальная дыскусія, а менавіта яго адказ на пытанне, „ці быў Прарок ліцвінам, ці беларусам". Гэты фрагмент мне падаецца настолькі важным для разумення ідэнтычнасці Дыбоўскага, які адчуваў сябе таксама наваградчанінам, што прывяду тут яго цалкам: „Гэта пытанне магло нарадзіцца толькі ў найноўшыя часы, паколькі раней пра тое ніхто і думаць не мог, што яно паўстане, бо „Беларуссю" называлі Магілёўскую зямлю, а не Менскую, Наваградскую, ці Гарадзенскую альбо Віленскую. Пад назвай „Літва" разумелі ўвесь геаграфічны абшар даўняй Польшчы пад „Пагоняй", а не маленькую частку, дзе люд дагэтуль размаўляе літоўскай гаворкай. Прытым добра вядома, што амаль уся Наваградчына раней была лінгвістычна літоўскай, затым пераняла дзяржаўна-палітычную гаворку вялікіх князёў літоўскіх і стала лінгвістычна беларускай, а ў пазнейшы час, прыняўшы польскую асвету, стала па большай частцы лінгвістычна польскай. Таму ніводны наваградчанін ніколі сябе беларусам

[19] B. Dybowski, *Świteż*, „Kosmos" 1898, t. XXII, s. 644.
[20] B. Dybowski, *Dwie Świtezi*, „Ziemia" 1911, nr 5–9.
[21] R. Zuber, *Kilka słów o „Kamieniu Filaretów" pod względem geologicznym*, „Kosmos" 1898, t. XXII, s. 216.
[22] B. Dybowski, *Próba określenia składników rasowoplemiennych uwydatnionych w postaci wieszcza naszego Adama Mickiewicza rozpatrywanych na tle typów mieszkańców Europy i ziemi Nowogrodzkiej*, „Kosmos", 1898, s. 206.

не называў, але лічыў сябе ў першую чаргу палякам, у другую — ліцвінам. У нас былі ліцвіны, якія размаўлялі па-беларуску, па-літоўску, па-жамойцку, па-латышску, па-чухонску і па-польску, у нас былі палякі, якія размаўлялі па-польску, па-русінску[23] і па-нямецку, а ўсіх разам аб'ядноўвала адна вялікая душа — ідэя сацыяльна-нацыянальнай супольнасці”[24].

Да 100-годдзя са смерці Касцюшкі Дыбоўскі прааналізаваў антрапалагічны тып правадыра паўстання, дзе крыніцай былі ўсе даступныя апісанні знешнасці і прыжыццёвыя партрэты. У сваім падыходзе да расавай антрапалогіі Дыбоўскі прытрымліваўся ўяўлення пра пазітыўны эфект змешвання расава блізкіх элементаў, што разыходзілася з пашыраным уяўленнем пра каштоўнасць захавання „чыстай крыві”. Ён падкрэсліваў, што „ўсе тры базавыя этнаграфічныя элементы дзяржавы Ягелонаў — польскі, літоўскі і рускі — рэпрэзэнтаваны ў сям'і Касцюшкі. Гэта кроў змешвалася, каб стварыць шляхетную аснову асобы Тадэвуша”[25].

Дыбоўскі, для якога вельмі важнай была любоў да *Heimat* (па праву нараджэння ці інтэлектуальнага прысваення), такія ж рысы прыпісваў Касцюшку: „Ён любіў сваю родную старонку і высока цаніў сваё літоўска-польскае паходжанне”[26]. У падсумаванні артыкула аўтар вярнуўся да сваёй улюбёнай ідэі пра змешванне расавых элементаў: „Расава-племянны базіс Тадэвуша Касцюшкі заснаваны на трох галоўных элементах: мазурска-польскім, літоўска-рускім і руска-літоўскім з перавагай польскага элемента”[27].

Варта ўвагі, што Дыбоўскі выкарыстоўвае складаны і архаічны лексікон „Літвы і Русі” (і гэта ў 1917 г.!), але ў рэзюмэ на нямецкай мове ён быў вымушаны выкарыстоўваць больш празрыстую тэрміналогію пра „польскі, беларускі (weissrussischen) і літоўскі (lithuanischen) расавыя тыпы”. Напрыканцы артыкула пра Касцюшку аўтар прыгадаў дыскусію з калегам наконт прысутнасці ў антрапалагічным тыпе героя „крыўскага” і „чухонскага”[28] элементаў. На падставе задзёртасці носа правадыра паўстання ён адкідаў гіпотэзу пра прысутнасць гэтых элементаў.

Ці можам мы на аснове тэкстаў Дыбоўскага рэканструяваць самасвядомасць навукоўца? У якасці нацыянальнага самавызначэння ў яго яўна дамінуе „паляк”, значна радзей сустракаецца „ліцвін”. Але нават слова „паляк” тут мае складаную канструкцыю.

У якасці ж вызначэння сваёй Радзімы, як Меншчыны, так і „прысвоенай” Наваградчыны, Дыбоўскі паслядоўна ўжывае тэрмін „Літва”. Калі ён у сваіх працах прыводзіў прыклад ці штодзённасці, ці грамадскага жы-

---

23 Дыбоўскі заўжды выкарыстоўваў тэрмін „русіны” для пазначэння ўкраінцаў.

24 B. Dybowski, *Próba określenia składników rasowoplemiennych...*, s. 211.

25 B. Dybowski, *Andrzej Tadeusz Bonawentura Kosciuszko*, „Kosmos” 1918, t. XLII, s. 13.

26 Ibidem, s. 21

27 Ibidem, s. 25.

28 Чухонскі — у дадзеным выпадку фіна-ўгорскі.

цця на Радзіме, то заўжды пісаў „у нас, на Літве". Пры гэтым ён жыў у Львове і меў аўстрыйскае грамадзянства. Найбольш блізкімі яму былі людзі менавіта „з Літвы", і ён прыкладаў сур'ёзныя інтэлектуальныя намаганні для папулярызацыі мінуўшчыны і прыроднай прыгажосці „сваёй" Літвы ў меру ўласных кампетэнцый.

„Літва" Дыбоўскага мела сваім цэнтрам Наваградчыну. Нават Віленшчына для яго была перыферыйнай, хоць зрэдку ён усё ж публікаваўся ў віленскім перыядычным друку. Гэта „Літва" Міцкевіча (толькі без старадаўняй балцкай гісторыі) — яўна архаічнае паняцце для рубяжа XIX–XX стст. Дыбоўскі заўважыў беларускі нацыянальны рух, цікавіўся асаблівасцямі беларускай мовы, спрабаваў аналізаваць свядомасць мясцовых жыхароў, але яго зусім не цікавілі этнічна літоўскія тэрыторыі. Літоўскі нацыянальны рух выклікаў непрыняцце, паколькі пярэчыў рамантычнаму ідэалу аднаўлення „Вялікай Літвы", заснаванай на польскай культуры.

Паколькі гэта складаная шматузроўневая ідэнтычнасць, то паспрабую пазначыць па ўзроўнях, хто быў бліжэй па свядомасці.

| | |
|---|---|
| „Свае" | „Палякі з Літвы", польскамоўная шляхта з Меншчыны і Наваградчыны, з якімі Дыбоўскі меў шчыльныя сувязі. |
| „Блізкія" | Палякі з іншых земляў (этнічнай Літвы ці Каралеўства Польскага). З „караняжамі" ён адчуваў рознасць інтарэсаў, асабліва датычна лёсу Літвы[29].<br>Беларускамоўных сялян ён лічыў прыналежнымі да польскай цывілізацыі, прасякнутымі польскай культурай. |
| „Чужыя" | Да іншых народаў у яго досыць непрыязнае стаўленне, якое часам дасягае варожасці. Па сучасных мерках яго можна назваць антысемітам. Да ўкраінцаў („русіны") ён ставіўся варожа, асабліва ў кантэксце польска-ўкраінскага канфлікту за Львоў. Рускія ў яго дзённіках абвінавачваюцца ў п'янстве, крадзяжах і карупцыі. Руская мова выклікае агіду. Літоўцы („жамойты") таксама выклікаюць раздражненне. „Жмудзінаў" лічыў ворагамі, паколькі адмаўлялі ідэю федэрацыі з Польшчай[30]. |

На фоне негатыўных характарыстык розных народаў, якімі насычаны дзённік Дыбоўскага і яго ліставанне, здзіўляе асаблівае месца, якое ён адводзіў беларусам. Для яго гэта носьбіты польскай культуры. Іх мова найбольш блізкая да польскай. Беларусы, паводле меркавання навукоўца, павінны былі ўвайсці ў федэратыўную унію з Польшчай.

[29] P. Daszkiewicz, D. Iwan. *Ostatnie lata życia Benedykta Dybowskiego (1833–1930) w świetle korespondencji z Januszem Domaniewskim (1891–1954) — przyczynek do biogramu*, „Kosmos" 2020, t. LXIX, nr 54, s. 558–559.

[30] Ibidem, s. 559.

Бачым, што Дыбоўскага вельмі цікавілі этнічныя і нацыянальныя пытанні. Ён звяртаў увагу на асаблівасці гаворкі, спрабаваў класіфікаваць расы і паглыблена вывучаў мінуўшчыну сваёй зямлі. Дыбоўскі не быў „кабінетным вучоным", аддаленым ад актуальнага грамадска-палітычнага жыцця. І тут можна перайсці да галоўнай ідэі гэтага тэксту — да спробы звязаць Дыбоўскага з адным загадкавым і напаўзабытым тэкстам.

Найперш трэба адзначыць асаблівасць публіцыстычных тэкстаў Дыбоўскага, які часта і паслядоўна замяняў тэрмін „беларускі" на „белаляхіцкі". У гэтым ён нагадвае Вацлава Ластоўскага, які спрабаваў замяніць „беларускі" на „крыўскі". Відавочна, што пры гэтым тэрмін „беларускі" набываў выразнае этнічнае значэнне і належаў ужо да мадэрнай нацыянальнай катэгарызацыі, якая выціскала старасвецкія размытыя катэгорыі „Літвы" і „Русі". Як і ў Ластоўскага, тут адчуваўся намер прыбраць „рускасць", якая па найменні прывязвала Беларусь да расійшчыны.

Характэрна, што ў нядаўнім выданні расійскага перакладу кнігі *О Сибири и Камчатке* разгублены перакладчык даў наступнае вызначэнне „Белаляхіі" Дыбоўскага: „Белолехия (польск. Białolechia i Białolachy) — историческое определение территории Минщины и Витебщины в составе Великого Княжества Литовского"[31]. Аднак гэта не гістарычнае паняцце, яно не сустракаецца ў крыніцах да канца XIX ст. Мы маем справу з нааватворам, які з'явіўся ў эпоху нацыянальнага будаўніцтва. Ён мусіў праектаваць на этнас такі варыянт назвы, які б адразу задаваў пэўныя культурна-цывілізацыйныя каардынаты, і дзе „расійскі" падмурак мусіў быць заменены на „ляшскі" (то бок польскі). Пры гэтым Дыбоўскі застаецца адзінай вядомай асобай, якая паслядоўна і сістэматычна выкарыстоўвала тэрміны „Белаляхія" і „белаляшскі" ў сваіх працах. Прывядзём тут некалькі цытат з прац розных гадоў.

*Пра так званае „жаночае пытанне" з пункта гледжання прыродазнаўчых навук* (1897): „Zresztą słusznie głosi przysłowie Białolechieckie, że „nie prykrauszy nie prythauszy[32] bahatym nie budziesz"[33].

*Пра шкоднасць алкагольных напояў для арганізму жывёл і людзей* (1902): „Wtedy jeszcze na Litwie wszędzie mówiono po polsku [...] Popi nawiat w cerkwiach odprawiali nabożeństwa po białolechicku, dla parafjan pod nahajem kazackim „oprawosławionych" [...] Słowem był to jeszcze raj na Białolechji, w porównaniu z tem, co tam mamy dzisiaj[34]; „Przysłowie Białolechickie powiada: Sawa nie prywiadzie sakała, a takuju sawu jak sama"[35].

[31] Б. Дыбовский, *О Сибири и Камчатке. Часть I. Путешествие из Варшавы на Камчатку*, Вятка 2021, с. 144.

[32] Відавочна, што пры перадачы беларускай мовы паўстала памылка. Правільна: …*nie pryłhauszy*.

[33] B. Dybowski, *O kwestji t.zw. „kobiecej" ze stanowiska nauk przyrodniczych*, Lwów 1897, s. 92.

[34] B. Dybowski, *O wpływie trunków alkoholicznych na organizm zwierzęcy i ludzki*, Lwów 1902, s. 92

[35] Ibidem, s. 140.

*Пра Сібір і Камчатку* (1912): [...] musiałem być na dwóch wieczerzech, czyli na t.zw. po białolechicku „kucyach"[36]; „[...] często cytowałem mu był przysłowie białolechickie, źe nie pryukrauszy i nie pryłhauszy bahatym nie budziesz";

„Jaka to ołbrzymia różnica mieszkań sybiriaków od chat naszych włościan w ziemi Nowogródzkiej — tu domek zamoźniejszego Sybiraka raczej podobny do dworka szlachieckiego, aniżeli do chaty włościanina z Białolechii"[37];

„Wogóle mowa t. zw. „białoruska" nigdzie się nie utrzymała na Syberyi. Jedno co Białórusini wprowadzili wraz z Polakami do Syberyi to kołnierz od koszuli prosty, symetryczny po obu stronach, a nie tak zwany „kasoj worotnik" moskiewski. Dla mnię osobiście szkoda języka białoruskiego, że nie wytrzymuje konkurencyi z syberyjsko-rossyjskim, lubię tę gwarę: prostą, naiwną, wyrażającą sposobem lapidarnym myśli często glębokie i pełne dowcipu naturalnego, ale za to wstrętny mi jest ów „wolapik" książkowy, rzekomo białoruski, fabrykowany na poczekaniu przez Don-Kiszotów z Białolechii. Jedyny sposób, ażeby uratować teraz język „białolechicki" od zagłady jest spisywać przy pomocy fonografu z jedynego dobrego źródła cały szereg czystych zwrotów i prawdziwych wyrazów białoruskich wypowiadanych przez usta wiekowych kobiet, gdyż młodsze pokolenie nawet i niewieście skaziło mowę swoją domieszką z wyrazów i zwrotów mowy kazionnej. Wszyscy działacze rosyjscy pogardzają mową białoruską. Dawniej urzędnicy miejscowi i duchowni unici pochodzący z kraju białoruskiego, mówili z ludem w jego narzeczu, obecnie nasłani z pod ciemnej gwiazdy urzędnicy i duchowni, uważają za ubliżenie własnej godności, uczyć się mówić po białorusku — to też i lud sam powoli uznaje swój język za niegodny ust ludzi klas wyższych. „Mużyckij jazyk" powiadają i nim już mówić sami się wstydzą[38].

*Успаміны з паўстагадавой мінуўшчыны* (1913): „Jako przykłady, ilustrujące to, com powiedział, podaję krótkie historje naszych partji „litewsko-białolechichkich" czyli Białoruskich"[39].

Да гэтых „беларускіх партый" Дыбоўскі залічыў Наваградскую, Тонеўскую[40], Рубяжэвіцкую, Койданаўскую, Ракаўскую, Івянецкую, Нясвіжскую, Клецкую і Слуцкую.

Дыбоўскі рэгулярна ўжываў тэрміны „Белаляхія" і „белаляхі" ў якасці сінонімаў „Беларусь" і „беларусы". Паўстае пытанне: адкуль у яго ўзялася гэта „Белаляхія"? Адзіная крыніца, вядомая ў беларускай гістарыяграфіі (дакладней, этнаграфіі), — гэта артыкул *Białoruś a Białolechia*, апублікаваны ў львоўскім альманаху „Przewodnik Naukowy i Literacki" ў 1895 г. (што ха-

[36] B. Dybowski, *O Syberyi i Kamczatce. Cz. I,* Warszawa — Kraków 1912, s. 8.
[37] Ibidem, s. 117.
[38] Ibidem, s. 135.
[39] B. Dybowski, *Wspómnienia z przeszłości półwiekowej*, Lwów 1913, s. 2.
[40] Тонвы, зараз Тонава Стаўбцоўскага раёна. У гэтым фальварку прайшло дзяцінства Бенедыкта Дыбоўскага.

рактэрна, у раздзеле „Літаратурная хроніка")[41]. Артыкул ананімны, спроб вызначэння яго аўтарства не рабілася.

У 1964 г. на яго звярнуў увагу Васіль Бандарчык у сваёй *Гісторыі беларускай этнаграфіі XIX ст.*: „З рэакцыйных, шавіністычных пазіцый у 1895 г. выступіў львоўскі часопіс „Przewodnik Naukowy i Literacki", змясціўшы артыкул невядомага аўтара пад назвай „Беларусь і Белаляхія". Аўтар артыкула намагаецца даказаць, што беларусы не належаць да ўсходнеславянскіх народаў, а з'яўляюцца адгалінаваннем палякаў. Для пацвярджэння сваіх доказаў ён імкнецца прыцягнуць гістарычныя і моўныя звесткі і робіць вывад: „Нашчадкі дрыгавічоў і радзімічаў з'яўляюцца адвечнымі ляхамі". Нарэшце ён прапануе назву „беларусы" замяніць назвай „белаляхі". Такая назва, на яго думку, была б самай правільнай і пры гэтым не парушала б існуючага адрознення сучаснай мовы белаляхаў ад польскай"[42].

Відавочна, што гэта праца была добра вядомай вучню Бандарчыка Ігару Чыквіну, які згадваў яе ў сваіх публікацыях канца 1980-х гг., але ўжо для абгрунтавання тэзіса пра слабасць беларускай ідэнтычнасці і пашыранасць „тутэйшай свядомасці"[43]. У якасці кур'ёзу адзначу, што да гэтага артыкула ў 2019 і 2021 гг. звяртаўся вядомы прыхільнік „рускага міра" Леў Крыштаповіч, які выкарыстоўваў яго, каб граміць варожыя „польска-шляхецкія" канцэпцыі беларускай ідэнтычнасці. Падобна, што і ён даведаўся аб артыкуле пра Белаляхію, дзякуючы абагульняючай працы Бандарчыка[44]. Здзіўляе, што ніхто са згаданых аўтараў не заўважыў невялікай прадмовы, якая паведамляла, што артыкул перадрукоўваецца (са скарачэннямі) з газеты „Przegląd Wszechpolski" (1895, nr 3). Таксама згадваўся псеўданім аўтара *Vistulanus*. Рэдакцыя заяўляла, што не падзяляе поглядаў аўтара.

Зварот да першакрыніцы дазваляе прыступіць да загадкі аўтарства. „Przegląd Wszechpolski" — выданне добра вядомае ў польскай гісторыі ідэй. Газета спачатку называлася „Przegląd Emigracyjny" (1892–1895) і выдавалася Польскім гандлёва-геаграфічным таварыствам. У галоўным фокусе выдання знаходзіліся эканамічныя сувязі з польскай эміграцыяй. Таксама газета ўдзельнічала ў дыскусіях пра эканамічную эміграцыю, што было надзвычай важным у кантэксце эпохі. Радыкальная змена канцэпцыі выдання адбывалася якраз у 1895 г. у ліпені 1895 г. рэдактарам газеты стаў Раман Дмоўскі, а само выданне пад новай назвай ператварылася ў вядучы орган

[41] *Bialoruś a Bialolechia*, „Przewodnik Naukowy i Literacki", 1895, rocznik XXII, s. 281–287.

[42] В. К. Бандарчык, *Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.,* Мінск 1964, с. 257.

[43] І. У. Чаквін, *Да пытання аб этнічнай самасвядомасці беларусаў у часы Скарыны* [у:] *Спадчына Скарыны*, укл. А. Мальдзіс. Мінск 1989, с. 39; И. В. Чаквин, П. В. Терешкович, *Из истории становления национального самосознания белорусов (XIV — начало XX в.)*, „Советская этнография" 1990, № 6, с. 42–54.

[44] Л. Криштапович, *Польско-шляхетская трактовка белорусской истории и русский мир,* [online], http://ross-bel.ru/analitika-portala-vmeste-s-rossiey/news_post/lev-krishtapovich-polsko-shlyakhetskaya-traktovka-belorusskoy-istorii-i-russkiy-mir, [dostęp: 7.05.2023].

польскай нацыянальнай дэмакратыі. Тут фармуляваліся асноўныя палітычныя ідэі гэтага руху[45].

Здаецца лагічным атаясаміць гэты артыкул не з нейкім няўцямным літаратурным альманахам, а з львоўскім асяродкам польскіх нацыянальных дэмакратаў. Першасная публікацыя артыкула атаясамліваецца якраз з дзейнасцю эндэцыі[46]. У спробах знайсці нейкія сляды канцэпцыі „Белаляхіі" ў беларускім нацыянальным руху патрапілася згадка ў артыкуле *Думкі тутэйшага чалавека* („Беларускае жыццё", 5 чэрвеня 1919 г.): „Польская эндэцыя кажа, што тут у нас Белапольшча. Дык можа я, знакам тым, бела… паляк?". Праўда, за гэты час „Белаляхія" пераўтварылася ў „Белапольшчу", але бачым, што сам гэты канцэпт цыркуляваў у дыскусіях пра беларускую нацыянальную ідэнтычнасць.

Ці можа месца першай публікацыі (Львоў, 1895, газета, у якую прыходзіць працаваць Раман Дмоўскі) прывесці да разгадкі, хто мог быць аўтарам гэтага тэксту? І тут выяўляецца, што простага адказу няма. Нагадаю, што адзінай публічнай асобай, якая свядома і працяглы час выкарыстоўвала тэрміны „Белаляхія" і „белаляшскі" з'яўляецца Бенедыкт Дыбоўскі. Настойлівасць, з якой ён гэта рабіў, пры тым, што канцэпт не атрымаў пашырэння, сведчыць, што гэтыя ідэі былі яму вельмі блізкімі. Ці мог быць ён аўтарам?

**Прывяду аргументы на карысць аўтарства Дыбоўскага.**

1. Кампетэнцыі гістарычныя. Аўтар артыкула паказвае абазнанасць у актуальнай этнаграфічнай і гістарычнай літаратуры. Мы сёння можам лічыць наіўнай аргументацыю пра „ляшскія" карані радзімічаў, але ў той час гэта абмяркоўвалася ў навуковай літаратуры (гл.: тэксты Яўхіма Карскага ці Аляксея Шахматава). Крыніцай маглі быць і працы Яна Длугаша, які спасылаўся на хроніку Нестара ў сваім вызначэнні радзімічаў як ляхаў. Дыбоўскі цытаваў Длугаша ў сваіх творах.
2. Кампетэнцыі лінгвістычныя. У якасці нарматыўнай беларускай/белаляшскай мовы аўтар прапаноўвае звяртацца да гаворак з-пад Наваградка, Менска і Магілёва і супрацьпастаўляе іх русіфікаваным віцебскім гаворкам. Відавочна, што гэта таксама адпавядае колу зацікаўленняў Дыбоўскага. На старонках прац Дыбоўскага можна сустрэць сцвярджэнні, што беларуская мова бліжэй да польскай, чым да „вялікарасійскай"[47].
3. Тэкставыя пераклічкі. Многія фрагменты тэксту цалкам адпавядаюць стылістыцы і тэрміналогіі Дыбоўскага. Так, пра ўплыў „польскага элементу" ён любіў разважаць у тэрмінах „мазурскага" дамешку.

---

[45] G. Krzywiec, *Szowinizm po polsku. Przypadek Romana Dmowskiego (1886–1905)*, Warszawa 2009, s. 188–189.

[46] B. Stoczewska, *Ukraina i Ukraińcy w polskiej myśli politycznej Od końca XIX wieku do wybuchu II wojny światowej*, Kraków 2013, s. 80.

[47] B. Dybowski, *Wspómnienia z przeszłości półwiekowej*, s. 64.

Тое ж самае мы знаходзім у гэтым артыкуле. Пасаж пра беларускіх сялян, якія лічаць сябе палякамі, паўтараецца ў працы пра Міцкевіча.

**Але разам з тым у тэксце ёсць элементы, якія не дазваляюць яго атаясаміць з Дыбоўскім:**

1. Псеўданім аўтара *Vistulanus*. Відавочна, што Дыбоўскі, калі б вырашыў у псеўданіме пазначыць сваё паходжанне, то спасылаўся б на Меншчыну ці на Наваградчыну. Гэта былі ключавыя мясціны для яго свядомасці. Немагчыма ўявіць, каб ён выкарыстоўваў такі псеўданім.
2. У тэксте прысутнічае адзін эксплiцытны біяграфічны маркер. Напрыканцы аўтар адзначыў, што яму добра вядомы „нямецка-літоўскія паветы на левым беразе ніжняга Нёмана”. Ніякіх згадак пра побыт Дыбоўскага ў гэтым рэгіёне я не знайшоў. Магчыма, ён мог наведваць кагосьці з сяброў у гэтай мясцовасці, але наўрад ці кароткачасовыя візіты маглі стаць падставай сцвярджэння пра добрае веданне гэтых мясцін.
3. Два перадапошнія абзацы ўяўляюць сабою зацятую палеміку з літоўскім нацыянальным рухам. Аўтар заклікаў адмовіцца ад ужывання тэрміна „Літва” ў гістарычным значэнні, у т. л. адносна беларускіх (белаляшскіх) земляў. Адпаведна, ён прапанаваў не называць Касцюшку і Міцкевіча „ліцвінамі”, а пакрэсліваць іх прыналежнасць да польскай нацыі. Зразумела, што гэтыя тэзісы таксама не маглі быць агучаны Дыбоўскім. Дарэчы, пры паўторнай публікацыі яны былі скарочаны.

Калі ж разглядаць у якасці аўтара Рамана Дмоўскага, то гэтыя маркеры адпавядаюць яго біяграфіі. Дмоўскі нарадзіўся ў Варшаве. Чаму б і не „Vistulanus”? Але найбольш значны другі біяграфічны маркер, які адмыслова падкрэслены ў канцы артыкула, менавіта добрае веданне нямецка-літоўскага памежжа на левым беразе ніжняга цячэння Нёмана. У 1893 г. за арганізацыю маніфестацыі да стагоддзя Канстытуцыі 3 мая Дмоўскі быў высланы ў Мітаву, адкуль у лютым 1895 г. уцёк да Львова. На той момант гэта быў адзіны досвед сутыкнення з этнічна змешанымі абшарамі ў жыцці Дмоўскага, які ён мог трактаваць як унікальную кампетэнцыю. Адпаведна, яе згадванне ў тэксце, дзе яно не мае аніякай угрунтаванасці, з’яўляецца зразумелым з асабістых прычын.

І, нарэшце, адмова ад канцэпцыі гістарычнай Літвы, пры якой Літва павінна сціснуцца да этнаграфічных абшараў, а астатнія землі будуць успрымацца тэрыторыяй Польшчы, — гэта, безумоўна, важны блок палітычнай праграмы нацыянал-дэмакратыі, яе шляху вырашэння пытання „Усходніх Крэсаў”.

Пералічаны вышэй набор кампетэнцый, якія мусілі быць у аўтара артыкула, не адпавядае інтэлектуальным магчымасцям Дмоўскага. Яму не былі добра вядомыя асаблівасці беларускіх гаворак і свядомасці мясцовага сялянства. Гэта выключае і магчымасць вызначэння яго як адзінага аўтара гэтага артыкула.

Але зробім яшчэ адно біяграфічнае набліжэнне. Дмоўскі скончыў фізіка-матэматычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта і абараніў ступень кандыдата прыродазнаўства (1891), меў навуковыя публікацыі. Так, у 1893 г. у часопісе „Wszechświat" ён апублікаваў артыкул *Родавое развіццё зубоў у млекакормячых*[48], у якім згадваў незавершаныя даследаванні Дыбоўскага на тую ж тэму. У гэтым жа часопісе рэгулярна публікаваўся Дыбоўскі, і, верагодна, ён уважліва сачыў за публікацыямі. Можна з пэўнасцю сцвярджаць, што іх навуковыя інтарэсы былі блізкімі, яны ведалі пра працы адзін другога. Не дзіўна, што калі Дмоўскі ўцякаў з Мітавы і прабіраўся ў Львоў, то спыняўся на кватэры Дыбоўскага і нават працаваў у якасці яго асістэнта. Магчыма, насамрэч былы паўстанец, які прайшоў праз сібірскую ссылку, мог такім чынам падтрымаць маладога польскага патрыёта. Дадам, што абодвух яднаў і заняты антысемітызм. Такім чынам, выяўляецца, што два патэнцыйныя аўтары гэтага артыкула на момант яго напісання працуюць разам і жывуць у адной кватэры ў Львове па адрасе вул. Яна Длугаша, 14 (зараз вул. Кірылы і Мяфодзія).

На жаль, я не знайшоў інфармацыі, як маглі складвацца стасункі паміж Дыбоўскім і Дмоўскім у той час. Можна зрабіць гіпатэтычную рэканструкцыю, што малады Дмоўскі пасля прыходу ў рэдакцыю меў патрэбу ў новых матэрыялах і скарыстаў для публікацыі рукапіс Дыбоўскага, але дадаў туды некалькі сваіх абзацаў і пазначыў гэты тэкст як уласны артыкул. Упэўнены, што сама канцэпцыя Белаляхіі і асноўны корпус аргументацыі належыць Б. Дыбоўскаму, а публікацыю, магчыма, здзейсніў Р. Дмоўскі.

Гэта двайное аўтарства магло паўплываць і на складаны лёс самой публікацыі. Дыбоўскі, які да канца жыцця выкарыстоўваў тэрмін „Белаляхія", не мог прызнацца ў аўтарстве канцэптуальнага тэксту з двума абзацамі, дзе крытыкаваўся канцэпт гістарычнай Літвы. Цікава было спраўдзіць, ці меў ён дачыненне да паўторнай публікацыі артыкула ў „Przewodnik Naukowy i Literacki", дзе з тэксту якраз былі прыбраны тэзісы пра адмаўленне ад „гістарычнай Літвы".

Сам тэкст быў напісаны з парадыгмы, якая супярэчыла праграме польскіх нацыянальных дэмакратаў, што дамінавала на старонках газеты „Przegląd Wszechpolski". Тэрмін „Белаляхія" там больш не сустракаецца. На наступны год на старонках гэтага выдання з'яўляецца яшчэ адзін праграмны тэкст *Nasze stanowisko na Litwie i Rusi*, але ўжо ў адпаведнасці з вызначанымі прыярытэтамі нацыянал-дэмакратыі (1896, nr 8). Гэты тэкст ананімны, але ў любым выпадку ён праходзіў праз рукі рэдактара Дмоўскага. Як бачна з назвы, там выкарыстоўваецца архаічная на той момант тэрміналогія, але пад „ліцвінамі" ўжо маецца на ўвазе літоўскі этнанацыянальны рух. Ніякай „Белаляхіі" тут няма ні ў назве, ні ў тлумачэнні этнічных асаблівасцей гэтых земляў.

Вось тут мы сапраўды можам казаць пра фармуляванне праграмы нацыянал-дэмакратыі да ўсходніх земляў даўняй Рэчы Паспалітай: „Край гэты ўжо

[48] R. Dmowski, *Rozwój rodowy uzębienia u zwierząt ssących*, „Wszechświat", 1893, nr 11.

пяць стагоддзяў — наша ўласнасць". Рэчаіснасць асэнсоўваецца выключна як барацьба мадэрных нацыяналізмаў. На той момант нацыянал-дэмакратыя яшчэ не адмаўляецца ад магчымасці супрацы з іншымі „маладымі" нацыяналізмамі, але пазней пяройдзе да непасрэднай канфрантацыі, у т. л. і з беларускім нацыянальным рухам.

Шляхі Дыбоўскага і Дмоўскага радыкальна разыходзяцца, апошні больш не займаецца навукай, цалкам паглыбляецца ў палітычную актыўнасць. Дыбоўскі да канца свайго жыцця застаецца рэспектабельным прафесарам, з відавочнымі палітычнымі амбіцыямі, але не ў рэчышчы праграмы партыі Дмоўскага. У дадзеным выпадку хочацца працытаваць фрагмент з яго перапіскі (12.6.1919): „Napisałem artykuł o całości Litwy. Byłbym bardzo ciekaw jak się P[an] zapatrujesz na tę myśli? Królewiacy są tego zdania, że Polska powinna wykroić pas Polski z Litwy, jak Białystok, Grodno, Wilno, a resztę polsko-litewską oddać na pastwę Żmudzinów, Białorusinów, etc. W taki sposób byłoby Wilno zeszło na miasto prowincjonalne Polski. Ja przeciwnego jestem zdania, ażeby się Litwa federacyjnie połączyła i cała Federacja jako wielka Litwa, złączyła się z Polską rdzenną w unii braterskiej jako równi z równymi, wolni z wolnymi. Wilno byłoby stolicą wielkiej Litwy, Warszawa stolicą Wielkiej Polski. Na wykrajaniu pasa polskiego nie przystaję. 3) Inna kwestia mnie zajmuje mianowicie: My proponujemy narodom, mającym się połączyć z Polską równość i moralność, bez żadnej myśli o hegemonji czy to narodowościowej, czy językowej. Czy też wyznaniowej (oczywista rzecz, że tu nie ma mowy o Żydach)"[49].

Дыбоўскі ў той час заставаўся прыхільнікам уніі Польшчы і гістарычнай Літвы. У яго візіі гэта мусіў быць саюз роўных з роўнымі, з моўнай і рэлігійнай свабодай. Зразумела, што гэтыя погляды наўпрост супярэчылі таму, што прасоўваў Дмоўскі. У апублікаванай перапісцы можна знайсці таксама з'едлівыя каментары ў дачыненні да былога асістэнта. У далейшым Дыбоўскі зблізіўся з лагерам Юзафа Пілсудскага, падтрымаў майскі пераварот 1926 г. і стаў адкрытым праціўнікам нацыянал-дэмакратаў[50].

Канцэпт „Белаляхіі" мы можам смела ўпісаць у кантэкст дыскусій пра шляхі нацыянальнага будаўніцтва ў маладым беларускім нацыянальным руху, калі важнай задачай было адмежаванне ад суседзяў і стварэнне ўнікальнага праекта ідэнтычнасці. У гэтым можна бачыць паралелі з „крыўскім" і „вялікалітоўскім" праектамі. У апошніх выпадках ставіліся падобныя задачы: стварыць праз правільную назву рамкі нацыянальнай ідэнтычнасці, якія б адпавядалі гістарычнай традыцыі і разам з тым вылучалі беларусаў з „рускай" ідэнтычнасці.

Для беларускага нацыянальнага руху таксама было прынцыповым выбудаваць і адрозненне беларусаў ад палякаў, у той час як праект „Белаляхіі" ба-

---

49 *Korespondencja Benedykta Dybowskiego do Janusza Domaniewskiego w latach 1919–1920*, „*Memorabilia zoologica*", Nowa Seria, 2019, nr 5, s. 33.

50 P. Daszkiewicz, D. Iwan. *Ostatnie lata życia Benedykta Dybowskiego (1833–1930)*..., „Kosmos" 2020, t. LXIX, nr 54, s. 555–561.

зіруецца на сцвярджэнні прынцыповай уключанасці беларусаў у абсяг польскай цывілізацыі. Разам з тым аўтар тэксту не адмаўляе беларусам у праве на самавызначэнне ці адметнасці мовы, але лічыць, што ў сілу паходжання, гістарычнага лёсу, уключанасці ў польскую цывілізацыю лепшым варыянтам будзе дзяржаўная супольнасць. Тут закладвалася аснова для федэрацыі Польшчы і Беларусі.

Па іроніі лёсу артыкул „Беларусь ці Белаляхія" вызначыўся месцам яго публікацыі. Ён быў успрыняты як маніфест польскіх нацыянальных дэмакратаў, у якім убачылі намер асіміляцыі беларусаў. Усё гэта вызначыла варожае стаўленне да гэтага праекта з боку беларускага нацыянальнага руху. Насамрэч „Белаляхія" была не прыдатнай ні для мэт эндэцыі, ні для беларускага нацыяналізму. Фактычна Бенедыкт Дыбоўскі застаўся адзіным прыхільнікам гэтай ідэі, які пашыраў яе ў сваіх творах, але не знайшоў у гэтай справе ні інтэлектуальнага, ні палітычнага водгуку.


### Benedykt Dybowski i zapomniana koncepcja „Białolechii" jako alternatywa dla tożsamości białoruskiej

Artykuł analizuje poglądy na kwestię narodową słynnego naukowca Benedykta Dybowskiego, powszechnie znanego badacza Syberii i Bajkału. Jego osobista tożsamość pod wieloma względami zachowwywała konserwatywną lojalność wobec ideałów historycznej Litwy, jednocześnie skupiając się na regionie mińskim i nowogródzkim. Niezauważone wcześniej zjawisko, regularne używanie przez Dybowskiego nazwy „Białolechia" jako synonimu „Białoruś", pozwala łączyć je z opublikowanym anonimowo we Lwowie artykułem z 1895 r., w którym zaproponowano alternatywną koncepcję białoruskiej koncepcji narodowego. W artykule dokonano hipotetycznej rekonstrukcji publikacji tego artykułu, łączącej się również z postacią przywódcy Narodowej Demokracji Romanem Dmowskim.



### Benedykt Dybowski and the forgotten project of „Białolechia" as an alternative to Belarusian identity

The article examines the views on the national question of the famous scientist Benedykt Dybowski, widely known as a researcher of Siberia and Baikal. His personal identity in many respects preserves conservative loyalty to the ideals of historical Lithuania, while having a local focus on the Minsk and Navahradak regions. A previously unnoticed phenomenon, the regular use by Dybowski of the name „*Białolechia*" as a synonym for „Belarus" allows us to connect it with the publication of an anonymous article from Lviv in 1895, where an alternative concept of the Belarusian national project was proposed. In the article, a hypothetical reconstruction of the publication of this article is made, which also connects it with the figure of the leader of the Polish National Democracy, Roman Dmowski.

**Dr hab. Helena Głogowska (Bydgoszcz)**
**ORCID: 0000-0003-2936-5575**

# Wokół Horadzienskaha Hurtka Biełaruskaj Moładzi: ks. Franciszek Hrynkiewicz i Anna Solanko

Horadzienski Hurtok Biełaruskaj Moładzi doczekał się należnego mu miejsca w historii białoruskiego ruchu narodowego. Związany jest on z jego początkami na Grodzieńszczyźnie przed i wojną światową. Jego inicjatorem był ks. Franciszek Hrynkiewicz, urodzony 5 października 1884 r. w Nowym Dworze na Białostocczyźnie, który w 1909 r. po naukach teologicznych w Innsbrucku i Monachium został skierowany do Grodna (Horadna) na stanowisko prefekta gimnazjum. Tam wraz z nauczycielami i uczniami zorganizował Horadzienski Hurtok Biełaruskaj Moładzi (HHBM), który stał się początkiem budzenia się białoruskiej świadomości narodowej na Grodzieńszczyźnie. Ważną rolę w HHBM odgrywała nauczycielka Anna Solanko, która również uczyła się w Innsbrucku i Monachium, razem z ks. F. Hrynkiewiczem.

Dotychczas głównym źródłem wiedzy o HHBM były wspomnienia Ludwiki Siwickiej (Zośki Wieras), która wiele zrobiła, by zachować pamięć o tej organizacji. Jednak, jak każde wspomnienia, są one subiektywne. Tym niemniej należy zgodzić się ze stwierdzeniem Andreja Czarniakiewicza, że „асаблівая роля ў захаванні спадчыны па гуртку належыць Зосьцы Верас — Людвіцы Сівіцкай-Войцік, якая актыўна прычынілася як да дзейнасці „Хаткі", так і да „папулярызацыі" пазней яе імя»[1]. Wspomnienia te były publikowane w 1925, w 1972, w 1981 i w 2002 r. oraz w książce „Я помню ўсё» (Гародня — Wrocław 2013)[2]. Korzystali z nich wszyscy, którzy cokolwiek pisali o tej organizacji, m.in. Alaksiej Piatkiewicz[3]. Jest on autorem haseł o tej organizacji w encyklopediach białoruskich[4]. Zbierając materiały, korespondował w latach 70. i 80. Z L. Siwicką,

1 А. Чарнякевіч, *Гістарыяграфія беларускага нацыянальнага руху на Гродзеншчыне ў першай палове XX стагоддзя*, [у:] *Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў.* Зборнік навуковых артыкулаў, Гродна 2006, с. 106–107.

2 Л. С.-Ш., *Успаміны аб „Гарадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі"*, „Студэнская думка" 1925, № 3, с. 28–32; nr 4, s. 31–34; З. Верас, *Гродзенскі гурток: з успамінаў*, „Маладосць" 1972, № 10, с. 143–146; З. Верас, *Гродзенскі гурток беларускай моладзі*, [у:] *Беларускі каляндар 1981*, Беласток 1981, с. 180–189; *Горад святога Губерта. Выпуск першы*, Сейны 2002, с. 87–95; З. Верас, *Я помню усё...*, Гародня — Wrocław 2013, с. 16–23.

3 А. Пяткевіч, *Гродзенскі гурток беларускай моладзі і Сакольшчына*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne" 1998, nr 9, s. 136–141.

4 *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі*, т. 2, Мінск 1985, с. 188; *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 3, Мінск 1996, с. 133–134.

która w 1971 r. pisała mu, że „Распрацоўка гісторыі гуртка для мяне важней за ўсё”[5]. O HHBM pisał też Andrej Czarniakiewicz[6], zamieszczając o nim hasło w informatorze biograficznym „Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродна 1909–1939” (Мінск 2003)[7].

Pierwsze wspomnienie o HHBM ukazało się w 1924 r. w piśmie „Kryvič” wydawanym w Kownie przez Wacława Łastowskiego. Napisał je niejaki „Jan z-nad Łososny”. Wspomina w nim ks. Franciszka Hrynkiewicza oraz wydany przez Hurtok „Kołas našaj nivy”: „У 1913 гаду ў Горадні група вучнёў сярэдніх школ залажыла „Беларускі гурток”, які ставіў сабе мэтай самаасьвету і самоўсьведамленьне. Сабраліся ў гэтым гуртку выключна дзеці беларускіх селян, каталікі, якім чужа было ў падобных польскіх арганізацыях, як роўна і падобных праваслаўных, у якіх у тыя часы панаваў дух самодзержавія і „общерускасьці”. І нічога дзіўнага, бо ў польскіх арганізацыях гурталіся дзеці паноў і падпанкаў, бацькі і акружаньне якіх жыло жалямі ўтрачанага панаваньня над беларусамі, ў расійскіх-жа — дзеці расійскага чыноўніцтва і праваслаўнага духавенства, бацькі і акружэньне якіх трымалі, ў той час, ў сваіх руках уладу над беларускім народам. […]

На тыя часы адзіным чалавекам у Горадні, які адважываўся часам гаварыць некалькі нясьмелых слоў па беларуску быў ксёндз Грынкевіч, гродзенчук, сын селяніна. Гэтых некалькі нясьмелых слоў кс. Грынкевіча былі магічнай прыцягаючай сілай для школьнай маладзежы, тым больш што яна мела з ім стычнасьць як з капэлянам. Без вялікага высілку са стараны кс. Грынкевіча, каля яго ўтварыўся „Беларускі Гурток”, у аснову якога паложана была веравызнаўчая азнака. Умяшаньне ў беларускае адраджэньне на гарадзенскім грунце ксяндза і прыданьне яму тут конфэсіянальнай афарбоўкі адразу ўмацавала за Беларускім Гуртком у вачах маладзежы праваслаўнай пераконаньне, што рух гэты выходзіць з польска-каталіцкіх крыніц, а гэта ў свой чарод паставіла таму пашырэньня яго на маладзеж зрусыфікаваную.

Зрэшта, трэба прызнаць, што ў гэтым была доля праўды. Кіраўнік горадзенскага „Беларускага Гуртка” кс. Грынкевіч не належаў да беларускіх адраджэнцаў якія бачылі ў беларускім народзе самамэту, — ён выхаваны быў сам на баламутных ідэях польскага пасланніцтва на беларускіх землях і беларускае адраджэньне трактаваў як провінцыянальную польскую адмену. Стануўшы на шляху беларускага адраджэньня ён сваім прыроджаным

[5] З. Верас, *Я помню усё...*, с. 112 (ліст З. Верас А. Пяткевічу ад 18.11.1971 г.). O HHBM i jego członkach także w innych listach do A. Piatkiewicza, s. 114–124, 134, 159, 232–233, 242, 246, 305–306.

[6] А. Чарнякевіч, *Першы колас беларускай нівы*, „Биржа иформации”. 2003, № 292, 4. 09., [online] https://web.archiwe.org/web/20160304203118/http://gazeta.grodno.by/291/t6.html, [dostęp: 5.03.2023].

[7] А. Чарнякевіч, *Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродна 1909–1939: біяграфічны даведнік*, Мінск 2003, с. 72–74.

ннага разгляду справы 25-гадовы камуніст Антон Шукала, які нарадзіўся ў пасёлку Альбярцін (цяпер у межах г. Слоніма), быў асуджаны да расстрэлу.

Лёс маладога мужчыны абцяжарыў той факт, што Пясецкі неаднаразова спыняўся ў яго кватэры, якая знаходзілася на тэрыторыі артылерыйскага дывізіёна ў Бабруйскай крэпасці. Жонка гаспадара явачнай кватэры, 19-гадовая бабруйчанка Вольга, атрымала прысуд за выкананне абавязкаў кур'ера, перадачу пакетаў з інфармацыяй і „неданасіцельства". 30 чэрвеня 1924 г. Вольга мела апошняе спатканне з мужам. Просьба аб памілаванні яе мужа не была задаволена. 22 ліпеня Антон Шукала быў „выдадзены каменданту ДПУ Лукашэвічу", што азначала расстрэл у бліжэйшую ноч.

Следства прыйшло да высновы, што агенты з польскага боку рэгулярна карысталіся гасціннасцю падсудных Шустоўскіх, Масюка, Шукалаў і жылі ў іх па некалькі месяцаў.

Іншыя фігуранты шпіёнскай справы брат і сястра Шустоўскія, якія таксама былі з Баранавіч, мелі жытло ў Бабруйску па Жукаўскім завулку, дом № 2. 23-гадовы Пётр Шустоўскі, як адзначалася ў прысудзе, „прымаў у сябе агента польскай выведкі Пясецкага". Слесар металаапрацоўчага завода абслугоўваў тэхніку ў вайсковых частках, чым і зацікавіў вярбоўшчыкаў. Шустоўскі атрымаў два гады зняволення. Праз год вязень звярнуўся з хадайніцтвам аб датэрміновым вызваленні, у якім патлумачыў, што павінен даглядаць старую і хворую маці[33].

Як мінімум два чалавекі з сеткі паходзяць з родных мясцін яе арганізатара, з Баранавіч. Агент Шукала — з Альбярціна, радзімы начальніка Галоўнага штаба „Зялёнага дуба" атамана Грача (Уладзімір Ксяневіч). Магчыма, Пясецкі ведаў яго асабіста, бо меў шчыльныя адносіны з „зялёнадубаўцамі". Падобна, што канспірацыйны ланцужок склаўся зусім невыпадкова.

У судовых дакументах была толькі адна крыніца, дзе фігураваў менскі адрас. Гэта справа Канстанціна Масюка, 51-гадовага ахоўніка вакзала і Дома культуры Заходняй чыгункі. Мужчына „здаваў кватэру шпіёну Сяргееву"[34]. Які кут мог здаваць кватаранту бацька пяцёх дзяцей? Падобна, што кватаранта зусім не цікавілі зручнасці жытла. Кватэра Масюка мела іншыя вартасці, паколькі знаходзілася каля вакзала, уздоўж чыгункі на вул. Грыгор'еўскай, дом 4, кв. 1 (вул. Фабрыцыуса).

„Высокі бландзін [...] у лакавых бацінках амерыканскага фасону" Сяргееў з'явіўся на ганку кватэры Масюка 4 траўня 1923 г. Пра сябе сказаў, што прыехаў з Самары, знайшоў службу справаводам Народнага камісарыята знешняга гандлю[35]. „Дакументы ў яго былі ў парадку", — тлумачыў Масюк. На

[33] Тамсама, ф. 458, воп. 1, спр. 8720. *Справа зняволенага Пятра Шустоўскага.*

[34] Тамсама, спр. 5312. *Справа зняволенага Канстанціна Масюка.*

[35] Тамсама, ф. 1103, воп. 1, спр. 25, арк. 16 адв. *Спісы розных асоб, якія знаходзіліся ў вышуку сакрэтным аддзелам органаў крымінальнага вышуку.*

Грыгор’еўскую заходзіў Петрашкевіч і, магчыма, сам Пясецкі. Пакаранне шматдзетны бацька К. Масюк адбываў у лагеры з правам выхаду на працу ў горад.

Як засведчыла газета „Звязда” ад 2 ліпеня 1924 г., удзельнікі працэсу, за выключэннем А. Шукалы, атрымалі невялікія тэрміны зняволення. Некаторыя ўжо праз год выйшлі на свабоду. Жанчын па прычыне маладосці і кепскага стану здароўя суд пакараў умоўнымі тэрмінамі. Але гэта быў толькі пачатак. Як вядома, праз 10–15 гадоў, калі рэпрэсіўная дзяржаўная машына запрацавала ва ўзмоцненым рэжыме, улада зноў зверне на іх увагу.

Падсумоўваючы, яшчэ раз варта падкрэсліць каштоўнасць дакументаў „турэмнага фонду” Дзяржаўнага архіва Менскай вобл. Гэтыя крыніцы дазваляюць рэканструяваць гісторыю дзейнасці групы Сяргея Пясецкага, яе склад, задачы, спосабы пошуку інфармацыі. Храналогію падзей, персанальны спіс групы, імёны куратараў з польскай выведкі, а таксама некаторыя вынікі агентурнай працы ўтрымліваюць дакументы фонду 2-га аддзела Польскага Генеральнага штаба з Расійскага дзяржаўнага вайсковага архіва. Спалучэнне фактаў з названых крыніц стварае карціну шпіёнскай дзейнасці на тэрыторыі размяшчэння 7-й Самарскай і 8-й стралковых дывізій у Бабруйску і другіх аб’ектаў у Беларусі.

Шпіянаж з’яўляўся эфектыўным інструментам барацьбы з саветамі, якім карысталіся шматлікія палітычныя сілы ў надзеі развязаць новую вайну. Дзейнасці шматлікай агентуры спрыялі варожыя адносіны грамадства да новай улады, якая дзеля свайго ўмацавання выкарыстоўвала жорсткія карныя метады. Чыннік грамадскага супраціву быў надзвычай істотным для дзейнасці замежнай агентуры. Асноўныя фігуранты справы — жыхары Бабруйска, якія былі інтэграваны ў агульны змагарны працэс. Інтарэс выведкі ў першую чаргу прыцягвалі ваенныя аб’екты горада: крэпасць, штабы дывізій, школа падрыхтоўкі чырвоных камандзіраў.

Супрацоўніцтва з Пясецкім мела трагічныя вынікі для чальцоў агентурнай сеткі. А вось для будучага пісьменніка вопыт гэтай барацьбы і памяць пра яе былі важным этапам жыццёвага досведу, які адлюстраваўся на старонках яго кніг.

**Kochankowie Wielkiej Niedźwiedzicy: agentura Sergiusza Piaseckiego na Białorusi**

Artykuł analizuje działalność organizacji konspiracyjnej kierowanej przez Sergiusza Piaseckiego działającej na Białorusi w latach 1922-1924. Przyszły autor doskonałych utworów literackich uczestniczył w wojnie polsko-bolszewickiej, brał udział w partyzantce antyradzieckiej oraz wraz z powstańcami słuckimi uczył się w Szkole Podchorążych Piechoty. Na początku lat 20. XX w. jednym z efektywnych środków walki przeciwko bolszewikom stał się wywiad wykorzystywany przez różne ośrodki polityczne w celu sprowokowania nowej wojny.

W specjalnym zbiorze więziennym Archiwum Państwowego Obwodu Mińskiego zachowały się akta około dziesięciu spraw więźniów Centralnego Zakładu Pracy Społeczno-Przymusowej, którzy należeli do grupy konspiracyjnej Piaseckiego. Bez względu na niewielką objętość dokumentów archiwalnych i, niekiedy, ich nieczytelną zawartość, można jednak podjąć próbę rekonstrukcji działalności wspomnianej grupy. W źródłach znaleźć można wzmianki o jej składzie, miejscach działania, celach i sposobach zdobywania niezbędnych informacji. Materiały z zespołu Oddziału II Sztabu Generalnego Wojska Polskiego znajdujące się w zbiorach Państwowego Rosyjskiego Archiwum Wojskowego uzupełniają chronologię wydarzeń, skład członków grupy, zawierają dane oficerów prowadzących pracujących w polskim wywiadzie. Przedstawione w nich fakty dają całościowy obraz aktywności wywiadowczej na obszarze stacjonowania 7. i 8. Samarskiej Dywizji w Bobrujsku i innych obiektach wojskowych.

Działalności grup wywiadowczych sprzyjało wrogie nastawienie większości miejscowej ludności do owych władz, które do wzmocnienia swej pozycji wykorzystywały surowe środki represji. Głównymi oskarżonymi w sprawie byli mieszkańcy Bobrujska, uczestnicy podziemia antyradzieckiego. Wywiad był zainteresowany informacjami o obiektach wojskowych znajdujących się w mieście: twierdzy, siedzibie sztabu, Szkole Czerwonych Dowódców. Dla uczestników konspiracji współpraca z Piaseckim miała tragiczne konsekwencje. Jego główny informator Anton Szukała został skazany na śmierć przez rozstrzelanie, inni otrzymali wyroki więzienia.

### „Lovers of the Great Bear”: Sergiusz Piasecki’s agents in Belarus

The article aims to reveal the secret of the conspiracy network under the leadership of Sergei Piasetsky, which operated in Belarus from 1922 to 1924. In the preceding years, the future author of famous works had walked the paths of the Soviet-Polish war, the paths of anti-Soviet partisanship, and together with the Slutsk rebels had studied in the Belarusian department of the Warsaw School of Cornet. Twenty years later, after the Second World War, and in exile, the writer depicted this winding path in works dedicated to the leaders of this insurgency.

A dozen cases of prisoners of the Central House of Socially Forced Labor, members of the conspiratorial group, are stored in the State Archive of the Minsk region, in a separate prison fund No. 458. Despite the small size of the documentary evidence, hardly readable pages of cases, make it possible to reconstruct important fragments of the history of the activities of the Piasetsky group. These sources disclose information about the main composition of the group, the location of its intelligence work, goals, and ways it obtained necessary information. The materials of the fund of the 2nd department of the Polish General Staff (intelligence) of the Russian State Military Archive supplement the chronology of events, the personal list of the group, the names of curators from Polish intelligence. The facts paint a picture of espionage activity on the territory of the 7th and 8th Samara Divisions in Bobruisk and other facilities in Belarus.

Many factors contributed to the activities of numerous spy agencies. The hostile attitude of the majority of citizens towards the new government, which used harsh punitive methods to strengthen itself, strongly motivated the opposition. The main defendants in the case were residents of Bobruisk, who were integrated into the general anti-Soviet process. The military facilities of the city: a fortress, military headquarters, a training school for red commanders — attracted the interest of intelligence agencies. Cooperation with Piasetsky had sad consequences for the members of his network. The main informant Anton Shukallo was sentenced to death, others received prison terms. Espionage was an effective tool in the fight against the Soviet government, which was used by many political forces in the hope of unleashing a new war, an accessible format of struggle in the 1920s.

**Аляксандр Смалянчук,**
**доктар гіст. навук (Варшава)**
**ORCID: 0000-0002-1827-5083**

# Станіслаў Свяневіч (1899–1997), краёвая ідэя і „беларускае пытанне” ў міжваеннай Польшчы



Гістарычная навука ў краінах блізкай нам часткі Цэнтральна-Усходняй Еўропы па-ранейшаму развіваецца пераважна ў межах нацыянальнага або нацыянальна-дзяржаўнага дыскурсу. Эпоха нацыяналізмаў усё яшчэ істотна ўплывае на тэматыку і характар навуковых даследаванняў. Аднак апошнім часам гэты ўплыў усё часцей становіцца аб’ектам крытыкі. Магчыма, менавіта гэтым абумоўлены відавочны рост цікавасці да праблемы гістарычнага і палітычнага міфа, а таксама развіццё *memory study*.

Спроба даследчыка з нацыянальных пазіцый асэнсаваць мінулае тых эпох, калі не існавала нацыі як вялікай сацыякультурнай або дзяржаўнай супольнасці, звычайна вядзе да мадэрнізацыі гісторыі. Пры гэтым па-за ўвагай гісторыка аказваюцца людзі і падзеі, якія не ўпісваюцца ў рамкі нацыянальнага дыскурсу. Гэты феномен добра вядомы беларускім, літоўскім і польскім даследчыкам эпохі Найноўшага часу, якія звярталіся да вытокаў уласнай нацыянальнай ідэі і нацыянальнага руху. Так, працяглы час заставалася маргінальнай праблематыка г. зв. краёвай ідэі, якая не ўпісвалася ў дамінуючыя ўяўленні пра этнакультурны падмурак нацыястваральных працэсаў.

Сёння ў Польшчы, Беларусі і Літве даследаванне краёвасці мае даволі багатыя гістарыяграфічныя традыцыі. Аднак яно па-ранейшаму знаходзіцца на перыферыі даследаванняў, бо выпадае з пэўнага нацыянальнага канону. Дарма, бо вывучэнне краёвай ідэі і лёсу яе прадстаўнікоў істотна ўзбагачае разуменне тагачаснай эпохі ў межах гістарычнай Літвы і спрыяе пераадоленню абмежаванняў згаданага канону.

Гэтыя думкі прыходзілі, калі знаёміўся з публіцыстыкай выбітнага эканаміста, саветолага і гісторыка Станіслава Свяневіча, які ў перыяд 1920–1930-х гг. неаднаразова выступаў у віленскім польскім друку („Gazeta Krajowa”, „Kurier Wileński”, „Słowo”, „Przegląd Wileński”) як абаронца правоў нацыяна-

льных меншасцей і прыхільнік аўтаноміі Беларуска-Літоўскага краю. Асаблівую ўвагу ён надаваў г. зв. „беларускаму пытанню".

Маё асабістае знаёмства з публіцыстычнай спадчынай С. Свяневіча адбылося на самым пачатку нашага стагоддзя, калі на адной з навуковых канферэнцый атрымаў ад яго дачкі Марыі Свяневіч-Нагенць[1] падборку ксеракопій артыкулаў бацькі, прысвечаных „беларускаму пытанню". Пазней падчас падрыхтоўкі да канферэнцыі, датычнай гісторыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, на старонках газеты „Kurier Wileński" ад 19 студзеня 1927 г. знайшоў яго публікацыю „*Polska i Białorusini*" з аналізам дзейнасці Грамады і асуджэннем палітыкі польскага дзяржаўнага нацыяналізму. Сучасны зварот да публіцыстыкі Станіслава Свяневіча абумоўлены далейшай распрацоўкай эвалюцыі краёвай ідэі і лёсу яе прыхільнікаў у міжваенны перыяд.

Постаць гэтага навукоўца і публіцыста добра вядомая ў Польшчы і за яе межамі. Яго жыццё і навуковая дзейнасць адлюстраваны ў шматлікіх публікацыях[2], а ў 2005 г. з'явілася дакументальная кінастужка „Апошні сведка" (сцэнар і рэалізацыя П. Вольдана). Гэты фільм дазваляе прыгадаць і тое, што С. Свяневічу было наканавана стаць апошнім сведкам трагедыі польскіх афіцэраў, расстраляных супрацоўнікамі НКУС СССР у красавіку 1940 г. у Катынскім лесе. Афіцэр Свяневіч павінен быў падзяліць іх лёс, але ў апошні момант ён быў забраны з эшалону на станцыі Гняздова паблізу Катыні. Распачалося следства пра шпіянаж. Падобна на тое, што НКУС імкнуўся выкарыстаць яго веды пра функцыянаванне нямецкай эканамічнай мадэлі. У выніку ён быў асуджаны, цудам перажыў жахі ГУЛАГа, а ў 1942 г. здолеў далучыцца да польскіх войск у Іране.

Асобна трэба адзначыць зборнік *Stanisław Swianiewicz (1899–1997) ekonomista, sowietolog, historyk* (2010)[3], які ўяўляе сабой калектыўнае

---

[1] Марыя Свяневіч-Нагенць (Maria Swianiewicz-Nagięć) (1928 г. нар.), дачка Станіслава Свяневіча і Алімпіі з Замбжыцкіх. Доктар габілітаваны (1978), прафесар (1997), вядомая ў свеце спецыялістка ў галіне іхтыёфаўны азёр і папуляцыі рыб. Апошнія гады прыкладала шмат намаганняў дзеля захаваня памяці пра свайго бацьку, яго жыццёвы і творчы шлях.

[2] Гл., напр., M. Kornat, *Swianiewicz (Świaniewicz) Stanisław* [w:] Polski Słownik Biograficzny, t. 46, Kraków — Wrocław, 2009–2010, s. 124–129; tenże, *Polska szkoła sowietologiczna* 1930–1939, Kraków 2003; T. Rutkowski, *Sprawa Katynia*, Warszawa 2008; M. Swianiewicz-Nagięć, *Profesor Stanisław Swianiewicz (1899-1997): żołnierz i naukowiec*, „Rodowód", 2004, nr 2; A. Srebrakowski, *Wileńscy „Włóczędzy"*, Wrocław 1997; J. K. Zawodny, *Katyń*, Paris 1989; *Zmiany, przestrogi, nadzieje… „Bunt młodych", „Polityka" 1931–1939, Wybór publicystyki*, oprac. R. Habielski, J. Jaruzelski, Łódź 2008; B. Gaziński, Stanisław Swianiewicz (1899–1997): ekonomista, sowietolog, historyk, Olsztyn 2010; A. Radczenko, *Ostatni ryczerz wschodnioeuropejskiego Commonwealthu*, [online] https://zw.lt/opinie/ostatni-rycerz-wschodnioeuropejskiego-commonwealthu/, [dostęp: 24.07.2022], J. Malicki, *Sylwetki naukowców Instytutu Naukowo-Badawczego Europy Wschodniej: Stanisław Swianiewicz* [w:] *Początki sowietologii. Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej w Wilnie 1930–1939: idee–ludzi–dziedzictwo*, red. J. Malicki, A. Pukszto, Warszawa 2021, s. 111–134, ды інш.

[3] у 2011 г. адбылося дапоўненае і пашыранае перавыданне зборніка. Гл.: *Stanisław Swianiewicz (1899–1997) ekonomista, sowietolog, historyk idei*, pod red. B. Gazińskiego, Olsztyn 2011.

даследаванне жыцця і дзейнасці С. Свяневіча. Алена Глагоўская ў гэтым зборніку прааналізавала погляды галоўнага героя на „беларускае пытанне” і яго адносіны да беларускага руху ў міжваенны час, а таксама пазіцыю адносна лёсу Беларусі і польска-беларускіх адносін у пасляваенны перыяд[4]. Паспрабую працягнуць гэту тэму з улікам таго, што ў Беларусі імя Станіслава Свяневіча амаль невядомае. Між тым яго вяртанне ў беларускую памяць ўзбагачае гісторыю польска-беларускіх дачыненняў, ставіць пад сумнеў пэўныя антыпольскія стэрэатыпы і з’яўляецца данінай павагі да інтэлектуальнай і палітычнай мужнасці гэтага чалавека.

## Жыццёвы і творчы шлях

Біяграфію Станіслава Свяневіча можна разглядаць як ілюстрацыю гістарычнага лёсу Польшчы і палякаў у XX ст., у якім трагічныя падзеі і паражэнні перапляляіся са значнымі культурнымі і палітычнымі поспехамі.

Ён нарадзіўся 7 лістапада 1899 г. у Дзвінску[5] (сёння Даўгаўпілс) у сям’і інжынера-чыгуначніка і хатняй настаўніцы. Гэта быў перыяд росквіту горада на Дзвіне, які апынуўся на перакрыжаванні важных чыгуначных шляхоў Пецярбург — Варшава і Арол — Рыга і хутка ператвараўся ў буйны прамысловы цэнтр Латгаліі. Дарэчы, Латгалія адрознівалася найбольшай колькасцю нелатышскага насельніцтва. Паводле дадзеных перапісу 1897 г., беларускую, украінскую і расійскую мовы лічылі роднай каля 20 % насельніцтва Дзвінска і Дзвінскага пав. Роднасць беларускай мовы засведчылі толькі 1 525 чал., але нават гэта лічба перавышала колькасць латышскамоўнага насельніцтва[6]. Можам меркаваць, што апрача добрага ведання польскай, расійскай і нямецкай моў, Станіслаў Свяневіч з дзяцінства разумеў таксама беларускую.

С. Свяневіч вучыўся ў Дзвінскай рэальнай гімназіі, дзе належаў да тайнага гуртка польскай моладзевай арганізацыі „Wyzwolenie”. У 1915 г. ва ўмовах наступу нямецкіх войск сям’я эвакуіравалася ў Арол. Станіслаў закончыў мясцовую гімназію, а ў верасні 1917 г. стаў студэнтам факультэта права і сацыяльных навук Маскоўскага ўніверсітэта. У Маскве ён пераждыў бальшавіцкі пераварот і быў сведкам жорсткіх вулічных баёў. У верасні 1918 г. сям’я вярнулася ў акупаваны немцамі Дзвінск, што стала магчымым пасля падпісання Брэсцкага мірнага трактата.

У снежні 1918 г. пасля адыходу нямецкіх войск у горад увайшлі часткі Чырвонай арміі. Былы студэнт быў адным з стваральнікаў мясцовай Польскай

[4] H. Głogowska, *Stanisław Swianiewicz a Białorusini* [w:] *Stanisław Swianiewicz ekonomista, sowietolog, historyk,* pod redakcją B. Gazińskiego, wyd. 2, Olsztyn 2010, s. 47–66.

[5] Да 1893 г. горад меў назву Дынабург.

[6] Первая всеобщая перепись населения Российской Империи 1897 г. Распределение населения по родному языку и уездам 50 губерний Европейской России, [online] http://www.demoscope.ru/weekly/ssp/rus_lan_97_uezd.php?reg=127, [dostęp: 24.07.2022].

арганізацыі вайсковай, а ў пачатку 1919 г. стаў яе камендантам. Увесну таго ж года бальшавіцкія рэпрэсіі прымусілі яго пакінуць родны горад і сям'ю. Станіслаў Свяневіч дабраўся да Вільні і ўступіў у польскае войска. Удзельнічаў у польска-савецкай вайне.

Першы эпізод яго вайсковай біяграфіі закончыўся напрыканцы 1920 г. Свяневіч быў дэмабілізаваны як паручнік, за плячыма якога быў удзел у бітвах пад Варшавай і на Нёмане. У кастрычніку 1920 г. ён у складзе 1-й пяхотнай дывізіі генерала Люцыяна Жалігоўскага займаў Вільню. Пазней на старонках парыжскай „Kultury" Свяневіч тлумачыў, што галоўнай мэтай вайсковай аперацыі Жалігоўскага было пашырэнне тэрыторыі Літвы і яе ператварэнне ў свайго роду „Швейцарыю Усходняй Еўропы", дзе б літоўцы, беларусы, палякі і габрэі мелі палітычную і нацыянальна-культурную роўнасць[7]. Аднак вынік атрымаўся зусім іншы.

Пасля дэмабілізацыі ў 1921 г. Свяневіч нейкі час працаваў рэферэнтам па друку і па нацыянальных адносінах у II аддзеле штаба войск Сярэдняй Літвы. Ужо тады ён звярнуў увагу на „беларускае пытанне" і пачаў збіраць матэрыялы з думкай напісаць кнігу пра беларускі рух. Частку матэрыялаў перадаваў дэпутату Сейма ад Польскай народнай партыі „Wyzwolenie" СільвеструКіберусу Ваявудскаму (1892–1938). Апошні з уласнай ініцыятывы некаторыя з іх перасылаў у II аддзел польскага Генеральнага штаба, бо спадзяваўся змяніць стаўленне Польскай дзяржавы да „беларускага пытання"[8].

Дарэчы, у 1926 г. гэта стала падставай для спробы дыскрэдытацыі С. Свяневіча як „агента дэфензівы". У адказ ён ініцыяваў „суд гонару", які адбыўся ў Вільні на пачатку 1927 г. і зняў са Свяневіча ўсе абвінавачанні. Варта адзначыць, што сярод суддзяў быў Людвік Абрамовіч, меркаванне якога заўсёды было важным для нашага героя, а таксама беларускія дзеячы Ян Станкевіч і Аляксандр Уласаў[9]. У падтрымку Свяневіча выступілі таксама беларускія студэнты. На старонках газеты „Kurier Wileński" быў надрука-

[7] S. Swianiewicz, 90-lecie Kazimierza Okulicza, „Kultura", 1980, nr 4, s. 119–120; Гл. таксама: *Ostatni obywatel Wielkiego Księtwa Litewskiego. Ze Stanisławem Swianiewiczem rozmawią Marek J. Karp,* „Res Publica, 1987, nr 6, s. 36.

[8] Цалкам магчыма, што гэтыя аналітычныя запіскі былі выкарыстаны аўтарамі выдання „Krótki zarys zagadnienia białoruskiego" (Warszawa 1928), падрыхтаванага супрацоўнікамі II аддзела польскага Генеральнага штаба для службовага карыстання. У 2009 г. кніга была выдадзена па-беларуску ў Менску: *Кароткі нарыс беларускага пытаньня*. Пад рэдакцыяй А. Вашкевіча, А. Пашкевіча, А. Чарнякевіча.

[9] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук (БУЛАН), Калекцыя Людвіка Абрамовіча, F 79-572. У калекцыі захаваліся выразкі з газет „Kurier Wileński" (1927, nr 26, 28), „Przegląd Wileński" (1927, nr 3, 12), „Słowo" (1927, nr 27), „Vilnius Aidas" (1927, nr 14) з інфармацыяй пра „суд гонару".

ваны ліст, у якім Адольф Зянюк[10], Мікалай Марцінчык[11], Адам Пятроўскі ды інш. выказвалі давер да свайго выкладчыка і пратэставалі супраць дыскрэдытацыі яго асобы[12].

Усё гэта ў будучым. А пакуль у верасні 1921 г. пасля дэмабілізацыі былы паручнік Свяневіч ізноў стаў студэнтам. Ён працягнуў навучанне ва Універсітэце Стэфана Баторыя (УСБ) у Вільні, дзе яму быў залічаны першы курс Маскоўскага ўніверсітэта. Былы паручнік стаў вучнем вядомага прыхільніка ліберальных падыходаў у развіцці гаспадаркі і будучага міністра фінансаў прафесара Уладзіслава Завадскага. Апрача навучання вёў грамадскую працу і дзейнічаў у Таварыстве каталіцкай акадэмічнай моладзі „Odrodzenie", ініцыятары якога спрабавалі паяднаць каталіцкую дагматыку з сацыялістычнай ідэалогіяй[13].

Свяневіч таксама быў пастаянным удзельнікам віленскага гуртка „Kółko", дзе збіралася мясцовая інтэлігенцыя пераважна каталіцкага веравызнання дзеля абмеркавання праблем рэлігійнага жыцця. Яго ўдзельнікі крытычна ацэньвалі палітыку віленскага каталіцкага кліру пасля прызначэння біскупам Рамуальда Ялбжыкоўскага. Гэты біскуп разглядаў касцёл як сродак умацавання пальшчызны на землях гістарычнай Літвы.

На адно з пасяджэнняў „Kółka" Свяневіч прывёў студэнтку факультэта матэматыкі Алімпію Замбжыцкую. Яна нарадзілася на Меншчыне (суч. Вязынка), змагалася з бальшавікамі ў шэрагах Польскай арганізацыі вайсковай, а ў 1921 г. таксама стала студэнткай УСБ. Шлюб з ёй (1926) быў адным з найвялікшых жыццёвых поспехаў Свяневіча. Алімпія (Ліпка, як ён пяшчотна называў яе ва ўспамінах) стала маці яго чатырох дзяцей і была вельмі блізкай да мужа па сваіх поглядах і зацікаўленасцях. Між іншым цікавілася беларускай народнай культурай і ў 1930-я гг. вывучала этнаграфію пад кіраўніцтвам вядомых польскіх этнолагаў Цэзарыі Эрэнкрэцовай[14] і Ка-

---

[10] Адольф Зянюк (1895–1938) — беларускі грамадскі дзеяч, юрыст. Быў сябрам Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, дзе належаў да гуртка беларускіх студэнтаў. Працягваў адукацыю на факультэце права УСБ, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Пазней працаваў суддзёй на Палессі і ў Вільні.

[11] Мікалай Марцінчык (1901–1980) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч. Выпускнік медыцынскага факультэта УСБ. Падчас вучобы ўзначальваў Беларускі студэнцкі саюз. Сябар Прэзідыума Віленскага нацыянальнага камітэта (1921–1938), актыўны дзеяч Таварыства беларускай школы. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў лекарам, падтрымліваў адносіны з савецкімі партызанамі. У 1948 г. быў арыштаваны органамі МДБ БССР. Асуджаны на 10 гадоў. Вызвалены ў 1955 г., рэабілітаваны ў 1956 г. Вярнуўся да лекарскай працы. Жыў і памёр у Гродне.

[12] „Kurier Wileński", 1927, nr 28, 5 lutego.

[13] Bor, *Odrodzenie*, „Kurier Wileński", 1929, nr 109, 14 maja.

[14] Цэзарыя Эрэнкрэцова (Cezaria Anna Baudouin de Courtenay-Ehrenkreutz-Jędrzejewiczowa) (1885–1967) — польскі этнолаг, прадстаўніца фенаменалогіі ў вывучэнні народнай культуры. У 1924–1927 гг. — дацэнт кафедры этналогіі УСБ, праводзіла палявыя даследаванні, прыцягваючы да ўдзелу ў іх студэнтаў. У 1927–1935 гг. — прафесар этнаграфіі і этналогіі ва УСБ, у 1935–1939 гг. — у Варшаўскім універсітэце. Таксама кіравала секцыяй

зіміра Машыньскага[15]. Аб'ектам даследавання быў беларускі культ памерлых, увасоблены ў рытуал „Дзяды"[16]. Відавочна, што яна адыграла пэўную ролю ў цікавасці Станіслава Свяневіча да „беларускага пытання" і ягоных намаганнях змяніць палітыку Варшавы[17].

У пачатку 1920-х гг. Свяневіч быў прыхільнікам федэралізму ў варыянце Юзафа Пілсудскага і, адпаведна, праціўнікам далучэння Вільні і Віленшчыны да Польшчы. Ён наладзіў кантакты з віленскім асяродкам краёўцаў, дзе вылучаліся адвакат Тадэвуш Урублеўскі і тагачасны рэдактар „Gazety Krajowej", а пазней „Przeglądu Wileńskiego" Людвік Абрамовіч.

Свяневіч распачаў супрацу з „Gazetą Krajową", рэдакцыя якой ужо ў першым нумары (2.09.1920) дэкларавала, што будзе адстойваць краёвую ідэю, якую да вайны прапагандавалі „Gazeta Wileńska", „Kurier Litewski" і „Przegląd Wileński". У праграмным артыкуле *Służba Ojczyźnie* першага нумару газеты сцвярджалася, што найважнейшай задачай сучаснасці з'яўляецца пашырэнне любові да Краю, якая павінна з'яднаць усе яго сацыяльныя і нацыянальныя рухі. Не тая ці іншая мова, — адзначалася ў артыкуле — а краёвы патрыятызм, вернасць Айчыне і яе інтарэсам паказвае, хто насамрэч з'яўляецца яе сапраўдным сынам, хто гатовы ахвяраваць жыццё за яе свабоду і незалежнасць[18]. У наступным нумары Гэлена Ромэр-Ахенькоўская заклікала палякаў прыняць герб „Пагоня" як уласны і тым самым аднавіць гістарычную традыцыю жыцця і дзейнасці „літоўскіх палякаў"[19]. Пра важнасць традыцыі паразумення і згоды палякаў і літоўцаў і іх супольнай барацьбы з ворагамі Краю пісаў Людвік Абрамовіч[20].

Беларуская праблематыка таксама прысутнічала на старонках „Gazety Krajowej". Рэдакцыя звярнула на яе ўвагу ў сувязі з мірнымі перамовамі ў Рызе і спробай беларусаў прыняць у іх удзел. Так, у артыкуле „Nastroje białoruskie" пераказвалася размова з кіраўніком Міністэрства беларускіх

---

этналогіі ў Навукова-даследчым інстытуце Усходняй Еўропы. Адна з заснавальнікаў Польскага навуковага інстытута ў Ерусаліме і Польскага навуковага таварыства на чужыне (Лондан).

[15] Казімір Машыньскі (Kazimierz Moszyński) (1887–1959) — польскі этнограф і этнолаг. З 1914 г. праводзіў палявыя даследаванні на Палессі. У 1924 г. узначаліў аддзел славянскай этналогіі Антрапалагічнага інстытута пры Варшаўскім навуковым таварыстве. У 1935–1940 гг. кіраваў кафедрай этналогіі і этнаграфіі УСБ. З 1929 г. быў рэдактарам этнаграфічнага аддзела часопіса „Lud Słowiański".

[16] У 1969–1971 гг. яна падрыхтавала рукапіс кнігі пра інтэрпрэтацыю славутых „Дзядоў" Адама Міцкевіча ў кантэксце беларускай традыцыі ўшанавання памерлых. Г. Харытанюк-Міхей зрабіла навуковую рэдакцыю гэтай кнігі, якая выйшла ў 2018 г. (O. Swianiewiczowa, *Interpretacja Dziadów Mickiewiczowskich na podstawie skarbca kultury białoruskiej*. Red. naukowa i wprowadzenie G. Charytoniuk-Michej, Toruń 2018).

[17] Гл.: S. Swianiewicz, *Wspomnienie o mojej żonie Olimpii*, „Kultura", 1991, nr 11, s. 87–103.

[18] „Gazeta Krajowa", 1920, nr 1, 2.09.

[19] H. R., *Pod znakiem Pogoni*, „Gazeta Krajowa", 1920, nr 2, 3.09.

[20] L. A., *Dwie psychiki*, „Gazeta Krajowa", 1920, nr 3, 4.09.

спраў Дамінікам Сямашкам, які выказаўся за беларуска-літоўскую федэрацыю ў межах супольнай дзяржавы[21].

Падобна, што краёвец Л. Абрамовіч пэўныя надзеі на рэалізацыю краёвай ідэі ў 1920 г. звязваў з захопам Вільні салдатамі дывізіі Л. Жалігоўскага і абвяшчэннем г. зв. Сярэдняй Літвы. Надзеям спрыяла і тое, што яго брат Вітольд быў адным з кіраўнікоў гэтага псеўдадзяржаўнага ўтварэння. Прынамсі, у артыкуле *Spór o Wilno* на старонках „Gazety Krajowej" сцвярджалася выключная роля Вільні са статусам сталіцы ў палітычным саюзе Польшчы, Літвы і Беларусі, які неабходны для змагання з ворагамі як з Усходу, так і Захаду[22].

Тэкстаў Станіслава Свяневіча на старонках „Gazety Krajowej" за перыяд рэдактарства Л. Абрамовіча знайсці не атрымалася. Або ён яшчэ не быў гатовы да падобнай ролі, або пазіцыя газеты, якая звязвала будучыню Беларуска-Літоўскага краю з ідэяй незалежнасці, не адпавядала яго поглядам.

У маі 1921 г. у рэдакцыі адбыліся істотныя перамены. Магчыма, якраз расчараванне ў палітычных рэаліях Сярэдняй Літвы прымусіла Л. Абрамовіча перадаць (прадаць?) газету Людвіку Хаміньскаму. Апошні на старонках выдання абвясціў, што „Gazeta Krajowa" будзе выступаць з пазіцый „краёўцаў-федэралістаў". Будучыня Краю бачылася новаму рэдактару толькі ў цесным палітычным саюзе з Польшчай[23]. Магчыма, канцэпцыя Хаміньскага, пры якім краёвасць газеты эвалюцыянавала ў бок больш кансерватыўнага і больш „польскага варыянта", была бліжэй да поглядаў Свяневіча. У яго публіцыстыцы вобраз гістарычнай Літвы або Вялікага Княства Літоўскага часта дапаўняўся вобразам „Рэчы Паспалітай абодвух народаў" і згадкай „ягелонскай ідэі", што разыходзілася з поглядамі Людвіка Абрамовіча.

Праз год галоўным рэдактарам „Gazety Krajowej" стаў вядомы на Віленшчыне грамадскі дзеяч і журналіст Казімір Акуліч[24], які таксама падтрымліваў канцэпцыю „краёўцаў-федэралістаў" [25]. Менавіта ў гэты

[21] M. D., *Nastroje białoruskie*, „Gazeta Krajowa", 1920, nr 31, 8.10.

[22] [L. Abramowicz], *Spór o Wilno*, „Gazeta Krajowa", 1920, nr 65, 18.11.

[23] L. Chomiński, *Federalizm a krajowość*, „Gazeta Krajowa", 1921, nr 115, 28.05.

[24] Казімір Акуліч (Kazimierz Okulicz) (1890–1891) — польскі журналіст і палітык. Нарадзіўся ў Панявежскім пав., гімназію закончыў у Лібаве. Выпускнік факультэта права УСБ (1925). У 1918 г. сябар Віленскай самааховы. У 1920 г. разам з В. Абрамовічам, а Прыстарам, Б. Крыжаноўскім, В. Станевічам уваходзіў у „палітычны штаб" генерала Л. Жалігоўскага падчас захопу Вільні. Дэпутат польскага сейма II кадэнцыі ад Беспартыйнага блока супрацы з урадам. Супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута Усходняй Еўропы ў Вільні і Інстытута нацыянальных спраў у Варшаве. На пачатку 1954 г. — міністр юстыцыі польскага эміграцыйнага ўрада. Адзін з рэдактараў выдання *Pamiętnik Wileński* (Лондан 1972), на старонках якога апублікаваў артыкул *Brzask, dzień i zmierzch na ziemiach Litwy historycznej* — важную пазіцыю ў гісторыі краёўцаў і краёвай ідэі.

[25] L. Chomiński, *Rok „Gazety Krajowej"*, „Gazeta Krajowa", 1922, nr 113, 24 maja.

час супраца Свяневіча і „Gazety Krajowej" стала больш актыўнай. Улетку 1922 г. на яе старонках з'яўляецца некалькі публікацый Свяневіча, падпісаных *S. S.*

Магчыма, шлях Свяневіча да краёвасці пачынаўся якраз з цікавасці да „беларускага пытання". Прынамсі, яго першыя публікацыі прысвечаны менавіта беларускай праблематыцы. Праблемы іншых народаў Краю фігуравалі значна радзей. Таксама публіцыст пазбягаў ужывання тэрміна „крэсы". Ён пісаў пра „Беларусь і Літву", пра „землі гістарычнай Літвы", пра „Усходнія землі", таксама карыстаўся тэрмінам „Край".

Відавочна, што да гэтага прычыніліся непасрэдныя кантакты з беларускімі палітыкамі і грамадскімі дзеячамі. Так, у кастрычніку 1926 г. С. Свяневіч разам з Вітольдам і Людвікам Абрамовічамі, Марыянам Свяхоўскім, Аленай Ромэр-Ахенькоўскай удзельнічаў у святкаванні 10-годдзя заснавання органа беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў газеты „Крыніца". У сваім выступе ён ацаніў польскі нацыяналізм як трагедыю Краю і яго жыхароў[26]. Вядома, што С. Свяневіч падтрымліваў добрыя адносіны з кс. Уладзіславам Талочкам, Браніславам Тарашкевічам, Вацлавам Іваноўскім, Антонам Луцкевічам і Радаславам Астроўскім.

Значна пазней Свяневіч наступным чынам характарызаваў уласную пазіцыю: „Jestem dzieckiem historycznej Litwy [...] Litwa i Białorus są dla mnie wartościami samoistnymi i nie mogę nie patrzeć jedynie jako na objekty takiej czy innej polityki polskiej lub rosyjskiej. Uważałem, że tym krajom musi być dana pełna niepodległość i że właśnie ta gwarancja niepodległości musi ich ostastecznie zbliżyć z Polską. Nie mogę się nigdy zgodzic na oddanie ich na pożarcie imperializmowi czerwonemu czy też białemu"[27].

У 1926–1929 гг. Станіслаў Свяневіч паспяхова спалучаў навуковую дзейнасць з публіцыстыкай і рэдакцыйнай працай. У гэтыя гады ён рэдагаваў эканамічны раздзел газеты „Kurier Wileński", уладальнікам якой быў Казімір Акуліч. Варта адзначыць, што ў рэдакцыі „Kuriera" ў 1928–1931 гг. таксама працаваў Людвік Абрамовіч[28]. За пэўнае ўзнагароджанне ён выконваў ролю фактычнага намесніка К. Акуліча, замяняючы апошняга падчас яго занятасці як дэпутата сейма. Пэўныя ідэйныя разыходжанні ў разуменні краёвасці не перашкаджалі гэтай супрацы.

С. Свяневіч таксама быў сябрам рэдакцыі часопіса „Włóczęga" (1932–1936), выдаўцом якога быў Клуб валацуг-сеньёраў (Klub Włóczęgów Seniorów), які

[26] H. Głogowska, *Stanisław Swianiewicz a Białorusini*, s. 53. Пры гэтым А. Глагоўская спасылалася на публікацыі ў перыядычных выданнях, напр.: K. Smreczyński, *Życie białoruskie. Dziesięciolecie jubileusza „Krynicy"*, „Kurier Wileński", 1926, nr 248, 26 października, s. 3; *Kronika*, „Przegląd Wileński", 1926, nr 19, 24 października, s. 8.

[27] S. Swianiewicz, w *cieniu Katynia*, Warszawa 1990, s. 250. Тут і далей цытаты з тэкстаў С. Свяневіча будуць прыводзіцца на мове арыгінала.

[28] БУЛАН, аддзел рукапісаў, F79–42. Лісты К. Акуліча да Л. Абрамовіча. 1928–1931.

з'яднаў маладых віленскіх інтэлектуалаў — прыхільнікаў федэралісцкай канцэпцыі Ю. Пілсудскага[29]. Апошняе збліжала іх з краёўцамі. Клуб быў важнай дыскусійнай пляцоўкай міжваеннай Вільні. Ініцыятарам яго стварэння быў Тэадор Нагурскі[30].

Станіслаў Свяневіч далучыўся да дзейнасці Клуба адразу пасля яго стварэння ў кастрычніку 1929 г. Разам з Севярынам Віславухам[31], які таксама цікавіўся „беларускім пытаннем", яны ўтваралі дуумвірат галоўных ідэолагаў Клуба. Менавіта Свяневіч быў аўтарам артыкула *Nasza krajowość* у першым нумары „ Włóczęga" (1932), дзе трактаваў краёвасць як ідэю аднаўлення велічных традыцый Вялікага Княства Літоўскага, падмуркам якіх лічыў палітычнае адзінства ўсіх народаў гістарычнай Літвы. Адначасна Свяневіч супрацоўнічаў з варшаўскім тыднёвікам „Bunt młodych" (з 1937 г. — „Polityka"), рэдактарам якога быў Ежы Гедройць[32].

29 Варта адзначыць, што гэты клуб у пэўным сэнсе працягваў гісторыю Акадэмічнага клуба віленскіх валацуг (Akademiczny Klub Włóczęgów Wileńskich), які паўстаў яшчэ ў 1923 г. і быў апалітычнай арганізацыяй. Сябрам клуба таксама быў студэнт юрыдычнага факультэта і будучы лаўрэат Нобелеўскай узнагароды ў галіне літаратуры Чэслаў Мілаш (1980).

30 Тэадор Нагурскі (Teodor Nagurski) (1901–1973) — польскі эканаміст, статыстык і дэмограф. Нарадзіўся ў Кейданах, але гімназію закончыў у Гомеле (1919). Быў сябрам Польскай арганізацыі вайсковай. Удзельнік польска-савецкай вайны. У 1924 г. закончыў УСБ з дыпломам магістра права. Падчас навучання арганізаваў Акадэмічны клуб віленскіх валацуг як кантынуацыю падобнай арганізацыі, што існавала ў Гомеле. У 1929 г. заснаваў Клуб валацуг-сеньёраў, які пашыраў ідэі федэралізму і краёвасці. Падчас Другой сусветнай вайны быў у Арміі Краёвай. Удзельнік аперацыі „Вострая брама" ў ліпені 1944 г. Арыштаваны НКУС і высланы на шахты Варкуты. Пасля вызвалення (1947) працаваў як навуковец і выкладчык ва ўніверсітэтах Вроцлава і Лодзі.

31 Севярын Віслаух (Seweryn Wysłouch) (1900–1968) — польскі гісторык дзяржавы і права. Нарадзіўся ў Пірковічах каля Драгічына (зараз Брэсцкая вобл. у Беларусі). Удзельнік баёў пад Гродна падчас польска-савецкай вайны, жаўнер Літоўска-беларускай дывізіі Л. Жалігоўскага. У 1927 г. закончыў УСБ з дыпломам магістра права. Потым выкладаў ва УСБ і даследаваў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, а таксама гісторыю нацыянальных супольнасцей, асабліва беларускай. У 1937 г. абараніў габілітацыйную працу. Яго лёс пасля вайны быў звязаны пераважна з Вроцлаўскім універсітэтам.

32 Ежы Гедройць (Jerzy Giedrojć) (1906–2000) — польскі выдавец, публіцыст і палітык. Нарадзіўся ў Менску, але гімназію закончыў ужо ў Варшаве. Вывучаў права і гісторыю ў Варшаўскім універсітэце. У 1930 г. узначаліў рэдакцыю тыднёвіка „Dzień Akademicki", які пазней быў перайменаваны ў „Bunt młodych", а з 1937 г. стаў тыднёвікам „Polityka". Адначасна працаваў сакратаром у Міністэрстве сельскай гаспадаркі, у Міністэрстве прамысловасці і гандлю. У 1939 г. разам з урадам быў эвакуіраваны ў Румынію, дзе працаваў сакратаром амбасадора Польшчы ў Бухарэсце. Пасля эвакуацыі ў Турцыю стаў жаўнерам Асобнай брыгады карпацкіх стралкоў, удзельнічаў у баях у Егіпце і абароне Тобрука. Пасля стварэння 2-га Польскага корпуса служыў у Бюро прапаганды. У 1946 г. заснаваў Літаратурны інстытут, з якім звязана выданне месячніка „Kultura" (1947–2000) і квартальніка „Zeszyty Historyczne" (1962–2010). Яго дзейнасць як рэдактара і публіцыста адыграла велізарную ролю ў развіцці польскай культуры, а таксама паспрыяла падзенню прасавецкага рэжыму ў Польшчы.

Пасля заканчэння вучобы ён застаўся на кафедры палітычнай эканоміі УСБ, быў асістэнтам праф. Завадскага, а потым яго намеснікам. Даследаваў гаспадарчыя сістэмы буйных таталітарных дзяржаў, а менавіта СССР і Італіі. Аднак яго першае значнае навуковае даследаванне і доктарская праца (1926) датычыла эканамічных поглядаў французскага мысліцель і сацыёлага, тэарэтыка дактрыны нацыянал-сіндыкалізму Жоржа Сарэля (1847–1922). Адным з яго студэнтаў быў будучы славуты літаратар Чэслаў Мілаш, які прыгадваў, што студэнты ставіліся да маладога прафесара з павагай і сімпатыяй[33].

Важнай падзеяй для маладога навукоўца стала навуковая стажыроўка ў *Osteuropa-Institut* у Вроцлаве (Брэслаў). Пасля вяртання ў 1930 г. ён разам са Стэфанам Эрэнкройцам[34] і Вітольдам Станевічам[35] ствараў Навукова-даследчы інстытут Усходняй Еўропы (Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej), з якім звязваюць пачаткі польскай саветалогіі[36]. Станіслаў Сцяневіч узначаліў эканамічную секцыю, ініцыяваў выданне бюлетэня „Przegląd Kwartalny Gospodarki Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich". Таксама ён быў прыхільнікам дактрыны „праметэізму", сутнасцю якой была падтрымка імкнення да незалежнасці народаў СССР. У 1930 г. у Вільні выйшла яго кніга *Lenin jako ekonomista*, якая стала асновай габілітацыйнага даследавання (1931).

Пасля прыходу да ўлады ў Германіі партыі нацыянал-сацыялістаў Сцяневіч распачаў даследаванне нямецкай эканамічнай сістэмы. Гэтаму спрыялі навуковыя стажыроўкі ва ўніверсітэтах Вены і Кёнігсберга, а таксама ў Гамбургу, Берліне і Кёльне. Працяглае знаходжанне ў Германіі зрабіла яго прыхільнікам канцэпцыі міністра замежных спраў Юзафа Бека, які лічыў неабходным пошук кампрамісу з Германіяй.

33 Cz. Miłosz, *Abecadło*, Kraków 2001, s. 311.

34 Стэфан Эрэнкройц (Stefan Ehrenkreutz) (1880–1945) — польскі гісторык права, апошні рэктар УСБ, сенатар ІІ Рэчы Паспалітай. Варта адзначыць такія яго даследаванні, як *Stan badań nad statutami litewskimi* (1924), *Separatyzm czy ciążenie Litwy ku Polsce po Unii Lubelskiej* (1925). У 1930 г. арганізаваў, а потым узначальваў Навукова-даследчы Інстытут Усходняй Еўропы. Адначасна кіраваў гістарычна-юрыдычнай секцыяй у Інстытуце. Падчас Другой сусветнай вайны кіраваў падпольным польскім Віленскім універсітэтам. У жніўні 1944 г. быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС. Памёр у вязніцы пасля працяглай галадоўкі 21 ліпеня 1945 г.

35 Вітольд Станевіч (Witold Staniewicz) (1887–1966) — польскі эканаміст і палітык. Нарадзіўся ў Вільні, дзе таксама закончыў гімназію. Вучыўся ў Ягелонскім і Мюнхенскім універсітэтах. Сябар Польскай арганізацыі вайсковай, Віленскай самаахова. З 1922 па 1926 г. выкладаў эканоміку ва УСБ. Пасля майскага перавароту 1926 г. стаў міністрам сельскай гаспадаркі і займаў гэтую пасаду да 1930 г. у 1931–1939 гг. прафесар УСБ. Таксама кіраваў Гаспадарчай секцыяй Навукова-даследчага Інстытута Усходняй Еўропы, быў адным з галоўных акцыянераў газеты „Kurier Wileński". Падчас Другой сусветнай вайны ўдзельнічаў у тайным навучанні, быў звязаны з Арміяй Краёвай. Пасля вайны пераехаў у Познань, дзе ўзначаліў кафедру аграрнай эканомікі і палітыкі ва ўніверсітэце.

36 *Początki sowietologii. Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej w Wilnie 1930–1939: idee–ludzi–dziedzictwo*, red. J. Malicki, A. Pukszto, Warszawa 2021.

Навуковую і публіцыстычную дзейнасць перапыніла вайна. Станіслаў Свяневіч быў мабілізаваны ў канцы жніўня 1939 г. Ён удзельнічаў у баях з нямецкімі войскамі, а ў канцы верасня разам са сваёй вайсковай часткай трапіў у савецкі палон. Апынуўся ў лагеры НКУС у Казельску і павінен быў падзяліць трагічны лёс іншых палонных польскіх афіцэраў. Аднак на станцыі Гняздова Свяневіч быў адлучаны ад іх і дастаўлены ў турму НКУС на Лубянскай плошчы Масквы. У лютым 1941 г. як „шпіён" ён быў асуджаны на 8 гадоў і накіраваны ў лагеры Рэспублікі Комі.

Станіслаў Свяневіч цудам пераражыў зняволенне. У красавіку 1942 г. у выніку настойлівых дзеянняў польскіх дыпламатаў ён быў вызвалены, а ў канцы ліпеня дабраўся да Тэгерана. Адным з яго першых тэкстаў на волі стаў рапарт, прысвечаны ліквідацыі лагера ў Казельску і траспарту палонных польскіх афіцэраў да ст. Гняздова. Пасля таго як нямецкае радыё ў красавіку 1943 г. паведаміла пра адкрыццё масавых магіл польскіх афіцэраў у Катыні, рапарт Свяневіча паспрыяў звароту польскага ўрада ў міжнародны Чырвоны Крыж дзеля высвятлення ўсіх абставін гэтага злачынства.

З канца 1942 г. прафесар Свяневіч узначальваў Бюро вывучэння Блізкага і Сярэдняга Усходу (Ерусалім), а ў 1944 г. кіраваў Усходнім аддзелам Міністэрства інфармацыі і дакументацыі польскага ўрада. Адначасна выкладаў права на польскім факультэце, які быў адкрыты ва ўніверсітэце Оксфарда.

Пасля таго як Вялікабрытанія ў ліпені 1947 г. адмовілася прызнаваць польскі ўрад у эміграцыі, ён узначаліў эканамічна-гандлёвы факультэт у *Polish University College* ў Лондане. Стаў сябрам заснаванай Віктарам Сукенніцкім[37] і Станіславам Касцялкоўскім[38] Акадэмічнай супольнасці УСБ і Польска-

---

[37] Віктар Сукеніцкі (Wiktor Sukiennicki) (1901–1983) — польскі юрыст, гісторык і саветолаг. Нарадзіўся ў Коўне. Сябар Польскай арганізацыі вайсковай і ўдзельнік польска-савецкай вайны. Вывучаў права ва УСБ, дзе пазней абараніў дысертацыю, прысвечаную палітыцы Прусіі на захопленай частцы Рэчы Паспалітай. У 1925 г. у Сарбоне абараніў дысертацыю па міжнародным праве. Павышаў кваліфікацыю ў Вене, Кёльне і Рыме. У 1929–1939 гг. выкладаў тэорыю права ва УСБ. Таксама кіраваў секцыяй права ў Навукова-даследчым Інстытуце Усходняй Еўропы. Пасля савецкай акупацыі Літвы (1940) быў арыштаваны і вывезены ў лагер пад Краснаярскам. Пагадненне паміж СССР і Польшчай ад 30 ліпеня 1941 г. паспрыяла яго вызваленню з лагера ў снежні 1941 г. Працаваў сакратаром пасольства Польшчы ў Куйбышаве, а ў верасні 1942 г. быў эвакуіраваны ў Тэгеран і прызначаны першым сакратаром пасольства Польшчы ў Іране. Пасля вайны застаўся эміграцыі. У 1959 г. выехаў у ЗША, дзе працаваў у буйнейшым саветалагічным цэнтры — Інстытуце Гувера (Універсітэт у Стэнфардзе). Аўтар кнігі *East Central Europe during World War I: from foreign domination to national independence*, edited by Maciej Siekierski, preface by Czesław Miłosz, 2 tomy, New York 1984. С. Свяневіч прысвяціў яму ўспаміны (*Wspomnienia o Wiktorze Sukiennickim*), апублікаваныя ў часопісе „Zeszyty Historyczne" (1983, nr 66, s. 48–69).

[38] Станіслаў Касцялкоўскі (Stanisław Kościałkowski) (1881–1960) — польскі гісторык. Нарадзіўся ў Гродне, дзе закончыў гімназію. Вывучаў гісторыю і літаратуру ў Варшаўскім і Ягелонскім універсітэтах. У апошнім абараніў дысертацыю пра палітычную ролю літоўскага падскарбія Антонія Тызенгаўза (1905). Быў адным з арганізатараў польскай адукацыі ў Вільні падчас

га таварыства былых савецкіх палітычных вязняў у Вялікабрытаніі. Шмат рабіў дзеля пашырэння праўды пра трагедыю Катыні.

Пазней выкладаў ва ўніверсітэце Манчэсцера. У 1956 г. вылецеў у Джакарту, дзе займаўся арганізацыяй сістэмы эканамічнай адукацыі ў мясцовым універсітэце. Менавіта тут пасля 18-гадовага расстання сустрэў сваю Ліпку, якая здолела выехаць з Польшчы.

Станіслаў Свяневіч супрацоўнічаў з часопісам „Kultura" Ежы Гедройця, цалкам падзяляючы канцэпцыю Е. Гедройця і Ю. Мерашэўскага[39] адносна польскай падтрымкі незалежнасці Літвы, Украіны і Беларусі, а таксама прызнання ўсходняй мяжы Польшчы без Вільні, Львова і Гродна.

У 1963 г. на старонках часопіса „Merkuriusz Polski" (№ 3-4) Свяневіч пісаў, што „przyszła pozycja Polski na historycznych ziemiach dawnej Rzeczypospolitej zależeć będzie równierz od tego, czy rozsiani po świecie Polacy potrafią nawiązać nić braterstwa z rozsianymi obok nich Ukraincami, Białorusinami i Litwinami, oraz od tego czy wspólnym wysiłkiem potrafimy stworzyć jakaś nowa sugestywną koncepcję *Commomweath'u* Wschodniej Europy. [...] Nowa warta musi wyrzucić do lamusa frazesy sugerujący, że emigracja polska szykuję się do jakiejś przyszłej wojny aby Ukraincom, Białorusinóm i Litwinom odebrac te nasze ziemie wschodnie, którzy weszły w skład Ukraińskiej, Białoruskiej i Litewskiej Republik Sowieckich. Naszym dążeniem natomiast powinno byc aby te Respubliki uzyskały pełna niepodległość. […] Tak samo jak dążymy do wolności dla Polski, tak dążyć winniśmy do tego, aby Ukraina, Białoruś i Litwa stały się wolni"[40].

З 1963 г. Станіслаў Свяневіч жыў і працаваў у Галіфаксе ў *Saint Mary's University*, дзе выкладаў эканоміку і статыстыку, а таксама працягваў саве-

---

нямецкай акупацыі 1915–1918 гг. Належаў да групы заснавальнікаў універсітэта ў Вільні, у якім працаваў з моманту адкрыцця ў 1921 г. у 1935 г. атрымаў тытул прафесара. Даследаваў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Быў арыштаваны НКУС у Вільні (1940) і высланы ў лагер на поўначы Урала. Здолеў выжыць і вярнуцца да актыўнай дзейнасці пасля падпісання польска-савецкай дамовы ад 30 ліпеня 1941 г. у Тэгеране стварыў Таварыства студыяў іранскіх, выкладаў у Польска-іранскім народным універсітэце. У 1950 г. выехаў у Англію. Выкладаў у Польскім універсітэце ў Лондане. Адна з апошніх кніг: *Antoni Tyzenhauz: podskarbi nadworny litewski*, t. 1–2, przygot. do druku Lidia Ciołkoszowa, Londyn 1971.

[39] Юльюш Мерашэўскі (Juliusz Mieroszewski) (1906–1976) — польскі журналіст і публіцыст. У міжваенны перыяд быў сурэдактарам газеты „Ilustrowany Kurier Codzienny" (Кракаў), спецыялізаваўся ў нямецкай праблематыцы. У 1939 г. быў эвакуіраваны ў Румынію, дзе працаваў у польскім пасольстве. Пазней эвакуіраваны ў Іран. Быў жаўнерам Асобнай брыгады карпацкіх стралкоў. Потым служыў у секцыі асветы і культуры Польскага войска на Усходзе. Застаўся ў эміграцыі. Супрацоўнічаў з Е. Гедройцем. На старонках часопіса „Kultura" разважаў пра незалежнасць Польшчы, магчымасці яе паразумення з народамі Украіны, Літвы і Беларусі (УЛБ) на падставе прызнання пасляваенных тэрытарыяльных змен. У 1974 г. разам з Гедройцем сфармуляваў важную для польскай палітычнай думкі канцэпцыю, якая сыходзіла з таго, што суверэннасць народаў УЛБ з'яўляецца гарантыяй незалежнасці Польшчы.

[40] Цытата паводле: H. Głogowska, *Staniśław Swianiewicz a Białorusini*, s. 63.




талагічныя даследаванні. Праз два гады ў выдавецтве *Oxford University Press* была выдадзена яго найбольш вядомае эканамічнае даследаванне *Forced Labour and Economic Development*, прысвечанае сістэме прымусовай працы ў савецкіх лагерах.

Пасля смерці жонкі ў 1974 г. вярнуўся ў Лондан. Атрымаў тытул польскага прафесара ў эміграцыі. У 1975 г. удзельнічаў у міжнароднай канферэнцыі ў Капенгагене, прысвечанай парушэнню правоў чалавека ў СССР, з рэфератам пра трагедыю ў Катыні[41]. Меў некалькі важных публікацый па гэтай тэме, у тым ліку найбольш вядомую кнігу ўспамінаў w *cieniu Katynia* (1976).

Актыўную інтэлектуальную дзейнасць Станіслаў Свяневіч вёў амаль да канца жыцця. У 1996 г. у Варшаве выйшла яшчэ адна кніга яго ўспамінаў *Dzieciństwo i młodość*. Памёр у траўні 1997 г. і быў пахаваны ў Галіфаксе побач з жонкай.

Гэту біяграфічную частку артыкула варта закончыць той характарыстыкай Станіслава Сввяневіча, якую даў яму Чэслаў Мілаш на старонках свайго *Abecadła*. Разважаючы над лёсам свайго колішняга прафесара, ён пісаў: „Te zmienne koleje życia przypadły człowiekowi, który mało troszczył się o dobra doczesne. Słynął ze swoich małych potrzeb, oddania się nauce i, rzeklibyśmy, profesorskiego roztargnienia, które zresztą oznaczało przede wszystkim niechęć do rozpychania się łokciami. Swianiewicza wszyscy, którzy go znali, skłonni byli nazywać świątobliwym. Gorliwy katolik zachowywał się tak, jakby naprawdę wziął głęboko do serca nauki Ewangelii"[42].

## Пра „беларускае пытанне", польскі нацыяналізм і краёвую ідэю

Публіцыстыка была неад'емнай часткай творчага шляху Станіслава Сввяневіча. Яго першыя публікацыі на старонках віленскага друку з'явіліся яшчэ ў студэнцкія гады. Іх праблематыка датычыла пераважна польскага нацыяналізму як дзяржаўнай палітыкі і элемента масавай свядомасці, а таксама сітуацыі беларускага насельніцтва. Часам гэта выклікала даволі бурныя дыскусіі. Прычым апанентамі Сввяневіча выступалі не толькі прыхільнікі мясцовых нацыянальных дэмакратаў і аўтары публікацый на старонках тыднёвіка „Dziennik Wileński" (рэдактар Ст. Лукашэвіч), але таксама іх апаненты з віленскага „Słowa" (рэдактар Ст. Мацкевіч).

[41] S. Swianiewicz, *Różne refleksji po Kopenhadze*, „Kultura", 1976, nr 4, s. 91–102.
[42] Cz. Miłosz, *Abecadło*, s. 314.

Дыскусію выклікалі ўжо сціплыя нататкі студэнта Свяневіча з нарад II з'езда польскай акадэмічнай моладзі (Вільня, ліпень 1922 г.)[43], у якіх ён заявіў пра дамінаванне ў асяроддзі польскіх студэнтаў нацыяналізму, антысемітызму і клерыкалізму. Таксама ён пісаў пра „заняпад ідэалізму", што, на яго думку, праяўлялася ў адсутнасці ва Універсітэце Стэфана Баторыя студэнцкіх арганізацый сацыялістычнай або дэмакратычнай арыентацыі, папярэджваў пра небяспеку ваяўнічага нацыяналізму. У якасці прыкладу згадваў негатыўныя адносіны польскіх студэнцкіх арганізацый да Таварыства беларускіх студэнтаў і перакананне першых, што ў Польшчы не можа быць іншых нацый, апрача польскай.

Свяневіч лічыў нацыяналізм гістарычным анахранізмам[44]. Ён з сумам канстатаваў, што частка польскіх студэнтаў з Народна-нацыянальнага саюза (Związek Ludowo-Narodowy) з радасцю вітала інфармацыю пра трагічную смерць габрэйскага студэнта Міхала Фрэнкеля падчас выбарчай кампаніі ў Віленскі сейм. Аб'ектам яго рэзкай крытыкі стаў адзін з лідараў польскіх нацыяналістаў Казімір Ляшчыцкі[45].

У адказ на старонках „Dziennika Wileńskiego" быў апублікаваны артыкул, аўтар якога (К. Ляшчыцкі?) называў нацыяналізм прагрэсіўнай з'явай і выключна з ім звязваў будучыню незалежнай Польшчы. Свяневіч у адказ прапанаваў не блытаць нацыяналізм і нацыянальную ідэю: „Można kochać swój naród, być przywiązanym do jego przeszłości i kultury, pracować i walczyć w imię jego dobra, wierzyć w jego misję dziejową, ale to nie znaczy nienawidziec inne narody, nie znaczy to bynajmniej odmawiać prawa do bytu samodzielnego tym wszystkim narodowościom, z którymi współżyjemy na jednym terytorium, lub w granicach jednego Państwa"[46]. Былы жаўнер дывізіі Жалігоўскага быў перакананы, што нацыяналізм з'яўляецца толькі карыкатурай нацыянальнай ідэі.

У дыскусіі таксама прыняў удзел рэдактар папулярнай віленскай польскай газеты „Słowa" Станіслаў Мацкевіч, які пагадзіўся з крытыкай нацыяналізму, але катэгарычна не прыняў тэзіса пра адсутнасць ідэалізму сярод польскай моладзі. У адказ С. Свяневіч ізноў прыгадаў прыціск беларускіх студэнтаў з боку польскіх калег, якія адмаўляюць прызнаваць беларусаў за нацыю. Ён прывёў дадзеныя апошняга перапісу насельніцтва, з якіх вынікала, што амаль 1/3 насельніцтва II Рэчы Паспалітай не належыць да польскай нацыі. У такой сітуацыі, як пісаў Свяневіч, палітыка нацыянальнага

---

43 S. S., *Ideologia młodzieży*, „Gazeta Krajowa", 1922, nr 151, 12 lipca; S. S., *Upadek idealizmu*, „Gazeta Krajowa", 1922, nr 152, 13 lipca.

44 „Nacjonalizm zaś jest w Polsce niepodległej anachronizmem, kierunkiem odznaczającym się brutalnością i bezwzględnością. Być dziś nacjonalistą — to znaczy usprawiedliwiać ucisk nietolerancji i zachłanność" („Gazeta Krajowa", 13 lipca 1922).

45 Казімір Ляшчыцкі (Kazimierz Leszczycki) (1894–1941) — літаратар, адзін з лідараў „правых" на Віленшчыне. Загінуў у сталінскім лагеры ў 1941 г.

46 S. S., *O nacjonalizmie młodzieży*, „Gazeta Krajowa", 1922, nr 152, 13 lipca.

эгаізму і лозунг „Польшча для палякаў" можа аслабіць аўтарытэт дзяржавы і распаліць нацыянальны антаганізм унутры яе. Ён лічыў, што Польшча павінна гарантаваць усім народам права самастойнага культурнага развіцця.

У іншым артыкуле на старонках універсітэцкага выдання „Alma Mater Vilnensis" (1922) Станіслаў Свяневіч пагаджаўся толькі на такую форму „польскага імперыялізму", як пашырэнне польскай культуры. Ён называў гэта „рэчпаспалітаўскім імперыялізмам" і спадзяваўся ўбачыць яго праявы ў дзейнасці УСБ, які, на яго думку, павінен быць не толькі рэгіянальным цэнтрам польскай культуры і адукацыі, але таксама цэнтрам вывучэння культуры беларускага і літоўскага народаў, месцам збліжэння інтэлігенцыі трох нацый[47]. Заўважым, што ў сучасным свеце, калі ўсё часцей прадметам абмеркавання становіцца паняцце „вайны культур", пазіцыя Свяневіча ўжо не выглядае талерантнай і дае падставы для абвінавачвання яго ў прыхаваным намеры паланізацыі. Тым больш што даволі часта ўласную пазіцыю ён тлумачыў інтарэсамі польскай дзяржавы на ўсходніх землях. Аднак падобнае абвінавачанне не ўпісваецца ў кантэкст усёй дзейнасці публіцыста і навукоўца як прыхільніка культурнага дыялогу нацый.

Дыскусія разгортвалася, і рэдакцыя „Słowa" прапанавала Казіміру Ляшчыцкаму і Станіславу Свяневічу выказацца на старонках свайго выдання. Апошні свой тэкст цалкам прысвяціў „беларускаму пытанню", а дакладней сітуацыі з адукацыяй і асветай для беларускай моладзі. Ён адзначыў факт масавага выезду гэтай моладзі ва ўніверсітэты за межамі Польшчы, у прыватнасці ў Чэхію. Гэту адукацыйную эміграцыю ў краіну, з якой Польшча мела напружаныя адносіны, Свяневіч тлумачыў палітыкай Варшавы і мясцовай адміністрацыі, якія абмежавалі магчымасці атрымання беларускай моладдзю вышэйшай адукацыі ў Польшчы. Ён быў перакананы, што гэта толькі ўзмоцніць антыпольскі кірунак ў беларускім руху. Свяневіч прапанаваў адмовіцца ад палітыкі нацыянальна-культурнага прыціску і спрыяць стварэнню асяродкаў беларускай культуры ў Польшчы, даць дзяржаўную акрэдытацыю беларускім школам, стварыць кафедры беларускай гісторыі і беларускай літаратуры ва УСБ і г. д.

На старонках „Słowa" гэтыя палітычныя змены ён тлумачыў патрэбамі ўласна польскай дзяржавы і польскага грамадства, якое ўсё яшчэ не разумее значэння беларускага нацыянальнага руху для ўсходніх межаў Польшчы. Свяневіч казаў пра важнасць беларускай падтрымкі польскай дзяржаўнасці і неабходнасць выпрацоўкі новай нацыянальнай праграмы для польскай адміністрацыі на беларускіх і літоўскіх землях, якая б грунтавалася на прынцыпах талерантнасці і роўнасці[48].

Агляд публіцыстыкі студэнта Станіслава Свяневіча можна закончыць яшчэ адной публікацыяй на старонках „Słowa". У гэтым выпадку гаворка ідзе

[47] St. Świaniewicz, *My i Oni*, „Alma Mater Vilnensis", z. 1, Wilno 1922, s. 75–77.
[48] St. Świaniewicz, w *imię interesu państwowego*, „Słowo", 1922, nr 4(267), 21 listopada.

пра пераказ асноўных тэзісаў яго рэферата, які прагучаў падчас сустрэчы віленчукоў з Юзафам Пілсудскім. Маршалак наведаў Вільню 16–21 жніўня 1923 г. і выступіў з некалькімі рэфератамі ва Універсітэце Стэфана Баторыя і ў тэатры. У праграме гэтых сустрэч таксама былі запланаваны рэфераты, датычныя як блізкай гісторыі рэгіёна, так і актуальнага палітычнага жыцця. Сярод выступоўцаў быў Станіслаў Свяневіч, рэферат якога прысвячаўся праблеме нацыяналізму як феномена дзяржаўнай палітыкі і масавай свядомасці[49].

Рэдакцыя „Słowa" звярнула ўвагу на гэты рэферат і вырашыла пазнаёміць з ім сваіх чытачоў. Пры гэтым адзначалася, што Свяневіч належыць да ідэйных працаўнікаў газеты, а ягоныя думкі наконт „роўнасці нацый, нацыянальнасцей і народзікаў" непрымальныя для рэдакцыі газеты.

Паводле „Słowa", С. Свяневіч казаў пра існаванне дзвюх польскіх дзяржаў. Першая грунтуецца на „ягелонскай ідэі" і традыцыях Рэчы Паспалітай. Яна імкнецца на падмурку ўласнай культуры яднаць вакол сябе народы. Менавіта дух гэтай Польшчы стварыў легіёны Ю. Пілсудскага і спрыяў з'яўленню вядомага красавіцкага звароту 1920 г. *Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага*. Затое другая Польшча адмовілася ад традыцый свабоды і роўнасці і стала адным з асяродкаў таго псіхозу нацыяналізму, які ахапіў амаль усю Еўропу. Менавіта дух гэтай Польшчы нарадзіў Рыжскі трактат. Ён канстатаваў дамінаванне гэтай другой Польшчы і адзначыў пэўны парадокс, што краіна, якая больш за стагоддзе змагалася за свабоду, пасля сваёй перамогі фактычна пераняла сістэму кіравання былых ворагаў. Ён адзначыў, што гэтым скарысталася савецкая Расія, якая падхапіла ідэю федэралізму. „Савецкі федэралізм" Свяневіч трактаваў як надзвычай небяспечную форму „маскоўскага імперыялізму".

Гаворачы пра адмову Польшчы ад ідэалаў свабоды і роўнасці, Свяневіч пераказаў аповед аднаго вядомага віленскага адваката, які на пачатку стагоддзя бараніў настаўнікаў тайных польскіх школ, а ў бліжэйшы час збіраўся бараніць на судзе ў Беластоку ўжо настаўнікаў беларускіх школ. Відавочна, гаворка ішла пра краёўца і адваката Тадэвуша Урублеўскага, які быў абаронцам на „працэсе 45-ці", што ў тыя дні працягваўся ў Беластоцкім акруговым судзе. Вядома, што ў сваёй прамове абаронца казаў пра супольную барацьбу палякаў і беларусаў у паўстанні 1863 г. і прыгадаў песні беларускіх паўстанцаў, якія ў дзяцінстве чуў ад свайго славутага дзядзькі Валерыя Урублеўскага падчас наведвання яго ў Парыжы.

Заўважу, што згадка Т. Урублеўскага важная для разумення пазіцыі С. Свяневіча і нашых ведаў пра той асяродак, у якім ён знаходзіў падтрымку ўласнай дзейнасці. Пра вялікае значэнне гэтага знаёмства для Станіслава Свяневіча таксама сведчыць тэкст некралога пад назвай *Грамадзянін Вялі-*

[49] *Federalizm*, „Słowo", 1923, nr 190, 29 sierpnia.

*кага Княства Літоўскага*, апублікаваны пасля смерці Урублеўскага на старонках „Kuriera Wileńśkiego”[50]. Аўтар прыгадаў першую сустрэчу з памерлым і словы, якія пачуў ад яго: „Poznaje Pan jednego z ostatnich Mohikanów. Dziś pozostało już tylko trzech prawdziwych obywateli Wielkiego Księstwa Litewskiego i tylko trzech prawdziwych krajowców. Jestem jednym z nich”.

С. Свяневіч пісаў пра непрыняцце Урублеўскім ідэалогіі нацыяналізму: „Polak dziś kocha ideą narodową polską, Litwin — litewską, Białorusin — białoruską. Wróblewski zaś kochał przede wszystkim nasz kraj ze wszystkimi jego mieszkańcami bez różnicy używanego języka, z całą jego bogatą przeszłością od sławnych wypraw Witolda aż do bojów Kalinowskiego w grodzieńskich lasach”. Ён з сумам канстатаваў, што такія людзі, як Тадэвуш Урублеўскі, не патрэбны сучаснай Польшчы, апантанай нацыяналізмам, і прыгадваў яго веру ў будучае паяднанне народаў былога ВКЛ, але „не на працягу нашага жыцця”. Свяневіч адзначыў, што для Урублеўскага Вялікае Княства Літоўскае было не легендай, а гістарычнай рэчаіснасцю, якую ён надзвычай добра ведаў і адчуваў.

Няма сумневаў, што аўтар некралога быў частым госцем у доме Урублеўскага па вул. Універсітэцкай, 9, дзе збіраліся палітыкі і грамадскія дзеячы, сябры і калегі, цікаўныя да гісторыі Беларуска-Літоўскага краю, і разважалі пра яго мінулае і сучаснае.

Таксама варта адзначыць шчыльныя кантакты віленскага адваката з дзеячамі беларускага руху. У развітальнай прамове на пахаванні Тадэвуша Урублеўскага ксёндз Адам Станкевіч між іншым адзначыў: „Był on nam przyjacielem i doradcą. Białorusini rozmaitych kierunków udawali się doń w trudnych i zawiłych sprawach walki życiowej i szczerze przed nim, jak przed starszym bratem, jak przed ojcem, odsłaniali swe potrzeby, plany i cele i szczodrze otrzymywali poradę, moralne poparcie albo mądrze ostrzeżenie. Wszyscy Białorusini od inteligenta poczynając i na siermiężnym włościanie i rewolucjoniście kończąc hojnie korzystali z przyjacielskich porad ś. p. T. Wróblewskiego”[51].

Праз месяц на старонках той самай газеты Свяневіч развітваўся ўжо з арцыбіскупам Юрыем Матулевічам (Юргіс Матулайціс), які быў вымушаны пакінуць кіраванне віленскай дыяцэзіяй[52]. Арцыбіскуп стрымліваў духавенства ад удзелу ў палітычных акцыях у падтрымку дзяржаўнага курсу, якія насамрэч толькі распальвалі нацыянальны антаганізм. Паводле С. Свяневіча, галоўнай задачай каталіцкага духавенства на землях гістарычнай Літвы Матулевіч лічыў развіццё нацыянальных адносін на падмурку „хрысціянскага духу”.

Варта дадаць, што Юрый Матулевіч быў праціўнікам паланізацыі касцёла, уводзіў беларускую і літоўскую мовы ў дадатковае набажэнства, быў добра

[50] S., *Obywatel Wielkiego Księstwa Litewskiego*, „Kurier Wileński”, 1925, nr 149, 7 lipca.
[51] *Mowa ks. A. Stankiewicza*, „Przegląd Wileński” 1925, nr 12, 15 lipca.
[52] Bor, *Wobec ustąpienia ks. Biskupa Matulewicza*, „Kurier Wileński”, 1925, nr 175, 6 sierpnia.

знаёмы з Брâніславам Тарашкевічам, абараняў ад нападак кс. Адама Станкевіча і апекаваўся расійскай дыяспарай. Адпаведна, ён быў аб’ектам крытыкі з боку як польскіх, так і літоўскіх нацыяналістаў, амаль штодня атрымліваў лісты з пагрозамі. Яго пераемнікам стаў біскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, які, як ужо адзначалася, стаў актыўным праваднікам палітыкі паланізацыі касцёла. Дарэчы, Свяневіч менавіта гэта і прадказваў у сваім артыкуле. Ён лічыў ваяўнічы польскі нацыяналізм з нападкамі на габрэяў, літоўцаў і беларусаў злачынствам супраць усяго Краю. Ён прагназаваў пашырэнне антыпольскіх настрояў і нараджэнне літоўскага або габрэйскага шавінізму ў адказ[53].

Непрыняцце радыкальнага нацыяналізму і крытычныя адносіны да рэалій палітычнага жыцця ў II Рэчы Паспалітай, якія Свяневіч увесну 1926 г. ацэньваў як гаспадарчы, адміністрацыйны і ідэйны хаос, абумовілі яго пазітыўнае стаўленне да „майскага перавароту” 1926 г. і вяртання да ўлады Юзафа Пілсудскага. Можна сцвярджаць, што ён быў прыхільнікам г. зв. рэжыму санацыі на яго пачатковым этапе, але пры гэтым адзначаў у сваіх публікацыях, што ўсе тыя групы і арганізацыі, якія выказвалі намер увесці часовую або сталую дыктатуру ў Польшчы, не дэманстравалі аніякіх новых творчых элементаў[54].

У верасні 1926 г. у артыкуле *Reforma rolna a Ziemie Wschodnie* Свяневіч актыўна падтрымаў пазіцыю міністра сельскай гаспадаркі і свайго былога калегі праф. Вітольда Станевіча, які падчас наведвання Львова заявіў пра неабходнасць пры правядзенні аграрнай рэформы ўлічваць асаблівасці розных рэгіёнаў Польшчы. Міністр нават параўнаў сябе з рымскім богам Янусам, добры твар якога глядзіць на Захад, а незадаволены — на Усход[55]. Гэта пазіцыя цалкам адпавядала поглядам С. Свяневіча, які звязваў з аграрнай рэформай вырашэнне не толькі эканамічных, але і пэўных палітычных праблем Польскай дзяржавы. Малады доктар эканомікі і публіцыст быў перакананы, што разумная аграрная рэформа на ўсходніх землях паспрыяе росту сімпатый мясцовага сялянства („тутэйшых”) да дзяржавы.

С. Свяневіч пісаў пра тое, што Польшча ўспрымаецца сялянамі як „панская дзяржава”. Нацыянальны канфлікт, справакаваны дыскрымінацыйнай палітыкай мясцовай адміністрацыі ў дачыненні да беларускай школы і культуры, ён лічыў другасным чыннікам напружанасці ў Беларуска-Літоўскім краі. Паводле Свяневіча, вырашальную ролю ў гэтай напружанасці адыгрываў сацыяльны антаганізм, які быў выкарыстаны савецкай прапагандай. Ён быў упэўнены, што сімпатыі праваслаўных сялян да Польшчы з’явяцца толькі тады, калі дзяржава ўздыме дабрабыт жыхароў Краю, мясцовая адміністрацыя будзе клапаціцца пра ўсе яго народы, а сістэма самакіравання будзе адпаведна ўпарадкаваная. Першым крокам на гэтым шляху Свяне-

53 X. X., *Nacjonalizm wśród nas*, „Kurier Wileński”, 1925, nr 231, 11 października.
54 Bor, *Narodziny polskiego faszyzmu*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 86, 16 kwietnia.
55 Bor, *Reforma rolna a Ziemie Wschodnie*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 213, 15 września.

віч лічыў перабудову аграрнай структуры, важным кірункам якой павінна была стаць парцэляцыя буйных землеўладанняў і пераход часткі зямлі да сялянства, што магло б зменшыць беспрацоўе і спрыяць пашырэнню ўнутранага рынку. Зацягванне рэформы, паводле даследчыка, магло мець для Польшчы катастрафічныя вынікі.

У снежні 1926 г. Свяневіч упершыню паспрабаваў ахарактарызаваць краёвую ідэю[56]. Ён сцвярджаў пэўны рост яе папулярнасці, абумоўленай адмоўнай рэакцыяй карэннага насельніцтва на ўніфікацыйную палітыку адміністрацыі, складзенай пераважна з ураджэнцаў Цэнтральнай Польшчы і Галіцыі. Паводле Свяневіча, найважнейшай характэрнай рысай свядомасці краёўцаў была любоў да гістарычнай Літвы, паяднаная з рамантызмам і пэўным месіянізмам. На гэтай глебе фармаваліся асаблівасці „беларуска-літоўскай душы": „Zasadniczym punktem wyjścia całej ideologii krajowej jest wiara w to, iż w psychice ludzi tutejszych istnieje szereg niezmiernie cennych właściwości twórczych. Wielkie twory ducha Mickiewiczowskiego, szlachetna postać Kościuszki, bohaterstwo Sierakowskich i Trauguttów, głębia myśli Towiańskiego, swojskie pieśni Syrokomli oraz Janki Kupały — są to wszystko — w myśl światopoglądu krajowego — wyrazy tych charakterystycznych właściwości duszy litewsko-białoruskiej".

У пэўным пашырэнні краёвай ідэі Свяневіч бачыў імкненне бараніць асаблівасці „беларуска-літоўскай душы" ад цэнтралізму Варшавы і мясцовых чыноўнікаў-уніфікатараў. Ён быў упэўнены, што ў выніку злучэння псіхічных асаблівасцей гэтай „душы" з польскай культурай фармуюцца найлепшыя творчыя якасці: „Promienie kultury polskiej przełamując się przez pryzmat duszy litewskiej czy tez białoruskiej tworzą niezmiernie cenny amalgamat, który tai w sobie wiele promiennych sił duchowych". Пры гэтым, як падкрэсліваў публіцыст, краёўцы не імкнуцца да паланізацыі: „Krajowcy chcą tylko, żeby wszyscy mieszkańcy ziem dawnego W. Ks. Litewskiego: i Polacy, i Białorusini, i Litwini, i Żydzi Polskę kochali, ale nie chodzi zaś im wcale o to by wszyscy stali Polakami. Wielka federacja równych z równymi na gruzach trzech rozwalonych tronów jest ich ideałem politycznym".

Палітычным увасабленнем краёвай ідэі для Станіслава Свяневіча стала ідэя федэралізму. Менавіта таму нароўні з вобразам Вялікага Княства Літоўскага ў публіцыстыцы Свяневіча прысутнічае, а часам дамінуе вобраз Рэчы Паспалітай як дзяржавы некалькіх народаў.

Таксама варта адзначыць эканамічнае абгрунтаванне краёвай ідэі, прысутнае ў артыкулах доктара эканомікі. Свяневіч адзначаў, што традыцыйную „вертыкальную" сістэму гаспадарчых сувязяў беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх земель у Балта-Чарнаморскім рэгіёне ў 1920-я гг. замяніла малаэфектыўная „гарызантальная" з удзелам Германіі, Літвы і Расіі. Адным з віноў-

[56] Bor, *Krajowcy*, „Kurier Wileński", 1926, nr 5 grudnia 1926.

нікаў гэтага Свяневіч лічыў „літоўскае германафільства” як прыклад той шкоды, якую наносіць Краю ваяўнічы нацыяналізм[57].

Эканаміст Свяневіч галоўнымі прычынамі заняпаду гандлю ў паўночна-ўсходніх ваяводствах Польшчы апрача наступстваў доўгай вайны і Расійскай рэвалюцыі лічыў трагічныя наступствы Рыжскага трактата і падзелу гістарычнай Літвы. Ён быў упэўнены, што ідэя непадзельнасці зямель былога ВКЛ і польска-літоўска-беларуска-ўкраінскай федэрацыі не з’яўляецца толькі палітычным сантыментам або марай рамантыкаў. Свяневіч бачыў у канцэпцыі краёўцаў таксама адлюстраванне гаспадарчых патрэб: „Ideał federalistyczny jest także wyrazem interesu gospodarczego ziem naszych, jest marzeniem o bujnym rozkwicie życia, o stworzeniu warunków do podniesienia wydajności produkcji krajowej, o setkach tysięcy ton ładunków płynących po naszych rzekach, przewożonych przez nasze koleje”[58].

Прыблізна праз год Свяневіч вярнуўся да гэтай праблематыкі. Ён пісаў пра падмурак краёвасці, які, на яго думку, складаецца не толькі з псіхалагічных, культурных і гістарычных цаглінак, але таксама з адметных эканамічных інтарэсаў Краю[59]. Вялікай памылкай польскай палітыкі на „ўсходніх землях” ён лічыў жорсткі варшаўскі цэнтралізм, які не ўлічваў эканамічныя і культурныя асаблівасці рэгіёнаў, у т. л. зямель гістарычнай Літвы[60]. Ён вінаваціў Варшаву ў правядзенні палітыкі, якая супярэчыла краёвым інтарэсам: „Warszawa narzuciła naszym ziemiom fatalną granicę ryską, przeciującą na dwie części kraj, który pod względem gospodarczym, etnograficznym, kulturalnym od wieku stanowił jedną całość. Załamana została naturalna linia kooperacji pionowej w życiu gospodarczym”[61].

Выхад з крызісу бачыўся ў аўтаноміі рэгіёна. Свяневіч актыўна падтрымліваў ідэю аўтаноміі, з якой адным з першых выступіў сябра Клуба валацуг Севярын Віславух, які быў перакананы, што аўтаномія „ўсходніх зямель” дапамагла б пазбегнуць многіх крызісных момантаў у развіцці Краю. Станіслаў Свяневіч першым крокам у гэтым кірунку лічыў стварэнне асобнай адміністрацыйнай адзінкі для зямель былога ВКЛ[62]. Яго асабістая зацікаўленасць у пашырэнні краёвай ідэі ў вялікай ступені была абумоўлена заклапочанасцю лёсам беларусаў, якія пасля Рыжскага трактата ў пэўным сэнсе апынуліся паміж молатам польскай палітыкі і кавадлам савецкай рэчаіснасці. Магчыма, менавіта беларуская праблематыка прывяла Свяневіча да краёвасці. Як ужо адзначалася, у студзені 1927 г. з нагоды ліквідацыі Грамады ён апублікаваў на старонках „Kuriera Wileńskiego” артыкул *Polska a Białorusini*, які вельмі важны для разумення яго падыходу да „беларускага пытання”.

---

[57] Bor, *Polityka a geografia*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 163, 18 lipca.
[58] Bor, *Grzechy polityki polskiej*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 261, 11 listopada.
[59] Bor, *Życie gospodarcze. Przełom*, „Kurier Wileński”, 1927, nr 272, 27 listopada.
[60] Bor, *Grzechy polityki polskiej*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 261, 11 listopada.
[61] Bor, *Życie gospodarcze. Przełom*, „Kurier Wileński”, 1927, nr 272, 27 listopada.
[62] Bor, *Grzechy polityki polskiej*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 261, 11 listopada.

Прафесар УСБ з сумам канстатаваў эйфарыю польскага друку з нагоды разгрому беларускай Грамады і сцвярджаў, што як масавыя арышты беларусаў, так і распальванне мясцовай адміністрацыяй польскага нацыяналізму не з'яўляецца вырашэннем праблемы. Усё гэта, на яго думку, толькі пагоршыць сітуацыю на ўсходніх землях. Ён адзначыў неаднароднасць Грамады, у складзе якой былі ідэйныя беларускія патрыёты, прыхільнікі камунізму і беларуская інтэлігенцыя, якая не мела магчымасці жыць з уласных ведаў і ўменняў, а таксама расійцы, што марылі пра вяртанне „вялікай Расіі", і, нарэшце, правакатары з паліцыі.

Свяневіч пісаў пра дамінаванне дзвюх першых груп, якія канкуруюць паміж сабой і імкнуцца выкарыстаць часовае аб'яднанне дзеля ўласнай карысці. Так, камуністы намагаюцца далучыць беларускія землі да СССР, а потым пазбыцца беларускіх саюзнікаў як непатрэбнага элемента. У сваю чаргу ідэйныя беларускія патрыёты, пагаджаючыся на далучэнне да СССР, плануюць у сітуацыі геапалітычных змен адарвацца ад Масквы і збудаваць дэмакратычную і незалежную Беларусь.

Свяневіч сцвярджаў, што ў інтарэсах Польскай дзяржавы было б разарваць адзінства гэтых груп і даць магчымасць беларускім патрыётам займацца праблемамі культуры і адукацыі. Ён вінаваціў адміністрацыю ў знішчэнні магчымасцей іх развіцця і казаў пра неабходнасць суда над польскімі чыноўнікамі, якія штурхалі беларусаў у абдымкі Масквы. Публіцыст прыгадаў уласныя размовы з пісьменнікам Максімам Гарэцкім, які ніколі не падзяляў камуністычнай ідэалогіі, але быў змушаны з'ехаць у Менск, бо не меў працы і быў пазбаўлены сродкаў для ўтрымання сям'і. Таксама ён успомніў арыштаванага дырэктара Віленскай беларускай гімназіі Радаслава Астроўскага, які калісьці ў размове прызнаўся, што пачынае займацца арганізацыяй тайных беларускіх школ і мае пэўны досвед, бо ў часы Расійскай імперыі ствараў тайныя польскія школы. С. Свяневіч пісаў пра апантанасць беларусаў стварэннем школы на роднай мове і цытаваў аднаго з беларускіх дзеячаў (Б. Тарашкевіча?), які казаў, што для гэтай справы беларусы гатовы ўзяць грошы хоць у самога д'ябла.

Пры гэтым публіцыст выказваў упэўненасць, што дарога да паразумення з беларусамі не зачыненая, што большасць насельніцтва БССР непрыхільна ставіцца да савецкай улады. Дастаткова адмовіцца да пастулатаў эндэцыі ў адносінах да беларусаў і дазволіць ім весці культурніцкую і асветніцкую дзейнасць, каб яны ўбачылі альтэрнатыву саюзу з Масквой.

Артыкул заканчваўся зваротам да Юзафа Пілсудскага: „Pod hasłem moralnego odrodzenia narodu prowadziłeś w dniach majowych swoje pułki na Warszawę. Ale na naszych ziemiach, na t. zw. „Kresach" destrukcyjna gangrena nacjonalizmu nadal przenika cały system rządzenia, tak jak przenikała w okresie przedmajowym, wytwarzając nadal atmosferę pchającą patrjotów białoruskich w objęcia wrogów Polski.

Panie Marszałku! Niech sądy Rzeczpospolitej każą przestępców! Ale w imię honoru narodu, w imię przyszłości polskiej naWschodzie — spraw, by także odeszli z ziem naszych ci, co atmosferę przestępstw tworzyli, co przez zaślepienie i głupotę pomniejszali imię Polski. Niech na ziemiach kresowych dojdzie nakoniec do władzy Polska odrodzona moralnie, Polska Jutra, w której nadejście rychlejsze lub późniejsze wierzymy".

У 1928 г. Свяневіч вярнуўся да тэмы стасункаў ідэйных беларусаў з Масквой і Менскам у артыкуле *Sprawa „Hromady"*. Ён пісаў пра спробу першых выкарыстаць фінансавыя магчымасці бальшавіцкай улады і іх разуменне часовасці такога саюзу: „Białorusinów pchały w objęcia komunistów konieczności finansowe, związane z prowadzeniem pracy kulturalnej, o otrzymaniu środków na którą ze źródeł rządowych nie mogło być mowy. Pieniądze bolszewickie, jeżeli szły — to szły nie tylko na akcję polityczną, ale także na elementarz, także na to aby dziecko białoruskie nauczyć czytać w ojczystej mowie. Była to czasowa ugoda z wrogiem po drodze do realizowania ideałów narodowych"[63].

Падобна, што Станіслаў Свяневіч заўсёды адчуваў сябе грамадзянінам той Польшчы, якая змагалася за свабоду народаў, сімвалам якой была якраз „ягелонская ідэя". Адначасна такая дэманстрацыя рабіла больш пераканаўчай і зразумелай яго пазіцыю для польскага чытача.

У студзені 1928 г. на старонках „Kuriera Wileńśkiego" з'явіўся яшчэ адзін канцэптуальны артыкул пра сутнасць краёвай ідэі[64]. Аўтар схаваўся за псеўданімам *lit*. Цалкам магчыма, што артыкул быў напісаны Свяневічам або яго аднадумцам. Для аўтара ўвасабленнем краёвасці была тэрытарыяльная аўтаномія Беларуска-Літоўскага краю ў межах Польскай дзяржавы. Нават, гаворачы пра ідэю аднаўлення былога Вялікага Княства Літоўскага, ён не бачыў яго будучыні інакш, як у федэрацыі з Польшчай. Фактычна гэта была тая краёвасць, адносна якой Міхал Ромэр аднойчы заўважыў, што некаторыя кажуць „краёвасць", а думаюць — „крэсы Найяснейшай Рэчы Паспалітай"[65].

Пазней ва ўспамінах пра сваю жонку Алімпію Свяневіч прыгадаў розніцу пазіцый двух братоў-краёўцаў — Вітольда і Людвіка Абрамовічаў і прызнаўся, што сімпатызаваў пазіцыі першага з іх. В. Абрамовіч, выступаючы за адзінства земляў і народаў гістарычнай Літвы, лічыў яго неабходнай умовай саюз з Польшчай у той ці іншай палітычна-юрыдычнай форме. А вось яго брат Людвік гэты саюз не лічыў неабходнай умовай палітычнага існавання „Вялікай Літвы"[66].

---

[63] Bor, *Sprawa „Hromady"*, „Kurier Wileński", 1928, nr 67, 23 marca.

[64] lit, *Idea krajowości*, „Kurier Wileński". 1928, nr 10, 13 stycznia; nr 11, 14 stycznia; nr 12, 15 stycznia; nr 17, 22 stycznia.

[65] M. Nekanda-Trepka, *Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki — redaktor „Przeglądu Wileńskiego"* [w:] *Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego*, red. T. Bujnicki, K. Stępnik. Lublin 2005, s. 53.

[66] S. Swianiewicz, *Wspomnienie o mojej żonie Olimpii*, s. 98.

У артыкуле *Nasza krajowość*, які, дарэчы, прэзентаваў не толькі пазіцыю аўтара, але таксама погляды сяброў згаданага Клуба валацуг, Свяневіч прапаноўваў не блытаць краёвасць з рэгіяналізмам, які трактаваў хутчэй як вывучэнне народнай культуры. Ён разумеў краёвасць як палітычную ідэалогію, якая „wyrosła na tle przywiązania do tego, co było największem w przeszłości naszego kraju i miasta, a jednocześnie marzenie o tem, aby znowu sprządz rozbite części dawnego W. K. Litewskiego w jedną całośc”[67].

Паводле „валацугі” Свяневіча, „idea krajowa opiera się na pewnym emocjonalnym stosunku do naszej przeszłości i teraźniejszości […], który narzuca konsekwencje polityczne. Idea krajowa — to pamięć o wysiłku i walkach Witolda, o rozkwicie epoki Jagiellonów, o sztandarach litewskich posuwających się ku czarnomorskim brzegom. Idea krajowa — to sugestia płynąca od murów naszych kościołów, od arkad starych gmachów wileńskich. Idea krajowa — to wspomnienia sławy dźwięczące w ciszy wileńskiego życia”.

Паводле Свяневіча, існавалі два варыянты краёвасці. Адзін з іх быў звязаны з ідэяй слаўнага мінулага гістарычнай Літвы (прагрэсіўны), а другі — з надзеяй аднаўлення сацыяльных адносін мінулай эпохі (кансерватыўны). Апошні ён ацэньваў як гістарычны анахранізм, сцвярджаючы, што шляхта і зямянства адыгралі сваю гістарычную ролю і на авансцэну гісторыі выйшлі колішнія сацыяльныя „нізы”.

У іншым артыкуле (*Nasze stanowisko*) на старонках таго ж часопіса Свяневіч трактаваў краёвасць як актуалізаваную „ягелонскую ідэю”, якую ён разумеў як ідэю цеснай супрацы народаў дзеля абароны палітычнай незалежнасці і культурнай самабытнасці ад тых хваляў, якія накатваюцца з Усходу[68]. Супрацьвагу Усходу (СССР) Свяневіч бачыў у стварэнні „Польскай імперыі”, якая б з’яднала народы на прасторы ад Балтыкі да Карпат. На яго думку, апошняе магла зрабіць толькі моцная польская дзяржава, надзеі на якую ён звязваў з лагерам пілсудчыкаў.

Тут варта заўважыць, што Юзаф Пілсудскі для Свяневіча заўсёды быў пэўным узорам польскага палітыка. У адным з артыкулаў ён прызнаваўся, што ў дзейнасці маршалка бачыць праяву духу Вялікай Літвы[69]. Пры гэтым публіцыст і навуковец крытыкаваў рэжым санацыі, які ва ўнутранай палітыцы фактычна рэалізоўваў праграму нацыянальных дэмакратаў. Уласную крытыку ён лічыў пазітыўнай на фоне „выключна злобнай крытыкі” з боку

[67] S. Swianiewicz, *Nasza krajowość*, „Włóczęga”, 1932, nr 1, s. 3.

[68] S. Swianiewicz, *Nasze stanowisko*, „Włóczęga, 1934, nr 14/15. „Ideę Jagiellońską pojmujemy jako ideę ścisłego współdziałania narodów, chcących bronić swojej niezależności politycznej oraz indywidualności kulturalnej przeciwko falom uderzającym z równiny, na której zachodnim cyplu siedzimy”.

[69] Bor, *Krajowcy*, „Kurier Wileński”, 1926, nr 134, 5 grudnia; Гл. таксама: *Ostatni obywatel Wielkiego Księstwa Litewskiego. Ze Stanisławem Swianiewiczem rozmawią Marek J. Karp*, „Res Publica, 1987, nr 6, s. 36.




„Przeglądu Wileńskiego". Апошні, на яго думку, звужаў разуменне краёвай ідэі і ператвараў краёвасць у звычайны рэгіяналізм.

На старонках часопіса „Włóczęga" Свяневіч тлумачыў краёвасць як ідэю яднання Польшчы, балтыйскіх дзяржаў, а таксама беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў. Тым самым ён вяртаўся да „рэчпаспалітаўскага фармату" краёвасці. Публіцыст пісаў пра пэўны „духоўны імперыялізм Вільні" з актуалізаванай „ягелонскай ідэяй", якая павінна стаць ядром міфа польскай дзяржавы[70]. Ён пратэставаў супраць „малой нацыянальнай Польшчы" і выступаў за федэрацыю палякаў з калісьці „братнімі народамі"[71].

З ідэяй федэрацыі ён таксама звязваў будучыню Еўропы. Паводле эканаміста Свяневіча, нацыяналізм як ідэя самадастатковасці нацыі і нацыянальнай дзяржавы абярнуўся крызісам сістэмы міжнароднай кааперацыі. Выправіць сітуацыю павінна федэрацыя еўрапейскіх народаў і Злучаных Штатаў Амерыкі[72].

Да ідэі федэралізму Свяневіч звяртаўся і пасля смерці Юзафа Пілсудскага. Летам 1936 г. на старонках „Kuriera Wileńskiego" ён зноў згадваў Рэч Паспалітую і пісаў пра тое, што сама логіка сучаснага палітычнага жыцця прымушае прыгадаць гісторыю і штурхае Польшчу да адраджэння колішняй шматнацыянальнай дзяржавы. Пры гэтым ён ускладаў надзею на прэзідэнта Рыдза-Смíглага і… на Вільню як на „горад найвялікшай кольскасці геніяў польскай культуры і палітыкі, месца, дзе жывуць традыцыі мінулага, дзе адчувальная рэлігійнасць польскай і літоўскай душы"[73].

***

Краёвасць Станіслава Свяневіча трымалася на традыцыях „ягелонскай ідэі" і федэраліцкай канцэпцыі Юзафа Пілсудскага, увасабленнем якой у другой палове 1920-х гг. стала ідэя аўтаноміі „ўсходніх земляў" II Рэчы Паспалітай. Міхал Ромэр, як адзін з ідэолагаў краёвасці, у такой яе форме бачыў прыхаваны польскі нацыяналізм. Вельмі крытычна да яе ставіўся таксама рэдактар „Przeglądu Wileńskiego" Людвік Абрамовіч. Аднак у палітычнай рэчаіснасці міжваеннай Польшчы гэта пазіцыя азначала супраць-

[70] S. Swianiewicz, *Nasze stanowisko*, „Włóczęga, 1934, nr 14/15.

[71] Bor, *Nacjonalizm gospodarczy*, „Kurier Wileński", 1926, nr 249, 27 października; S. Swianiewicz, w sprawie deklaracji Klubu Demokratycznego, „Kurier Wileński", 1939, nr 11, 11 stycznia.

[72] Ibidem.

[73] B. p., *Linia przewodnia*, „Kurier Wileński", 1936, nr 157, 9 czerwca.

стаянне радыкальнаму нацыяналізму тытульнай нацыі. Яна абвяргала тэзіс польскай прапаганды пра камуністычнасць беларускага руху, спрыяла разуменню польскай грамадскасцю сапраўдных намаганняў беларусаў і іншых народаў II Рэчы Паспалітай.

Публіцыстыка С. Свяневіча была важнай і для эліты беларускага руху, якая шукала падтрымкі з боку дзеячаў польскай культуры і палітыкаў. Безумоўна, тэксты Станіслава Свяневіча, Людвіка Абрамовіча, Севярына Віславуха ды інш., прамовы на судовых працэсах Тадэвуша Урублеўскага, публікацыі па „беларускім пытанні" на старонках такіх польскіх выданняў, як „Przegląd Wileński" і „Kurier Wileński", не маглі пераламіць агульнага палітычнага курсу ў II Рэчы Паспалітай. Гэты курс не прадугледжваў свабоды культурнага развіцця для няпольскіх нацыянальных супольнасцей, а галоўнымі актарамі нацыянальнай палітыкі ў Заходняй Беларусі рабіў мясцовую адміністрацыю, пракуратуру і паліцыю. Аднак дзейнасць тагачасных краёўцаў выразна сведчыла пра магчымасць цалкам іншай польскай палітыкі і стварала пэўную альтэрнатыву камуністычным уплывам у беларускім руху. У гэтым плане публіцыстыка С. Свяневіча была асабліва каштоўнай.

Нацыянальны дыскурс звычайна пакідае па-за рамкамі айчыннай гісторыі постаці М. Ромэра, Л. Абрамовіча, Т. Урублеўскага, С. Свяневіча ды іншых тагачасных краёўцаў. Але відавочна, што іх прысутнасць у беларускай гісторыі значна паглыбляе наша разуменне асаблівасцей міжнацыянальных адносін у рэгіёне Польшча — Літва — Беларусь і разбурае пэўныя нацыянальныя стэрэатыпы. Згаданыя „чужыя" не становяцца цалкам „сваімі", але ўказваюць на штучнасць падобнага падзелу, абумоўленага толькі нацыянальнай прыналежнасцю.

## Stanisław Swianiewicz (1899–1997), idea krajowa i „kwestia białoruska" w Polsce międzywojennej

Stanisław Swianiewicz (1899–1997) polski ekonomista, sowietolog i historyk jako jeden z pierwszych podjął próbę opowiedzenia prawdy o tragedii polskich oficerów w Katyniu. W okresie międzywojennym był zwolennikiem koncepcji „krajowości" opartej na tradycjach idei jagiellońskiej i federacyjnej koncepcji Józefa Piłsudskiego, których wcieleniu w życie służyć miała w drugiej połowie lat 20. XX w. propozycja autonomii ziem wschodnich II RP. Michał Römer, jako jeden z ideologów krajowości, w takiej formie jej realizacji widział ukryty polski nacjonalizm. Równie krytycznie odnosił się do niej redaktor „Przeglądu Wileńskiego" Ludwik Abramowicz". Jednakże w politycznych realiach przedwojennej Polski takie stanowisko oznaczało przeciwstawienie się radykalnemu nacjonalizmowi. Obalała ona tezy polskiej propagandy o dominacji wpływów komunistycznych w ruchu białoruskim, sprzyjała zrozumieniu przez polskie społeczeństwo wysiłków Białorusinów na rzecz uznania ich praw narodowych analogicznie do innych narodów II RP.

Publicystyka Swianiewicza była ważna również dla elit ruchu białoruskiego poszukujących potencjalnego poparcia ze strony polskich kręgów artystycznych i politycznych. Bezsprzecznie teksty Stanisława Swianiewicza, Ludwika Abramowicza, Seweryna Wysoucha i innych autorów, wystąpienia podczas procesu Tadeusza Wróblewskiego, publikacje na temat „kwestii białoruskiej" na łamach takich polskich periodyków jak „Przegląd Wileński i „Kurier Wileński" nie mogły zmienić polityki II Rzeczypospolitej. Polityka ta nie przewidywała swobody rozwoju kulturalnego mniejszości narodowych. Głównymi wykonawcami polityki narodowościowej na Zachodniej Białorusi uczyniono miejscową administrację, prokuraturę i policję. Jednakże działalność ówczesnych „krajowców" świadczyła o możliwości prowadzenia całkiem innej polityki i tworzyła alternatywę dla wpływów komunistycznych w ruchu białoruskim. Z tej perspektywy szczególnie cenny był dorobek publicystyczny Swianiewicza.

## Stanisław Swianiewicz (1899–1997), idea of *krajovość* and the „Belarusian case" in interwar Poland

Stanisław Swianiewicz (1899–1997), a Polish economist, sovietologist and historian, was one of the first to attempt to tell the truth about the tragedy of Polish officers in Katyn. In the interwar period, he was a supporter of the concept of *krajovość* based on the traditions of the Jagiellonian idea and the federative concept of Józef Piłsudski, which was to be implemented in the second half of the 1920s by the proposal of autonomy of the eastern territories of the Second Polish Republic. Michał Römer, as one of the ideologues of *krajovość*, saw hidden Polish nationalism in this form of its implementation. The editor of Przegląd Wileński, Ludwik Abramowicz, was equally critical of it. However, in the political realities of pre-war Poland, such a position meant opposing radical nationalism. It refuted the theses of Polish propaganda about the dominance of communist influence in the Belarusian movement, and helped Polish society to understand the efforts of Belarusians to recognize their national rights by analogy with other nations of the Second Polish Republic.

Swianiewicz's journalism was also important for the elites of the Belarusian movement seeking potential support from Polish artistic and political circles. Undoubtedly, texts by Stanisław Swianiewicz, Ludwik Abramowicz, Seweryn Wyslouch and other authors, speeches during the trial of Tadeusz Wróblewski, publications on the „Belarusian case" in such Polish periodicals as „Przegląd Wileński" and „Kurier Wileński" could not change the policy of the Second Polish Republic. This policy did not provide for the freedom of cultural development of national minorities. The main executors of the nationality policy in Western Belarus were the local administrations, the prosecutor's office and the police. However, the activities of the „natives" of that time proved the possibility of pursuing a completely different policy and created an alternative to communist influence in the Belarusian movement. From this perspective, Swianiewicz's journalistic output was particularly valuable.

**Аляксандр Гужалоўскі,**
**доктар гіст. навук (Менск)**
**ORCID: 0000-0002-9743-8724**

# Рэабілітацыя ахвяр сталінскіх рэпрэсій у гады хрушчоўскай „адлігі"

„Адліга" — супярэчлівая і шматгранная з'ява, у якой спалучыліся розныя працэсы і падзеі. У адных гэта эпоха асацыіруецца з Карыбскім крызісам, засваеннем цаліны, кукурузнай эпапеяй і праграмай пабудовы камунізму. Другія лічаць галоўнымі маркерамі часу дасягненні навукова-тэхнічнай рэвалюцыі — засваенне космасу і мірнай атамнай энергіі, першыя электронныя вылічальныя машыны і аўтаматызацыю вытворчасці. Трэція згадваюць рэфарматарскую дзейнасць Мікіты Хрушчова, у т. л. дэцэнтралізацыю і пашырэнне праў саюзных рэспублік, пераход ад галіновай да тэрытарыяльнай сістэмы кіравання, а таксама захады па паляпшэнні матэрыяльнага жыцця людзей. Для чацвёртых эпоха „адлігі" — гэта перш за ўсё духоўнае абнаўленне грамадства, узнятая „шасцідзясятнікамі" новая хваля ў літаратуры, кінематографе, жывапісе, тэатры. Нарэшце, пятыя ў цэнтр увагі змяшчаюць сацыяльна-палітычную лібералізацыю грамадскага жыцця, крытыку „культу асобы", рэабілітацыю ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Працэс рэабілітацыі ахвяр сталінскіх рэпрэсій у гады хрушчоўскай „адлігі" ўжо атрымаў адлюстраванне на старонках прац беларускіх гісторыкаў. Пачатак вывучэнню гэтага працэсу паклаў гісторык-архівіст Уладзімір Адамушка. У 1994 г. ва ўмовах павышанай грамадскай цікавасці да сталінскага тэрору і рэабілітацыі яго ахвяр ён выдаў манаграфію *Палітычныя рэпрэсіі 20–50-ых гадоў на Беларусі*. Узнаўленню добрых імён незаконна рэпрэсаваных прысвечана ў ёй асобная глава „Рэабілітацыя невінаватых", дзе канцэптуальнае асэнсаванне праблемы спалучаецца з глыбокім вывучэннем новых першакрыніц[1]. Сяргей Хоміч звязаў працэс выкрыцця сталінскіх рэпрэсій з барацьбой за ўладу, якая ішла ў вышэйшым кіраўніцтве СССР у сярэдзіне 1950-х гг., а таксама з маўклівым супрацівам яму наменклатуры сярэдняга звяна[2]. У 2011 г. „хрушчоўская" рэабілітацыя стала арганічнай часткай нацыянальна-дзяржаўнага наратыву ў выглядзе шасцітомнай *Гісторыі Беларусі*, падрыхтаванай у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. Вызваленню і аднаўленню ў правах асоб, асуджаных па палітычных артыкулах,

[1] Ул. Адамушка, *Палітычныя рэпрэсіі 20-50-ых гадоў на Беларусі*, Мінск 1994, с. 139–145.
[2] С. Хоміч, *Амнісціраванне і рэабілітацыя рэпрэсіраваных у Беларускай ССР* [у:] *Репрессивная политика советской власти в Беларуси: сб. науч. работ*. Сост. И. Кузнецов, Я. Басин. Вып. 1, Минск 2007, с. 254–269.

у гэтым выданні прысвечаны падрыхтаваны Уладзімірам Навіцкім асобны параграф, які характарызуецца комплексным, узважаным і збалансаваным аналізам[3]. Ірына Раманава прапанавала перыядызацыю рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, паказала механізмы гэтага працэсу, а таксама яго абмежаваны характар у гады „адлігі”[4]. Тым не менш многія аспекты вынесенай у назву артыкула тэмы застаюцца недаследаванымі.

Палітычныя рэпрэсіі былі найбольш пачварнай праявай сталінскага рэжыму, яны закранулі ў большай ці меншай ступені ўсе сацыяльныя групы скаванага страхам тагачаснага савецкага грамадства. З дапамогай рэпрэсій „бацька народаў” утрымліваў адзінаасобную неабмежаваную ўладу, дасягаў вызначаных эканамічных і грамадска-палітычных мэт, пазбаўляўся ад непатрэбных сацыяльных груп. Культываванае рэжымам Сталіна беззаконне не мела межаў, праваахоўная сістэма была фактычна выведзена з канстытуцыйна-прававога поля. Напачатку 1950-х гг. стомленасць соцыума ад бясконцых і беспрэцэдэнтных беззаконняў ужо адчувалі ў бліжэйшым сталінскім атачэнні. Менавіта таму эпоха „адлігі” пасля смерці правадыра пачалася са спробы аднаўлення і ўмацавання законнасці і правапарадку. Неабходна было не толькі спыніць беспрэцэдэнтныя парушэнні канстытуцыйных праў грамадзян, але таксама стварыць гарантыі ад паўтарэння падобнага ў будучыні.

27 сакавіка 1953 г. выйшаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР „Аб амністыі”, ініцыяваны Лаўрэнціем Берыя ва ўмовах барацьбы за ўладу, якая разгарнулася ў вышэйшым савецкім кіраўніцтве пасля смерці Сталіна. Гэты ўказ стаў першым ударам па збудаванай ім рэпрэсіўнай машыне. У краіне было амнісціравана больш за мільён зняволеных на тэрмін да 5 гадоў уключна. Выйшлі на волю таксама асуджаныя за службовыя, маёмасныя і ваенныя злачынствы незалежна ад тэрміну пакарання. Прапанову Берыі распаўсюдзіць дзеянне амністыі на асуджаных на больш працяглыя тэрміны, як правіла, па палітычных артыкулах, Прэзідыум ЦК КПСС не падтрымаў. Тым не менш указ „Аб амністыі” разам са спыненнем міністрам унутраных спраў СССР „справы лекараў”, а таксама „мінгрэльскай справы” ўзнялі пытанне аб ацэнцы законнасці многіх спраў і працэсаў нядаўняга мінулага, аб справядлівасці вынесеных прысудаў[5].

Працэс амнісціравання асуджаных па палітычных артыкулах распачаўся пад кіраўніцтвам Хрушчова, становішча якога ва ўладзе пасля расстрэлу Берыі ўмацавалася. На 1 красавіка 1954 г. у лагерах і калоніях МУС СССР утрымлівалася каля 1,4 млн чал., з якіх 448 344 чал. адбывалі пакаранне за

[3] *Гісторыя Беларусі ў 6 т. Т. 6. Беларусь у 1946–2009 гг.*, М. Касцюк (гал. рэд.) і інш., Мінск 2011, с. 198–203.

[4] І. Раманава, *Рэабілітацыя ахвяр палітычных рэпрэсій у 1950-я гады: асноўныя тэндэнцыі і этапы*, „Беларускі гістарычны часопіс”, 2014, № 3, с. 15–23.

[5] *Реабилитация: как это было. Документы Президиума ЦК КПСС и другие материалы*. Т. 1, Москва 2000, с. 16–23.

„контррэвалюцыйныя злачынствы”[6]. У аддзел па працы са зваротамі грамадзян ЦК КПСС ішлі шматлікія лісты ад палітычных зняволеных, ссыльных і спецпасяленцаў. Да савецкага кіраўніцтва паступова прыходзіла разуменне таго, што гэтыя людзі падлягалі не толькі амністыі, але і рэабілітацыі (прызнання неправамернасці іх пакарання, зняцця з іх прававых абмежаванняў, вяртання ім канфіскаванай маёмасці).

Рэабілітацыя пачалася са зняцця кляйма „ворага народа” з людзей, што раней займалі высокія партыйныя і дзяржаўныя пасады. Кандыдатуры рэабілітуемых уносіліся на разгляд Прэзідыума ЦК КПСС. Менавіта гэты орган з’яўляўся вышэйшай „пракурорскай” і „судовай” інстанцыяй, якая вызначала лёсы не толькі жывых, але і мёртвых. Без ягонай згоды органы пракуратуры не мелі права прапанаваць перагляд спраў судамі, а суды — выносіць рашэнне аб рэабілітацыі. Падрыхтоўчую працу па аднаўленні ў партыі незаконна рэпрэсаваных камуністаў выконваў Камітэт партыйнага кантролю.

Падобным чынам у 1955–1956 гг. былі пасмяротна рэабілітаваны асобы, якія ў розныя часы займалі пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б: „кіраўнік латышскай нацыяналістычнай арганізацыі” Вільгельм Кнорын, „трацкіст” Аляксандр Крыніцкі, „удзельнік змовы ў кіраўніцтве РСЧА” Ян Гамарнік і „англійскі шпіён” Мікалай Гікала[7]. Сярод рэабілітаваных у Маскве беларускіх партыйных кіраўнікоў пераважалі „верныя ленінцы”, многія з якіх самі былі злачынцамі. У студзені 1957 г. Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР прызнала сфальсіфікаванай крымінальную справу аднаго з арганізатараў рэпрэсій у БССР Васіля Шаранговіча[8]. У маі 1958 г. старшыня Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС Мікалай Швернік паведаміў Хрушчову пра ўдзел у правядзенні палітычных рэпрэсій першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі, у прыватнасці аб яго ролі ў незаконным арышце і катаваннях у 1939 г. старшыні СНК БССР Апанаса Кавалёва[9].

Пасля першых сакратароў ЦК КПБ былі перагледжаны і прызнаны сфальсіфікаванымі справы шэрагу прадстаўнікоў партыйнай, савецкай і вайсковай эліты, у т. л. Аляксандра Чарвякова, Мікалая Галадзеда, Мікалая Дзеніскевіча, Вацлава Багуцкага, Івана Васілевіча, Язэпа Каранеўскага, Марыі Муратавай, Аляксандра Аўгустайціса, Ераніма Убарэвіча ды інш. Рэабілітацыя прадстаўнікоў наменклатуры ніжняга звяна была выбарачнай. Напрыклад, летам 1958 г. Вярхоўны суд БССР пакінуў без змены прысуд беламу сакратару Любанскага райкама партыі Пятру Кардашу, які з 1938 па 1942 г. знаходзіўся ў Паўночна-Усходнім лагеры НКУС[10].

---

[6] Тамсама, с. 144.

[7] Тамсама, с. 220, 236, 272.

[8] *Реабилитация: как это было. Февраль 1956 — начало 80-х годов*. Т. 2, Москва 2003, с. 296.

[9] Тамсама, с. 321.

[10] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), ф. 99, воп. 6, спр. 284, арк. 132.

Працэдура рэабілітацыі была даволі складанай. Следчыя і ваенныя юрысты праводзілі праверку справы, падчас якой збіралася інфармацыя аб рэпрэсаваным, запрошваліся архіўныя даведкі, выклікаліся сведкі. Пасля гэтага рабілася заключэнне, на падставе якога пракурор БССР выносіў на разгляд Вярхоўнага суда пратэст па справе. Суд даваў заключэнне аб рэабілітацыі, перакваліфікаванні справы ці захоўванні ранейшага прысуду.

Паводле ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у верасні 1954 г. па пратэстах пракурора рэспублікі перагляд рашэнняў былых калегій АДПУ, „двоек" і „троек" НКУС распачаў Вярхоўны суд БССР. Да канца года было перагледжана 726 спраў, па якіх праходзіла 806 асуджаных „за контррэвалюцыйныя выступленні" па артыкуле 72 Крымінальнага кодэкса БССР. У дачыненні толькі да 30 з іх абвінавачанні былі зняты як неабгрунтаваныя. Да астатніх быў ужыты ўказ ад 27 сакавіка 1953 г. „Аб амністыі", а некалькі палітычных спраў было перакваліфікавана ў крымінальныя. Сярод рэабілітаваных Вярхоўным судом БССР напрыкацы 1954 г. было 13 пісьменнікаў, асуджаных 5 кастрычніка 1937 г. за прыналежнасць да „нацыяналі-




**Нататнік з лагернымі вершамі Сяргея Грахоўскага. 1943–1944 гг. БДАМЛіМ**



**Сяргей Грахоўскі выступае перад школьнікамі. 1960-я гг. БДАМЛіМ**

стычнай контррэвалюцыйнай арганізацыі". Большасць з іх, у т. л. Міхась Зарэцкі, Змітрок Астапенка, Васіль Каваль, Платон Галавач і Барыс Мікуліч, ужо не маглі даведацца пра гэта рашэнне[11].

З мэтай паскарэння тэмпаў, а таксама спрашчэння працэдуры рэабілітацыі 4 мая 1954 г. Прэзідыум ЦК КПСС прыняў пастанову „Аб стварэнні Цэнтральнай камісіі і мясцовых камісій па пераглядзе спраў асуджаных за „контррэвалюцыйныя злачынствы", якія ўтрымліваюцца ў лагерах, калоніях і турмах і знаходзяцца ў ссылцы на пасяленні"[12]. Па запытах камісіі органы дзяржбяспекі дасылалі архіўныя следчыя справы, паводле якіх прымалася рашэнне аб рэабілітацыі, змякчэнні пакарання альбо правамоцнасці прысудаў „двоек" і „троек" НКУС. Ранейшая судзімасць з асоб, якія вызваляліся з ссылкі на пасяленне, не здымалася. Знаёміць зняволеных і ссыльных з выпіскамі з пратаколаў камісій па іх справах было забаронена.

У БССР дзейнічалі абласныя камісіі па пераглядзе спраў асуджаных за „контррэвалюцыйныя злачынствы", якія былі створаны ў чэрвені 1954 г. Усяго на працягу першага года існавання сем абласных камісій разглядзелі 13 631 справу, па якіх праходзіла 23 367 „ворагаў народа". З іх рэабілітавана было толькі 312 чалавек (1,3 %), 13 130 асуджаным (56 %) было адмоўлена ў пераглядзе, 7 091 зняволенаму (30,3 %) скарацілі тэрмін пакарання, 2 250 (9,6 %) — даравалі амністыю, 367 (1,6 %) — перакваліфікавалі склад злачынства, 137 (0,6 %) — адмянілі ссылку на пасяленне, 80 (0,3 %) — адклалі перагляд спраў[13].

Мізэрная колькасць асоб, прызнаных ахвярамі масавых рэпрэсій, у значнай ступені тлумачылася нейтральна-варожым стаўленнем да працэсу рэабілітацыі мясцовага партыйнага кіраўніцтва. Гэту думку ілюструе наступная вытрымка з датаванай 24 мая 1955 г. дакладной запіскі першага сакратара Гродзенскага абкама партыі Фёдара Баранава першаму сакратару ЦК КПБ Мікалаю Патолічаву: „За апошні час на тэрыторыю Гродзе-

---

[11] Тамсама, спр. 232, арк. 2–6, 25.

[12] *Реабилитация: Как это было.* Т. 1, с. 116.

[13] НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 50, арк 95.

нскай вобл. вярнулася з месцаў зняволення 1 356 чалавек, раней асуджаных за розныя контррэвалюцыйныя злачынствы. Некаторыя з тых, хто вярнуўся з лагераў і турмаў, спрабуюць аднавіць антысавецкую дзейнасць, вядуць антыкалгасную агітацыю, распаўсюджваюць правакацыйныя, паражэнчыя выдумкі і пагражаюць расправай сведкам, якія выкрылі іх злачынствы на судзе. Усё гэта адмоўна ўплывае на правядзенне дзяржаўна-палітычных мерапрыемстваў у вобласці, асабліва ў Сапоцкінскім, Гродзенскім, Шчучынскім, Васілішкаўскім і некаторых іншых раёнах”. Мелася ў дакладной Баранава таксама інфармацыя пра канкрэтных людзей, якіх, на яго думку, трэба было неадкладна вярнуць у лагер. Сярод іх згадваўся Анатоль Бутрымовіч, сябра „Беларускага камітэта”, які дзейнічаў у Васілішкаўскім раёне[14].

24 сакавіка 1956 г. выйшаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР „Аб разглядзе спраў на асоб, якія адбываюць пакаранне за палітычныя, службовыя і гаспадарчыя злачынствы”. Дзеля яго выканання было створаны 97 камісій, якія ўзначальваліся сакратарамі партарганізацый рэспублік і аўтаномій. Сябры камісій працавалі непасрэдна ў месцах пазбаўлення волі, размаўлялі са зняволенымі, знаёміліся са следчымі матэрыяламі, пасля чаго прымалі калегіяльныя рашэнні.

У пачатку красавіка 1956 г. разгарнула дзейнасць камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР па Беларускай ССР, якую ўзначаліў сакратар ЦК КПБ Ціхан Кісялёў. Яна працавала больш за год і выявіла шматлікія факты грубага парушэння законнасці органамі НКУС і судова-пракурорскімі работнікамі. Праца камісіі паказала, што многія грамадзяне прыцягваліся да крымінальнай адказнасці неабгрунтавана, па фармальных прыкметах і пры адсутнасці ў іх дзеяннях складу злачынства. Вельмі часта людзі асуджаліся да працяглых тэрмінаў пазбаўлення волі за малазначныя злачынствы, без уліку канкрэтных дзеянняў і асобы абвінавачанага. Камісія ўстанавіла факты фармальна-бюракратычнага разгляду скаргаў зняволеных у органах пракуратуры і судах. Многія зняволеныя дзясяткі разоў звярталіся са скаргамі на няправільнае асуджэнне ў Пракуратуру БССР і Вярхоўны суд БССР, адкуль атрымлівалі неабгрунтаваныя адказы аб адмове ў пераглядзе іх спраў. За першыя 5 месяцаў камісія разглядзела 732 судовыя справы, вызваліла са зняццем судзімасці 224 асуджаныя[15].

Таксама адбывалася амністыя сасланых і спецпасяленцаў, у т. л. „кулакоў” з сем’ямі, „ворагаў народа”, якія адбылі тэрмін пакарання і былі сасланы на пасяленне, а таксама выселеных з памежных раёнаў памешчыкаў, фабрыкантаў, гандляроў. 19 красавіка 1954 г. Прэзідыум ЦК КПСС прыняў пастанову „Аб вызваленні з ссылкі раней асуджаных за «антысавецкую дзейнасць» на тэрмін да 5 гадоў”[16]. Паводле сакрэтнага загада Ге-

---

14 Тамсама, арк. 255.

15 Тамсама, воп. 62, спр. 446, арк. 361.

16 *Реабилитация: как это было.* Т. 1, с. 112.

неральнага пракурора СССР, міністраў юстыцыі і ўнутраных спраў, а таксама старшыні КДБ СССР ад 19 мая 1954 г. пачаўся перагляд спраў сем'яў „кулакоў" і дэпартаваных асоб, якія знаходзіліся на спецпасяленнях. З чэрвеня 1954 па чэрвень 1955 г. Пракуратура БССР разглядзела 14 412 падобных спраў, па якіх праходзіў 24 451 спецпасяленец. 13 851 з іх у пераглядзе іх спраў было адмоўлена[17].

Пачаўся перагляд спраў грамадзян, асуджаных за супрацоўніцтва з нямецкімі акупантамі. У сакавіку 1955 г. вызвалілі з-пад варты і спынілі крымінальны пераслед ураджэнца Навагрудскага раёна Антона Бесараба, 1928 г. нар. Ён быў асуджаны на 25 гадоў за прымусовую працу на нямецкіх ваенна-тэхнічных аб'ектах, што было перакручана следчым як „падрыхтоўка ў выведна-дыверсійнай школе ў Германіі"[18]. Паводле ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 17 верасня 1955 г. „Аб амністыі савецкіх грамадзян, якія супрацоўнічалі з акупантамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны 1941–1945 гг.", вызваленню са зняццем судзімасці падлягалі асобы, асуджаныя за службу ў нямецкай арміі, паліцыі і спецыяльных нямецкіх фармаваннях. У органы дзяржбяспекі Гродзенскай, Брэсцкай і Маладзечанскай абласцей пачалі прыходзіць дзясяткі людзей, якія гадамі хаваліся ад савецкай улады па лясах і на аддаленых хутарах[19].



**Газазваршчык Д. Татур здымае краты з будынка былой Маладзечанскай турмы. 1960 г. БДАКФФД**

1 красавіка 1955 г. агульная колькасць разгледжаных у БССР спраў палітзняволеных дасягнула 19 136. З іх толькі 265 спраў (каля 1,5 %) было спынена з адменай прысудаў па іх. Асуджаным па 5 915 справах скарацілі тэрмін пакарання, асуджаных па 2 086 справах вызвалілі паводле ўказа „Аб амністыі", асуджаным па 263 справах перакваліфікавалі склад злачынства, па 120 справах — адмянілі высылку на спецпасяленне, па 77 — прынялі „іншыя рашэнні". 10 410 спраў абласныя камісіі адмовіліся пераглядаць[20]. Такім чынам, большасць рэпрэсаваных паводле палітычных артыкулаў амнісціравалі, а не рэабілітавалі. Адсутнасць падстаў да ары-

[17] НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 50, арк. 100.
[18] Тамсама, спр. 56, арк. 147–150.
[19] Тамсама, воп. 100, спр. 6, арк. 87.
[20] *Реабилитация: как это было.* Т. 1, с. 213.

шту палітзняволеных прызнавалася толькі ў адзінкавых выпадках. У абсалютнай большасці выпадкаў ступень вінаватасці асуджанага пераглядалася і пакаранне змяншалася. Часцей за ўсё асуджанаму залічваўся тэрмін, які ён ужо фактычна адбыў у лагеры ці турме.

Перагляд спраў рэпрэсаваных адбываўся марудна. На рашэнне камісій па пераглядзе спраў асуджаных па „контррэвалюцыйных злачынствах" уплывала шмат фактараў. Звярталі ўвагу на артыкул, паводле якога асоба была прыцягнута да адказнасці, на яе сацыяльнае паходжанне, партыйнасць, працоўную біяграфію, паводзіны ў зняволенні, узрост. Не меншае значэнне мела асабістае стаўленне членаў камісій да „ворагаў народа". Судовыя інстанцыі ў працэсе рэабілітацыі фактычна зыходзілі з прэзумпцыі вінаватасці. Не падлягалі рэабілітацыі трацкісты, апартуністы, эсэры, меншавікі, прадстаўнікі іншых сацыялістычных партый. З мэтай утойвання маштабу рэпрэсій родным расстраляных і загінулых у лагерах людзей выдавалі даведкі, дзе пазначаліся негвалтоўныя абставіны („памёр ад сардэчнай недастатковасці") і непраўдзівыя даты (якія хавалі масавыя расстрэлы 1937–1938 гг.) смерці. Вынікі перагляду судом спраў незаконна рэпрэсаваных паведамляліся ім ці іх сваякам органамі міліцыі.

Шмат часу займала перапіска следчых пракуратуры, вайсковых юрыстаў, супрацоўнікаў КДБ, замова неабходных дакументаў, апытанне сведкаў і г. д. Падчас рэабілітацыі асуджанага ў 1940 г. за „прапаганду нацыяналістычных ідэй і паклёп на савецкую дзяржаву" да 8 гадоў лагера паэта Нічыпара Чарнушэвіча праводзілася экспертыза яго твораў, дзеля чаго была створана адмысловая філалагічная камісія[21].

Кіраўніцтва БССР насцярожана ставілася да вяртання на радзіму былых „ворагаў народа". Людзі, якія вярталіся з месцаў зняволення, заставаліся пад пільным наглядам. Органы дзяржаўнай бяспекі адсочвалі іх сувязі, кантралявалі перапіску, імкнуліся вызначыць погляды. 12 снежня 1956 г. першы сакратар ЦК КПБ Кірыл Мазураў паведамляў у ЦК КПСС: „За апошнія тры гады ў БССР з месцаў зняволення вярнулася каля 17 тыс. чалавек, раней асуджаных за антысавецкую дзейнасць. З іх былі асуджаны як агенты замежных разведорганаў — 127, удзельнікі антысавецкіх арганізацый — 60, нацыяналісты — 704, тэрарысты — 11, здраднікі і памагатыя, якія служылі ў нямецкіх карных органах, — 6 204, бандыты і іх памагатыя — 1 147 чалавек. Ксяндзоў — 60. ЦК КПБ лічыць неабходным інфармаваць ЦК КПСС аб тым, што апошнім часам многія прыбылыя са зняволення зноў вяртаюцца да злачыннай дзейнасці: адкрыта выказваюць антысавецкія настроі, спрабуюць аднавіць варожую дзейнасць супраць нашай дзяржавы, пагражаюць тым грамадзянам, якія раней бралі ўдзел у іх выкрыцці і нават здзяйсняюць забойствы на глебе помсты".

---

[21] НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 50, арк. 98.

Паведамленне партыйнага кіраўніка канчалася просьбай разгледзець пытанне аб „мэтазгоднасці датэрміновага вызвалення асоб, асуджаных за антысавецкую дзейнасць, а таксама аб забароне гэтым асобам пражываць у памежных абласцях рэспублікі”[22]. У тым жа годзе Мазураў забараніў вяртаць маёмасць членам сем’яў вызваленых са спецпасялення беларускіх нацыяналістаў[23].

Тым не менш у грамадстве насцярожанае стаўленне да тых, хто вяртаўся з гулагаўскага пекла, паступова змянялася на прыязнае. Напрыканцы 1962 г. газета „Знамя юности” змясціла рэцэнзію на аповесць Аляксандра Салжаніцына „Адзін дзень Івана Дзянісавіча”. Яе аўтар — рабочы Салігорскага калійнага камбіната, — у прыватнасці, пісаў: „Гэты цікавы і павучальны твор адкрывае горкую праўду пра лагеры і будзе надзвычай папулярны ў чытача”[24]. Пісьменнік Васіль Хомчанка, адсядзеўшы з 1937 па 1941 г. у Ніжне-Амурскім лагеры і рэабілітаваны толькі ў 1969 г., выступаючы на V з’ездзе пісьменнікаў Беларусі (1966), прапанаваў назваць вуліцы Менска імёнамі Мікалая Галадзеда, Аляксандра Чарвякова, Зміцера Жылуновіча і Васіля Шаранговіча[25]. Гэта прапанова ўвасобілася ў жыццё ў 1967 г. у адносінах толькі да першых двух дзеячаў.

На працягу 1956 — першай паловы 1961 г. Вярхоўны суд БССР разглядзеў звыш 30 тыс. спраў у адносінах да больш як 50 тыс. чалавек і вызваліў з лагераў і пасяленняў каля 40 тыс. жыхароў БССР. Яшчэ звыш 20 тыс. жыхароў рэспублікі за перыяд з 1954 па 1961 г. вызваліла з рознымі фармулёўкамі Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР па прадстаўленні ваеннай пракуратуры Беларускай вайсковай акругі[26]. Сярод іншых абвінавачанні былі зняты з шэрагу выдатных дзеячаў навукі і культуры, у т. л. Івана Бялькевіча, Восіпа Дылы, Міхайлы Грамыкі, Васіля Дружчыца, Сяргея Дубінскага, Міколы Каспяровіча, Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Ляўданскага, Язэпа Лёсіка, Міхася Мялешкі, Сцяпана Некрашэвіча, Аркадзя Смоліча, Аляксея Туранкова, Аляксандра Шлюбскага, Міколы Шчакаціхіна ды інш. Суд пераглядзеў сфабрыкаваныя ў 1933 г. справы работнікаў сельскай гаспадаркі, лясной прамысловасці, выдавецтваў, медработнікаў[27].

Няпростым быў шлях да рэабілітацыі асуджаных па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтра”, сфабрыкаванай супраць дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі, якія пераехалі ў БССР у 1930–1931 гг. Першы раз да перагляду гэтай справы звярнуліся ў снежні 1955 г.

---

22 Тамсама, воп. 62, спр. 444, арк. 512, 514.
23 Тамсама, спр. 445, арк. 214.
24 Н. Соловьев, *Правда горькая и необходимая*, „Знамя юности”, 1962, № 253, с. 3.
25 Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ), ф. 78, воп. 1, спр. 145, арк. 110.
26 У. Адамушка, *Палітычныя рэпрэсіі*... с. 142.
27 НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 56, арк. 121.

у заключэнні КДБ БССР па выніках дадатковага расследавання адзначалася, што ўсе 97 чалавек асуджаны слушна. Аднак трыбунал Беларускай вайсковай акругі палічыў, што справа вывучана недастаткова, а матэрыялы па яе пераглядзе падрыхтаваны дрэнна. Падчас паўторнага разгляду справы, які адбываўся пасля XX з'езда КПСС у жніўні 1956 г., былі даказаны яе беспадстаўнасць, фальсіфікаванасць, высветлены прычыны прызнанняў абвінавачаных, якія рабіліся ў выніку ўжывання недазволеных метадаў вядзення следства. Сярод пасмяротна рэабілітаваных па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтра" былі вядомыя грамадскія дзеячы Ігнат Дварчанін, Пятро Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павал Валошын, Флягонт Валынец, Язэп Гаўрылік ды іншыя асобы[28].

Пасля з'яўлення ў кастрычніку 1956 г. указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР „Аб адмене крымінальнай адказнасці грамадзян за здраду Радзіме, здзейсненую іх сваякамі" нагадалі пра сябе ўдовы рэпрэсаваных, якія пасля арышту мужоў апынуліся ў Акмолінскім лагеры жонак здраднікаў радзімы. Рэабілітацыі падлягалі жонка старшыні СНК БССР Данілы Валковіча — Ганна, жонка наркама асветы і рэктара БДУ Ананія Дзякава — Марыя, жонка пісьменніка Мойшэ Кульбака — Зэльда, жонка супрацоўніка газеты „Штэрн" і Інстытута яўрэйскай пралетарскай культуры БелАН Арона Валабрынскага — Іда. Спадарожніца жыцця вядомага дзяржаўнага дзеяча Аляксандра Хацкевіча — Лідзія — адбывала тэрмін пакарання ў лагерах Мардовіі[29].

Распачалася рэабілітацыя сялян, якія ўтваралі найбольш шматлікую сацыяльную групу рэпрэсаваных. У ліку першых у верасні 1955 г. Магілёўскі абласны суд зняў абвінавачанні ў „антысавецкай агітацыі, накіраванай на зрыў калгаснага будаўніцтва" з сялян-адзінаасобнікаў в. Ліпаўка Касцюковіцкага раёна Міхайлы Іванкова, 1878 г. нар., Мікалая Папова, 1876 г. нар., а таксама калгаснікаў Мяфодзія Бяспалава, 1882 г. нар., Матвея Дуняшонка, 1880 г. нар., Арцёма Абрамянкова, 1885 г. нар., і Парфірыя Абрамянкава, 1889 г. нар., расстраляных у сакавіку 1933 г.[30]

Рэабілітацыя ахвяр палітычных рэпрэсій уключала не толькі юрыдычнае прызнанне грамадзян невінаватымі, але таксама кампенсацыйныя захады, узнаўленне страчанага ў выніку незаконнай рэпрэсіі. Вяртанне людзей у месцы ранейшага пражывання цягнула за сабою праблемы, звязаныя з прадастаўленнем ім жытла, працы і г. д. Дзеля адаптацыі рэабілітаваных асоб да вольнага жыцця 8 верасня 1955 г. выйшла пастанова Прэзідыума ЦК КПСС „Аб працоўным стажы, працаўладкаванні і пенсійным забеспячэнні грамадзян, неабгрунтавана прыцягнутых да крыміна-

[28] У. Адамушка, *Палітычныя рэпрэсіі*... с. 93.

[29] Музейно-мемориальный комплекс жертв политических репрессий и тоталитаризма „АЛЖИР", [online] https://museum-alzhir.kz/ru/o-muzee/statistika, [дата доступу: 10.01.2023].

[30] НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 50, арк. 152–153.

льнай адказнасці і пасля рэабілітаваных". У адпаведнасці з ёй, рэабілітаваным грамадзянам тэрмін зняволення залічваўся ў іх агульны працоўны стаж з выплатай двухмесячнага заробку на апошнім месцы працы. Кіраўнікі ўстаноў, арганізацый і прадпрыемстваў абавязваліся браць на работу рэабілітаваных. Гады зняволення залічваліся ў працоўны стаж пры прызначэнні пенсій, а ў выпадку пасмяротнай рэабілітацыі пенсіі прызначаліся сем'ям загінулых. Выканкамы былі павінны забяспечваць рэабілітаваных жыллёвай плошчай у першую чаргу[31]. 17 ліпеня 1959 г. дзеянне пастановы „Аб працоўным стажы, працаўладкаванні і пенсійным забеспячэнні..." з некаторымі абмежаваннямі было распаўсюджана на высланых у адміністрацыйным парадку па палітычных матывах[32].

Рэалізацыя гэтых заканадаўчых актаў сутыкалася не толькі з супрацьдзеяннем чыноўнікаў-сталіністаў розных рангаў, але таксама абмежаванымі матэрыяльна-фінансавымі рэсурсамі савецкай дзяржавы. Пра гэта сведчылі шматлікія лісты, якія ішлі ў вышэйшыя партыйныя органы. Жыхар Віцебскай вобл. Г. Крэмзо пісаў у ЦК КПСС: „Вось ужо трэці год пасля вызвалення знаходжуся ў цяжкім становішчы. Усе мае намаганні атрымаць пенсію беспаспяховыя, бо не магу прадставіць дакументаў аб ранейшым працоўным стажы. Яны былі забраны пры арышце. У г. Севастопалі даваенных архіваў не захавалася. Працаваў там цырульнікам у санаторыі «Сасноўка», але цяпер мне забаранілі там працаваць, як хвораму на сухоты. Кватэры не маю, сплю ў майстэрні, але пакуль яшчэ на жыццё зарабляю, а што будзе далей — не ведаю. Няўжо да смерці я павінен па віне шкоднікаў заставацца ізгоем пры ўладзе, за якую змагаўся"[33].

У кожным канкрэтным выпадку рашаючае значэнне мела вага асобы ці арганізацыі, якая хадайнічала за сямейнікаў рэпрэсаванага. Многіх падтрымаў першы сакратар ЦК ЛКСМБ Глеб Крыўлін. Ён прасіў Савет Міністраў рэспублікі дапамагчы грашыма ўдаве расстралянага ў 1937 г. першага сакаратара ЦК ЛКСМБ Аляксандра Аўгустайціса Лідзіі[34], хадайнічаў аб выдзяленні кватэры ўдаве расстралянага ў 1938 г. сакратара Менскага гаркама камсамола Георгія Куксевіча Марыі[35] ды інш. У 1957 г. праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася ў ЦК КПБ аб прызначэнні персанальнай пенсіі ўдаве Тодара Кляшторнага Яніне[36]. У 1966 г. старшыня праўлення Беларускага тэатральнага таварыства Ларыса Александроўская звярнулася да Пятра Машэрава з просьбай дапамагчы дачцы Уладзіслава Галубка Эміліі атрымаць кватэру, „«бо яна туліцца са сваякамі (усяго 6 чалавек) у мале-

31 *Реабилитация: как это было.* Т. 1, с. 258.
32 Тамсама. Т. 2, с. 338.
33 Тамсама, с. 61.
34 НАРБ, ф. 63п, воп. 19, спр. 14, арк. 39.
35 Тамсама, спр. 15, арк. 28.
36 БДАМЛіМ, ф. 78, воп. 1, спр. 75, арк. 104.

нькай хацінцы плошчай 17 кв. метраў, падараванай ёй у свой час мастаком Яўгенам Ціхановічам». Неўзабаве выканкам Савецкага райсавета Менска пастанавіў уключыць сваякоў Галубка ў чаргу на атрыманне кватэры на агульных падставах пад нумарам 3 535”[37].

Забеспячэнне рэабілітаваных кватэрамі ва ўмовах хранічнага дэфіцыту жылля ў сталіцы БССР было няпростай задачай. Рэабілітаванага ў снежні 1954 г. беспрытульнага Яна Скрыгана Саюз пісьменнікаў БССР у якасці кампрамісу накіраваў у дом адпачынку ў Каралішчавічах[38]. Рэабілітаваны паэт і празаік Станіслаў Шушкевіч напачатку 1960-х гг. разам з пяццю членамі сям’і туліўся ў пакоі памерам у 23,5 метра[39]. Зняволенне ў ГУЛАГу было важкім аргументам падчас размеркавання жытла, прынамсі ў пісьменніцкай арганізацыі. Пра гэта сведчыць вытрымка з выступлення Андрэя Макаёнка на прысвечаным кватэрнаму пытанню сходзе Саюза пісьменнікаў, які адбыўся ў студзені 1963 г.: „Двухпакаёвыя кватэры: Пальчэўскаму — чалавек, які шмат гадоў адбухаў ні за што. Гаўруку — таксама па гэтай прычыне, шмат гадоў адбухаў у лагерах і зараз па сутнасці жыве ў камеры. Мальцінскаму — інвалід Айчыннай вайны, сядзеў ні за што, вялікая сям’я”[40].

Рэабілітацыя прадстаўнікоў беларускага літаратурнага цэху, каля 90 % прадстаўнікоў якога стала ахвярамі сталінскага рэжыму, мела найбольш публічны характар. Саюз пісьменнікаў БССР не толькі аднаўляў сяброўства пацярпелых ад рэпрэсій паэтаў, празаікаў, літаратурных крытыкаў (у т. л. пасмяротна), але хадайнічаў перад Дзяржаўным выдавецтвам БССР і рэдактарамі перыядычных выданняў аб публікацыі іх твораў, ладзіў вечарыны памяці. Падобным чынам у 1962 г. было адзначана 60-годдзе Міколы Нікановіча, у 1963 г. — 60-годдзе Платона Галавача, у 1966 г. — 60-годдзе Андрэя Александровіча і 70-годдзе Мойшэ Кульбака. У 1959 г. на доме ў Капылі, дзе нарадзіўся Цішка Гартны, была ўсталявана мемарыяльная шыльда[41]. А вось 70-годдзе М. Галадзеда было адзначана толькі невялікім газетным артыкулам[42].

Вызваленне з ГУЛАГа былых „ворагаў народа” заканамерна ўздымала пытанне аб адказнасці прадстаўнікоў улады. Многія рэабілітаваныя захоўвалі ў памяці не толькі жахлівыя гады зняволення ў ГУЛАГу, але таксама імёны тых, хто іх туды накіраваў. У шэрагу выпадкаў справядлівасці дамагаліся сваякі рэпрэсаваных. Напрыклад, пісьменнік Аляксей Кулакоўскі ў 1961 г. дамогся выключэння з партыі былога начальніка Старобінскага райаддзела НКУС М. Гарбачэўскага, ахвярай якога быў яго бацька[43].

---

[37] Тамсама, ф. 156, воп. 1, спр. 90, арк. 81.
[38] Тамсама, ф. 78, воп. 1, спр. 66, арк. 107.
[39] Тамсама, спр. 92, арк. 10.
[40] Тамсама, ф. 78, воп. 1, спр. 92, арк. 3.
[41] *Ушанаванне памяці Цішкі Гартнага*, „Літаратура і мастацтва”, 1959, № 55, с. 3
[42] В. Якутов, *Верный сын белорусского народа*, „Знамя юности”, 1964, № 102, с. 3.
[43] НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 450, арк. 7.

Выпадак Кулакоўскага быў нетыповы. Пакаранне супрацоўнікаў рэпрэсіўнага апарата АДПУ–НКУС–МДБ ініцыявалі пераважна камісіі па перагляду спраў асуджаных. Аднак апошняе слова ў гэтай далікатнай справе было за рэспубліканскім партыйным кіраўніцтвам, якое дзейнічала ў дачыненні супрацоўнікаў карных органаў асцярожна і непублічна. Юрыдычна іх учынкі ніяк не кваліфікаваліся. Чэкістаў, вінаватых у „парушэнні сацыялістычнай законнасці", звычайна звальнялі з органаў і выключалі з партыі.

Адным з першых у 1954 г. „за незаконныя метады вядзення следства па справах арыштаваных за дзяржаўныя злачынствы ў 1949–1953 гг." згубіў працу начальнік 4-га лагернага аддзялення Упраўлення папраўча-працоўных лагераў і калоній МУС БССР падпалкоўнік Мікалай Сцяпанаў[44]. У тым жа годзе быў выпушчаны з Азёрлагу (рэабілітаваны ў 1956 г.) былы міністр асветы БССР Платон Саевіч, асуджаны ў 1951 г. да 25-гадовага тэрміну за адмову рэдагаваць кнігу міністра дзяржбяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы. Праз некалькі месяцаў пасля вызвалення былога міністра „за парушэнне сацыялістычнай законнасці па справе Саевіча" з праваахоўных органаў звольнілі маёра Амяльяна Крупянкова, які катаваў міністра адукацыі на канвеерных допытах[45].

У жніўні 1955 г. да першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Патолічава звярнуўся звольнены па службовай неадпаведнасці намеснік начальніка турмы № 3 Упраўлення МУС па Віцебскай вобл. Т. Ільянкоў. Яго звальненне было вынікам перагляду г. зв. „латышскай справы" і рэабілітацыі асуджаных летам 1938 г. да расстрэлу і розных тэрмінаў зняволення 66 грамадзян латышскай нацыянальнасці. У лісце партыйнаму кіраўніку былы следчы спрабаваў прадставіць сябе ў якасці ахвяры кіраўніцтва — начальніка Упраўлення НКУС па Віцебскай вобл. капітана дзяржбяспекі П. Раднова, яго намесніка лейтэнанта дзяржбяспекі Г. Уласава і начальніка 3-га аддзялення мал. лейтэнанта дзяржбяспекі С. Левіна[46].

У прыватнасці, Ільянкоў пісаў: „10 жніўня 1938 г. з пасады намесніка палітрука РСЧА я быў накіраваны на працу ў НКУС на пасаду оперупаўнаважанага Сіроцінскага райаддзялення. У тым жа месяцы па загаду начальніка Упраўлення НКУС Віцебскай вобл. мяне пачалі выкарыстоўваць на следчай працы. Да гэтага я на следстве ніколі не працаваў. Па ўказанні начальства я браў арыштаванага на допыт і вёў яго паводле кароткай даведкі, якая з'яўлялася падставай для арышту, ці сведчанняў іншых арыштаваных. Паказанні арыштаванага мною запісвалася так, як казаў арыштаваны. Пратаколы дапытаных мною арыштаваных начальству не падабаліся ў сувязі з тым, што большасць дапытаных не прызнавалася ў прад'яўленым

---

[44] Тамсама, воп. 100, спр. 24, арк. 81.

[45] Тамсама, спр. 11, арк. 86.

[46] Падчас чысткі апарата НКУС у 1939 г. П. Радноў быў расстраляны, Г. Уласаў і С. Левін асуджаны на 10 гадоў.

абвінавачанні. Мае пратаколы абмяркоўваліся на нарадах як дрэнны вынік працы, а пасля рваліся начальнікам аддзялення Левіным. Ён жа прапанаваў перадапытаць абвінавачаных, дамагаючыся прызнальных паказанняў. Мне начальства паведаміла, што ўсе арыштаваныя з'яўляюцца ворагамі народа, кожны з іх належыць да антысавецкага фармавання, і той следчы, хто не робіць захады да выкрыцця арыштаванага, як дзяржаўнага злачынца, сам з'яўляецца памагатым ворагаў народа. Віны маёй у дадзенай справе як парушальніка сацыялістычнай законнасці не ўгледжваецца, бо я па сваёй нявопытнасці выконваў злачынны загад начальства, лічыў, што выконваю службовы абавязак. У той час я быў кандыдатам у члены партыі і разабрацца ў бягучым становішчы не мог"[47].

Пастанова сакратарыята ЦК КПСС ад 12 кастрычніка 1956 г. „Аб пакаранні супрацоўнікаў органаў бяспекі, якія ўдзельнічалі ў рэпрэсіях"[48] справакавала новую хвалю звальненняў з праваахоўных органаў асоб, вінаватых у катаванні арыштаваных. Тлумачыць учынкі, здзейсненыя падчас вялікага тэрору, давялося начальніку Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС палкоўніку І. Варановічу[49]. Тады ж Мікалай Патолічаў даручыў Віцебскаму абкаму вырашыць пытанне аб партыйнасці падпалкоўніка КДБ А. Мірановіча[50].

Выконваючы дырэктывы Прэзідыума ЦК КПСС, парушальнікаў „сацыялістычнай законнасці" шукала ва ўласных шэрагах кіраўніцтва КДБ БССР. У ліку першых за фальсіфікацыю следчых матэрыялаў і ўжыванне незаконных метадаў следства былі пакараны начальнік псіхафізічнай лабараторыі КДБ БССР палкоўнік С. Абрамовіч, намеснік начальніка 2-га аддзела Упраўлення КДБ па Менскай вобл. падпалкоўнік С. Клюкін, намеснік начальніка Упраўлення КДБ па Гомельскай вобл. палкоўнік Барыс Рудкоўскі ды інш.[51] Супрацоўнік КДБ ЛітССР Яўген Канстанцінаў на допыце ў 1956 г. так згадваў сваю дзейнасць у 3-м (контрвыведным) аддзеле Упраўлення дзяржбяспекі НКУС БССР у часы вялікага тэрору: «У пачатку маёй працы на следстве мяне навучыў біць арыштаваных Фіш[52]. На нарадах, якімі кіраваў Гепштэйн[53], ён даваў устаноўкі следчым „калоць" арыштаваных як заўгодна, але каб адно выкрыццё на дзень у следчага было»[54].

Найбольш гучнае звальненне па фактах дыскрэдытацыі звання супрацоўніка органаў дзяржаўнай бяспекі адбылося ў ліпені 1958 г., калі службовае

47 НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 49, арк. 28–31.
48 *Реабилитация: как это было.* Т. 2, с. 188.
49 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 450, арк. 595.
50 Тамсама, воп. 53, спр. 58, арк. 351.
51 Тамсама, спр. 50, арк. 99.
52 Леў Фіш — мал. лейтэнант дзяржбяспекі, у 1937–1938 гг. супрацоўнік 3-га аддзела Упраўлення НКУС БССР.
53 Аляксандр Гепштэйн — лейтэнант дзяржбяспекі, намеснік начальніка 3-га аддзела Упраўлення НКУС БССР. У снежні 1938 г. арыштаваны, у чэрвені 1940 г. расстраляны.
54 НАРБ, ф. 4п, воп. 53, спр. 56, арк. 131.

пасведчанне і партыйны білет давялося пакласці на стол першаму намесніку старшыні КДБ БССР Міхаілу Дзячко. Працуючы ў 1937–1938 гг. апаратыўным упаўнаважаным Мазырскага акруговага аддзела НКУС, ён ужываў забароненыя метады допыту арыштаваных, прымушаючы іх даваць паклёпніцкія паказанні на нявінных людзей, а таксама супраць сябе. Дзячко фальсіфікаваў следчыя справы, фабрыкаваў пратаколы допытаў і падрабляў подпісы арыштаваных[55]. Падчас службовага расследавання былі знойдзены праігнараваныя рознымі высокімі інстанцыямі скаргі на высокапастаўленага чэкіста. Частка скаргаў была выклікана лістом Мінфіна і КДБ СССР ад 12 лістапада 1956 г. „Аб парадку разлікаў па кампенсацыі рэабілітаваным грамадзянам кошту адабранай у іх маёмасці"[56] і змяшчала прэтэнзіі матэрыяльнага характару. У адной з іх удава матроса з крэйсера „Аўрора" Сцяпана Раманенка паведамляла пра „1 300 рублёў і 5 200 аблігацый дзяржзайму, патэфон і 120 пласцінак, радыёпрымач 1-га класа, два насценныя дываны, адрэз на жаночы гарнітур, новае драпавое мужчынскае паліто, скураную куртку, мужчынскі бастонавы гарнітур, 2 кашулі, штаны-галіфэ, 2 пары мужчынскіх галёшаў, фетравыя валёнкі, сурвэтку, 2 парцьеры, драўляны куфар для перавозкі рэчаў", забраныя ў 1937 г. М. Дзячком падчас незаконнага арышту ў Мазыры яе мужа[57].

Пакаранне скапраментаваўшых сябе ў гады праўлення Сталіна супрацоўнікаў дзяржбяспекі (у адрозненне ад падобнай кампаніі канца 1938–1939 гг.), мела сімвалічны характар. Выключэнне з партыі, канешне, перакрэслівала жыццёвыя перспектывы чалавека. Але выхад на пенсію, куды з улікам іх узросту адпраўлялася большасць пакараных, быў добрай матэрыяльнай кампенсацыяй за атрыманую маральную траўму. Напрыклад, пенсія звольненага ў 1958 г. начальніка 4-га аддзела Упраўлення КДБ БССР палкоўніка М. Асіпчыка складала 2 150 руб. у месяц, што амаль у тры разы перавышала сярэдні заробак у краіне[58].

Неад'емнай часткай сталінскіх рэпрэсій, разам з масавым гвалтам, запалохваннем і шпіёнаманіяй, былі даносы. Гэта з'ява ў сталінскім СССР, асабліва ў часы вялікага тэрору, набыла гіганцкія маштабы. Людзі пісалі на супрацоўнікаў, суседзяў, сяброў і нават на сваякоў. Да даносаў падштурхоўваў не толькі грамадска-палітычны клімат, але і тагачаснае права. Сумнавядомы артыкул 73 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 г. прадугледжваў пакаранне за „непаведамленне аб напэўна вядомым контррэвалюцыйным злачынстве, якое падрыхтоўваецца або ўжо зроблена"[59].

14 красавіка 1958 г. на стол Кірылы Мазурава лягла даведка пад назвай „Аб выніках вывучэння партыйнага архіўнага матэрыялу за 1937–38 гады".

55 Тамсама, воп. 100, спр. 7, арк. 25.
56 *Реабилитация: как это было.* Т. 2, с. 194.
57 НАРБ, ф. 4п, воп. 100, спр. 27, арк. 50–51.
58 Тамсама, воп. 62, спр. 489, арк. 32–42.
59 *Крымінальны кодэкс БССР*, Мінск 1938, с. 21.

Даведка была вынікам карпатлівай працы Камісіі па вывучэнні масавых палітычных рэпрэсій у БССР пад кіраўніцтвам намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Сцяпана Пачаніна. Даведка ўзнаўляла агульную карціну вялікага тэрору ў савецкай Беларусі, у т. л. ліпеньскі 1937 г. пленум ЦК КПБ, самазабойства Аляксандра Чарвякова, арышт „польскага шпіёна” Васіля Шаранговіча, „лепельскую справу” ды інш. Сярод іншага аўтары даведкі звярнулі ўвагу Мазурава на „непартыйныя паводзіны” тагачасных партапаратчыкаў ніжэйшага звяна, якія з дапамогай даносаў у 1937–1938 гг. зрабілі імклівую кар’еру і занялі адказныя пасады.

Адным з найбольш актыўных даносчыкаў аказалася дырэктарка Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Феонія Новікава. Падчас яе працы на пасадзе інструктара аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б было арыштавана амаль усё кіраўніцтва Камарынскага і Заслаўскага раёнаў. Пасля пераводу Новікавай на пасаду загадчыка аддзела школ і навукі ЦК ахвярамі рэпрэсій зрабіліся шматлікія работнікі народнай адукацыі Жлобінскага, Заслаўскага, Лёзненскага, Менскага і Старадарожскага раёнаў, а таксама супрацоўнікі Акадэміі навук БССР і выкладчыкі ВНУ рэспублікі[60].

Дырэктар Брэсцкага педінстытута Васіль Серафімаў, працуючы ў 1937 г. сакратаром Горацкага райкама партыі, пісаў даносы на выкладчыкаў і студэнтаў Беларускага сельскагаспадарчага інстытута, а заняўшы пасаду намесніка наркама асветы, — на кіраўнікоў органаў асветы сярэдняга звяна. Міністр юстыцыі Іван Ветраў у маі 1937 г. выкрыў вялікую групу „ворагаў народа” ў кіраўніцтве Чэрыкаўскага раёна, дзе ў той час займаў пасаду сакратара райкама партыі. Дырэктар НДІ будматэрыялаў Ісаак Чорны, з’яўляючыся ў 1937 г. інструктарам прамысловага аддзела ЦК КП(б)Б, асабіста інфармаваў наркама ўнутраных спраў БССР Барыса Бермана пра „шкоднікаў” на пасадах дырэктараў, інжынераў і тэхнікаў фабрык і заводаў рэспублікі. Некалькі дзясяткаў чалавек, у т. л. сакратары Крычаўскага і Дрыбінскага райкамаў партыі, намеснік наркама аховы здароўя, дырэктар Беларускага медінстытута, старшыня саюза фабрычна-заводскіх рабочых былі арыштаваны па даносах інструктара ЦК КП(б)Б Андрэя Кручкова. За „ўдарнае выкрыццё ворагаў народа” ў 1937 г. ён атрымаў пасаду загадчыка савецка-гандлёвага аддзела ЦК.

Падобным быў кар’ерны трамплін яшчэ аднаго маладога інструктара ЦК КП(б)Б Самуіла Гласава, які ў 1938 г. стаў памочнікам першага сакратара ЦК КП(б)Б, а на момант складання даведкі займаў пасаду намесніка міністра сельскай гаспадаркі БССР. Пошук шпіёнаў замежных выведак у вышэйшых эшалонах улады з’яўляўся нягласнай часткай прафесійных абавязкаў інструктараў аддзела кіруючых партыйных органаў ЦК КП(б)Б Генрыха Якуба і Навума Касога. Як і папярэднікі, гэтыя фігуранты даведкі

[60] НАРБ, ф. 4п, воп. 100, спр. 7, арк. 55.

Камісіі па вывучэнні масавых палітычных рэпрэсій у БССР былі паважанымі ў грамадстве людзьмі. Касой з'яўляўся начальнікам Галоўнага ўпраўлення прамыслова-тэхнічнага забеспячэння Белпрамсавета, Якуб — дацэнтам кафедры марксізму-ленінізму БДУ[61].

Выкрыццё даносчыкаў сталінскіх часоў працягнулася на ніжэйшых прыступках партыйнай іерархіі. У пратаколе пасяджэння бюро Фрунзенскага райкама КПБ Менска ад 18 сакавіка 1960 г. чытаем: „За лжывыя паказанні ў 1938 г. на члена КПСС тав. Арцёмкава Г. Г., якія з'явіліся падставай да неабгрунтаванага рэпрэсавання, члену КПСС ст. рэферэнту Савета Міністраў БССР Шычко Якаву Аляксеевічу абвясціць строгую вымову з унясеннем ва ўліковую картку”[62]. Паводле ўспамінаў Мікалая Улашчыка, «на агульнаінстытуцкім сходзе [МДПІ імя Горкага — *А. Г.*] у 1956 г. выявілася, што Палонскі[63] на 70 чалавек даносы пісаў. І нічога, сышло ўсё з рук, як ні абураліся студэнты, выкладчыкі»[64].

„Сышло з рук” большасці выяўленых у перыяд „адлігі” даносчыкаў. Яны не дачакаліся ад новага кіраўніцтва рэспублікі дзеянняў рэпрэсіўнага характару[65]. Найбольш суровым пакараннем за дзясяткі зламаных чалавечых жыццяў быў выхад на пенсію. Так зрабілі з Ф. Новікавай. С. Гласава, Н. Касога, А. Кручкова, В. Серафімава і І. Чорнага толькі панізілі на пасадзе.

Такім чынам, рэабілітацыя палітычных зняволеных, якая праводзілася ў кантэксце рэфармавання праваахоўнай сістэмы, адыграла вызначальную ролю ў дэмакратызацыі постсталінскага грамадства. Пастановай Савета Міністраў БССР ад 12 жніўня 1960 г. „Аб закрыцці некаторых турмаў і папраўча-працоўных калоній” у тым жа годзе будынкі Бабруйскай, Брэсцкай, Лідскай, Мазырскай, Маладзечанскай, Полацкай, Слуцкай турмаў, а таксама Барысаўскай, Гомельскай і Менскай ППК былі перапрафіляваны пад гаспадарчыя аб'екты[66]. Спыненне масавых рэпрэсій, змяншэнне адміністрацыйнага ціску, аднаўленне элементарных норм права сведчыла аб вялікім кроку ў напрамку пераадолення змрочнай спадчыны 1929–1953 гг.

---

61 Тамсама, спр. 26, арк. 1–31.

62 Тамсама, воп. 65, спр. 159, арк. 64.

63 Антон Васілевіч Палонскі (1903–1981) нарадзіўся ў в. Чыжыкі Слонімскага пав., скончыў БДУ (1929), у 1929–1932 гг. — дырэктар Аршанскага педтэхнікума, у 1932–1941 і 1945–1977 гг. — дацэнт кафедры гісторыі народаў СССР, дэкан гістфілфака МДПІ імя Горкага.

64 М. Улашчык, *Даць народу гісторыю*, Мінск 2016, с. 338.

65 Некаторыя з даносчыкаў спрабавалі засцерагчы сябе з дапамогай улюбёнага метаду, а менавіта даносу. Так, у красавіку 1958 г. І. Ветраў накіраваў старшыні Камісіі ЦК КПСС па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій Мікалаю Швернiку ліст, дзе пісаў: „Мною яшчэ ў маі 1954 г. была падрыхтавана запіска ў Прэзідыум ЦК КПСС аб фактах непартыйных паводзін Зімяніна, Казлова, Абрасімава і некаторых іншых, якія групаваліся вакол Цанавы і дапамагалі яму ў масавым вынішчэнні партыйных кадраў Беларусі ў 1949–1952 гг. Але не рашыўся адправіць яе, баючыся расправы са мной” (НАРБ, ф. 4п, воп. 100, спр. 26, арк. 43).

66 НАРБ, ф. 4п, воп. 62, спр. 532, арк. 3.

і мела далёкасяжныя наступствы. Усё менш людзей падзялялі веру ў эфектыўнасць карных практык сталінскіх часоў.

Разам з тым не быў распрацаваны закон аб рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій. Заканадаўчае рэгуляванне працэсу рэабілітацыі рэгламенталася рознымі партыйнымі і ведамаснымі ўказамі і пастановамі. Перагляд хрушчоўскім кіраўніцтвам сталінскай рэпрэсіўнай палітыкі меў змушаны, палавінчаты характар, які не аднавіў гістарычную справядлівасць у поўным аб'ёме. Напрыклад, з працэсу рэабілітацыі былі выключаны прадстаўнікі „буржуазных" партый, унутрыпартыйныя апазіцыянеры, святары, царскія афіцэры і чыноўнікі, сяляне, што выступалі супраць калектывізацыі, ды інш. Ва ўказах аб вызваленні асуджаных ніколі не згадвалася віна партыі — наадварот, камуністы лічыліся галоўнай ахвярай рэпрэсій. Гэта тлумачылася, з аднаго боку, рэальнай перспектывай асабістай адказнасці за ўдзел у рэпрэсіях, з іншага — небяспекай пахіснуць асновы сацыялістычнага ладу.

Пік рэабілітацыйных працэсаў прыпаў на 1959 г., пасля чаго яны пачалі запавольвацца і ў сярэдзіне 1960-х гг. фактычна спыніліся. У 1955 г. у БССР было рэабілітавана 200 чал., у 1956 г. — 112, у 1957 г. — 967, у 1958 г. — 1 096, у 1959 г. — 1 228, у 1960 г. — 505, у 1961 г. — 182, у 1962 г. — 179, у 1963 г. — 150, у 1964 г. — 63, у 1965 г. — 48, у 1966 г. — 54, у 1967 г. — 38, у 1968 г. — 14[67] Такім чынам, колькасць людзей, цалкам узноўленых у правах і рэпутацыі ў выніку ілжывага абвінавачвання (каля 5 тыс.), гублялася ў агульнай масе пацярпелых ад чырвонага тэрору жыхароў БССР (паводле розных дадзеных, ад 600 тыс. да 1,4 млн. чал.). Распачатая ў гады „адлігі" рэабілітацыя ахвяр сталінскіх рэпрэсій працягнулася ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг.

## Rehabilitation of Stalin's Repression Victims During Khrushchev „Thaw"

The article analyzes the causes, nature, and characteristics of the rehabilitation of those who had been subjected to Stalinist repressions in Soviet Belarus during Nikita Khrushchev's rule. The author demonstrates that the rehabilitation of victims of political persecution was selective on the basis of an analysis of the relevant legislative acts from this time period, as well as administrative records from the Communist Party of Belarus Central Committee and creative unions. The Khrushchev's period rehabilitation mostly impacted members of the creative elite and the highest Communist Party and Soviet administration nomenklatura. The majority of those who had been forcibly detained were pardoned, but not rehabilitated. Representatives of other socialist parties, including Trotskyists, Socialist-Revolutionaries, Bundists, and others, nevertheless carried the label „enemy of the people". The concept of „rehabilitation" was simplified by the Party and Soviet authorities, who basically reduced it to emptying the

[67] У. Адамушка, *Палітычныя рэпрэсіі...*, с. 15.

camps of political prisoners whose confinement was no longer required. The legislative structure for the rehabilitation process was poorly thought out and underdeveloped, which defined this procedure. The issue of special settlers legal standing was not resolved. By the middle of the 1960s, attempts to evaluate the Stalinist era of Soviet history had completely failed, and it wasn't until the end of 1987, when democratic changes in the USSR prompted the Soviet leaders to reconsider the topic.

## Rehabilitacja ofiar represji stalinowskich w okresie chruszczowowskiej „odwilży"

W artykule rozpatrywane są przyczyny, charakter i szczegóły przebiegu procesu rehabilitacji ofiar stalinowskich represji na Radzieckiej Białorusi w okresie rządów Nikity Chruszczowa. Na podstawie analizy aktów prawnych z omawianego okresu, dokumentów Komitetu Centralnego Komunistycznej Partii Białorusi i związków artystów autor dowodzi, że rehabilitacja ofiar represji politycznych miała charakter wybiórczy. W pierwszej kolejności objęła ona osoby na wyższych stanowiskach w nomenklaturze partyjnej i przedstawicieli elit artystycznych. Większość bezprawnie represjonowanych została amnestionowana, jednak nie uzyskali formalnej rehabilitacji. Trockiści, eserowcy, bundowcy i przedstawiciele innych partii socjalistycznych nadal nosili na sobie piętno „wrogów narodu". Kierownictwo radzieckie faktycznie ograniczyło pojęcie „rehabilitacji" do zwolnienia z łagrów więźniów politycznych, których dalsze przetrzymywanie w izolacji mijało się z celem. Proces ten charakteryzował brak przemyślanych i dopracowanych podstaw prawnych działania organów władzy.

Nierozstrzygnięta pozostała kwestia statusu prawnego osób skierowanych do miejsc specjalnego osiedlenia. Próby prawnej oceny okresu stalinowskiego historii radzieckiej czyniono do połowy lat 60. XX w. Jednakże dopiero w końcu 1987 r. w związku z naciskami społecznymi powstałymi na skutek prób reform władze zmuszone zostały do ponownego zajęcia się tą sprawą.

**dr Aliaksandr Dalhouski (Gießen)**
**ORCID: 0000-0002-0436-2477,**
**dr Astrid Sahm (Dortmund)**
**ORCID: 0009-0006-6166-8276**

# Chernobyl in Belarus: the Suppressed National Disaster

The reactor disaster at the Chernobyl nuclear power plant is historically considered to be the first global technogenic disaster. Although the accident occurred on the territory of today's Ukraine, Belarus has been the country most affected by the consequences of the disaster. About 70% of the fallout ejected into the atmosphere by the reactor explosion on 26 April 1986 fell on the territory of today's Republic of Belarus. In the territories of radioactive contamination were 3,678 settlements inhabited by 2.2 million people. During the period after the Chernobyl catastrophe 479 settlements have ceased to exist in the Gomel and Mogilev regions (306 in the Gomel region and 173 in the Mogilev region). In the resettlement zones more than 26 thousand private farmsteads and public capital buildings have since been abandoned[1]. For Belarus, Chernobyl is therefore above all a national tragedy with multiple radioecological, health, social, economic and political dimensions. The disaster has had a significant impact on the development of Belarus over the last 37 years and has also had a recognisable effect on the lives of its inhabitants up to the present day.

The political catastrophe began immediately after the accident. After all, the reactor explosion at the Chernobyl nuclear power plant became a total failure of the proclaimed „glasnost" policy pursued by the new Soviet General Secretary Mikhail Gorbachev. With the exception of the town of Pripyat, which was in the immediate vicinity of the reactor and whose 86,000 inhabitants were evacuated on 27 April 1986, the 1 May demonstrations initially took place everywhere as planned. It was only afterwards that an exclusion zone of 30 km around the reactor was established, from which a further 30,000 people were ordered to temporarily leave their homes in the months of May to June 1986. In general, the Soviet leadership promised a quick return to normality and pretended to have everything under control. Only a few scientists and intellectuals pointed out the dramatic dimensions of the catastrophe and its political significance early on. The Belarusian writer Ales Adamovich wrote to Gorbachev on 1 June 1986: „Dear Mikhail

[1] Information according to the Ministry for Emergency Situations of the Republic of Belarus (2022): Belarus' i Chernobyl': 36 goda spustya, Minsk, p. 8,32. Data by 2023 are available at the website of the National Statistical Committee: https://chernobyl.mchs.gov.by/upload/iblock/1fb/belarus-i-chernobyl.-36-let..pdf

Sergeyevich, it is not just one plant that has exploded here, but the entire complex of irresponsibility, indiscipline and bureaucratism”[2]. However, his call for further resettlement and thorough food inspections to avoid long-term health consequences for the population at large was ignored. Instead, state media reported on the successful progress of the decontamination work and proclaimed that Soviet man was stronger than the atom. Critical opinions about the risks of radioactive pollution were not published, and information about the real contamination was kept secret.

## From a Regional „Accident” to a National Catastrophe

Initially, three regions in Belarus were perceived as affected by the Chernobyl catastrophe: Narovlya, Khoiniki and Bragin. In the first years after the catastrophe, the affected population often viewed the disaster as an opportunity to address infrastructural deficiencies and various housing problems, rather than as a nationwide tragedy. This perception was a consequence of the state’s policy of silence, the desire of the state to solve all problems through a system of appeals, without discussing them in a public format. The Soviet strategy of establishing a 30-km exclusion zone, performing a costly deactivation of contaminated territories and financial compensation, in the long-term, cannot be justified. The consequences could not be „liquidated”, the compensation mechanism under the growing economical crisis more frequently met with a negative response from the affected population.

From the beginning of 1988, however, the image of Chernobyl as a regionally limited „accident” began to show more and more cracks and the social balance began to shake. Several factors contributed to this:

Firstly, rising rates of illness, especially among children in the south-eastern regions of the Gomel Oblast, made the hitherto abstract radiation risks visible to the people. In view of the lack of radiation measuring devices, children virtually became biological radiation meters for the adults. Confidence in the state’s information policy dwindled.

Secondly, Gorbachev’s reform policy triggered a destabilisation of the economy, as a result of which the state was no longer able to offer those affected additional social services, such as new housing, better medical services, etc. This led to the collapse of the social fabric that had been so important for the Soviet Union. Thus, the social contract central to the Soviet system broke down[3].

---

[2] A. Adamovič, Čarnobyl’ i ŭlada, [in:] idem., *Apakalipsis pa hrafiku*, Minsk 1992, p. 3; *A German translation of the letter can be found under the title „Nicht nur ein AKW. Ein Brief an Michail S. Gorbačev”,* „Osteuropa”, 2006, nr 4, p. 19–24.

[3] A. Dalhouski, *Tschernobyl in Belarus. Ökologische Krise und sozialer Kompromiss*, Historische Belarus–Studien 4, Wiesbaden 2015.




**Caesium-137 contamination in the Republic of Belarus, as of December 1989**

Finally, the Chernobyl issue experienced an enormous politicisation through the democratisation processes between 1989 and 1991. In the run-up to the first largely free elections to the Congress of People's Deputies, the secrecy of the data was lifted. In February 1989, maps of the situation regarding radioactive contamination were published for the first time. The authorities had high hopes for the publication of this map. Firstly, after almost three years, it was supposed to „adjust economic activities"[4]; secondly, the publication was supposed to „ease the moral and psychological tensions in the affected areas"[5]. The publication of the map did not have the desired effect because the first map had not yet covered all contaminated areas and in turn increased people's loss of confidence in the system. Further measurements proved that a de facto quarter of the Belarusian SSR had been contaminated by Chernobyl. These events stimulated an increase in the number of articles on Chernobyl, which, in turn, provided new opportunities for the public to assess the magnitude and consequences of the tragedy. Thus the media became an important communication channel for the affected population, drawing public attention to their problems. Since 1989, the problems of the most affected regions, previously articulated in a non-public dialogue between complainants and officials, have become public.

4 Nacional'nyj archiv Respubliki Belarus' (NARB), f. 7, op. 10, d. 1863, ll.194–196.
5 Ebd.

As a result, Chernobyl gradually took on the character of a national tragedy and became a central campaign issue in the elections to the Supreme Soviet of the Belarusian SSR in March 1990, into which independent political forces entered for the first time. People now expressed their demands not only through petitions to the state authorities, but also through voter mandates and civil society protest. There were numerous rallies and strikes in the district centers of the most contaminated regions.



**Banned Chernobyl rally in Narovlya, Gomel oblast, in September 1989 / Photo ©Sergey Plytkevich (private collection)**

In Minsk, the capital of the Belarusian SSR, the Chernobyl issue was taken up mainly by the new national movement. In September 1989, the Belarusian Popular Front (BNF) for the first time called for a „Chernobyl March" (Čjarnobyl'ski šljach), which has since become one of the central protest actions of the Belarusian opposition every April since 1990. In particular, the Popular Front embraced the interpretation that the state's Chernobyl policy was a crime or genocide against the Belarusian nation and called for the prosecution of those responsible in the form of a „second Nuremberg". The BNF activists saw the solution to the Chernobyl problem in the framework of a new democratic Belarus, independent of Moscow.

In order to meet the fears and protests of the population in the contaminated regions, the Belarusian Communist Party leadership also gradually supported the adoption of comprehensive Chernobyl legislation. According to the Republican Chernobyl Program approved by the Supreme Soviet on 25 October 1989, a total of about 400,000 people were granted the right to state-funded resettlement. And the Declaration of Sovereignty adopted by the Supreme Soviet in the summer of 1990 stated: „The Belarusian SSR uses its freedom and sovereignty primarily to save the people of the Belarusian SSR from the consequences of the Chernobyl disaster"[6].

6 Quoted from A. Sahm, *Transformation im Schatten von Tschernobyl: Umwelt- und Energiepolitik im gesellschaftlichen Wandel von Belarus und Ukraine*, Münster 1999, p. 156.

рускага народнага фронту. Але я ўжо меў пэўны негатыўны досвед кантактаў з палітыкамі і лічыў, што палітыка — гэта не мая справа. Я спачуваў і ўсё разумеў… Нават спрачаўся са сваёй мамай-камуністкай, якая перажыла рэпрэсіі і заўсёды засцерагала: „Не лезь у палітыку, рабі тое, што табе кажуць" і г. д. Былі ў нас з ёй такія спрэчкі…

Прыгадваю выпадковую сустрэчу ў Менску каля калон Акадэміі са Святланай Алексіевіч[39]. Тады я займаўся кінахронікай Другой сусветнай вайны і падзяліўся сваімі планамі. У адказ яна мне параіла: „Звяртайся да Алеся Адамовіча[40]. Гэта выдатны чалавек, які вельмі глыбока разумее праблему вайны". На жаль, я так і не дайшоў да Адамовіча. Канешне, калі б я застаўся ў сектары гісторыі, то, напэўна, дайшоў бы і да яго…

Аднойчы пачуў ад калег гісторыю пра тое, што Адаму Мальдзісу[41] ўдалося вырвацца за мяжу і папрацаваць у Беларускай Лонданскай бібліятэцы імя Францыска Скарыны[42]. Ён здабыў каштоўныя матэрыялы. З гэтым поспехам я павіншаваў знакамітага навукоўца пры выпадковай сустрэчы ў гарадскім транспарце. Так мы пазнаёміліся.

1991 год выдаўся ў Беларусі бурлівым, а ў маім жыцці — пераломным. Нечакана для самога сябе я пакінуў акадэмічны Інстытут гісторыі і перайшоў на працу ў акадэмічны Інстытут літаратуры, дзе Адам Мальдзіс стварыў рабочую групу для арганізацыі Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя

---

*беларускага прафесійнага тэатра пачатку XX стагоддзя (1900–1917 гг.)*. У 1988 г. адкрыў і археалагічна даследаваў масавыя пахаванні людзей у Курапатах у Менску. Старшыня Беларускага народнага фронту „Адраджэньне" (1989–1999) і партыі БНФ (1993–1999).

[39] Святлана Алексіевіч (1948 г. нар.) — беларуская пісьменніца. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (2015).

[40] Алесь Адамовіч (1937–1994) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. З 1970 па 1973 г. разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам пабываў у сотнях спаленых у Другую сусветную вайну беларускіх вёсках. Яны апыталі і запісалі больш за трыста сведкаў трагедыі, што стала асновай дакументальнай кнігі *Я з вогненнай вёскі* (Менск 1975). У творчасці і грамадскай дзейнасці арыентаваўся на агульначалавечыя каштоўнасці і неабходнасць дэмакратычных перамен, выступаў за захаванне дзяржаўнага суверэнітэту і нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускай нацыі.

[41] Адам Мальдзіс (1932–2022) — беларускі літаратуразнавец, гісторык і пісьменнік. Доктар філалагічных навук (1986), прафесар (1990). У 1991–1998 гг. узначальваў Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, які вельмі шмат зрабіў дзеля развіцця гуманітарных і сацыяльных навук у Беларусі. З 1987 г. старшыня камісіі „Вяртанне" Беларускага фонду культуры. У 1991–2005 гг. прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

[42] Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны — беларускі культурны асяродак у Лондане. Аснову бібліятэкі склалі прыватныя зборы беларускіх святароў Ч. Сіповіча і Л. Гарошкі. Афіцыйнае адкрыццё адбылося ў 1971 г. у бібліятэцы і музеі захоўваецца каля 40 тыс. тамоў кніг і камплектаў газет і часопісаў. Сярод іх фрагмент першай кнігі *Царствы* Ф. Скарыны, Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., рэдкія беларускія выданні, надрукаваныя ў Куцейне, Вільні і Супраслі, першадрукі зборнікаў М. Багдановіча, К. Буйло, М. Гарэцкага, Я. Купалы ды інш.

Францыска Скарыны або скарочана — Скарынаўскага цэнтра. Адбылося гэта ў студзені 1991 г. яшчэ пры існаванні Савецкага Саюза. Магчыма, запрашэннем на працу да Мальдзіса я абавязаны сваёй кнізе пра Менск, выдадзенай у 1990 г. у групе Мальдзіса я адразу ж адчуў перамены ў сабе — нейкую палёгку ад абцугоў акадэмічнай гісторыі і асалоду вяртання да матчынай беларускай мовы. На новым месцы ўсе гаварылі па-беларуску, ішла мабілізацыя да нейкай, пакуль невядомай мне, новай і вялікай справы. Для мяне гэта была магчымасць паглядзець на беларускую гісторыю вачыма Менска, а не Масквы.

Росквіт маёй навуковай творчасці прыпаў якраз на перыяд існавання Скарынаўскага цэнтра ў 1991–1998 гг. і некалькі гадоў пасля яго ліквідацыі. Я тады працаваў дырэктарам Нацыянальнага гістарычнага музея, узначальваў рэдакцыю часопіса „Спадчына"[43] і выкладаў ва ўніверсітэце. Гэта быў усплеск маёй навуковай творчасці.

**А. С.:** Спадар Захар, ва ўспамінах было шмат пра маці і нічога пра бацьку. Бацька ўдзельнічаў у выхаванні? Якім была яго роля ў развіцці сына?

**З. Ш.:** Мой бацька не перашкаджаў маме займацца сынамі. Ён увесь час быў заняты. Гэта чалавек, які галадаў у 1930-х гадах і пераехаў у Маскву, каб пазбегнуць голаду. Там закончыў вучэльню, стаў фрэзероўшчыкам. Працаваў на эвакуяваным ваенным заводе недзе ў Чувашыі. На фронт яго не забралі, бо як спецыяліст меў „бронь".

Ужо пасля вайны яго маці, якая засталася адна, бо дзед памёр падчас вайны, а дом разбамбілі немцы, папрасіла маю маму, каб тая выклікала яго з завода дапамагаць ёй. Мая маці напісала, ён прыехаў, яны сышліся і пабраліся шлюбам. Бацька спачатку працаваў кавалём, потым яго як прадстаўніка пралетарыяту абралі намеснікам старшыні калгаса. Калі ж калгасы ператваралі ў саўгасы, ён стаў брыгадзірам. Пазней працаваў кладаўшчыком. Ён заўсёды быў у справе, кудысьці ездзіў. Часам браў мяне на воз і мы ехалі з вёскі ў вёску, на птушкаферму, на сховішча зерня. Я назіраў вясковае жыццё, бачыў цяжкую працу, якая ціснула і прыгнятала чалавека. Атрыманы досвед умацоўваў жаданне з'ехаць у горад.

У гэтым плане і бацькаў лёс быў для мяне паказальны. Ён шмат чаго мог дасягнуць. Закончыў сямігадовую школу, добра спяваў. Яго нават запрашалі ў хор Пятніцкага[44]. Адмовіўся, бо там быў малы паёк. Як фрэзероўшчыка

[43] „Спадчына" — ілюстраваны культурна-гістарычны часопіс. Выдаваўся ў 1989–2011 гг. у Менску на беларускай мове. Заснаваны Беларускім фондам культуры. Асвятляў праблемы беларускай гістарычнай і культурнай спадчыны ў еўрапейскім кантэксце. Публікававаў артыкулы і архіўныя матэрыялы па гісторыі Беларусі, філасофскай думцы, гісторыі мастацтва і рэлігіі, культурнай спадчыне нацыянальных меншасцей Беларусі, аб жыцці і дзейнасці беларускай дыяспары. Таксама на старонках часопіса змяшчаліся пераклады і перадрукі айчынай і замежнай гістарыяграфічнай і літаратурнай спадчыны.

[44] Дзяржаўны акадэмічны рускі народны хор імя Мітрафана Пятніцкага — вядомы расійскі музычны калектыў, які выконвае народную музыку. У пасляваенным СССР быў вельмі папулярным.

яго клікалі ў Менск на трактарны завод, што якраз будаваўся, але маці не пусціла. Яна была звязана сястрой-інвалідам, якую даглядала. Усё гэта затрымала маю сям'ю ў вёсцы. Бацька любіў сям'ю і дзяцей, аднак, як стаў кладаўшчыком, то пачаў выпіваць. Гэта, відаць, было непазбежна. Ён умеў зводзіць рахункі, калі трэба было людзям дапамагчы… Вельмі гэта цяжка ўспамінаць… [*плача*]. Проста ён даваў зерне людзям, калі не было чаго есці. Быў голад. Дзеці ад голаду гліну елі…

**А. С.: а** як склаўся лёс брата?

**З. Ш.:** Брат быў на 8 гадоў малодшы за мяне. Позняе дзіця. Ён нядрэнна вучыўся ў школе, скончыў тэхнікум электронікі і радыётэхнічны інстытут, стаў мікраэлектроншчыкам. Праўда, ён хацеў стаць аграномам, думаў паступаць у сельскагаспадарчую акадэмію ці ў Менскі інстытут сельскай гаспадаркі, але я яго адгаварыў, казаў, што вёска да дабра не давядзе. Аднойчы мы былі з ім у Маскве. Памятаю, як пераконваў яго: „Бачыш, як людзі жывуць. Параўнай гэта жыццё з вясковым. Тут камфорт і дабрабыт. Дзеля гэтага трэба добра вучыцца, набыць добрую спецыяльнасць".

**А. С.:** Гаворачы пра ўніверсітэт, Вы прыгадалі праявы нонканфармізму, да якога далучыліся дзякуючы жонцы. Наколькі адчувальнай была прысутнасць несавецкай ідэалогіі сярод студэнтаў і выкладчыкаў?

**З. Ш.:** Я зусім не адчуваў гэтага ва ўніверсітэце. Хоць, напрыклад, сядзеў у адным бібліятэчным пакоі з будучым паэтам Алесем Разанавым[45], але не меў з ім кантактаў.

**А. С.: а** той тэатральны гурток і спектакль, пра які Вы казалі… Відаць, невыпадкова рэжысёр выбраў тэму, якая нагадвала пра трагічныя падзеі 1968 г.?

**З. Ш.:** Рэжысёр Озераў выбраў тэму яшчэ да падзей 1968 г. Рэпетыцыі былі ў разгары. Але пасля ўварвання войск Варшаўскай дамовы ў Чэхаславакію на нас накінулася партыйнае кіраўніцтва ўніверсітэта. Тады я думаў, што рэжысёр хоча якраз паказаць непрывабны твар тых камуністаў, якія ўзнялі „бунт" супраць СССР. Але для камуністаў універсітэта і гэта аказалася недапушчальным. Як можна выстаўляць чэхаславацкіх камуністаў у непрывабным святле? Нонканфармізм я сапраўды адчуваў толькі ў асяроддзі яўрэйскай моладзі. Дарэчы, на тых сустрэчах упершыню пачуў прозвішча гісторыка Сямёна Дубнова[46] і даведаўся пра яго гістарычныя працы. Моладзь імі зачытвалася, хоць распаўсюджваліся яны нелегальна...

[45] Алесь Разанаў (1947–2021) — беларускі паэт і перакладчык, стваральнік новых паэтычных жанраў. Яго паэзія аказала моцны ўплыў на фармаванне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі на рубяжы XX–XXI стст.

[46] Сямён (Шымон) Дубноў (1860–1941) — расійскі і яўрэйскі гісторык, публіцыст і грамадскі дзеяч, адзін са стваральнікаў навуковай гісторыі яўрэяў. Аўтар шматтомнай „Всемирной истории еврейского народа". Пасля захопу ўлады бальшавікамі эміграваў у Германію, а пасля абвяшчэння „Трэцяга рэйха" — у Латвію. Загінуў падчас знішчэння нацыстамі Рыжскага гета.

**А. С.:** „Гутаркі" Міколы Ермаловіча да Вас не даходзілі?

**З. Ш.:** Не даходзілі. Пра іх я даведаўся значна пазней. Міколу Ермаловіча[47] часта бачыў у маленькім пакойчыку тагачаснай „Ленінскай бібліятэкі"[48]. Я ўспрымаў яго як дзівака. Пазней, калі пачытаў яго кнігі, зразумеў важнасць таго, што ён зрабіў. Менавіта Ермаловіч прыцягнуў да Беларусі спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Ужо толькі за гэта ён заслугоўвае помніка.

Памятаю справу Зянона Пазняка і Міхася Чарняўскага, калі іх звольнілі з Інстытута гісторыі Акадэміі навук[49]. Там быў свой невядомы мне дысідэнцкі асяродак. Падчас працы над дыпломам я часта прыходзіў да Вольгі Нячай у акадэмічны Інстытут мастацтвазнаўства, дзе аднойчы міжволі стаў сведкам спрэчкі сяброў Зянона. Там, магчыма быў і Лявон Баразна[50]. Я далучыўся да тых, хто пераконваў няўрымслівага аспіранта, што спачатку трэба абараніцца, каб потым лягчэй адстойваць свае погляды. Зянон Пазняк здолеў абараніцца, праўда не ў Менску, а ў Ленінградзе.

**А. С.:** Наколькі на Ваш лёс як навукоўца паўплывала атмасфера гарбачоўскай „перабудовы" другой паловы 1980-х гг., а таксама тагачасныя падзеі ў Беларусі, напрыклад, „адкрыццё" Курапат[51] у 1988 г.?

**З. Ш.:** Атмасфера ў Інстытуце гісторыі цалкам змянілася. Зянона Пазняка ўзнавілі на працы. Я часта чуў, як ён вельмі крытычна выступаў на пасяджэннях, крытыкаваў палітыку Міністэрства адукацыі, выступаў за беларускую мову. Усё было вельмі слушна і лагічна. Ніхто не здолеў яго пераканаць у іншым. У час „перабудовы" ў Інстытуце таксама выступаў Уладзімір Караткевіч. Яго запрасіў Эдуард Савіцкі[52]. Яны былі добрыя знаёмыя. На мяне гэты выступ зрабіў моцнае ўражанне. Караткевіч расказваў і прадстаўляў гісторыю краіны паводле ўласнага разумення. І я пачуў пра Беларусь, якую зусім не ведаў.

---

[47] Мікола Ермаловіч (1921–2000) — беларускі гісторык, літаратуразнавец і публіцыст. Прадстаўнік нацыянальна-рамантычнага кірунку ў беларускай гістарыяграфіі, які знайшоў адлюстраванне ў кнізе *По следам одного мифа* (Минск, 1989), аўтар і выдавец непадцэнзурных тэкстаў 1960–1980-х гг.

[48] Гаворка ідзе пра Дзяржаўную бібліятэку БССР імя Леніна.

[49] „Акадэмічны асяродак" (1973–1974) — нефармальнае кола нацыянальна арыентаваных навукоўцаў Акадэміі навук БССР, разгромленае КДБ у 1974 г.

[50] Лявон Баразна (1929–1972) — беларускі мастак і даследчык культуры, абаронца гісторыка-культурнай спадчыны Менска. Забіты ў 1972 г. Магчыма, да забойства мелі дачыненне савецкія спецслужбы.

[51] Курапаты — лясны масіў у ваколіцах Менска, дзе былі выяўлены масавыя пахаванні людзей, расстраляных НКВД у 1937–1941 гг. Колькасць ахвяр дакладна невядомая. Паводле розных ацэнак, яна можа складаць ад 7 тыс. да 100 тыс. чалавек. 30 кастрычніка 1988 г. адбылося першае масавае шэсце да месца пахаванняў пад лозунгамі асуджэння сталінізму. Яго разагналі вайскоўцы і міліцыя, што выклікала абурэнне ў грамадстве.

[52] Эдуард Савіцкі (1935 г. нар) — беларускі і савецкі гісторык і архівіст. Доктар гістарычных навук (1992), прафесар (1997). Даследчык рэвалюцыйнага руху, развіцця сельскай гаспадаркі і прамысловасці Беларусі ў XIX–пачатку XX ст.

**А. С.:** Як я разумею, пасля прыходу на гістфак БДУ Беларусь атаясамлівалася з вёскай, з якой хацелася вырвацца?

**З. Ш.:** Так, менавіта вырвацца. Для мяне беларускасць доўгі час была элементам вясковага жыцця. І я спачатку перажыў русіфікацыю, стаў чалавекам „рускага свету". А потым мне прыйшлося прыкласці вялікія інтэлектуальныя намаганні, каб вярнуцца да сваіх каранёў.

**А. С.:** Атрымліваецца, што гараджаніну ў пэўным сэнсе было лягчэй стаць беларусам, які ўсведамляе каштоўнасць сваёй гісторыі і культуры, чым вяскоўцу.

**З. Ш.:** Магчыма, так. Ну як тады мог неяк вылучыцца вясковы хлопец? Толькі праз прыняцце каштоўнасцей, якія культывуюцца ў горадзе, менавіта рускай мовы, савецкай ідэалогіі з яе „Вялікай Айчыннай вайной" і гэтак далей… Вось якім шляхам я ішоў, пакуль не адбылося пераасэнсаванне каштоўнасцей. У гэтым мне вельмі дапамог Скарынаўскі цэнтр.

**А. С.:** а якую ролю ў станаўленні навукоўца адыгралі кантакты з замежнымі гісторыкамі?

**З. Ш.:** Гэта былі важныя кантакты, пачатак якім паклаў мой удзел у міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Польшчы ў 1992 г. Я там прабачаўся, што яшчэ не засвоіў польскую мову. А польскі прафесар з Кракава толькі падбадзёрваў: „Афіцыйная мова Вялікага Княства Літоўскага павінна гучаць у Польшчы". Тады і пазней польскія гісторыкі адносіліся да мяне як да роўнага ім калегі. Не так як у Маскве або Пецярбургу, дзе часта адчуваеш на сябе погляд нібыта звысоку.

Для мяне было вялікай падзеяй тое, што я трапіў у творчы калектыў, які займаўся напісаннем „паралельнай гісторыі" Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы. Такі калектыў быў створаны пасля Рымскай канферэнцыі 1990 г., прысвечанай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэта была ідэя Адама Мальдзіса і Анатоля Грыцкевіча, якую падтрымалі прафесар Джорджтаўнскага ўніверсітэта Анджэй Камінскі і прафесар Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне Ежы Клачоўскі.

Ад кожнай краіны былі выбраны два гісторыкі. Ад Беларусі спачатку абралі Генадзя Сагановіча і Аляксея Ліцвіна, але апошні адмовіўся ад удзелу ў праекце. Мальдзіс прапанаваў мне ўвайсці ў калектыў. Маёй задачай было напісанне гісторыі Беларусі ад канца XVIII ст. да сучаснасці. Дзякуючы гэтай працы, я здолеў наблізіцца да разумення пазіцый еўрапейскіх навукоўцаў. Гэта была для мяне вялікая школа, дзе я пераасэнсоўваў свае погляды, засвойваў несавецкую мэтадалогію навукі, акунаўся ў атмасферу міжнароднай навуковай дыскусіі. Надзвычай цікава было слухаць замежных навукоўцаў. Зусім па-іншаму прамаўлялі і нашы — Адам Мальдзіс з Анатолем Грыцкевічам і Алег Трусаў, які быў кіраўніком беларускай часткі праекта.

У міжнароднай камандзе я аказаўся самым адказным выканаўцам. Усе цягнулі са сваімі тэкстамі да апошняга, а я ўсё рабіў своечасова. У выніку

мы прыязджаем на чарговую сесію ў Люблін — ніхто не мае тэксту, апрача мяне аднаго. І лупілі мяне з усіх бакоў так, што цяжка было вытрымаць! Я ўсё яшчэ заставаўся савецкім гісторыкам, хоць крытычным і недагматычным. Гэтыя дыскусіі і крытыка адкрылі мне вочы на афіцыйную гісторыю Беларусі. Фактычна гэта была не наша, а расійская гісторыя. Беларускую гісторыю трэба было яшчэ пісаць.

Плёнам майго ўдзелу ў тым праекце стала кніга *Нарыс гісторыі Беларусі. 1795–2002* (Мінск, 2003[53]). Першая навуковая і стылістычная рэдакцыя маіх нарысаў належала зноў жа Адаму Мальдзісу. Адбылося гэта не пазней 1998 г. Генадзь Сагановіч напісаў кнігу пра гісторыю ад найдаўнейшых часоў да далучэння да Расіі. Абедзве кнігі адразу разышліся. Тая гісторыя пісалася ў папулярнай форме. Гэта была новая версія гісторыі Беларусі, якая сфармавалася пад уплывам крытыкі і заўваг удзельнікаў міжнароднага творчага калектыву. Таксама моцна дапамог у напісанні кнігі Анатоль Грыцкевіч. У працэсе працы над ёй я стаў еўрапейскім гісторыкам і цалкам развітаўся з савецкімі або еўразійскімі поглядамі. Пэўным арыенцірам для мяне былі не толькі ўжо згаданыя Анджэй Камінскі і Ежы Клачоўскі, але і ўкраінскія гісторыкі — прафесар Яраслаў Ісаевіч, Яраслаў Грыцак і Наталля Якавенка.

Мае цёплыя адносіны з замежнымі калегамі працягваліся. Прафесар Клачоўскі быў сябрам Польска-беларускай гістарычнай камісіі. Ён запрасіў мяне на стажыроўку ў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт. Там я засвоіў польскую мову. Анджэй Камінскі пры сустрэчы на навуковых канферэнцыях ва Універсітэце Лазарскага ў Варшаве заўсёды запрашаў мяне і Сагановіча на размову і келіх добрага віна. Дзякуючы амерыканска-польскаму прафесару, я стаў па-іншаму глядзець на ролю Рэчы Паспалітай у гісторыі Беларусі. Мае жыццёвыя сцежкі таксама перасякаліся з Яраславам Грыцаком у Львове і ў г. Слаўнае, дзе ён вельмі арыгінальна чытаў лекцыі ў летніх школах для маладых навукоўцаў.

Разам з Генадзем Сагановічам мы стваралі нацыянальную версію гісторыі Беларусі. Зараз я думаю над тым, наколькі нацыянальны запыт на гісторыю спалучаецца з аб’ектыўнасцю яе адлюстравання? Не можа быць нейкага адзінага канону, як гэта было раней з камуністычным „партыйным” падыходам. Павінны быць розныя варыянты прэзентацыі гісторыі — навуковыя, акадэмічныя, але таксама навукова-папулярныя. Упэўнены, што спачатку неабходна стварыць навуковую версію гісторыі, а ўжо потым яе папулярызаваць. Галоўнае, каб гісторыя не была фальшывай. Аб’ектыўнасць не супярэчыць нацыянальнаму інтарэсу, а служыць на яго карысць. Толькі так можна ганарыцца дасягненнямі свайго народа і адначасна імкнуцца не паўтараць яго памылак. Гісторыя можа быць няпоўнай з прычыны адсу-

53 у 2002 г. гэта кніга выйшла ў Любліне на польскай мове: *Historia Białorusi. 1795–2000.*

тнасці крыніц і недакладнай з прычыны несвядомых памылак даследчыка ў іх інтэрпрэтацыі. Але гэта не азначае, што гістарычная навука страціла аб'ектыўнасць. Абсалютна аб'ектыўнай, поўнай і ўсебакова вывучанай гісторыі не бывае. У нацыянальных гісторыкаў могуць быць розныя погляды на праблемы мінулага сваёй нацыі, але яны не павінны капіяваць карыслівыя пазіцыі прадстаўнікоў іншых нацый. Кожнае пакаленне нацыянальных гісторыкаў будзе адшукваць ва ўласнай гісторыі найбольш актуальныя для свайго часу моманты, часам не звяртаючы ўвагі на менш важныя. Але пры гэтым яны не павінны замоўчваць існаванне іншых версій інтэрпрэтацыі мінулага.

Кансалідацыя, каардынацыя і мабілізацыя навукоўцаў свету для вывучэння Беларусі стала адным з галоўных накірункаў дзейнасці Скарынаўскага цэнтра. Створаная па ініцыятыве Мальдзіса ў 1991 г. у складзе Нацыянальнай акадэміі навук Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ) разгарнула беспрэцэдэнтную дзейнасць. Для мяне гэта быў яшчэ і ўваход у шырокі свет беларускай дыяспары. Маімі дарадцамі і дабрадзеямі сталі Вітаўт і Зора Кіпелі. Ім падабалася мая кніга пра Менск. Да таго ж пры кожнай сустрэчы яны намагаліся фінансава падтрымаць беларускія даследаванні і даследчыкаў.

Дзякуючы кантактам з польскімі гісторыкамі, я пазнаваў праўдзівую гісторыю сваёй Айчыны, а сустрэчы з нямецкімі калегамі спрыялі разуменню каштоўнасцей заходняй цывілізацыі. Памятаю першую сустрэчу з нямецкімі даследчыкамі ў Штутгарце ў другой палове 1990-х гг. Гэта было маё першае падарожжа ў Германію. Мяне, супрацоўніка Скарынаўскага цэнтра, моцна здзівіла прарасійская пазіцыя нямецкага прафесара, які курыраваў нашу сустрэчу. Калі на банкеце я прамовіў тост з пажаданнем, каб немцы зразумелі, што Беларусь — не Расія, то прафесар неяк сканфузіўся. Жаданне запрасіць мяне на навуковую стажыроўку ў яго знікла, хоць я добра ведаў нямецкую мову. З усіх беларускіх гісторыкаў выбралі Алега Бухаўца, які працаваў у Маскве. Але галоўнае, што агульнымі намаганнямі была створана калектыўная праца, прысвечаная гісторыі Беларусі — *Handbuch der Geschichte Weißrußlands* (Göttingen, 2001). Спадзяюся, што нямецкія навукоўцы пачалі разумець, што Беларусь — гэта не Расія.

Мой германскі сябра прафесар Томас Бон выказваў сваю зачараванасць рускай літаратурай і беспамылкова гаварыў па-руску. Я пазнаёміўся з ім у Менску, калі Томас збіраў матэрыялы для навуковай працы пра гісторыю беларускай савецкай сталіцы. Яму было цікава, чым адрозніваўся былы губернскі горад ад сталіцы БССР, а мне — у што ператварыўся стары Менск пры савецкай уладзе. Томас стаў самым блізкім мне нямецкім навукоўцам. Ён арганізаваў стажыроўку ў навуковым цэнтры Гісэна, запрашаў на розныя навуковыя мерапрыемствы. Нашы адносіны і ўзаемапрыязнасць дапамаглі мне зразумець, што назапашанымі ведамі і майстэрствам трэба дзяліцца з калегамі. І гэта не праява нейкай добрай волі, а абавязак навu-

коўца. У іншым выпадку яго нерэалізаваныя ідэі прападаюць. У Германіі я пазнаёміўся з выбітным літоўскім гісторыкам Дарыюсам Сталюнасам, які істотна адрозніваўся ад гісторыкаў-„казачнікаў" Літвы, якіх я раней ведаў. У Ізраіль я прыехаў ужо „мацёрым" гісторыкам…

**А. С.:** Спадар прафесар, што ў Вашым навуковым жыцці было найвялікшым расчараваннем, а што прыносіла радасць і задавальненне?

**З. Ш.:** Складанае пытанне. Расчараванне? Калі падысці прагматычна, то ў нейкі момант я зразумеў, што гісторык і навуковец-гуманітарый ніколі не будзе багатым. Я зараз, магчыма, самы бедны прафесар у свеце, у мяне нічога няма, ні дома, ні аўтамабіля, нічога. Атрымліваю толькі дапамогу па старасці ў Ізраілі і надбаўкі да пражыццёвага мінімуму…

Я займаўся навукай не дзеля грошай, а дзеля цікавасці. Мне было цікава ўсё, за што браўся. Прычым я не абмяжоўваўся Менскам ці горадам наогул. Якой была эвалюцыя маіх даследаванняў? Спачатку я даследаваў Менск як мікрамадэль сацыяльнай і эканамічнай гісторыі Беларусі канца XIX — пачатку XX ст., потым іншыя гарады Беларусі з іншым узроўнем абагульнення. Апошняй ступенню было асэнсаванне феномена гарадской цывілізацыі. У Вільні ў 2009 г. выйшла з друку кніга *Гарадская цывілізацыя. Беларусь і свет*. А зараз, як казаў Шалом-Алейхем, вяртаюся з навуковага кірмаша да Менска, але ўжо да Менска яўрэйскага. За час працы ў Ізраілі я назапасіў шмат гістарычных матэрыялаў, якія могуць стаць асновай для працы *Яўрэі Менска пад уладай Расіі*. Гэта перыяд з канца XVIII ст. па 1917 год.

**А. С.:** Слухаючы Вас, падумаў, што адной з галоўных крыніц навуковай творчасці была цікавасць, імкненне дайсці да сутнасці падзеі…

**З. Ш.:** Так. Я заўсёды імкнуўся не проста апісаць факт, але зразумець яго ў кантэксце часу. Таксама вельмі цаню здольнасць даць ацэнку гістарычнаму факту і выказаць уласнае меркаванне, няхай нават памылковае. Усё гэта паказвае навукоўца як асобу. Кожны гісторык — гэта асоба, якая па-свойму бачыць мінулае. У гэтым цікавасць гісторыі. А самае ненавіснае для мяне ў гістарычнай навуцы — гэта фармалізм: цытаты, спасылкі, уся дакументалізацыя тэксту. Мне хочацца быць у „вольным палёце", таму мне бліжэй навукова-папулярны жанр, чым чыста акадэмічны і навуковы. Але я разумею, што без навуковага падыходу немагчымы папулярны жанр. Калі як аўтар і рэдактар я працаваў над калектыўнай манаграфіяй пра гісторыю рознічнага гандлю ў Беларусі, мне раілі пісаць у навукова-папулярным жанры. Маўляў, менавіта гэта патрэбна заказчыку і чытачу. А я не мог, бо разумеў патрэбу акадэмічнага варыянта даследавання. Пазней на яго аснове можна будзе пісаць навукова-папулярныя тэксты. На жаль, я не знайшоў паразуменне з заказчыкам.

Апрача таго, гісторыя для мяне — пэўная форма ўцёкаў ад рэальнасці. Заглыбляюся ў мінулае і адчуваю пэўны камфорт. Часам яго лепш разумееш, чым сучаснае жыццё...

**А. С.:** Як Вы ацэньваеце сучасны стан беларускай гістарыяграфіі? Алег Латышонак у размове са мной выказаў думку, што такой гістарыяграфіі нагул няма, ёсць толькі беларускія гісторыкі…

**З. Ш.:** Стан сучаснай беларускай гістарыяграфіі выклікае сорам, а часам яшчэ і жаданне адмовіцца ад яе. Але гэта наша гістарыяграфія і наша інтэлектуальная спадчына. І яе трэба даследаваць у развіцці і без эмоцый. Варта зразумець, якая яна была — заходнеруская, прарасійская, беларуская ці беларуска-ліцвінская — і чаму яна была такой. Я кажу „была", бо сучасная гістарыяграфія Беларусі знікае, а на яе месцы нараджаецца новая гістарыяграфія для новай краіны.

**А. С.:** Што можна аднесці да найважнейшых умоў паспяховай навуковай дзейнасці?

**З. Ш.:** Вельмі важнай умовай з'яўляецца падтрымка сям'і. Я думаю, што для навукоўца мужчыны вельмі важная прысутнасць жанчыны, якая падтрымлівае і тым самым уплывае на творчасць гісторыка і навукоўца. Адныя жанчыны ўцягваюць навукоўца ў побытавыя праблемы, іншыя папросту не перашкаджаюць працаваць, а трэція стымулююць і становяцца музамі яго творчасці. Гэта вельмі складана, бо даводзіцца падпарадкаваць уласнае жыццё навуковым інтарэсам свайго абранніка. Калі такое здараецца, то гісторык можа зрабіць шмат. Іншай умовай паспяховай навуковай творчасці гісторыка я лічу самаізаляванасць, якая дазваляе цалкам сканцэнтравацца на сваёй справе, пакуль тая не будзе даведзена да канца. Для мяне такім перыядам быў час хваробы маёй першай жонкі. Гэта быў перыяд, калі я мог займацца толькі навукай. Ніякай іншай радасці ў жыцці не было.

Але таксама сустракаюцца гісторыкі-самотнікі, якія шмат могуць зрабіць, але ў іх творчасці няма душы, няма цеплыні, а той, хто мае побач абранніцу, што яго саграе, піша працы больш „цёплыя" і даступныя, нават аптымістычныя, я б сказаў.

**А. С.:** Як Вы ставіцеся да сцвярджэння пра пэўную місію гісторыка, пра яго абавязак нешта распавесці свету і людзям?

**З. Ш.:** Калі гісторык пачне думаць пра сваю місію, а не пра навуку, то ён ужо дрэнны гісторык. Місія выяўляецца тады, калі яго даследаванні аказваюцца запатрабаванымі грамадствам. А калі ён даследаваў, напрыклад, толькі гісторыю Старажытнага Рыма, то пра якую місію можна казаць? Толькі пра развіццё акадэмічнай навукі.

**А. С.:** Не пагаджуся. Гісторыя Рыма — гэта гісторыя дыктатуры і дэмакратыі, гісторыя рэспублікі і дэспатыі. Многія праблемы не страцілі актуальнасці.

**З. Ш.:** Так, нешта ў гэтым ёсць… Магчыма, галоўная місія — гэта падрыхтоўка вучняў, пераемнікаў справы, стварэнне навуковай школы. Не трэба маляваць абраз з гісторыка, яму патрэбны паслядоўнікі. Я, напрыклад, не меў аніводнага вучня. Праўда, адна кандыдацкая дысертацыя пад маім кі-

раўніцтвам была абаронена, але аспіранта перадаў Міхась Біч. Мне папросту не далі магчымасці мець вучняў, і я ніколі не кіраваў аспірантамі. Тым не менш у мяне ёсць паслядоўнікі, якія вывучаюць Менск. Іх даволі шмат, і я вельмі рады гэтаму. Гэта мая місія, якая нечакана спраўдзілася.

Што тычыцца грамадскай місіі гісторыка, то гэта небяспечная справа, бо твае веды могуць выкарыстаць як прыхільнікі дэмакратыі, так і прыхільнікі аўтарытарызму. Гісторыя, місія і гістарычная палітыка звязаны між сабой. Гісторык не павінен мэтанакіравана быць ангажаваным у палітыку. У такой сітуацыі ён пачынае думаць пра сваю місію, а гісторыя для яго ператвараецца з акадэмічнага аб’екта даследавання ў сродак уплыву на людзей. Даследчык пачне падстройвацца пад нейкія палітычныя схемы. У гэтым плане я прытрымліваюся „філасофіі” Адама Мальдзіса, які для Беларусі зрабіў нашмат больш за многіх палітыкаў.

Гэта складанае пытанне пра місію гісторыка… Тут шмат залежыць ад асобы. Але я ўпэўнены, што вынікі працы гісторыка-навукоўца раней ці пазней спатрэбяцца грамадству і будуць належным чынам ацэнены. А спадчына гісторыка, які прыстасоўваецца пад кожны палітычны рэжым, урэшце застанецца проста радком у гістарыяграфіі.

**А. С.:** У заключэнне хачу запытаць, як Вы ацэньваеце перспектывы развіцця навукі пра чалавека ў Беларусі? Маю на ўвазе гуманітарныя і сацыяльныя навукі. Як Вам бачацца перспектывы іх развіцця?

**З. Ш.:** Сёння я бачу дзве Беларусі. Апрача той, што існуе ў сваіх палітычных межах, ёсць іншая па-за гэтымі межамі. Гэта таксама мая Беларусь. Перспектывы я звязваю з тымі, хто працуе ў гэтай другой Беларусі, каго не звязвае па руках і нагах афіцыйная ідэалогія. Думаю, што ў самой краіне гуманістыка пачне развівацца толькі тады, калі гэтыя гісторыкі вернуцца на Радзіму, каб там працягваць дзейнасць. Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што тыя даследчыкі, якія выбралі службу рэжыму, ужо няздольныя застацца аб’ектыўнымі даследчыкамі ўласнай гісторыі. Яны заўсёды будуць адчуваць цяжар расійшчыны і савецкай эпохі, не знойдуць сіл, каб пазбыцца гэтых навязаных ідэолагамі схем. Гэта проста адпрацаваны матэрыял, які не мае будучыні. Уся мая надзея — на маладых даследчыкаў, якія могуць працаваць незалежна ад той сістэмы, што сёння існуе ў Беларусі.

**А. С.:** Дзякуй вялікі за цікавае інтэрв’ю і шчырыя адказы на няпростыя пытанні.

# ДАКУМЕНТЫ

## „Янка Купала и Якуб Колос до сих пор находятся на свободе...” НКУС БССР у змаганні з беларускай культурай. 1938 г.

Гісторыя рэпрэсій сярэдзіны 1930-х гг. усё яшчэ не страціла актуальнасці для беларускага грамадства. Рэчаіснасць і тое, як мы яе ўсведамляем, шмат у чым залежыць ад нашай памяці пра мінулае. Сёння грамадства знаходзіцца ў працэсе пераадолення траўматычнага вопыту савецкіх рэпрэсій. Гэтаму садзейнічаюць ініцыяваныя грамадскімі арганізацыямі розныя камемаратыўныя практыкі, напрыклад, звязаныя з Курапатамі. Важную ролю ў гэтым працэсе таксама адыгрываюць навуковыя даследаванні і публікацыі архіўных крыніц. Нават „прыадчыненыя архівы” (Ігар Кузняцоў) дазволілі стварыць корпус навуковых прац па тэме савецкага тэрору. Абмежаванне доступу да адпаведных архіваў прымушае даследчыкаў да пошуку іншых гістарычных крыніц. У сучасных умовах асноўны цяжар працы па актуалізацыі памяці пра рэпрэсіі ў Беларусі ляжыць на плячах асобных даследчыкаў, дзейнасць якіх часам набывае самаахвярны характар.

Ніжэй прадстаўлены дакументы, знойдзеныя ў Цэнтральным архіве Федэральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі (ЦА ФСБ РФ) гісторыкам Сяргеем Прудоўскім. Яны захоўваюцца ў фондзе 3 (воп. 5) матэрыялаў НКУС СССР. Гэта справа 644 *Спецсообщения и сводки* і справа 647 *Докладные записки об итогах разгрома антисоветского подполья в Белоруссии, получении собственноручных показаний Спорихина*[1] *о существовании в Белоруссии разветвленной боевой повстанческой офицерской организации, связанной с польской разведкой, принятии мер к членам семей репрессированных*. Публікацыю дапаўняе фрагмент даведкі з крымінальнай справы кіраўніка НКУС БССР Аляксея Наседкіна, якая захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі (ДАРФ).

[1] Барыс Спарыхін (1897–1938) — беларускі эканаміст і фінансіст. У 1937 г. арыштаваны і расстраляны (1938). Рэабілітаваны ў 1957 г.

Галоўнымі фігурантамі гэтых дакументаў з'яўляюцца славутыя беларускія літаратары Янка Купала і Якуб Колас, паэт Андрэй Александровіч. Таксама ў дакументах фігуруюць постаці Міхася Лынькова, Кузьмы Чорнага, Мікалая Чарнушэвіча, партыйных дзеячаў Аляксея Лявіцкага, Уладзіміра Піварава, Мікалая Дарожкіна, Іосіфа Лагіновіча ды інш. Цэнтральнай фігурай усіх дакументаў з'яўляецца Андрэй Александровіч. „Антыгероямі" выступаюць кіраўнікі НКУС БССР Барыс Берман і Аляксей Наседкін як аўтары службовых допісаў, адрасаваных наркаму ўнутраных спраў СССР Мікалаю Яжову. Храналагічна гэтыя дакументы ахопліваюць перыяд з сакавіка па снежань 1938 г. у асноўным усе яны паходзяць з НКУС БССР і былі накіраваны ў Маскву. Толькі два дакументы былі падрыхтаваны ў НКУС СССР.

Дакументы адлюстроўваюць працэс фабрыкацыі справы Александровіча, сведчаць пра выкарыстанне яго паказанняў супраць іншых літаратараў, а таксама партыйных дзеячаў. Тут перакрыжаваліся лёсы інтэлігенцыі, партыйных функцыянераў, а таксама супрацоўнікаў НКУС. Кожны чарговы дакумент утрымлівае імёны новых ахвяр рэпрэсій, антысавецкую дзейнасць якіх пацвярджаюць нібыта „неопровержимые данные".

Варта нагадаць, што непасрэдным штуршком для Вялікага тэрору 1937–1938 гг. стаў Пленум ЦК УсеКП(б) (люты — сакавік 1937 г.), на якім Сталін абгрунтаваў неабходнасць рэпрэсій. Гаворка ішла пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры будаўніцтва сацыялізму, а таксама пра стварэнне адзінага фронту ворагаў савецкай улады[2]. Трагічным наступствам гэтага было зацвярджэнне членамі Палітбюро 31 ліпеня 1937 г. загада НКУС СССР № 00447, якім пачалася г. зв. „кулацкая аперацыя", якая стала найбуйнейшай рэпрэсіўнай кампаніяй 1930-х гг.

У БССР арышты і прысуды 1937–1938 гг. адбываліся ў межах сфабрыкаваных спраў „антысавецкага трацкісцкага падполля", „антысавецкай арганізацыі правых", „нацыянал-фашысцкага падполля", „антысавецкага эсэраўскага падполля", „антысавецкага бундаўска-сіяністкага падполля" і г. д.[3]

Рэпрэсіўны апарат уключаў не толькі супрацоўнікаў НКУС і агентурную сетку. Да рэпрэсій прычынілася партыйнае кіраўніцтва, якое супрацоўнічала са спецслужбамі і пры гэтым само знаходзілася пад кантролем супрацоўнікаў НКУС[4]. У перыяд стварэння прадстаўленых дакументаў на чале ЦК КП(б)Б

[2] І. Курляндский, *Власть и религия в годы „Большого террора" (1937–1938 гг.). По новым архивным документам* [в:] Труды Института российской истории. Вып. 9. Тула 2010, с. 255–284.

[3] Т. Протько, *Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.)*, Минск 2002, с. 50.

[4] Пра супрацу з НКУС Аляксея Волкава і Барыса Бермана гл.: Э. Іофе, *На чале Кампартыі Беларусі ў жніўні 1937 — чэрвені 1938 года: дзейнасць Аляксея Аляксеевіча Волкава*, „Беларускі гістарычны часопіс" 2015, № 1; Т. Протько, *Становление советской…*, с. 118–123.

знаходзіліся Аляксей Волкаў[5], які са жніўня 1937 г. да чэрвеня 1938 г. выконваў абавязкі першага сакратара ЦК, і Панцеляймон Панамарэнка (з чэрвеня 1938 г.). Пасады старшыняў Савета народных камісараў БССР займалі Апанас Кавалёў з верасня 1937 г. да ліпеня 1938 г.[6] і Кузьма Кісялёў з ліпеня 1938 г. да чэрвеня 1940 г. Начальнікамі НКУС БССР у разглядаемы перыяд былі Барыс Берман (4 сакавіка 1937 г. — 22 траўня 1938 г.) і Аляксей Наседкін (22 траўня 1938 г. — 17 снежня 1938 г.)[7]. Яны таксама сталі ахвярамі рэпрэсій у межах выпраўлення „скажэнняў у следчай працы НКУС". Наседкін быў арыштаваны ў снежні 1938 г. і ў 1940 г. расстраляны. Бермана арыштавалі ў верасні 1938 г., а расстралялі ў 1939 г.

А. Наседкін у прадстаўленым ніжэй лісце ад 10 верасня 1938 г. на імя М. Яжова пісаў, што апрача следства па справе „нацфашысцкай" арганізацыі праводзілася агентурная распрацоўка пад назвай „Фашыст"[8]. У гэтай сувязі варта прыгадаць, што падчас кіраўніцтва НКУС БССР Л. Цанавай шматтомная справа пра „антысавецкую дзейнасць" беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Міхася Лынькова ды інш. называлася „Фашысты"[9]. Можна меркаваць, што матэрыялы на пісьменнікаў збіраліся як мінімум з сярэдзіны 1920-х гг. і дубляваліся ў даведках Бермана, Наседкіна і Цанавы.

Стаўленне да пісьменнікаў з боку дзяржавы і партыі насіла прагматычны характар. У залежнасці ад патрэб партыі фармальнае ўшанаванне і прывілеі творчай інтэлігенцыі змяняліся на шальмаванне і рэпрэсіі. У 1932 г. быў створаны Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Творчасць літаратараў знаходзілася пад кантролем камуністычнай партыі і спецслужбаў.

„Рэкардсменамі" па колькасці даведак і згадак спецслужбамі былі Якуб Колас і Янка Купала, якія знаходзіліся пад пільным наглядам супрацоўнікаў НКУС з пачатку 1920-х гг.[10] Вядома, што ў час фабрыкацыі справы „Саюза вызвалення Беларусі" супрацоўнікі НКУС спрабавалі менавіта Купалу зрабіць галоўным ідэолагам антысавецкага руху. Скончылася гэта спробай самазабойства паэта.

У 1937–1938 гг. рэпрэсіі супраць дзеячаў беларускай культуры зноў актывізаваліся. У 1938 г. Якуб Колас напісаў трапную эпіграму:

---

5 Аляксей Волкаў (1890–1942) — савецкі і партыйны дзеяч. Першы сакратар ЦК КП(б)Б ад жніўня 1937 па чэрвень 1938 г. Адзін з арганізатараў рэпрэсій у БССР.

6 Апанас Кавалёў быў арыштаваны ў 1939 г., у 1942 г. быў вызвалены, а ў 1943 г. рэабілітаваны.

7 Н. В. Петров, К. В. Скоркин, *Кто руководил НКВД. 1934–1941. Справочник*, Москва 1999, [online], http://old.memo.ru/history/nkvd/kto/index.htm, [доступ: 02.03.2023].

8 Гл. З. Дрозд, *Агенты „распрацоўваюць" пісьменнікаў: справы „Фашысты" і „Арганізатары" скрозь прызму агентурных данясенняў,* „Arche" 2019, № 4, с. 91–95.

9 *Справка по делу Л. Ф. Цанава. 10 октября 1955 г.* [online], https://istmat.org/node/22345, [доступ: 02.03.2023].

10 Р. Платонаў, *Старонкі гісторыі Беларусі: архівы сведчаць: з навуковай спадчыны*, Мінск 2002; Э. Іофе, *ЦК КПБ і органы бяспекі супраць асобы і творчасці Янкі Купалы (1924–1938)* [у:] *Пра час „Узвышша"*: матэрыялы Узвышаўскіх чытанняў. Вып. 4, Мінск 2008, с. 78–94.

*Калі на з’ездзе ці на сходзе*
*К табе фатограф не ідзе,*
*Дык так і ведай: ты не ў модзе*
*І не патрэбен ты нідзе.*
*І думай, браце, аб бядзе*[11].

Гэты перыяд быў надзвычай цяжкім для творчасці і грамадскай актыўнасці. Асноўной стартэгіяй было захаванне сябе і сваіх блізкіх у бяспецы. Галоўныя фігуранты публікаваных дакументаў займаліся выкананнем „творчых” заданняў дзяржаўна-партыйных органаў. Вясной 1938 г. яны ў складзе групы з сямі літаратараў рыхтавалі зборнік да выбараў у Вярхоўны Савет БССР, якія адбыліся ў чэрвені 1938 г. Летам 1938 г. пісьменнікі пачалі рыхтавацца да 125-гадовага юбілею Тараса Шаўчэнкі. У чэрвені займаліся перакладам вершаў Шаўчэнкі для зборніка „Кабзар”. У ліпені 1938 г. Александровіч быў арыштаваны, а Купала і Колас надалей займаліся перакладам твораў Шаўчэнкі. У жніўні яны ўвашлі ў склад Усесаюзнага Шаўчэнкаўскага юбілейнага камітэта. У тым жа месяцы быў арыштаваны Мікола Хведаровіч, а ў кастрычніку — Кузьма Чорны[12].

Колас і Купала жылі ў атмасферы страху і непрадказальнасці заўтрашняга дня, але пры гэтым спрабавалі заступацца за арыштаваных. Так, Якуб Колас намагаўся дапамагчы акадэміку АН БССР Івану Замоціну, арыштаванаму ў 1938 г. Ён жа заступаўся за Кузьму Чорнага і пераконваў П. Панамарэнку ў яго добранадзейнасці[13].

Менавіта ў гэты час Берман і Наседкін пісалі службовыя допісы, мэтаю якіх была расправа са славутымі беларускімі літаратарамі. У *Допісе* Б. Бермана ад 11 сакавіка 1938 г. ідзе гаворка пра антысавецкую дзейнасць Якуба Коласа, Янкі Купалы і Андрэя Александровіча. Берман сцвярджаў існаванне бясспрэчных доказаў іх удзелу ў беларускай нацыянал-фашысцкай арганізацыі. Пры гэтым ён спасылаўся на паказанні ўдзельнікаў г. зв. „аб’яднанага антысавецкага падполля”. Александровіч таксама абвінавачваўся ў сувязях з трацкістамі, зіноўеўцамі і… палякамі.

Да *Допісу* дадаваліся *Даведкі* на Якуба Коласа, Янку Купалу і Андрэя Александровіча. Падобна, што яны рыхтаваліся на аснове ранейшых *Даведак* НКУС. У працы беларускага даследчыка Расціслава Платонава *Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20–30-х гг.* (2002) былі апублікаваны аналагічныя *Даведкі* на Якуба Коласа і Янку Купалу, падпісаныя намеснікам следчага

[11] Цытата паводле: А. Трафімчык, *Заступніцтва Якуба Коласа за рэпрэсаваных* [у:] *Масавыя рэпрэсіі ў СССР у гістарычных даследаваннях і калектыўнай памяці.* Пад рэд. А. Смаленчука, О. Кондратюк, Мінск 2018, с. 84.
[12] Янка Купала, *Поўны збор твораў: у* 9 тамах. Том 9, Мінск 2003, с. 252–257.
[13] А. Трафімчык, *Заступніцтва Якуба Коласа за рэпрэсаваных…*, с. 85.

аддзела УДБ НКУС БССР мал. лейтэнантам дзяржбяспекі Завацкім[14] і датаваныя жніўнем 1937 г.[15]

У гістарыяграфіі рэпрэсій у БССР згадваецца „тэчка Бермана”, якую той прадставіў П. Панамарэнку летам 1938 г. у тэчцы нібыта знаходзіліся даведкі на „ворагаў” з асяроддзя пісьменнікаў, у т. л. на Купалу і Коласа. Калі яна сапраўды існавала, то можна меркаваць, што прадстаўленыя ніжэй персанальныя *Даведкі* паходзілі менавіта з яе.

Калі параўнаць ужо апублікаваныя Платонавым *Даведкі* на Янку Купалу і Якуба Коласа, то бачым падабенства. У *Даведках* Завацкага і Бермана паўтараюцца ўсе абвінавачанні, якія былі характэрны для канца 1920-х — 1930-х гг. і грунтаваліся на паказаннях раней арыштаваных „ворагаў”. Праўда, у *Даведцы* Бермана, якая датуецца пазнейшым часам, спіс сведак, якія нібыта выкрывалі антысавецкую дзейнасць славутых літаратараў, быў нашмат большы.

*Даведкі* Завацкага і Бермана падобныя па структуры, але Берман быў больш катэгарычным у абвінавачваннях. Так, у яго *Даведцы* на Янку Купалу адсутнічаюць некаторыя падрабязнасці яго літаратурнай творчасці, пераказаны толькі факт спробы самазабойства, без згадкі паказанняў Купалы, у якіх той катэгарычна адмаўляў свой удзел у „нацдэмаўскай” дзейнасці. Гэта інфармацыя прысутнічала ў *Даведцы* Завацкага.

Падобная сітуацыя была з *Даведкай* на Якуба Коласа, у якой Берман апусціў згадку пра тое, што паэт адмаўляў свой удзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі. „Будучи привлеченным в 1930 году к следствию (без ареста) Я. КОЛАС в собственноручных показаниях признал, что являлся нацфашистом, *но категорически отрицал свое участие в к-р*[16]*. организации и тем более ее руководящем центре, заявив: „16.II.30 г. мне были предъявлены обвинения через показания некоторых лиц, арестованных по делу нацдемократической к-р. организации, о том, что я будто бы принадлежу к руководящему центру и являюсь идеологом этой к-р. организации. Я категорически протестую против этого утверждения, как необоснованного на фактах, утверждения голословного и не отвечающего действительности*”[17]. Пазначанае курсівам адсутнічала ў *Даведцы* Бермана. Берман у сваіх *Даведках* пісаў пра Купалу і Коласа як стваральнікаў нацдэмаўскай арганізацыі. У *Даведках* Завацкага такая фармуліроўка адсутнічала.

---

[14] Верагодна, Уладзімір Завацкі (іншы варыянт — Завадскі (1906–1940 (?)) з лістапада 1937 г. да верасня 1938 г. быў начальнікам 5-га аддзела НКУС БССР. У 1939 г. арыштаваны, абвінавачваўся ў фальсіфікацыі спраў. У 1940 г. асуджаны да расстрэлу. Невядома, ці прыгавор быў выкананы. Не рэабілітаваны.

[15] Гл.: Р. Платонаў, *Лёсы. Гісторыка-дакументальныя нарысы…*, с. 198–204.

[16] Прынятае ў дакументах НКУС скарачэнне слова контррэвалюцыйны.

[17] Р. Платонаў, *Лёсы. Гісторыка-дакументальныя нарысы…*, с. 203.



**Янка Купала і Андрэй Александровіч у паездцы. 1937 г. БДАМЛіМ (Менск)**

Праз два месяцы пасля падрыхтоўкі гэтага *Допісу* і *Даведак* Бермана знялі з пасады, ён быў пераведзены ў Маскву. Янка Купала, Якуб Колас і Андрэй Александровіч засталіся на волі. Апошні быў арыштаваны Аляксеем Наседкіным, які працягваў рэпрэсіі супраць літаратараў. У кастрычніку 1938 г. за подпісам Наседкіна на імя Панамарэнкі быў накіраваны допіс *Об имеющихся компрометирующих материалах на членов Союза советских писателей БССР. У* гэтым дакуменце паўтараліся берманаўскія абвінавачанні ў адрас Коласа і Купалы і яшчэ 16 беларускіх літаратараў[18]. Панамарэнка ў лістападзе 1938 г. падрыхтаваў допіс *О белорусском языке, литературе и писателях* на імя Сталіна, у якім сцвярджаў, што адзінай альтэрнатывай арышту Купалы і Коласа з'яўляецца іх супраца з органамі НКУС[19]. Але Сталін, які заўсёды пакідаў магчымасць для манёўра, па-свойму вырашыў лёс пісьменнікаў: замест ордэраў на арышт яны атрымалі па ордэну Леніна.

Вернемся да асобы Андрэя Александровіча, які не здолеў пазбегнуць рэпрэсій. Ён нарадзіўся ў 1906 г. у Менску ў сям'і шаўца. Бацька заўчасна памёр, і Андрэй пайшоў працаваць шаўцом. У 1914 г. хлопчык пачаў вучыцца

[18] Тамсама, с. 215–223.
[19] Тамсама, с. 214.

ў царкоўна-прыходскай школе, дзе стаў удзельнікам першага беларускага народнага хору пад кіраўніцтвам вядомага беларускага кампазітара Уладзіміра Тэраўскага (1871–1938). У 1921–1925 гг. вучыўся ў Менскім педагагічным тэхнікуме. У 1930 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яшчэ ў часы навучання ў тэхнікуме Александровіч стаў адным з арганізатараў літаратурнага аб'яднання „Маладняк" (1923). Працаваў у газетах і часопісах.

У другой палове 1920-х гг. А. Александровіч актыўна ўдзельнічаў у працэсе беларусізацыі. Так, у 1927 г. падпісаў г. зв. „Ліст сямі" ў абарону пастановак Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра. У 1928 г. Александровіч разам з Алесем Дударам і Міхасём Зарэцкім выступіў на старонках газеты „Савецкая Беларусь" з крытыкай фармальнага падыходу да беларусізацыі ў БДУ („Ліст трох"). Але палітычныя перамены істотна паўплывалі на яго пазіцыю. У 1932 г. ён увайшоў у арганізацыйны камітэт па стварэнні Саюза пісьменнікаў. З яго вуснаў на літаратурных нарадах гучала крытыка „нацыяналізму" ў асяроддзі літаратараў[20].

У 1933–1934 гг. Александровіч прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы новага беларускага правапісу. У артыкуле *Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце* ён выступаў за русіфікацыю беларускай мовы, а таксама абвінавачваў былых „маладнякоўцаў" у нацыяналізме і антысавецкай дзейнасці[21]. У 1935 г. па яго прапанове з Саюза пісьменнікаў быў выключаны паэт Сяргей Дарожны[22]. У наступным годзе Александровіч абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР. Пэўны час ён з'яўляўся дырэктарам Інстытута мовы АН БССР, а ў 1937 г. пад яго рэдакцыяй быў выдадзены „Руска-беларускі слоўнік".

Але ў тым жа годзе ён сам стаў аб'ектам рэпрэсій і быў выключаны з партыі. У верасні 1937 г. на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б разглядалася заява Александровіча з просьбай аднаўлення ў партыі. Выконваючы абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б А. Волкаў выступіў з абразлівай крытыкай у адрас паэта. Аднаўленне не адбылося, а 2 ліпеня 1938 г. Александровіч быў арыштаваны. Адбываў пакаранне на будаўніцтве Нарыльскага металургічнага камбіната (1938–1947). У 1949 г. быў паўторна арыштаваны. У 1955 г. рэабілітаваны. Памёр у 1963 г.

Справу арыштаванага паэта курыраваў ужо Аляксей Наседкін. Ва ўласным суправаджальным допісе да паказанняў А. Александровіча Наседкін прыпісаў яму важную ролю ў „нацдэмаўскім" руху разам з Мікалаем Галадзедам, Аляксандрам Чарвяковым, Усеваладам Ігнатоўскім, Антонам

---

[20] Тамсама, с. 94.

[21] Г. Севярынец, *Хлопчык з галоднай Пярэспы, які дапамагаў круціць жорны рэпрэсій* [у:] „Наша гісторыя" 2019, № 11, с. 60–65.

[22] Сапраўднае імя Сяргей Серада. Гл.: Л. Маракоў, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991. Энцыклапедычны даведнік.* У 3 т., т. 1. Абрамовіч — Кушаль, Мінск 2003, с. 300.

Баліцкім, Зміцерам Жылуновічам ды інш. Наседкін прапанаваў выкрыць „антысавецкую дзейнасць" Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама Міхася Лынькова і прымусіць іх да супрацы з НКУС.

Апрача пісьменнікаў у допісе Наседкіна ўзгадваюцца партыйныя і савецкія дзеячы, навукоўцы, арыштаваныя летам 1938 г., паказанні якіх былі дасланы ў Маскву: Нічыпар Бладыка[23], Уладзімір Півавараў[24], Мікалай Дарожкін[25], Мікалай Іванішчанка[26], Уладзімір Патапейка[27]. Таксама тут фігуруе асоба Аляксея Лявіцкага[28]. Паводле Наседкіна, менавіта Лявіцкі і Патапейка былі кіраўнікамі „нацдэмаўскай арганізацыі" ў БССР. Такім чынам, начальнік НКУС „выкрыў" ворагаў у ЦК КП(б)Б. Таксама ў допісе фігураваў былы сябар КПЗБ Іосіф Лагіновіч[29].

*Даведка* ад 19 жніўня 1938 г., падрыхтаваная ў Маскве ст. лейтэнантам дзяржбяспекі Рыгорам Фінкельбергам[30], датычыла Аляксея Лявіцкага. Яе крыніцамі былі пратаколы паказанняў Андрэя Александровіча і Уладзіміра

---

23 Нічыпар Бладыка (1889–?) — рэктар БДУ (1937), арыштаваны ў чэрвені 1938 г. 5 жніўня 1938 г. асуджаны на 8 гадоў і высланы на Калыму. Быў вызвалены ў кастрычніку 1946 г. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 3 красавіка 1957 г.

24 Уладзімір Півавараў (1904–1941) — савецкі дзеяч, народны камісар асветы БССР (1937–1938), фізік. Працаваў ст. навуковым супрацоўнікам Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. У 1938 г. быў арыштаваны. У 1940 г. асуджаны на 15 гадоў. Памёр у жніўні 1941 г. Рэабілітаваны ў 1954 г.

25 Мікалай Дарожкін (1905–1993) — дырэктар Інстытута біялогіі АН БССР. Арыштаваны ў 1938 г., у 1940 г. вызвалены. З 1962 г. акадэмік АН БССР.

26 Мікалай Іванішчанка (1903–1938) — навуковы супрацоўнік Інстытута хіміі АН БССР. Арыштаваны і расстраляны ў 1938 г. Рэабілітаваны ў 1956 г.

27 Уладзімір Патапейка (1907–1941) — партыйны дзеяч, сакратар ЦК КП(б)Б, уваходзіў у склад Асобай тройкі НКУС БССР. З кастрычніка 1937 г. да жніўня 1938 г. з'яўляўся начальнікам Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. У 1940 г. быў асуджаны на 15 гадоў, памёр у снежні 1941 г. Рэабілітаваны ў 1954 г.

28 Аляксей Лявіцкі (1904–1964) — партыйны дзеяч. З 11 жніўня 1937 г. да 30 сакавіка 1938 г. быў другім сакратаром ЦК КП(б)Б, член ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б. Уваходзіў у склад Асобай тройкі НКУС БССР (*Составы троек НКВД–УНКВД 1937–1938 гг., созданных для рассмотрения дел арестованных в ходе массовой операции по приказу НКВД СССР № 00447 от 30 июля 1937 г.* [online], https://www.alexanderyakovlev.org/almanah/inside/almanah-doc/1007240, [доступ: 02.03.2023]).

29 Іосіф Лагіновіч (Павел Корчык) (1891–1940) — беларускі нацыянальны дзеяч, удзельнік Слуцкага збройнага чыну, член КПЗБ. У 1936 г. быў арыштаваны і асуджаны на 5 гадоў. У сакавіку 1938 г. прыгавораны да расстрэлу „за контррэвалюцыйную агітацыю сярод зняволеных". Прысуд не быў выкананы. Летам 1938 г. Лагіновіч знаходзіўся ў Менску. 26 кастрычніка 1939 г. ён быў прыгавораны да расстрэлу як польскі і нямецкі шпіён. У 1940 г. памёр у турме (*Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах*, Мінск 2006, с. 337–338 [online], http://www.belhistory.eu/wp-content/themes/ah/library/slucky_zbrojny_chyn.pdf, [доступ: 02.03.2023]),

30 Рыгор Фінкельберг (1901–1974), у 1938–1941 гг. быў намеснікам начальніка 3-га аддзялення 4-га аддзела 1 УПР, ст. лейтэнант дзяржбяспекі. Скончыў службу ў 1949 г. у званні палкоўніка.

ны і дастаткова вычарпальны агляд гістарыяграфіі прадмета даследавання. На пачатку аўтарка заявіла, што „для дадзенага даследавання з відавочных прычын найважнейшай была расійская гістарыяграфія” (с. 20). Але зроблены таксама грунтоўны агляд англамоўнай, нямецкамоўнай і польскай навуковай літаратуры. Быў узгаданы і літоўскі аўтар Вітаўтас Сюдзікас. А вось пра беларускую гістарыяграфію ў сваім аглядзе Яніцкая ўвогуле не ўспомніла. І тут цяжка крыўдаваць, паколькі на дадзеную тэму няма ні манаграфічных прац беларускіх гісторыкаў, ні грунтоўных артыкулаў, і на пальцах адной рукі можна пералічыць публікацыі, якія больш-менш адпавядаюць гэтай праблематыцы. Прыкладна столькі іх і прысутнічае ў спісе выкарыстаных крыніц, у т. л. згадваецца артыкул аўтара гэтай рэцэнзіі. Але пра гэта варта было б напісаць у аглядзе. Інакш выглядае, што беларуская гістарыяграфія для аўтаркі як бы і не існуе, хаця даследаванне тычыцца якраз тэрыторыі Беларусі.

Структурна праца складаецца з трох раздзелаў. У раздзеле *Халера* аўтарка спынілася на праблемах паталогіі, эпідэміялогіі і этыялогіі хваробы ў навуковай дыскусіі таго часу. Халера была найбольш небяспечным інфекцыйным захворваннем XIX ст. „Халерны вібрыён” (*Vibrio cholerae*) трапляў у чалавечы арганізм у выніку спажывання забруджанай вады і ежы. Аднак доўгі час пра гэта не ведалі, і медыкі спрачаліся адносна розных тэорый, якія тлумачылі механізм перадачы ўзбуджальніка хваробы. Толькі ў 1854 г. італьянскі анатам Філіпа Пачыні здолеў убачыць праз мікраскоп бактэрыю халеры. А пераломнае значэнне мелі даследаванні Роберта Коха ў 1883–1884 гг. Гэтыя адкрыцці прывялі да прынцыповай рэарганізацыі супрацьэпідэміялагічнай прафілактыкі. Раней яна засяроджвалася на стварэнні санітарных і вайсковых кардонаў, абмежаванні міжасабовых кантактаў, а цяпер накіроўвалася ў першую чаргу на ахову крыніц пітной вады.

Таксама былі разгледжаны фізіяграфічныя і грамадска-цывілізацыйныя ўмовы жыцця ў шасці беларуска-літоўскіх губернях. Асноўнай крыніцай паслужылі губернскія памятныя кніжкі і *Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі…*. На жаль, аўтарка не заўважыла таго факта, што 1840–1850-я гады былі перыядам моцных неўраджаяў, якія прывялі да голаду і выбуху эпідэмій заразных хвароб.

Івона Яніцкая звярнула ўвагу на храналогію, геаграфію і статыстыку пандэміі халеры. Даследчыкі мяркуюць, што яна ўжо тысячы гадоў бытавала ў басейне ракі Ганг у Індыі. Але толькі ў XIX ст., дзякуючы развіццю хуткаснага суднаходства, хвароба распачала сваю імклівую экспансію па ўсім свеце. Першая пандэмія выбухнула ў 1817–1823 гг., але абмежавалася Індыяй і суседнімі азіяцкімі краінамі.

Другая пандэмія халеры стала глабальнай з’явай. Яна выйшла з басейна Ганга ў 1826 г. у наступным годзе дайшла да Афганістана, а яшчэ праз год да Сярэдняй Азіі. У 1828 г. хвароба з’явілася на поўдні Расійскай імперыі. За

пяць месяцаў 1830 г. у Маскве ад яе памерла 4 690 чал. у 1831 г. халера апанавала Санкт-Пецярбург і адтуль рушыла на захад. Яе пашырэнню садзейнічалі падзеі паўстання 1831 г. у Польшчы і „заходніх губернях” Расіі. Неўзабаве халера апанавала большасць еўрапейскіх краін і ўжо ў 1831 г. дайшла да Вялікабрытаніі. У Англіі, Уэльсе і Шатландыі яна забіла 31,5 тыс. жыхароў, а ў Ірландыі — 25 тыс. Адтуль халера перабралася праз акіян і пачала збіраць смяротнае жніво ў Паўночнай Амерыцы. Таксама хвароба трапіла да Афрыкі. Другую пандэмію халеры можна параўнаць з сярэднявечнай чумой. Сярэдняя смяротнасць складала сярод захварэўшых каля 50 %. Парыж страціў 2,2 % папуляцыі, Масква — 1,5 %, Лондан — 0,4 %, але Неапаль — 5 %, Палерма — 15 %, а Сіракузы — каля 20 %. Прычым гэтыя лічбы, верагодна, заніжаныя.

Трэцяя пандэмія 1841–1861 гг. ішла з Індыі трыма магутнымі хвалямі. Першая хваля распачалася ў 1841 г. і падчас „опіумнай вайны” была перанесена англійскімі войскамі да Кітая, дзе дасягнула свайго апагею ў 1843 г. Другім кірункам экспансіі хваробы стаў паўночны захад. У 1847 г. халера дайшла да Каспійскага мора, а адтуль перакінулася ў Расію. Ад кастрычніка 1847 г. да ліпеня 1848 г. хвароба забіла ў Санкт-Пецярбургу каля 16 тыс. чал. з Расіі халера пашырылася на Заходнюю Еўропу, а адтуль трапіла ў „Новы свет”, забіваючы сотні тысяч людзей. На Крымскай вайне халера сабрала не меншае жніво сярод жаўнераў, чым ружэйныя кулі і артылерыйскія снарады. У 1854–1855 гг. у Францыі памерла ад халеры 146 тыс. чал., у Італіі — амаль 250 тыс.

У 1855 г. з Індыі выйшла наступная хваля трэцяй пандэміі, якая хутка дасягнула ўзбярэжжа Чорнага мора. У Расійскай імперыі ў 1855 г., паводле афіцыйных даных, памерла 124 тыс. чал. Яшчэ больш пацярпела Іспанія, дзе захварэла 1,5 % папуляцыі, а памерла 237 тыс. чал. Скончылася пандэмія толькі ў 1861 г.

У 1863–1875 гг. у свеце лютавала чацвёртая пандэмія. У Еўропе ад яе найбольш пацярпелі нямецкія землі, да чаго спрычынілася аўстрыйска-пруская вайна. У Англіі гэта была апошняя эпідэмія, якую, зрэшты, даволі хутка перамаглі. Ад чацвертай эпідэміі найбольш пацярпелі краіны паўднёва-ўсходняй Азіі — Японія, Кітай, Інданэзія.

У 1881–1896 гг. прайшла апошняя, пятая пандэмія халеры. Яна моцна спустошыла паўднёвыя краіны Еўропы. У Іспаніі памерла больш за 72 тыс. чал. Гэта пандэмія моцна ўдарыла па Расіі. У Паволжы ў 1890–1891 гг. здарыўся моцны неўраджай, а потым прыйшоў голад. Але расійскія медыкі сцвярджалі, што голад не аказаў ніякага ўплыву на смяротнасць ад халеры. Івона Яніцкая палічыла гэтую выснову палітызаванай і замоўленай уладамі. Усяго ж праз Расійскую імперыю ў XIX ст. пракацілася пяць халерных пандэмій, падчас якіх захварэла больш за 4,5 мільёна людзей, з якіх амаль 2 мільёны памерла.

Для беларускіх даследчыкаў асабліва цікавая статыстыка эпідэмій халеры ў беларуска-літоўскіх губернях. З 1831 па 1895 год эпідэмія „сіняй смерці" шматразова наведвала тэрыторыю Беларусі і Літвы. Халера прыходзіла ў 1831, 1837–1838, 1847–1849, 1852–1859, 1866–1867, 1869–1873, 1892–1895 гг. Паводле падлікаў аўтаркі, на тэрыторыі шасці беларуска-літоўскіх губерняў ўсяго захварэла 533 922 чал., з якіх памерла 176 083 чал. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што халера забрала больш жыццяў, чым усе іншыя заразныя хваробы і ваенныя канфлікты за гэты перыяд. Сярэдні паказчык смяротнасці складаў 32,9 % ад агульнай колькасці захварэўшых, хаця ў асобныя перыяды дасягаў 50 %. Прычым аўтарка ўпэўнена, што гэтыя дадзеныя далёка не поўныя.

Адной з галоўных прычын пашырэння халеры былі дрэнныя жыллёва-побытавыя ўмовы большасці насельніцтва. А галоўным фактарам з'яўлялася адсутнасць доступу да чыстай пітной вады, а таксама перанаселенасць жылых памяшканняў. Найгоршымі былі гэтыя ўмовы ў бедных яўрэйскіх кварталах гарадоў і ў сялянскіх хатах. Востра адчуваўся недахоп медыцынскага персаналу.

Барацьба з халерай у беларуска-літоўскіх губернях доўгі час не прыносіла жаданых вынікаў. Мерапрыемствы, накіраваныя на паляпшэнне санітарнага стану гародоў, пачалі праводзіцца толькі ў 1870-я гады, а найбольш інтэнсіўна — у канцы XIX ст. у гэты час пачалі рабіць мікрабіялагічныя даследаванні і фільтрацыю вады. У гарадах паўсталі камунальныя службы, якія займаліся ўборкай вуліц і прыбіральняў, а перш за ўсё — будаўніцтвам сістэм водазабеспячэння і каналізацыі. У выніку колькасць хворых пачала скарачацца. Аднак узровень смяротнасці працягваў заставацца высокім. Шанс на яго кардынальнае зніжэнне дало стварэнне вакцыны, распрацоўка якой вялася з 1880-х гг.

Першая пандэмія халеры абмінула Беларуска-літоўскі край, а вось другая напоўніцу сабрала тут свой жахлівы ўраджай. Гэта пандэмія прыходзіла двойчы — у 1830 і ў 1837 гг. У 1831 г. у Беларусі і Літве захварэла 112 213 чал., з якіх памерла 40 190 чал. у Магілёве памерла 520 чал., у Віцебску — 587, у Менску — 874, у Гродне — 1 891. У Гродне агульны паказчык смяротнасці склаў 212,5 на 1 000 чал., а смяротнасць сярод захварэўшых дасягала амаль 50 %. 1831 год стаў адным з самых трагічных у гісторыі Гродна. У Гродзенскай губ., якая найбольш пацярпела ад эпідэміі, усяго захварэла 20 145 чал., з якіх памерла 7 676. Агульная смяротнасць склала 38,1 %. У Менскай губ. хварэла 10 012 чалавек, з якіх памерла 7 496. У Пінскім пав. смяротнасць дасягнула 58,2 %. На ўсходзе Беларусі пандэмія праявіла сябе слабей. Асабліва пацярпела ад халеры беднае яўрэйскае насельніцтва гарадоў і мястэчак. Наступная хваля 1837 г. праявілася толькі ў Беластоцкай вобл. і, у меншай ступені, у Гродзенскай і Віленскай губ. Усяго захварэла 5,5 тыс. чал., а памерла каля 900.

Першыя выпадкі халеры падчас трэцяй пандэміі на тэрыторыі Менскай губ. пачалі рэгістраваць з 20 кастрычніка 1847 г. Адтуль хвароба пашырылася на Віцебскую і Магілёўскую губ. Аднак інтэнсіўнасць працякання халеры на Беларусі ў 1847 г. была адносна невысокай. Паказчыкі смяротнасці сярод захварэўшых ваганіся ад 12,6 % да 27 %. У Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губ. памерла 1 031 асоба з ліку 5 840 захварэўшых.

Сітуацыя радыкальна змянілася ў наступным 1848 г. у Магілёўскай і Віцебскай губ. халера ператрывала зіму і з вясны пачала пашырацца на суседнія рэгіёны, дасягнуўшы 24 ліпеня Гродзенскай губ. у выніку ў шасці беларуска-літоўскіх губернях у 1848 г. захварэла, паводле афіцыйных звестак, 172 336 чал., з якіх памерла 49 618. У Віцебскай і Магілёўскай губ. хварэла больш за 50 чал. на тысячу жыхароў. Напрыклад, у Магілёўскай губ. на працягу шасці месяцаў захварэла 48 тыс. чал. у Аршанскім пав., якія налічваў 106 тыс. жыхароў, захварэла 14 067 чал., а памерла 4 011. Гэта быў рэкордны паказчык на беларускіх землях у XIX ст. Увогуле ў 1848 г. халера сабрала самы жахлівы ўраджай смерці ў Беларусі за ўсю гісторыю пандэмій гэтай хваробы.

Павел Баброўскі ў сваім даследаванні Гродзенскай губ. адзначаў, што для барацьбы з халерай у 1848 г. ва ўсіх гарадах і многіх мястэчках губерні былі створаны часовыя лазарэты, прычым асобныя для хрысціян і іўдзеяў. Зрэшты, гэтыя лазарэты прызначаліся для тых, хто не меў адпаведных умоў для лячэння дома, а гэта значыць — для бяднейшага насельніцтва. Звычайна яны ўяўлялі сабой памяшканне на некалькі ложкаў. У некаторых гарадах утвараліся адмысловыя часовыя камітэты, якія складаліся з мясцовых лекараў, фельдшараў і цырульнікаў. Гэтыя камітэты павінны былі выпрацоўваць тактыку змагання з эпідэміяй халеры, зыходзячы з мясцовых варункаў. З ліку самых паважаных мяшчан выбіраліся дэпутаты, абавязкам якіх было сачыць за чысцінёй і гігіенай у хатах гараджан і местачкоўцаў. Галоўным сродкам прафілактыкі халеры прызнавалася адмова ад непрыдатнай і сырой ежы, а таксама „содержание желудка в тепле и устранение простуды". Было таксама пашырана перакананне ў карыснасці спажывання гарэлкі.

Увогуле лекары актыўна эксперыментавалі з метадамі лячэння. Праславіўся нейкі лекар з вёскі Дубна Гродзенскага пав., які націраў хворых сумессю з воцату, піва і гарэлкі. Паводле звестак Гродзенскай урачэбнай управы, у 1848 г. да лекараў звярнулася 15 737 хворых на халеру, з ліку якіх памерла 3 037, ці 23 %. У гадавой справаздачы ўрачэбнай управы пра барацьбу з халерай гаварылася, што гэтая хвароба „по большей части скорее развивалась и преимущественно была жестока там, где города и деревни лежали в местах низких и топких, при болотах и нечистых прудах, тем более, если поселяне жили тесно и неопрятно". Прычым са з'яўленнем халеры „все прочие болезни утихли".

Першыя хворыя на халеру спачатку паміралі на працягу ўсяго некалькіх гадзін, але з часам хвароба набывала больш працяглы характар працяка-

ння. Лекары заўважылі, што ахвярамі эпідэміі ставалі пераважна асобы сярэдняга ўзросту, і ў многіх выпадках яна развівалася „просто от продолжительного влияния холодного и сырого воздуха". Але галоўным хваробатворчым чыннікам былі прызнаны расстройствы сістэмы стрававання.

Халера зноў з'явілася ў студзені 1849 г., а потым яшчэ ў кастрычніку, але цяпер ахвяр было значна менш, чым годам раней. Івона Яніцкая прывяла ў сваім даследаванні лічбы, што ў тым годзе ў трох паветах і пяці гарадах Гродзенскай губ. захварэла 287 чал., з якіх памерла 95. Халера з'явілася таксама і ў суседняй Віленскай губ., хаця мела значна меншыя маштабы. Ва ўсёй Расійскай імперыі ў 1849 г. халерай захварэла 15 223 асобы, а памерла 6 722. У 1850 г. сітуацыя з хваробамі і смяротнасцю фактычна вярнулася да нормы.

У 1852 г. распачалая новая хваля пандэміі халеры на Гродзеншчыне, якая трывала да 1859 г. Івона Яніцкая прывяла лічбы — 1 426 памерлых з 4 426 захварэўшых. Ва ўмовах незвычайна дажджлівага і сырога надвор'я ў 1853 г. эпідэмія халеры ўзмацнілася. За 1853 г. у шасці беларуска-літоўскіх губернях захварэла, паводле афіцыйных звестак, 38 824 асобы, а памерла 12 432 (с. 197). Смяротнасць паўсюдна, апрача Віцебскай губ., перавысіла 30 %. Найгоршы вынік быў зафіксаваны ў Пінскім пав. Менскай губ., дзе памерла 614 асоб з 1 726 захварэўшых. Сярод беларуска-літоўскіх губерняў на гэты раз найбольш пацярпела Ковенская — больш за 9 тыс. захварэўшых. У Віцебскай і Магілёўскай губ. захварэла прыблізна па 7 тыс. жыхароў.

У 1854 г. смяротнасць сярод захварэўшых была асабліва высокай. У Гродзенскай губ. яна складала амаль 50 %. Хвароба з'явілася на Гарадзеншчыне толькі 25 жніўня. Але гэта быў час палявых прац, што нанесла вялікія страты сельскай гаспадарцы. Напрыклад, маршалак Пружанскага пав. Валенты Швыкоўскі паведамляў губернскаму начальству ў сярэдзіне жніўня: „По деревням между крестьянами существуют разные болезни, как то: горячки, лихорадки, понос и тому подобные. При всех со стороны владельцев стараниях и издержках лечение не приносит вожделенных результатов, ибо болезни очень продолжительны, и смертность от оных изнурительная и необыкновенна, — обстоятельства эти весьма замедляют уборку хлебов и сена"[1]. Найдаўжэй трымалася хвароба ў Беластоцкім пав. — да лютага 1855 г.

У маі 1855 г. з Валынскай і Кіеўскай губ. на беларускія землі прыйшла новая хваля халеры. Паводле дадзеных расійскага даследчыка Г. Архангельскага, у Менскай губ. захварэла 25 395 чалавек, а памерла 9 264, а ў Магілёўскай — адпаведна 7 921 і 2 633 (с. 199). У Гродзенскай губ. захварэла 11 752 асобы, з іх памерла 4 745. Моцна ўдарыла халера і па Віленскай губ. Найбольш пацярпеў тут Ашмянскі пав., дзе захварэла 3 562 асобы, а памерла 973 (с. 200). Найменш драматычна выглядала сітуацыя ў Віцебскай губ.

[1] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 1, спр. 1097, арк. 269 адв.

Ад пачатку 1855 г. года халера пачала спарадычна з'яўляцца ў розных месцах Гродзенскай губ., а ў чэрвені набыла характар эпідэміі ў Гродзенскім, Бельскім і Ваўкавыскім пав. з другой паловы ліпеня эпідэмія разышлася па ўсёй губерні, „наиболее поражая людей низшаго класса и евреев"[2]. Свайго піку яна дасягнула ў жніўні, якраз калі сяляне павінны былі шмат працаваць у полі. Маршалак Слонімскага пав. у сваім паведамленні ў Камісію народнага харчавання намаляваў апакаліптычны вобраз трагедыі, якая там разыгралася: „[…] при свирепствовании еще в сем году во время самой уборки хлебов весьма сильной холеры, следствием которой из некоторых деревень, в особенности расположенных по низменным местам при берегах реки Щары, крестьяне, бросив хозяйства, разбежались и, кроме того, падеж рогатого скота много воспрепятствовал своевременному сбору с полей, помещичьи крестьяне решительно не будут не токмо в состоянии уплатить подлежащие с них подати, но даже прокормить себя в течение двух первых месяцев осени"[3].

У верасні хвароба аслабіла сваю смяротную хватку ў Гродне і іншых гарадах губерні, потым у мястэчках, але на вёсцы працягвала лютаваць да кастрычніка. Прычым хвароба дзейнічала вельмі хутка — часта смерць надыходзіла ўсяго праз некалькі гадзін ад першых яе праяў, і не дапамагалі ніякія лекі. Найбольшае смяротнае жніва халера сабрала ў Бельскім пав. — 2 299 хворых і 1 130 памерлых, а таксама ў Гродзенскім — адпаведна 2 099 і 655 (с. 200).

Усяго падчас трэцяй пандэміі за 1848–1857 гг. у Гродзенскай губ. смерць ад халеры, паводле дадзеных Паўла Баброўскага, складала 3,6 % ад усіх смярцей. Але гэта была толькі вяршыня айсберга, паколькі да лекараў звярталіся амаль выключна шляхта і гараджане, а колькасць хворых сярод сялян ніхто не лічыў. П. Баброўскі так апісаў працэс пашырэння халеры і іншых заразных захворванняў сярод насельніцтва Гродзеншчыны ў тыя галодныя гады: „[…] у народа вышли все запасы, он употребляет несозревшие плоды, ест зелень без соли и круп; по недостатку хлеба является водянка, народ становится слабым и истощенным […] Холера 1848, 1852–1855 гг. не обращала внимания ни на возраст, ни на пол и положение в свете. Лихорадки заменяются горячками, развивается тиф со своими синими пятнами, предвестниками смерти […] Засуха сушит хлеб и кормовые травы; дожди препятствуют сбору хлеба; обнаруживается неурожай — предвестник (1845 и 1855 гг.) дороговизны, лишений, разных болезней и страданий и новых могил"[4].

На шчасце, у 1856 г. эпідэмія халеры пачала слабець. У Гродзенскай губ. за гэты год захварэла ўсяго 88 чал., а памерла — 31. Хвароба трывала тут ад 20 чэрвеня да 31 ліпеня (с. 201). У 1857 г. у Гродзенскай губ. здараліся то-

[2] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. Часть 1. Приложения*, Спб 1863, с. 82.

[3] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1125, арк. 3.

[4] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России…* Ч. 1, с. 364.

лькі паасобныя выпадкі халеры, і ўсе захварэўшыя выздаравелі. Апошняя хваля трэцяй пандэміі на беларускіх землях прайшла ў 1859 г. па Віцебскай губ., пасля чаго да 1866 г. насельніцтва Беларусі магло з палёгкай уздыхнуць.

Чацвёртая пандэмія халеры з'явілася на беларускіх землях у 1866 г., куды прыйшла з Валыні. Усяго ў шасці паўночна-заходніх губернях захварэла 28 734 асобы, з якіх памерла 8 200. Найбольш захварэўшых (12 на 1 000 жыхароў) назіралася ў Гродзенскай губ. Наступная хваля 1867 г. была значна слабейшай. У 1870 г. халера пашыралася ў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губ., але пратрывала там нядоўгі час. У Гродзенскай губ., напрыклад, захварэла 222 асобы, з якіх 91 памерла.

Але ў наступным 1871 г. пандэмія дасягнула свайго апагею. Усяго ў шасці губернях захварэла 37 868 чал., з якіх памерла 14 192. Найбольш пацярпела Магілёўская губ. У наступным годзе лічба захварэўшых зменшылася да 28 303, але лічба памерлых была вельмі высокай — 10 836. Ізноў найбольшыя страты былі на Магілёўшчыне. У 1873 г. пандэмія пайшла на спад, але ў Гродзенскай губ. лічбы захварэўшых (4 178) і памерлых (1 835) заставаліся высокімі.

У 1893–1894 гг. у шасці губернях захварэла 7 375 чал., а памер 2 651. Самыя вялікія страты былі ў Магілёўскай губ. Апошняя хваля халеры была адзначана ў 1894–1895 гг., калі захварэла 5 583 асобы, а памерла 2 384.

У другім раздзеле манаграфіі Івона Яніцкая разглядае прафілактыку і арганізацыю сістэмы аховы здароўя. Аўтарка прыйшла да высновы, што расійская мадэль арганізацыі медычнай і санітарнай сістэмы не вытрымлівала параўнання з заходнееўрапейскімі сістэмамі. Гэта мадэль была састарэлай, залішне цэнтралізаванай і бюракратызаванай. Вялікай праблемай быў недахоп адукаваных медыцынскіх кадраў, перагружанасць адміністрацыі абавязкамі, а таксама недакладнае іх размежаванне. Чарговыя рэформы не маглі пераламаць сітуацыі. Сродкі бяспекі на шасэйных, водных дарогах і чыгунках, што ўводзілі расійскія ўлады, прынцыпова не адрозніваліся ад тых, якія практыкаваліся ў заходнееўрапейскіх краінах і ў Амерыцы. Але ў Расіі яны нярэдка ўводзіліся запозненa.

У трэцім раздзеле разглядаецца ўласна змаганне з халерай. У сярэдзіне XIX ст. гісторык медыцыны Эрвін Хайн Акернехт прыйшоў да высновы, што рэакцыя еўрапейскіх дзяржаў на халеру залежала ад іх палітычнага ладу. Абсалютныя манархіі, як Расія, Прусія ці Аўстрыя трактавалі халеру (як і кожную іншую пандэмію) як ваенную кампанію з ворагам. Адпаведна, прымаліся вельмі суровыя меры: санітарныя кардоны, абмежаванне свабоды перамяшчэння, шырокае выкарыстанне войска і паліцыі. Ліберальныя краіны, як Англія і Францыя, трактавалі халеру як часовую праблему. Паспрыяць яе вырашэнню павінны былі рэформы і развіццё санітарнай інфраструктуры. Менавіта таму ў Англіі, як адзначыла аўтарка, з 1866 г. эпідэмій халеры ўласна і не было. Вырасла значэнне санітарных служб, грамадства разумела іх ролю і ставілася да іх з даверам і павагай.

У Расійскай імперыі, як сцвердзіла аўтарка, не было даверу насельніцтва да медычных службаў, паколькі большасць жыхароў элементарна не мела да іх доступу. А галоўным з'яўлялася тое, што сама ж самадзяржаўная ўлада рабіла немагчымым паспяховае змаганне з эпідэміяй. Для расійскай мадэлі дзяржаўнага кіравання былі характэрнымі несамастойнасць мясцовых устаноў і цесная сувязь іх працы з палітыкай. На практыцы гэта азначала, што кірункі дзейнасці мясцовых улад вызначаліся зверху і павінны былі адпавядаць палітычным планам правячага рэжыму. Суровыя меры часам прыводзілі да халерных бунтаў. Замест супрацоўніцтва грамадства і ўлады панаваў прымус, замест пачуцця бяспекі — страх і напружанне, а замест эмпатыі — падазронасць і адчужанасць. Органы цэнтральнай адміністрацыі падмянялі мясцовыя ўлады нават у дробных справах. Доўгі час не існавала мясцовага самакіравання, на якое можна было б ускласці цяжар барацьбы с халерай. Інакш выглядала, на думку Яніцкай, сітуацыя ў Аўстрыі і Прусіі, у т. л. на польскіх землях, якія ўваходзілі ў склад гэтых дзяржаў. Тут мясцовае самакіраванне несла на сваіх плячах галоўны цяжар змагання з пандэміямі.

Які ўплыў эпідэміі халеры аказалі на тагачаснае грамадства? Як адзначыла Івона Яніцкая, халеру называлі „паліцыяй прыроды”, таму што „лепей за любога дэтэктыва заўсёды знаходзіла санітарныя недахопы і парушэнні”. У Расіі, на думку польскай даследчыцы, адсутнасць санітарных рэформ і цывілізацыйная адсталасць ад заходнеўрапейскіх краін сталі прычынай таго, што халера сабрала сотні тысяч сваіх ахвяр. І гэта пры тым, што насамрэч з ёй можна было паспяхова змагацца вельмі простым спосабам — мылам і рыдлёўкай. Але тагачасныя еўрапейскія дзяржавы дзейнічалі фактычна ўсляпую, часта мабілізуючы на барацьбу з халерай вялізныя людскія, фінансавыя і адміністрацыйныя сродкі, але без належнай эфектыўнасці.

Пашырэнню халеры ў „Паўночна-Заходнім краі” імперыі спрыялі цяжкія сацыяльна-эканамічныя варункі жыцця, голад, галеча, невыкананне элементарных гігіенічных і санітарных правіл. Істотнай была адсутнасць санітарнага заканадаўства, але найвялікшай бядой была адсутнасць лекараў і адукаванага медычнага персаналу.

Такім чынам, як лічыць Івона Яніцкая, існуе выразная сувязь паміж развіццём пандэмій і палітычным ладам дзяржавы. Сацыяльнае значэнне эпідэміі палягала на тым, што яны станавіліся шкалой, паводле якой можна было вымяраць багацце і беднасць, прагрэс і адсталасць, выявіць недахопы, убачыць слабыя бакі. Халера даказала, што ўзровень развіцця Расійскай імперыі з'яўляецца недастатковым, каб паспяхова супрацьстаяць такім выклікам.

Відавочнай, на думку аўтаркі, з'яўлялася карэляцыя паміж халерай, амаральнасцю і беднасцю. Эпідэміі сталі лакмусавай паперкай, якая выразна паказвала сацыяльныя праблемы тагачасных дзяржаў: напружанне паміж багатымі і беднымі, паміж уладай і „падданымі”, паміж living рознымі этнічнымі групамі.

Пазітыўнымі вынікамі халерных пандэмій можна лічыць павышэнне адказнасці ўрада за здароўе і жыццё грамадзян, а таксама паскоранае развіццё сістэмы аховы здароўя. Увядзенне санітарна-гігіенічных сродкаў мела паліятыўны характар і стала першым крокам да сапраўднай медыкалізацыі сацыяльнага жыцця. У Расіі гэты працэс адбываўся павольна. Аднак і тут назіраліся праявы самаарганізацыі мясцовага грамадства, развіццё дабрачыннасці, асабліва ў вялікіх гарадах. Пазітыўнае значэнне мела рэформа гарадскога самакіравання, праведзеная ў заходніх губернях у 1875 г.

Івона Яніцкая прыклала да сваёй кнігі 17 дадаткаў, пераважна ў выглядзе статыстычных табліц. У гэтых табліцах пададзены лічбы захварэўшых халерай і памерлых у шасці беларуска-літоўскіх губернях (з улікам паветаў) за ўсе пандэміі. У дадатках аўтарка таксама прывяла асноўныя меры вымярэння, якія выкарыстоўваліся ў той перыяд. Яна абмежавалася казённымі расійскімі мерамі, хаця на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў дзейнічалі мясцовыя.

На мой погляд, у працы Івоны Яніцкай усё ж не хапае агульнага палітычнага, сацыяльнага і эканамічнага кантэксту гісторыі беларуска-літоўскіх земляў у разглядаемы перыяд. Халера з'яўлялася толькі адной, хаця і самай небяспечнай, з мноства эпідэмічных хвароб, якія мучылі насельніцтва Беларусі. У 1846–1855 гг. у выніку некалькіх моцных неўраджаяў распачаўся голад, які стаў каталізатарам пашырэння эпідэміялагічных захворванняў. Менавіта голад успрымаўся і дзяржаўнымі ўладамі, і мясцовымі супольнасцямі як самая страшная пагроза, а заразныя хваробы і эпідэміі ўжо былі іх наступствамі. Тыф, воспа, ліхаманка і дызентэрыя таксама збіралі ў тыя гады сваё страшнае жніво. Зрэшты, пра гэта няма асобных навуковых публікацый у беларускай гістарыяграфіі, таму і асаблівых прэтэнзій да Івоны Яніцкай тут быць не можа.

Аўтарка аніводнага разу не ўзгадала ў сваёй працы прыгоннае права, якое з'яўлялася адным з важнейшых структурных элементаў арганізацыі тагачаснага грамадства. У часы прыгону землеўласнікі павінны былі клапаціцца пра медыцынскую дапамогу сваім сялянам. Ці паўплывала, напрыклад, адмена прыгону ў 1861 г. на эфектыўнасць змагання з халерай? Зноў жа, адказаць на гэта пытанне аўтарцы было б прасцей, каб яно разглядалася ў беларускай гістарыяграфіі.

У заключэнне хацелася б адзначыць той неаспрэчны факт, што манаграфія Івоны Яніцкай з'яўляецца значным унёскам у вывучэнне гісторыі Беларусі і Літвы, паколькі эпідэмія халеры была важным чыннікам, які аказваў істотны ўплыў на развіццё ўсяго грамадства. Несумненна, што знаёмства з гэтай кнігай павінна стаць абавязковым для беларускіх даследчыкаў гісторыі XIX ст.

**Аляксандр Краўцэвіч**
**доктар гістарычных навук (Варшава)**
**ORCID: 0000-0002-9340-2732**

# Тэорыі множнасці цывілізацый

O. Łatyszonek, *Europa Wschodnia w zderzeniu cywilizacji. Historia, problemy narodowościowe i stosunki międzynarodowe w koncepcjach pluralizmu cywilizacyjnego*, Białystok 2022. — 343 s.

Як здараецца з сучаснымі кнігамі, вынесенай на вокладку назвы („Усходняя Еўропа ў сутыкненні цывілізацый") не дастаткова для высновы пра змест твора. Належыць заглянуць далей за вокладку і форзац, на тытульны ліст і прачытаць поўную назву.

Праца прадстаўляе канцэпцыі некалькіх аўтараў, якія пісалі пра розніцу і адносіны паміж цывілізацыямі і для якіх Алег Латышонак ужывае агульнае акрэсленне „тэарэтыкі множнасці цывілізацый" (teoretycy wielości cywilizacji). Гэта аўтары XIX–XX стст.: расейцы Мікалай Данілеўскі (1822–1885), Канстанцін Лявонцьеў (1831–1891), Леў Гумілёў (1912–1992), немец Освальд Шпенглер (1880–1936), паляк Фелікс Канечны (1862–1949), англічанін Арнольд Тойнбі (1889–1975) і амерыканец Самуэль Хантынгтан (1927–2008). На маю думку, месца ў гэтым шэрагу заслугоўвае таксама француз Фернан Брадэль (1902–1982) — выбітны тэарэтык множнасці светаў-гаспадарак, імя якога згадваецца ў рэцэнзаванай кнізе. Працы Ф. Брадэля, на мой погляд, больш цікавыя, а высновы нашмат лепш аргументаваныя, чым састарэлыя канцэпцыі аўтараў з XIX ст. Магчыма, ён не ўключаны ў працу толькі таму, што не займаўся прагназаваннем.

Тэкст кнігі — у значнай ступені крытычны пераказ, а таксама добры канспект (прыдатны для студэнтаў адпаведных спецыяльнасцей) тэорый розных аўтараў і іх ацэнак сучаснымі, пераважна польскімі, даследчыкамі.

А. Латышонак не толькі прааналізаваў творы выбраных аўтараў, але і праштудзіраваў шматлікія крытычныя іх разборы і прыцягнуў для ўласнага крытычнага аналізу тэксты іншых даследчыкаў, звязаныя з абранай праблематыкай. Не бракуе таксама аўтарскіх высноў, ацэнак, удакладненняў featureнай ступені верагоднасці.

Названыя аўтары выкарыстоўваюць разнастайныя тэрміны для абазначэння таго, што А. Латышонак называе цывілізацыямі. Розныя назвы ў іх маюць таксама паасобныя цывілізацыі. Кожны па-свойму вызначаў іх колькасць у гісторыі чалавецтва і акрэсліваў межы, часта істотна адрозныя ад меркавання іншых аўтараў. Тут дарэчы будзе цытата з кнігі: „Twierdzą bowiem zgodnie, że kraje prawosławne nie są częścią Europy. Cywilizację, do

której należą ich zdaniem te kraje, nazywają różnie. Dla Nikołaja Danilewskiego jest to słowiański typ kulturowo-historyczny, w którym przywódczą rolę odgrywa Rosja. Natomiast według Konstantina Leontjewa to typ bizantyński. W opinii Arnolda Toynbeego — rosyjskie odgałęzienie chrześcijaństwa prawosławnego, a dla Samuela Huntingtona chrześcijaństwo prawosławne lub blok rosyjski. Zdaniem Spenglera to po prostu Rosja. W oczach Lwa Gumilowa cywilizacja ta jawi się jako superetnos rosyjski (względnie eurazjatycki), a dla Feliksa Konecznego to wręcz Turan[1]" (c. 287).

Гэтаксама згаданыя тэарэтыкі па-рознаму вызначалі і акрэслівалі межы таго, што мы называем еўрапейскай ці заходнееўрапейскай (атлантычнай) цывілізацыяй. Увогуле, адсутнасць выразных межаў для гістарычных чалавечых супольнасцей з'яўляецца нормай (выключэнне — дзяржаўныя межы найноўшага часу), бо іх межы звычайна „размытыя" ў прасторы, як у геаграфічнай, так і ў сацыяльнай. Напрыклад, у Еўропе практычна не існуе лінеарных этнічных межаў, а толькі кантактныя зоны. У межах соцыуму, асабліва ў найноўшы час, адбываюцца пастаянныя дыфузіі з адной страты ў іншую і г. д. Так, і ў канцэпцыях розных „тэарэтыкаў множнасці цывілізацый" адрозніваюцца не толькі назвы і геаграфічныя межы, але і перыяды існавання, не кажучы ўжо пра прагнозы наконт далейшага развіцця.

Напэўна, агульнае для ўсіх аўтараў — упадабленне цывілізацыі біялагічнаму арганізму, які праходзіць усе непазбежныя стадыі жыцця: маладосці, спеласці, старасці і смерці (натуральна, назвы для гэтых этапаў аўтары выбіраюць самыя розныя).

А. Латышонак выкарыстоўвае паняцце „цывілізацыя Усходняй Еўропы". Ва ўступе ён пачаў акрэсліваць дэфініцыю тэрміну „Усходняя Еўропа", але не закончыў яе, адаслаўшы чытача ў канец працы: „Co ja sam rozumiem przez „cywilizację Europy Wschodniej", również w zakresie terytorialnym, będzie dopiero rezultatem moich badań." (c. 12).

У заканчэнні аўтар сцвердзіў: „W moim przekonaniu, w Europie Wschodniej mamy doczynienia nie z odgałęzieniem cywilizacji „bizantyńskiej", a z odrębną cywilizacją wschodnioeuropejską, właściwie wschodniosłowiańską, która wyrosła z cywilizacji (wschodnio)rzymskiej (niesłusznie nazywanej bizantyńską) w ten sam sposób, w jaki z tejże cywilizacji, wyrosła cywilizacja zachodnioeuropejska" (c. 289–290). Што датычыць межаў, то іх акрэсленне ў кнізе мне не трапілася — пэўна, даследаванне яшчэ не скончана.

Агулам у працы не так шмат месца прысвячаецца праблеме сутыкнення цывілізацый ва Усходняй Еўропе. Тут больш крытыкі розных канцэпцый, разгляду ўзаемаадносін Еўропы з Расеяй. Пры гэтым А. Латышонак выяўляе залежнасць поглядаў аўтараў ад іх нацыянальнасці і прыналежнасці да пэўнай цывілізацыі.

---

[1] Туран — у іранскім эпасе рэгіён, які прыблізна адпавядае Сярэдняй Азіі.

Расеяцэнтрызм лучыць аўтараў з XIX ст. Мікалая Данілеўскага і Канстанціна Лявонцьева са Львом Гумілёвым — гісторыкам, які жыў у XX ст. Для еўрапейскіх аўтараў уласцівы еўропацэнтрызм, а паляк Канечны ствараў свае працы пад уплывам гістарычнага досведу польскага народа (с. 137). Ён асуджаў нацыянальны рух украінцаў і летувісаў, амаль не заўважаў беларусаў, ужываў таксама тэрмін „Летува" (Letuwa) (с. 148–150).

Неад'емнай часткай кожнай версіі тэорыі цывілізацый ёсць прагноз іх будучыні. І ў ягонай дакладнасці перавагу маюць, натуральна, даследчыкі, якія жылі і стварылі свае канцэпцыі бліжэй да нашага часу, з аналізаваных у кнізе, пэўна, Самуэль Хантынгтан.

Даследаванні ў межах тэорыі множнасці цывілізацый важныя для разумення гісторыі чалавецтва, выяўлення заканамернасцей развіцця і планавання будучыні, без якога бачыцца праблематычным выжыванне на планеце Зямля віду *Homo sapiens*. А. Латышонак у гэтым кантэксце згадвае ідэалогію касмізму, праўда, з занадта сур'ёзнай, як падаецца, ацэнкай яе расейскага адгалінавання (с. 282). Калі браць пад увагу агульную расейскую тэхналагічную адсталасць, марнасць касмічнай праграмы пуцінскай Расеі, устойлівае змяншэнне папуляцыі, то тэксты і выказванні расейскіх ідэолагаў і службоўцаў пра ўчыненне з Расеі касмічнай супердзяржавы, засяленне расейцамі сусвету ўспрымаюцца не як планаванне, а хутчэй як мары ў духу манілаўшчыны.

Разумовыя канструкцыі ў межах тэорыі множнасці цывілізацый маюць высокую ступень абстракцыі. Палёт думкі над краінамі і кантынентамі праз стагоддзі і эпохі вымагае не толькі багатага ўяўлення, але і пэўнай смеласці. Яна ёсць у А. Латышонка, які крытыкуе, дапаўняе, папраўляе тэарэтыкаў множнасці цывілізацый, адштурхоўваецца ад іх напрацовак, каб працягнуць уласны палёт думкі. Мне, напрыклад, такой смеласці не хапае з-за „боязі вышыні", менавіта небяспекі адарвання мыслення ад рэальнасці. Чым большая ступень абстракцыі, чым вышэй палёт, тым большая небяспека неадэквату. З-за гэтага „страху адрыву ад зямлі" схіляюся ў даследчай практыцы да „прыземленых" тэарэтычных канструкцый, якія лягчэй паддаюцца верыфікацыі фактамі і гістарычнымі крыніцамі.

Вось для прыкладу дзве тэзы-высновы рознай ступені абстракцыі, змешчаныя ў тым самым абзацы кнігі: „Wynikła z pseudologicznej identyfikacji z Bizancjum zmiana orientacji kosztowała Rosję [...] ćwierć tysiąclecia bezpłodnych wysiłków w celu „odzyskania" Konstantynopola i walnie przyczyniła się do katastrofy 1917 r. Tymczasem Syberię, krainę decydującą o potędze Rosji i bezkresne jej przestrzeni, poddani carów moskiewskich zajęli właściwie sami, przy minimalnym wsparciu Kremla" (с. 102–103).

Калі выказванне пра заваёву Сібіры даволі пэўна паддаецца верыфікацыі праз спецыяльную гістарыяграфію і крыніцы, то дакладнасць сцвярджэння пра сувязь расейскага візантызму з „катастрофай 1917 г." ацаніць нашмат

складаней. Ці вось як верыфікаваць наступнае сцвярджэнне: „Przyczyna dążenia Europejczyków wschodnich do opanowania kosmosu może być dwojaka, w zależności od teorii cywilizacyjnej. Jeśli odwołamy się do Danilewskiego i Spenglera, leżeć musi w innym postrzeganiu świata (Wszechświata) przez Słowian niż przez ludy germańskie czy romańskie" (с. 296)?

А. Латышонак на падставе верыфікацыі фактамі крытыкуе канцэпцыю пасіянарнага штуршка аднаго са сваіх любімых аўтараў Л. Гумілёва. Яе сутнасць у дапушчэнні абмежаванага ў часе касмічнага выпраменьвання з невядомых прычын на паласу зямной паверхні шырынёй каля 300 км. На тэрыторыі, якія трапляюць у гэтую паласу, людзі становяцца пасіянарыямі ў выніку мікрамутацыі і пачынаюць працэс этнагенэзу. Па меркаванні Л. Гумілёва, адзін з такіх імпульсаў прыйшоў з космасу ў XIII ст. і ахапіў між іншым Маскоўскую Русь, даліну Прыпяці і Прыдняпроўе, актывізаваў летувісаў, маскоўцаў і туркаў, якія ў выніку стварылі магутныя дзяржавы (с. 215). У прыватнасці, з летувіскіх плямён Міндаўг стварыў адзіную Летуву, а справу давяршыў Гедымін[2]. Аднак пры накладанні гэтай паласы на зямную паверхню выяўляецца, што ў яго не трапляе Масква, а Панямонне, даліну Прыпяці, Прыдняпроўе займалі беларускія субэтнасы. Такая геаграфічная нестыкоўка будзіць недавер да ўсёй тэорыі.

У раздзеле, прысвечаным канцэпцыі А. Шпенглера, Латышонак, скарыстаўшы шпенглераўскую трактоўку архітэктуры як „вобразу душы дадзенай вышэйшай культуры", склаў па-мастацку вобразны нарыс развіцця архітэктуры Русі. У ім выклікае пярэчанне сцвярджэнне пра эвалюцыйную сувязь першай царквы новага тыпу („nowy typ cerkwi z podwyższonymi i podpartymi łukami", с. 93) Спаса-Праабражэнскага храма XII ст. у Полацку з маскоўскай царквой XVI ст. Пакрова на Рове (Васіля Блажэннага, будавалася ў 1555–1561 гг.), як і сцвярджэнне, што запачаткаваная ў Полацку „вертыкальная архітэктура" развілася ў Паўночна-Усходняй Русі, стварыўшы ўрэшце шатровыя пабудовы (с. 291).

Паводле А. Латышонка, калі прыняць, што з вертыкальных цэркваў-вежаў развіўся ўласны расейскі стыль, то Спаса-Еўфрасіннеўская царква ў Полацку вызначае пачатак дарогі, якая вядзе да сабора Васіля Блажэннага ў Маскве (с. 93). І далей як працяг: „Sobór Bazylego Błogosławionego bez wątpienia jest największym oryginalnym osiągnięciem rosyjskiej architektury i najbardziej dobitnym wyrazem rosyjskiej duszy." (с. 99). Пра душу сказаць не магу, а наконт арыгінальнасці маю сумнеў, бо ў навуковай гістарыяграфіі наконт яе выказваліся розныя меркаванні. Аўтар задаецца пытаннем: „Skąd się wzięła ta oryginalna, niebizantyńska architektura ruska? Może rzecz w narodzinach nowej wielkiej kultury? (с. 93). Адказ на гэта ўзнёсла сфармуляванае пытанне можа быць даволі празаічным. Пасля мангольскага нашэсця цывілізацыйныя да-

[2] Л. Н. Гумилёв, *От Руси к России: очерки этнической истории*, Москва 1992, с. 7–8, 136, 142.

рогі Беларусі і Расеі разыходзяцца. Беларусь стала перыферыяй Заходняй Еўропы, менавіта часткай яе рэгіёна Цэнтральна-Усходняй Еўропы[3], а Масковія-Расея чэрпала палітычныя і культурныя ўзоры ў татарскай дзяржаве Залатой Ардзе і яе спадкаемцах (нават назва сродку абмену ў расейскай мове паходзіць ад цюркскага слова „денга" — манета).

Гэтак званыя шатровыя цэрквы Маскоўскай Русі цалкам лагічна звязваюцца з формай мусульманскіх мячэцяў з іх мінарэтамі. Расейскія аўтары, зразумела, пішуць пра арыгінальнасць расейскай архітэктуры, але не ўсе. Напрыклад, выказвалася меркаванне, што царква Пакрова на Рове мае аналаг у татарскай Казані: „Своими архитектурными формами Василий Блаженный больше всего напоминает мечеть Кул-Шерифа в Казани, с её 8 минаретами, предание о которых записано Марджани. Восемь башен Василия Блаженного, увенчанные восточными куполами и размещенные вокруг центрального шатра, находят себе поразительное соответствие в этих в 8 минаретах"[4].

„Шматкупальнасць" храма Васіля Блажэннага, як падаецца, не мае нічога агульнага з навершам абарончых вежаў у кутах гатычных храмаў-замкаў у Супраслі, Сынкавічах, Мураванцы. Магчыма, падобныя вежы, меліся і ў Полацкай Сафіі.

З пункту гледжання фармальнай логікі будова на недаказанай тэзе нейкай разумовай канструкцыі робіць яе ўсё больш нетрывалай па меры дабаўлення чарговых элементаў. Калі з'яўляецца абвяржэнне аднаго з элементаў, то ўся канструкцыя развальваецца. У гістарычным даследаванні такі „вертыкальны" метад рэканструкцыі мінулага неэфектыўны, у адрозненне ад „гарызантальнага", калі нейкі гістарычны канструкт аргументуецца шэрагам незалежных адзін ад другога фактаў. Напрыклад, у блізкай мне праблеме генезы Вялікага Княства Літоўскага сярод шэрагу легендарных князёў-пачынальнікаў навука прызнае рэальнай асобай Міндаўга па той прычыне, што ён згадваецца ў некалькіх гістарычных крыніцах, якія ўзніклі незалежна адна ад другой.

На недаказанай тэзе пра эвалюцыю расейскай архітэктуры, пачаўшы ад полацкага Спаса-Праабражэнскага храма, Алег Латышонак будуе працяг канструкцыі і ўрэшце праз шатровую форму некаторых маскоўскіх цэркваў следам за расейскім касмістам Мікалаем Фёдаравым выводзіць расейцаў у космас: „Rosyjska bezkresna przestrzeń nie służy bynajmniej bezcelowemu błąkaniu się rosyjskiej bezwolnej duszy, lecz prowadzi w bezkres kosmosu. Ten sam ideał wyrażają moim zdaniem wertykalne ruskie i namiotowe moskiewskie cerkwi. Białoruska cerkiew Spaso-Eufrozyńska, „strzała skierowana w niebo", jawi się jako prefiguracja rakiety, która wyniosła w kosmos Juria Gagarina" (c. 105).

---

[3] *Historia Europy Środkowo-Wschodniej*, t. 1, red. Jerzy Kłoczowski, Lublin 2000, s. 7–8.
[4] М. Г. Худяков, *Очерки по истории Казанского ханства*, Москва 1991, с. 324.

Тут ужо мае месца бяздоказная спроба правесці ідэйна-прасторавую сувязь паміж двума храналагічна аддаленымі між сабой падзеямі: індывідуальнай творчай знаходкай полацкага архітэктара Івана з XII ст. і эпізодам савецка-амерыканскай гонкі ўзбраенняў у XX ст. Прыблізна з такой жа верагоднасцю можна праводзіць іншыя падобныя сувязі, напрыклад, адкрыццё Амерыкі — прэфігурацыя высадкі амерыканцаў на Месяц, або Вавілонская вежа — прэфігурацыя касмічнай ракеты і г. д.

А. Латышонак падзяляе адмову Ф. Канечнага прызнаць вялікую ролю дзяржавы ў стварэнні нацыі. Як прыклад прыводзіцца польская нацыя, узнікшая нягледзячы на страту дзяржавы, а „Białorusini stali się narodem w ramach imperium rosyjskiego w oparciu o wspólnotę językową i kulturową". (с. 137). Насамрэч роля дзяржавы ў нацыятворчасці велізарная, а верагодна, вырашальная. Тыя ж палякі як і іншыя нацыі вянцом народатворчасці бачаць уласную нацыянальную дзяржаву. Жывым прыкладам значэння дзяржаўнай палітыкі для нацыятворчасці можа быць Заходняя Украіна ў параўнанні з усходняй часткай гэтай дзяржавы і Беларуссю. Першая пасля падзелаў Рэчы Паспалітай знаходзілася ў Аўстрыйскай імперыі, а Усходняя Украіна і ўся Беларусь — у Расейскай. Мадэлі нацыянальнай палітыкі ў гэтых імперыях моцна адрозніваліся: у Аўстрыі — культурная аўтаномія, у Расеі — уніфікацыя і русіфікацыя[5]. Сёння маем істотную розніцу як ва ўзроўні нацыянальнай свядомасці, так і ў статусе нацыянальнай мовы паміж былой Усходняй Галіцыяй (часткай кароннага краю „Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі" ў Аўстрыі) і былымі Паўночна-Заходнім і Паўднёва-Заходнім краямі ў Расеі.

Алег Латышонак (беларус з польскага Падляшша) у сваёй працы пастаянна звяртаецца да беларускай і ўкраінскай тэматыкі. Часам ягоныя разважанні і высновы адносна беларусаў маюць суб'ектыўны, інтуітыўны характар, г. зн. не абапіраюцца на навуковыя доказы і таму ўразлівыя на крытыку.

Магчыма, расейскую душу можна атаясамліваць з вялікай геаграфічнай прасторай, але недастаткова аргументаванай бачыцца прывязка вобраза беларусаў да такога геаграфічнага чынніка, як балота: „parasymbolem białoruskiej duszy są błota" (с. 110). Усё-такі большую частку тэрыторыі краіны да навейшага часу займаў лес (і сёння Беларусь належыць да першай дзясяткі найбольш залесаваных краін Еўропы).

Як падаецца, А. Латышонак перабольшвае сувязь выбарчых прэферэнцый беларусаў з канфесійным чыннікам. Сумнеўна, што для перамогі Аляксандра Лукашэнкі ў прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. мела істотнае значэнне ягоная самаідэнтыфікацыя як „праваслаўнага атэіста" (насамрэч дэклараваўся

[5] J. Lewandowski, *Narody, religie, państwa, mniejszości* [w:] *Mniejszości narodowe i religijne w Europie Środkowo-Wschodniej: wybrane materiały z konferencji: „Samoidentyfikacja narodowa i religijna a sprawa mniejszości narodowych i religijnych w Europie Środkowo-Wschodniej", zorganizowanej w dniach 19–21 października 1993 r.,* cz. 1, Lublin 1993, s. 28–29.

ім пазней, ужо ўзяўшы ўладу), у той час як ягонымі канкурэнтамі (Вячаслаў Кебіч, Станіслаў Шушкевіч, Зянон Пазняк) былі каталікі. Прыналежнасць да праваслаўя — істотны чыннік ідэнтыфікацыі беларускай нацыянальнай меншасці на Падляшшы ў атачэнні палякаў-каталікоў. У самой поліканфесійнай і лаіцызаванай Беларусі канфесійны крытэрый у ідэнтыфікацыі „свой-чужы" знаходзіцца далёка не на першым месцы.

Для мяне штудзіраванне гэтай працы стала добрай нагодай чарговы раз спраўдзіць прыдатнасць паасобных канцэпцый тэорыі цывілізацый для сваёй працы, а менавіта даследавання гісторыі Беларусі. Прымальнай бачыцца формула А. Тойнбі *„Выклік-Адказ"* па прычыне яе ўніверсальнасці: „*Грамадства ў сваім жыццёвым працэсе сутыкаецца з шэрагам праблем і кожная з іх ёсць выклік*"[6]. З яе дапамогай можна патлумачыць гісторыю любой чалавечай супольнасці, незалежна ад яе памераў — як у маштабе ўсяго чалавецтва, так і лёсу паасобнага чалавека. Практычна ўсё, што адбываецца ў нашым жыцці, можна трактаваць як *Выклік*, а нашу дзейнасць / бяздзейнасць — як *Адказ*, які лічым адэкватным у выпадку поспеху і неадпаведным пры няўдачы. Дакалумбавы цывілізацыі Паўднёвай Амерыкі зніклі, бо не знайшлі адэкватнага *Адказу* на *Выклік* Канкісты, нейкая сямейная пара распалася, бо не змагла знайсці *Адказ* на *Выклік* побыту і г. д.

Калі браць непасрэдна тэматыку маіх навуковых зацікаўленняў — беларускую сярэднявечную гісторыю, — то вялікай дапамогай у сістэматызацыі навуковых даных, вызначэнні месца Беларусі ў гісторыі Еўропы з'яўляецца канцэпцыя Цэнтральна-Усходняй Еўропы (дэфініцыя і вызначэнне межаў), апрацаваная асяродкам люблінскіх гісторыкаў на чале са светлай памяці Ежы Клачоўскім[7]. У яе дакладнасці, таксама як і канцэпцыі еўрапейскай гаспадаркі-свету Фернана Брадэля, менавіта пра ўваход беларускіх земляў у заходнееўрапейскі гісторыка-культурны арэал у другой палове XIII–XIV ст. пераканаўся праз артэфакты, здабытыя падчас археалагічных раскопак у гарадах і замках Панямоння[8].

З цывілізацыйных канцэпцый планетарнага маштабу мне найбольш цікавыя погляды Джарэда Даймонда (Jared Mason Diamond) з яго абгрунтаваннем геаграфічнага дэтэрмінізму ў развіцці і канкурэнцыі цывілізацый. У прыватнасці, ён даволі пераканаўча тлумачыць прычыны ўзнікнення найбольш ранніх развітых цывілізацый у Еўразіі наяўнасцю

[6] А. Дж. Тойнби, *Постижение истории*, Москва 1991, с. 108.

[7] *Historia Europy Środkowo-Wschodniej*, t. 1–2, red. Jerzy Kłoczowski, Lublin 2000.

[8] Па выніках раскопак у гарадах і замках Беларускага Панямоння ў пачатку 1990-х гг. прыйшоў да высновы: „Вывучэнне матэрыяльнай культуры паказвае, што пачынаючы з 2-й паловы 13 — 14 ст. яна набывае акрэсленую арыентацыю на заходнееўрапейскі гісторыка-культурны арэал" (Гл.: А. К. Краўцэвіч, *Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.: планіроўка, культурны слой*, Мінск 1991, с. 152.

на значнай частцы яе тэрыторыі дзікіх раслін і жывёл, прыдатных для даместыкацыі (асвойвання)[9].

За рэцэнзаванай кнігай Алега Латышонка відаць велізарную і нялёгкую працу: аналіз гістарыяграфіі, канцэпцый, аналіз іх крытыкі; супастаўленне, параўнанне; выяўленне агульнага і адрознага. Аўтар нібыта „пабываў у скуры" кожнага з выбраных тэарэтыкаў і працягнуў іх мысліцельны працэс з выкарыстаннем адпаведнай логікі і тэрміналогіі.

Урэшце, „стаўшы нагамі на зямлі", прыйшоў, між іншым, да дзвюх важных высноў. З адной магу трохі паспрачацца, з другой толькі пагадзіцца. Пэўную нязгоду выклікае сцвярджэнне: „Teoria pluralizmu cywilizacyjnego pozwoliła zrozumieć, że nie istnieje nic takiego, jak proces historyczny obejmujący dzieje całej ludzkości" (с. 298). Гэта выснова не падыходзіць да найноўшай гісторыі чалавецтва. Хіба працэс індустрыялізацыі не меў глабальнага маштабу? Ці сённяшняя глабалізацыя, прынамсі ў матэрыяльнай культуры і масавай духоўнай культуры, не з'яўляецца гістарычным працэсам? За выключэннем нешматлікіх ізаляваных супольнасцей на ўзроўні першабытнага грамадства, бачым па ўсёй планеце, напрыклад, тыповы побытавы набор: лядоўня — пралка — тэлевізар. А планетарны экалагічны крызіс хіба не звязаны з гістарычным працэсам?

Другая генеральная выснова выведзена незалежна ад асабістых адносін аўтара да розных тэарэтыкаў мноства цывілізацый і іх канцэпцый. Гэта халодная навуковая канстатацыя гісторыка: „Historia Europy, przedstawiona w dziełach wybitnych teoretyków wielości cywilizacji, zarówno zachodnich, jak i wschodnich, to narracja złożona z uprzedzeń i stereotypów, ciąg niczym nie podbudowanych uogólnień, dotyczących zresztą nie tylko dziejów, lecz także charakterów i dążeń jej mieszkańców" (с. 298).

Кніга А. Латышонка прыводзіць да высновы, што „тэорыі множства цывілізацый" як такой не існуе. Па-першае, існаванне розных цывілізацый (могуць быць і іншыя тэрміны) не трэба даказваць, гэта агульнавядомы факт; па-другое, прадстаўленыя канцэпцыі не ўкладваюцца ў рамкі адзінай тэорыі. Гэта хутчэй разважанні на зададзеную тэму, паміж якімі больш адрозненняў, чым агульнага.

---

[9] Д. Даймонд, *Ружья, микробы и сталь: история человеческих сообществ*, Москва 2020, с. 124–128 (J. Diamond, *Guns, Germs, and Steel: The Fates of Human Societies,* New York 1997).

# Анатацыі

### Homo Historicus. Гадавік антрапалагічнай гісторыі. 2023, том 7 (Беласток) (Галоўны рэдактар Аляксандр Смалянчук)

Чарговы том гадавіка *Homo Historicus* выйшаў з друку ў Беластоку пры падтрымцы *Foundation Kamunikat.org*, а таксама *Belarusian Kreceuski Foundation* і *Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.* Над макетам часопіса працаваў беларускі выдавец і перакладчык Зміцер Колас.

Гадавік пачынаецца з рубрыкі „Дакумент", у якой публікуецца артыкул А. Смаленчука пра знойдзеныя ў фондах Літоўскага нацыянальнага музея беларускамоўныя адозвы часоў паўстання 1863 г. Яны выйшлі з кола віленскіх „чырвоных" і рыхтаваліся паплечнікамі Каліноўскага. Аналіз дакументаў дапаўняецца публікацыяй іх зместу, а таксама сканаванымі выявамі.

Цэнтральная рубрыка гадавіка „Біяграфія навукі і навукоўца" прысвечана постаці Валянціны Лебедзевай (Мятліцкай) (1955–2022). Публікуецца яе апошні тэкст („Шляхі да маіх універсітэтаў"), бібліяграфія навуковых прац (падрыхтаваў А. Кіштымаў), успаміны сяброў і калег. Таксама ў гэтым томе публікуюцца фрагменты стэнаграмы зборніка дакументаў *Мітрафан Доўнар-Запольскі (1867–1934): асоба ў дакументах і ўспамінах* (Менск, 2020), сабраных і навукова апрацаваных В. Мятліцкай.

Я. Грыневіч дапоўніла рубрыку ўласным тэкстам, прысвечаным жыццю і дзейнасці фальклорыста і захавальніка беларускага музычнага меласу, выдаўца і педагога, папулярызатара народнай музыкі і спеваў Антона Грыневіча (1877–1937).

У рубрыцы „Дыялогі" публікуецца інтэрв'ю А. Смаленчука з вядомым беларускім этнографам доктарам культуралогіі Вольгай Лабачэўскай („Я сябе місіянеркай не адчуваю…").

Традыцыйная рубрыка „Віленскі сшытак" прапануе ўвазе чытачоў нарыс А. Смаленчука *Чалавек, які сказаў праўду. З жыццяпісу Францішка Аляхновіча (1883–1944)*, а таксама артыкул А. Пігальскай, прысвечаны дзейнасці і сетцы кантактаў віленскай друкарні Юзафа Завадскага. Аўтарка паспрабавала прааналізаваць дзейнасць друкарні на працягу ўсёй яе гісторыі ў 1805–1940 гг.

У раздзеле „Гісторыя ў антрапаланічнай перспектыве" публікуюцца артыкулы В. Якубава *Права на супраціў тыраніі ў Вялікім Княстве Літоўскім на прыкладзе дзейнасці Льва Сапегі і Януша Радзівіла (канец XVI — пачатак*

*XVII ст.)*, С. Грунтова *„Аўгусцейшы дзед”. Імператарскія скульптурныя помнікі ў беларускіх гарадах і мястэчках у пачатку XX ст.*, Яна Гардзеева *Białoruś w koncepcjach Leona Wasilewskiego i Stanisława Grabskiego przed traktatem ryskim*, В. Зубко *Штодзённае жыццё беларусаў у міжваеннай Чэхаславакіі (1919–1939)*, А. Гужалоўскага і Д. Грынь *Іншадумства ў БССР у часы Адлігі*, М. Бянько *Вобразы савецкай рэчаіснасці 1960-х гг.: перапіска „антысаветчыкаў” Луцкевічаў*, А. Радзюка *Вобраз Расійскай імперыі ў гістарычнай памяці сучаснай Беларусі (на прыкладзе афіцыйных сайтаў мясцовых органаў улады)*.

У новай для гадавіка рубрыцы „Вольная трыбуна” пра асаблівасці гістарычнай свядомасці сучаснай Расіі разважаюць гісторыкі з Масквы І. Барынаў і І. Стралкоў. Хроніка навуковага жыцця паведамляе пра найбольш цікавыя канферэнцыі з удзелам беларускіх даследчыкаў, а таксама ўтрымлівае анатацыі выданняў, якія папаўняюць беларускую і польскую гістарыяграфію.

**Сяргей Курыленка**

## Беларускі гістарычны агляд, т. 29, сшытак 1–2 (56–57), снежань 2022 г. (Галоўны рэдактар Генадзь Сагановіч)

Агляд беларускіх гістарычных часопісаў варта пачаць з тома 29 *Беларускага гістарычнага агляда*. Часопіс быў заснаваны ў 1994 г. і па сённяшні дзень застаецца найбольш аўтарытэтным перыядычным навуковым выданнем. Гэта адзіны беларускі гістарычны часопіс, які індэксуецца ў базах ERIH PLUS і EBSCO. Але справа не толькі ў фармальным momance. Галоўны рэдактар Генадзь Сагановіч за 30 гадоў працы набыў унікальны вопыт рэдагавання, які адчувальны ў кожным новым томе БГА. Апрача таго рэдактар застаецца навукоўцам і выдатна арыентуецца ў актуальных пытаннях сучаснай гістарычнай навукі.

У гэтым томе БГА ў першую чаргу хочацца адзначыць артыкулы з галіны антрапалагічна арыентаванай гісторыі. Так, даследчыца гісторыі Каталіцкага Касцёла ў Беларусі Раіса Зянюк засяродзілася на такім неардынарным боку жыцця каталіцкіх манастыроў і семінарый, як спажыванне і выраб алкаголю. Храналагічна артыкул ахоплівае амаль увесь расійскі перыяд беларускай гісторыі — 1772–1914 гг. Алкаголь, дарэчы, вырабляўся як для ўласных патрэб манахаў, так і на продаж праз корчмы.

Алесь Пагарэлы працягвае нас знаёміць з праектам мадэрнасці Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, прадстаўленым на старонках партыйнага друку. На гэты раз гаворка ідзе пра праблему суадносін катэгорый „прырода” і „культура”. Паводле даследчыка, прапанаваны дыскурс аб прыродзе павінен быў замяніць веды вяскоўцаў пра навакольнае асяроддзе. Прырода станавілася сінанімічнай культуры. Варта адзначыць, што ў 2021 г. аўтар артыкула надзвычай паспяхова абараніў у Беластоцкім універсітэце доктарскую працу *Społeczno-kulturowe aspekty kształtowania się wspólnoty politycznej*

*w prasie Białoruskiej Chrześcijańskiej Demokracji w okresie międzywojennym.*

Упэўнены, што ўвагу чытачоў таксама прыцягне артыкул Г. Сагановіча *Шматаблічнасць Крычаўскага паўстання, або Патрэба новага погляду на сацыяльныя канфлікты*. Апошнім часам даследчык усё часцей звяртаецца да тэматыкі беларускай савецкай гістарыяграфіі і яе слядоў у сучасных публікацыях. Апошняе між іншым датычыць асвятлення Крычаўскага паўстання 1743–1744 гг. Аналізуючы гістарыяграфію сялянскіх паўстанняў, Г. Сагановіч адзначыў, што беларуская гістарыяграфія дагэтуль не мае даследаванняў з выкарыстаннем немарксісцкіх тэарэтычных мадэляў. Дасягненні сусветнай гуманітарыстыкі апошніх дзесяцігоддзяў быццам невядомыя ў краіне. Між тым у сацыяльнай гісторыі мала хто з даследчыкаў раннемадэрнай Еўропы верыць у тое, што галоўным фактарам палітычных трансфармацый быў класавы канфлікт. Сучасныя даследаванні грамадства выпрацавалі рознаарыентаваныя тэарэтычныя падыходы да розных праяў сялянскага руху, у якіх нават само паняцце „сялянства" разумеецца неаднолькава. А вось беларуская гістарычная літаратура па-ранейшаму выкарыстоўвае паняцці і тэрміны, перанятыя з савецкай эпохі.

Асаблівай увагі заслугоўваюць тэксты вядомых даследчыкаў эпохі нацыяналізмаў і праблематыкі ідэнтычнасці Рышарда Радзіка (Люблін) (*Палякі і ўсходнія славяне: сацыяльныя ўмовы фармавання ідэнтычнасці і ментальных рыс*) і Міраслава Гроха (Прага) (*Пра еўрапейскія карані нацыі, нацыяналізм і патрыятызм*).

Гісторык Сяргей Новікаў у артыкуле (*У пошуках дакладнай колькасці нацысцкіх ахвяр у Беларусі (на прыкладзе Трасцянецкага лагера смерці)*) заклікае дзеля ўдакладнення колькасці ахвяр нацысцкай акупацыі Беларусі ўлічваць працы нямецкіх даследчыкаў.

Традыцыйную для БГА праблематыку гісторыі Вялікага Княства Літоўскага працягваюць публікацыі Аляксандра Доўнара (Менск) пра фінансавую справаздачнасць органаў гарадскога самакіравання Беларусі ў другой палове XVI — XVIII стст. і Роберта Калодзея (Вроцлаў) аб праблеме лімітацыі на сойміках ВКЛ у канцы XVII ст.

Як заўсёды, прыцягвае ўвагу раздзел рэцэнзій, у якім зроблены крытычны агляд наступных выданняў:

Алена Дземідовіч, *Вялікае Княства Літоўскае ў адносінах Рэчы Паспалітай з Расіяй і Швецыяй у першай трэці XVII ст.*, Мінск 2021 (В. Якубаў);

Franziska Exeler, *Ghosts of War. Nazi Occupation and Its Aftermath in Soviet Belarus*, Ithaca — London 2022 (І. Раманава);

Eduard Mühle, *Słowianie. Rzeczywistość i fikcja wspólnoty, VI–XV wiek*, Warszawa, 2020 (В. Варонін);

Леонід Тимошенко, *Руська релігійна культура Вільна. Контекст доби. Осередки. Література та книжність (XVI — перша третина XVII ст.)*, Дрогобич 2020 (Ю. Лаўрык);

Ирина Романова, *Клеймение Красного дракона: 1937–1939 гг. в БССР*, Москва 2021 (І. Махоўская, В. Мянькоўскі);

Оксана Кісь, *Українки в ГУЛАГУ: вижити значить перемогти*, Львів 2017 (Т. Астроўская);

Tatsiana Astrouskaya, *Cultural Dissent in Soviet Belarus (1968–1988). Intelligentsia, Samizdat and Nonconformist Discourses*, Wiesbaden 2019 (Ф. Акерман);

Tomasz Kamusella, *Words in Space and Time: A Historical Atlas of Language Politics in Modern Central Europe*, Budapest and New York 2021 (С. Запрудскі).

Эда. *Песні пра багоў*. Уклад., пер. са старажытнаісл., камент. Я. Папакуля, Мінск 2021; *Эда Сноры Стурлусана.* Уклад., пер. са старажытнаісл., камент. Я. Папакуля, Мінск 2021; *Эда. Песні пра герояў*. Уклад., пер. са старажытнаісл., камент. Я. Папакуля, Мінск 2022 (С. Емяльянаў).

У рубрыцы *In memoriam* Захар Шыбека ўспамінае Адама Мальдзіса (1932–2022), а Віталь Зайка — Янку Запрудніка (1926–2022).

**Аляксандр Смалянчук**

## С. В. Марозава, С. П. Марозаў, *Культурная спадчына Уніяцкай Царквы Беларусі (1596–1839)*, Гродна 2023.

Чарговая кніга вядомай беларускай даследчыцы гісторыі Грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы ў Беларусі прафесара Святланы Марозавай прысвечана ролі гэтай царквы ў культуратворчых працэсах канца XVI — першай паловы XIX ст., а таксама аналізу яе спадчыны. У раздзеле *Берасцейская ўнія як з'ява культуры: гістарыяграфічнае асэнсаванне* аўтарка грунтоўна прадставіла гістарыяграфію праблемы. У наступных раздзелах яна ахарактарызавала ўнёсак Грэка-каталіцкай царквы ў развіццё беларускай культуры ў галіне адукацыі, кнігадруку, архітэктуры, жывапісу, скульптуры, музычнага, тэатральнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Суаўтар працы Сяргей Марозаў паспрабаваў засяродзіцца на гісторыка-культурнай спадчыне Уніі скрозь прызму папулярнай канцэпцыі „месц памяці". Аднак знаёмства з раздзелам *Грэка-Каталіцкая Царква як „месца памяці"* сведчыць хутчэй пра няўдачу гэтай спробы, якая мае фармальны характар і не адрозніваецца глыбінёй аналізу.

Тым не менш даследчыкам канфесійнай гісторыі Беларусі і Украіны, а таксама ўсім цікаўным да беларускай мінуўшчыны варта звярнуць увагу на гэта выданне. Феномен Грэка-каталіцкай царквы застаецца адным з найважнейшых у спробе зразумець адметнасць беларускага гістарычнага лёсу. Тэма культурнай спадчыны Уніі асабліва важная сёння, калі Грэка-каталіцкая царква ў Беларусі перажывае чарговы этап свайго адраджэння.

**А. С.**

# Канферэнцыі

## X Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі. Коўна, 30 верасня — 2 кастрычніка 2022 г.

Юбілейны кангрэс адбываўся ў надзвычай складаных умовах. Такое буйное мерапрыемства заўжды залежыць не толькі ад пажаданняў ды памкненняў арганізатараў, але і ад палітычных умоў у Беларусі і суседніх краінах. У 2022 г. у нашым рэгіёне распачалася вайна і беларускія ўлады падтрымалі расійскую агрэсію супраць Украіны. Гэта радыкальна паўплывала на многія рэчы, у т. л. і на статус беларускіх даследаванняў. Калі ў 2021 г. на кангрэсе дамінавала тэма масавых палітычных пратэстаў, а беларусы выглядалі нявіннай ахвярай рэжыму Лукашэнкі, то ў 2022 г. полюс увагі змясціўся да пытанняў бяспекі, вайсковых альянсаў і грамадскай думкі.

Пачатак вайны стаў сапраўдным выклікам для кангрэса. Паўсталі пытанні: як пазіцыянаваць беларускія даследаванні? Ці захоўваць першапачатковую нейтральнасць? Якім чынам выбудоўваць стасункі з украінскімі даследчыкамі? Украінцы апошнія гады складалі заўважную частку ўдзельнікаў кангрэса (10–15 %), і страціць кантакты з гэтай супольнасцю таксама было б цяжкім ударам. Практычна адразу напачатку вайны Аргкамітэт кангрэса выступіў з публічнай заявай з асуджэннем расійскай агрэсіі. Прыкладваліся намаганні захаваць украінскіх удзельнікаў, у т. л. і праз вызваленне ад рэгістрацыйнага ўнёску. І адразу адзначу, што ўкраінцы на гэта пазітыўна адрэагавалі. Як прызнала ўкраінская ўдзельніца на падсумаванні працы кангрэса, для іх падтрымка з боку беларускіх калег была насамрэч вельмі важнай. Кангрэс фактычна ўзяў на сябе функцыю наладжвання беларуска-ўкраінскага дыялогу, прынамсі ў інтэлектуальнай сферы.

З кожным годам становіцца ўсё больш складана захоўваць удзельнікаў з Беларусі. Калі ў 2021 г. працавалі кавідныя абмежаванні, то ў 2022 г. у сілу ўвайшлі абмежаванні палітычныя. Дыпламатычнае напружанне з Літвой прывяло да скарачэння выдачы віз да мінімальнага ўзроўню, і Міністэрства замежных спраў Літвы адмовіла ў спрыянні выдачы віз беларускім удзельнікам кангрэса. Больш за тое, імкліва пашыраецца стэрэатып, што ўсе, хто застаюцца ў Беларусі і тым больш працуюць у дзяржаўных установах, з'яўляюцца калабарантамі палітычнага рэжыму, а гэта асабліва балюча б'е па навукоўцах. Яны і так знаходзяцца пад моцным адміністрацыйным прэсінгам, пазбаўленыя ўсіх міжнародных сувязей, апрача расійскіх, практычна не маюць магчымасці пакінуць краіну. І ў гэты момант іх яшчэ падобным чынам

кляймуюць! Відавочна, што з працягам вайны і нязменнасцю палітычнай сітуацыі ў Беларусі такое стаўленне будзе толькі замацоўвацца. Адпаведна, адной з задач кангрэса становіцца рэпрэзэнтацыя інтарэсаў усіх беларускіх навукоўцаў, як тых, што былі змушаны з'ехаць з краіны, так і тых, хто застаўся.

Калі казаць пра статыстыку, то ў X кангрэсе ўдзельнічалі 311 чал., з якіх 102 — дыстанцыйна. Гібрыдны фармат працы па-ранейшаму застаецца актуальным, і з улікам візавых абмежаванняў захавае сваю запатрабаванасць і на будучыню. Пераход да гібрыднага фармату стварае новыя магчымасці. На гэтым кангрэсе ўпершыню ішлі анлайн-трансляцыі ўсіх панэляў для зарэгістраваных слухачоў, з магчымасцю падключыцца да дыскусій.

Зразумела, што нават юбілейны для кангрэса год цяжка назваць для нас святочным, паколькі вайна карэктуе ўсе планы. Нават адкрыццё мерапрыемства адбылося без пафасных прамоў і ўрачыстых гасцей. Пленарнае пасяджэнне разгарнулася ў фармаце дыскусіі пра сітуацыю Беларусі. Гэта той момант, калі рэчаіснасць настолькі „гістарычная", што патрабуе непасрэднага звароту.

Праца ў панэлях адбывалася ўжо ў звычайным рэжыме (гібрыдны фармат для ўсіх стаў за гэты час звыклым) з традыцыйным наборам тэм, ад гісторыі Вялікага Княства Літоўскага да мовы сучаснага мастацтва. Незвычайным дадаткам можна лічыць панэль, якая аб'яднала беларускіх гісторыкаў, што займаюцца „нефарматнымі" тэмамі — антычнасцю, усходазнаўствам, медыявістыкай. Разам з тым наяўнасць такой праблематыкі таксама цешыць, паколькі паказвае шырокі спектр і магчымасці беларускай гістарыяграфіі. Больш сумным дадаткам да традыцыйнай праблематыкі кангрэса можна лічыць з'яўленне асобнай секцыі „Даследаванні вайны". Агулам трэба прызнаць, што „пратэстны" вектар беларускіх даследаванняў ужо змяніўся на вывучэнне ўплыву вайны на сітуацыю ў рэгіёне. Асабліва востра ўварванне рэальнасці ў поле навуковых даследаванняў адчувалася ў праграме дыскусій і „круглых сталоў", дзе дамінавала пытанне, як зараз у сітуацыі вайны фарматаваць праграму сваіх дысцыплін (гісторыі, філасофіі, антрапалогіі)?

Традыцыйна адным з найбольш важных элементаў кангрэса стала падсумаванне вынікаў Прэміі за лепшыя навуковыя публікацыі. У намінацыі „Гісторыя" перамаглі Ірына Раманава з манаграфіяй *Клеймение Красного Дракона: 1937–1939 гг. в БССР* і Алесь Пагарэлы, які атрымаў прэмію за лепшы артыкул. У катэгорыі „Гуманітарныя навукі" была адзначана кніга Алеся Сушы *Беларускі Буквар у нацыянальнай і сусветнай прасторы*, а таксама артыкул Вольгі Лабачэўскай. У сацыяльна-палітычных навуках ужо другі год запар перамогу святкавала Таццяна Кулакевіч. Адбыліся і дзве пазачарговыя прэміі, у падсумаванні лепшых польскамоўных манаграфій на беларускую тэматыку заслужана перамог Томаш Блашчак. Яго кнігу пра беларусаў у міжваеннай Літве за гэты час паспелі перакласці на беларускую мову і выдаць. І ўрэшце рэхам надзвычайнай цікаўнасці да беларускай праблема-

тыкі пасля 2020 г. можна лічыць заснаванне асобнай прэміі за лепшы артыкул замежных даследчыкаў пра Беларусь на англійскай мове, дзе перамог украінскі даследчык Уладзімір Арцюх.

Наступны кангрэс зменіць пляцоўку, на гэты раз ён адбудзецца ў польскім Гданьску. Выклікі застаюцца тымі ж самымі, і захаваць агульную платформу абмеркаванняў у час вайны будзе сапраўды цяжка.

**Аляксей Ластоўскі (Вільня)**

## VIII Міжнародная навуковая канферэнцыя Цэнтра беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта "Беларусь і Украіна на гістарычных скрыжаваннях".

### Варшава, 25 лістапада 2022 г.

24 лютага 2022 г. Расійская Федэрацыя распачала вайну супраць Украіны, што татальна паўплывала на жыццё ўкраінскага народа і дзяржавы. Значная частка навукоўцаў апынулася па-за межамі краіны, дзе яны атрымалі ўсебаковую дапамогу. У *Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego* быў арганізаваны *Centrum Studiów nad Ukrainą*, які аб'яднаў вядомых і маладых гісторыкаў, філосафаў, палітолагаў і лінгвістаў. Са свайго боку сябры *Centrum Studiów Białoruskich* у знак салідарнасці выступілі з ініцыятывай правядзення беларуска-ўкраінскай навуковай канферэнцыі. Ініцыятыва была падтрымана зацікаўленымі інстытуцыямі і асобамі. 25 лістапада 2022 г. прайшла міжнародная канферэнцыя *Беларусь і Украіна на гістарычных скрыжаваннях*. У сувязі з існуючай палітычнай сітуацыяй у Цэнтральна-Усходняй Еўропе канферэнцыя праходзіла *online*.

Канферэнцыя складалася з трох частак: 1) навуковыя даклады беларускіх і ўкраінскіх даследчыкаў, 2) дыскусія *Палітыка памяці ў Беларусі і Украіне ў дачыненні да Другой сусветнай вайны*; 3) прэзентацыі выданняў: Tomasz Błaszczak, Iryna Matiash, Dorota Michaluk, *Iwan Kraskowski (1880–1955). W służbie Białorusi i Ukrainy* (2019); а таксама восьмага тома *Rocznika Centrum Studiów Białoruskich=Гадавіка Цэнтра Беларускіх Студыяў* (2022). У канферэнцыі прынялі ўдзел навукоўцы з Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы.

Галоўная частка канферэнцыі была падзелена на дзве панэлі, адпаведна храналагічнаму прынцыпу. У першай, *Беларусь і Украіна ў Сярэднявеччы і Новым часе,* прагучалі тры даклады. Генадзь Семянчук у дакладзе *Варажскі перыяд у гісторыі Украіны і Беларусі (IX–XII стст.)* прапанаваў канчаткова адмовіцца выкарыстоўваць у беларускіх і ўкраінскіх нарацыях савецкае ідэалагічнае паняцце „старажытнарускі перыяд" і замяніць яго паняццем „варажскі перыяд". Гістарычныя і археалагічныя крыніцы пацвярджаюць правільнасць падобнага выбару. Аляксандр Краўцэвіч у высту-

пленні на тэму *Беларусь і Украіна ў Вялікім Княстве Літоўскім. Канфлікт ці супраца?* паказаў шматбаковасць і складанасць беларуска-ўкраінскіх адносін у Сярэднявеччы і Новым часе. Таксама ён звярнуў увагу на перспектывы супольных даследаванняў. Аляксей Шаланда ў дакладзе *Палітычныя наступствы валынска-жамойцкага канфлікту ў XVI ст.* раскрыў складанасці ўнутрыпалітычнага жыцця ВКЛ, канкурэнцыю палітычных і ўрадавых эліт розных рэгіёнаў, пачатак працэсу фармавання „гістарычнай палітыкі" сярод беларускай, украінскай і літоўскай шляхты.

Другая панэль, *Беларусь і Украіна ў XIX–XXI стст.*, як бачна з назвы, была прысвечана гісторыі Найноўшага часу. Сяргей Токць у рэфераце *Узаемасувязі і ўзаемаўплывы беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў у XIX — пачатку XX ст.* звярнуў увагу слухачоў на адносіны паміж названымі нацыянальнымі рухамі. Больш масавым і лепей арганізаваным быў украінскі рух, які шмат у чым стаў узорам для беларускага. Праф. Уладзіслаў Вярсцюк з украінскага цэнтра ў дакладзе *Украінская Народная Рэспубліка. Праблемы станаўлення* распавёў пра тыя ўнутрыпалітычныя і міжнародныя выклікі, на якія УНР у 1917–1918 гг. не здолела адказаць. У яго выступленні адчувалася эвалюцыя сучаснай украінскай гістарыяграфіі па праблематыцы УНР ад эмацыйнай да больш рэалістычнай і крытычнай. Аляксандр Смалянчук у дакладзе *Украінская праблематыка на старонках „Нашай Нівы" (1906–1915 гг.)* прадставіў публікацыі першай беларускай газеты, што датычылі гісторыі і культуры Украіны, а таксама ўкраінскага нацыянальнага руху. Праф. Ірына Мацяш у выступленні *Першыя дыпламатычныя кантакты УНР–БНР: спадзяванні і рэаліі* на падставе новых гістарычных крыніц, пераважна з ўкраінскіх архіваў, асвятліла пачаткі міждзяржаўных адносін дзвюх маладых нацыянальных дзяржаў. Ганна Славіна ў рэфераце *Праект ваеннай дамовы, прадстаўленай дэлегацыяй БНР балтам, фінам і ўкраінцам на мірнай канферэнцыі ў Парыжы* звярнула ўвагу на беларускую ініцыятыву ў справе кансалідацыі нацыянальных рухаў з заходніх тэрыторый былой Расійскай імперыі. Андрэй Чарнякевіч прадставіў даклад на тэму *Украінцы ў міжваенным Гродна 1922–1939 гг.*, у якім раскрыў невядомыя старонкі жыцця і дзейнасці ўкраінскай дыяспары ў адным з культурных і палітычных цэнтраў II Рэчы Паспалітай. Ганна Мяньшэніна ў выступленні на тэму *Украінскія грамадска-палітычныя каштоўнасці: іх фармаванне і кантэксты* прааналізавала вельмі важныя для народаў постсавецкай прасторы метады фармавання нацыянальнай свядомасці.

Важнай часткай канферэнцыі была дыскусійная панэль *Палітыка памяці ў Беларусі і Украіне ў дачыненні да Другой сусветнай вайны*. Мадэратарам выступаў праф. Беластоцкага ўніверсітэта Алег Латышонак, дыскутантамі — Яўген Мірановіч, Мікола Рабчук і Яраслаў Ксёнжак. Вынікам дыскусіі было прызнанне, што, па-першае, беларуская і ўкраінская нацыянальныя гістарыяграфіі адмовіліся ад савецкіх ідэалагічных пастулатаў пры даследаванні гісторыі Другой сусветнай вайны, іх пазіцыі істотна адрозніваюцца

ад сучасных расійскай і беларускай афіцыйнай гістарыяграфій, а, па-другое, што перад беларускімі і ўкраінскімі даследчыкамі першачарговай задачай з'яўляецца рэвізія савецкай інтэрпрэтацыі вайны.

Падчас заключнай дыскусіі яе ўдзельнікі адзначалі, што гэта канферэнцыя распачынае новы этап прафесійнага супрацоўніцтва гісторыкаў Беларусі і Украіны, якое дагэтуль не было актыўным.

**Генадзь Семянчук (Варшава),**
**Олександр Шевченко (Варшава)**

## La Shoah en Biélorussie: cadre historique et innovations méthodologiques („Халакост у Беларусі: гістарычныя рамкі і метадалагічныя інавацыі")

### Каны (Францыя), 16 снежня 2022 г.

Арганізатарамі міжнароднага навуковага сімпозіума з'яўляліся Барыс Чэрны (Універсітэт Кан-Нармандыя) і Клер Ле Фоль (Універсітэт Саўтгемптана).

Ва ўступным дакладзе Барыс Чэрны нагадаў, што гісторыя Беларусі і лёс яе насельніцтва, чвэрць якога загінула ў перыяд Другой сусветнай вайны, застаюцца вобласцю, якая яшчэ не даследавана цалкам. У Францыі вельмі мала прац, прысвечаных Другой сусветнай вайне і Халакосту ў гэтай краіне. Паводле Клер Ле Фоль, гэту адсутнасць можна растлумачыць рознымі прычынамі, у тым ліку ўключэннем тэрыторыі Беларусі ў склад СССР, дзе гэты канфлікт кваліфікаваўся як „Вялікая Айчынная вайна" і галоўны акцэнт рабіўся на праслаўленні гераізму савецкіх воінаў і партызан. Гэта палітычная інстытуцыяналізацыя гісторыі Другой сусветнай вайны рэактывавалася на пачатку 2000-х гг., а сёння нават узмацнілася. У афіцыйным дыскурсе няма месца трагедыі беларускіх яўрэяў.

Сімпозіум складаўся з дзвюх частак. Першая была прысвечана гістарычным даследаванням, другая засяродзілася на праблеме памяці пра Халакост у Беларусі.

У дакладзе „Адносіны паміж яўрэямі і неяўрэямі ў Беларусі да Катастрофы" Клер Ле Фоль прадставіла сацыякультурныя і эканамічныя асаблівасці міжэтнічных адносін (гістарычная канцэнтрацыя яўрэйскага насельніцтва ў гарадах, структурная ўстойлівасць сацыяльна-эканамічных адносін з сялянствам), якія тлумачаць слабасць антысемітызму ў Беларусі ў параўнанні, напр., з Украінай. Аднак Беларусь не пазбегла антыяўрэйскага гвалту падчас саветызацыі ўсходняй часткі, а ўвосень 1939 г. і заходняй тэрыторыі Беларусі, а таксама ў гады Другой сусветнай вайны.

Сістэматычнага вывучэння месцаў масавых забойстваў, у прыватнасці Броннай Гары, размешчанай за 125 км на паўночны ўсход ад Брэста, дзе было

расстраляна больш за 50 тыс. чал., пераважна яўрэяў, яшчэ не праводзілася. Як вынікае з выступу Мары Муцье-Бітан („Бронная Гара, месца стральбы ці цэнтр забойства?”), вельмі важна выкарыстоўваць розныя крыніцы (вусныя і дакументальныя), улічваць лакацыю месца забойстваў, а таксама вывучаць ролю мясцовага насельніцтва. Усё гэта важна для аналізу функцыянавання месца забойства, дзе сляды злачынстваў былі сцёртыя нацыстамі, а затым „забытыя” савецкай уладай.

Геаграфія і картаграфія ляжаць у аснове праекта прасторавай рэканструкцыі Брэсцкага гета, дзе больш за год знаходзіліся ў зняволенні каля 17 тыс. яўрэяў. Праект прадставілі П’ер-Іў Бюар, Фрэдэрык-Леў Цюрбу, Юлія Ражэ і Барыс Чэрны ў прэзентацыі „Брэст-Літоўскае гета: праблемы мікрагістарычнага і прасторавага даследавання”. Аўтары пазначылі перспектывы даследавання на скрыжаванні геаграфіі, гісторыі (мікрагісторыі) і сацыялогіі. Калекцыя з 17 тыс. яўрэйскіх уліковых картак, якія ўтрымліваюць звесткі аб занятках і месцах пражывання, спрыяе разуменню ўладкавання гета.

Другая частка сімпозіума, прысвечаная праблематыцы памяці, пачалася з даклада Аніке Вальке (Вашынгтонскі ўніверсітэт). У сваім выступе яна закранула праблему абыякавасці і супрацоўніцтва з нацыстамі мясцовага насельніцтва падчас масавых забойстваў. А. Вальке адзначыла, што адсутнасць увагі дзяржавы да ахвяр Халакосту спрыяе забыццю трагедыі, актыўных або пасіўных удзельнікаў забойстваў ператварае ў асоб, „прысутных” падчас генацыду.

Мінулае і памяць абмяркоўваліся ў прэзентацыі Іны Соркінай (Варшаўскі ўніверсітэт), прысвечанай „другому жыццю” яўрэйскіх асабістых рэчаў у былых штэтлах Беларусі пасля Халакосту. Гэтыя рэчы працягваюць функцыянаваць, захоўваючы іх „яўрэйскую ідэнтычнасць”. Гандаль прадметамі, якія належалі яўрэйскім сем’ям, з’яўляецца крыніцай прыбытку для спецыялізаваных гандляроў (напр., антыкварная крама ў Міры). Для нашчадкаў загінулых ці турыстаў з Ізраіля гэтыя прадметы маюць каштоўнасць рэліквій.

Прэзентацыя Аляксандра Далгоўскага (Гістарычная майстэрня ў Менску) „Памяць аб Катастрофе ў савецкай і постсавецкай Беларусі” і даклад Маі Кацнельсон, заснавальніцы Беларускага цэнтра яўрэйскай культурнай спадчыны аб праекце „Беларускі штэтл” і новых спосабах працы з яўрэйскай спадчынай дазволілі падвесці вынікі намаганняў, каб прыцягнуць увагу да гісторыі і культуры яўрэйскай супольнасці і яе трагедыі.

**Іна Соркіна (Варшава)**

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Wiesław Caban**, prof. dr. hab., profesor emeritus, Instytut Historii UJK w Kielcach.

Zajmuje się historią Polski XIX w., ze szczególnym uwzględnieniem powstania styczniowego, dziejami Polaków w Imperium Rosyjskim w XIX w., w tym syberyjskimi zesłaniami. ORCID: 0000-0002-3695-8259.

Najważniejsze publikacje: z *Orenburga do Paryża. Bronisław Zaleski 1820–1880*, Kielce 2006; *Powstanie styczniowe. Polacy i Rosjanie w XIX wieku,* Kielce 2011; *Syberyjska korespondencja zesłańców postyczniowych. „Po drodze życia wstąpić przed śmiercią do Polski,* Wybór, opracowanie, wstęp, W. Caban i S. A. Mulina, Kielce 2018; *Polak czy Rosjanin. Wpływ służby Polaków w carskim korpusie oficerskim w XIX w. na świadomość narodową,* „Przegląd Historyczny", T. CXII, 2021, z. 3, s. 603–619; *Czy całkowicie dobrowolne? Okoliczności wstępowania Polaków do carskiego korpusu oficerskiego od konfederacji barskiej do powstania listopadowego*, „Studia z dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej", T. LVII, 2022, z. 1, s. 9–33.

**Piotr Cichoracki**, historyk, profesor, dr hab. z Uniwersytetu Wrocławskiego. Zajmuję się historią polityczna Polski pierwszej połowy XX wieku, zwłaszcza dziejami obozu sanacyjnego, województw północno-wschodnich II Rzeczpospolitej, kwestiami bezpieczeństwa wewnętrznego w okresie międzywojennym. ORCID: 0000-0003-2523-2679.

Najważniejsze publikacje: *Polesie nieidylliczne. Zaburzenia porządku publicznego w województwie poleskim w latach trzydziestych XX wieku*, Łomianki 2007; *Droga ku anatemie. Wacław Kostek-Biernacki (1884–1957)*, Warszawa 2009; *Województwo poleskie 1921–1939. Z dziejów politycznych*, Łomianki 2014; *Oblicza buntu społecznego w II Rzeczypospolitej doby wielkiego kryzysu (1930–1935). Uwarunkowania, skala, konsekwencje*, Kraków 2019 (wspólnie z J. Dufrat i J. Mierzwą); *Rzeczpospolita niedoskonała. Dokumenty do historii buntu społecznego w latach 1930–1935*, Łomianki-Kraków 2019 (wstęp i opracowanie wspólnie z J. Dufrat, J. Mierzwą i P. Rucińskim).

**Aliaksandr Dalhouski (Аляксандр Далгоўскі),** works as a Researcher at the Historical Workshop in Minsk, Belarus. He studied history and German in Minsk, followed by political science and economic and social history in Aachen, and obtained a PhD from the University of Giessen in 2012. His doctoral thesis appeared in 2015 as „Chernobyl in Belarus: Ecological Crisis and Social Compromise

(1986–1996)". His research interests include the history of Belarus during World War II and following the Chernobyl disaster, as well as environmental history. ORCID: 0000-0002-0436-2477.

Selected publications: *Tschernobyl in Belarus: Ökologische Krise und sozialer Kompromiss*, Wiesbaden 2015; T. Bohn, A. Dalhouski, M. Krzoska, *Wisent-Wildnis und Welterbe. Geschichte des polnisch-weißrussischen Nationalparks von Białowieża*, Köln 2017; T. Bohn, A. Dalhouski, *Nature Conservation in the Belarusian Marshland: The Pripiat National Park as Timber Source and Hunting Paradise* [in:] *Polesia: Modernity in the Marshlands. Interventions and Transformations at the European Periphery from the nineteenth to the twenty-first Century*, „Journal of East Central European Studies", 2019, t. 68, nr 3, p. 419–443; *The Holocaust: History and memory in Belarus* [in:]: *Places of memory: A European perspective on overcoming past trauma*, K. Atamanchyk, A. Lastouski, I. Ramanava (eds.), Vilnius 2022, p. 11–22; *Gewaltlandschaften bei Malyj Trostenez: Eine Forschungsgeschichte* [in:], *Konfliktlandschaften interdisziplinar lesen*, Ch. Rass, M. Adam u.a. (Hrsg.), bd. 1, Osnabrück 2022, s. 181–206.

**Helena Głogowska**, dr hab., Uniwersytet Kazimierza Wielkiego w Bydgoszczy, prof. uczelni.

ORCID: 0000-0003-2936-5575.

Zainteresowania naukowe: stosunki polsko-białoruskie, tożsamość na pograniczu polsko-białoruskim, kultura białoruska, historia Białorusi XX–XXI w.

Najważniejsze publikacje: *Białoruś 1914–1929. Kultura pod presją polityki*, Białystok 1996; *Białorusini na Wybrzeżu Gdańskim*, Toruń 2003; *Od Imperium Rosyjskiego do Unii Europejskiej. Stosunki polsko-białoruskie w XX wieku*, Białystok 2012; *„Za Białorusią świata nie widział". Rzecz o Teodorze Iljaszewiczu — białoruskim poecie, historyku i działaczu*, Białystok 2021.

**Astrid Sahm** currently serves as the managing director of the International Education and Encounter Center (IBB), which has offices in both Berlin and Dortmund. Additionally, she is a guest researcher at the German Institute for International and Security Affairs (SWP) in Berlin. From 2006 to 2011 she held the position of German director of the International Education and Encounter Center in Minsk. Previously, from 1993 to 2005, she worked as a political scientist at the University of Mannheim. Astrid Sahm studied political science, history, and philosophy at the University of Frankfurt am Main from 1987 to 1993 and received her PhD in 1998 for her comparative analysis of the Chernobyl policy in Belarus and Ukraine. ORCID: 0009-0006-6166-8276.

Selected recent publications: *In der Sackgasse. Die Sanktionsspirale EU-Belarus*, „Osteuropa, 2021, t. 10–12, s. 139–168; *Riskanter Sonderweg. Belarus und die COVID-19-Pandemie*, „Osteuropa", 2020. T. 3–4, s. 99–110; *Germany's Energy Turnaround After Fukushima: Outsider or Trendsetter in Europe?* [in:]: *The Impact of Disaster:*

*Social and Cultural Approaches to Fukushima and Chernobyl*, T. Bohn, T, Feldhoff, L. Gebhardt, A. Graf (Eds.). Berlin 2015, s. 97–132; *Holocaust Memorials in the Belarusian Culture of Remembrance, in: International Holocaust Remembrance Alliance* (Ed.) [in:] *Killing Sites. Research and Remembrance*, Berlin 2015, pp. 191–203.

**Володимир Бойко (Volodymyr Boyko)**, кандидат історичних наук. Директор Чернігівського регіонального центру підвищення кваліфікації. Сфера наукових інтересів — період Української революції 1917–1921 рр., насамперед — діяльність органів місцевого самоврядування. ORCID: 0009-0006-1710-8490.

Публікації: *Участь українських партій у муніципальній кампанії 1917 р.* „Укр. іст. Журнал", 1997, № 5, с. 25–40; *Виступ полуботківців: чернігівський слід* [w:] *Українська революція: погляд із сьогодення*, Київ 2013, с. 301–312; *Українське місто в публіцистиці революційної доби Сергія Єфремова* [w:] *Гарадзенскі соцыум. Город і яго жыхары: партрэт на фоне эпохі. X —XX стст.* Пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Мінск 2016, с. 162–174; *Запровадження стратегічного планування в територіальних громадах — стан, проблеми, проблеми, засоби подолання (на матеріалах Чернігівщини)* [w:] *Розумовські зустрічі*. 2019, вип. 6, с. 29–41; *Місцеве самоврядування Чернігівщини під час часткової окупації області російською ордою* [w:] *Розумовські зустрічі*, 2022, вип. 9б, с. 6–16.

**Владислав Верстюк (Vladyslav Verstiuk)**, доктор історичних наук, професор, Ягелонський університет. ORCID: 0000-0001-6023-0471.

Сфера наукових зацікавлень: історія України, історія Центрально-Східної Европи XX ст.

Публікації: *Революція 1917–1921 рр. у різних форматах (гортаючи числа Українського історичного журналу)*, „Український історичний журнал", 2017, № 6, с. 105–122; *Соборність в українській суспільно-політичній думці та реальній політиці (до 100-річчя проголошення Акта Злуки),* „Український історичний журнал", 2019, № 1, с. 67–93; *Від „Великой Октябрьской социалистической революции и гражданской войны на Украине (1917–1920)" до „Нарисів історії Української революції" і далі: трансформації дослідницької парадигми*, „Український історичний журнал", 2017, № 3, с. 8–23.

**Аляксандр Гужалоўскі (Aliaksandr Huzhalouski)** — доктар гістарычных навук, прафесар кафедры этналогіі, музеалогіі і гісторыі мастацтваў БДУ (Менск). ORCID: 0000-0002-9743-8724.

Асноўныя публікацыі: *Нараджэнне беларускага музея*, Мінск 2001; *„Міласці вашай просім...", альбо Адзін год у навейшай гісторыі Беларусі, адлюстраваны ў лістах, заявах, скаргах і іншых формах звароту грамадзян*. Зборнік дакументаў. Укл. А. А. Гужалоўскі, Мінск 2006; *Чырвоны аловак: нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР*: у 2 кн. Кн. 1: 1919–1941 гг. Мінск, 2012;

кн. 2: 1943–1991 гг. Мінск, 2018; *Сэксуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі. 1917–1929 гг.*, Мінск 2017.

**Таццяна Касатая (Tatsiana Kasataya),** PhD, Варшаўскі ўніверсітэт.

ORCID: 0000-0001-7472-5205.

Сфера навуковых інтарэсаў: гісторыя рэлігіі ў СССР, гісторыя евангельскіх хрысціян-баптыстаў у БССР, *oral history*, гісторыя Гродна XX ст.

Асноўныя публікацыі: *Самвыдат евангельскіх хрысціян-баптыстаў у БССР,* „ARCHE. Pačatak", 2017, № 3(153), с. 190–212; T. Kasataja, S. Sturejka, *Der Tag des Sieges als belarussischer Staatsfeiertag. Administrative Steuerung und ihre Ergebnisse* [w:] *Kriegsgedenken als Event Der 9. Mai 2015 im postsozialistischen Europa*, M. Gabowitsch, C. Gdaniec, E. Makhotina (Hg), 2017, s. 141–171; *Евангельскія хрысціяне-баптысты ў 1945–1980-я гг. у БССР: вопыт ганенняў і яго рэпрэзентацыя ў памяці вернікаў*, [w:] *Збожжа: зборнік міжканфесійных і міждысцыплінарных даследаванняў*, выпуск 2, Вільня — Мінск — Смаленск 2020, с. 116–126; *Біблія ў штодзённым жыцці евангельскіх хрысціян-баптыстаў у БССР,* „Гадавік Цэнтра беларускіх студыяў", 2017, № 3, с. 243–260; A. Smalianchuk, T. Kasataya, *Economies of Scarcity in Belarusian Villages During World War II: How New Findings from Oral History Projects Put a Perpetrator-Centred Historiography in Perspective,* [w:] *Coping with Hunger and Shortage under German Occupation in World War II*, Editors: T. Tönsmeyer, P. Haslinger, 2018, s. 49–60.

**Аляксандр Краўцэвіч (Aliaksandr Krautsevich),** доктар. гіст. навук, Варшаўскі ўніверсітэт, прафесар-візітатар. Сфера навуковых інтарэсаў: гісторыя Беларусі. ORCID: 0000-0002-9340-2732.

Асноўныя публікацыі: *Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой*, Мінск 1991; А. Краўцэвіч, Г. Якшук, *Стары Мір*, Мінск 1993; *Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага*, Беласток 2008; *Powstanie Wielkiego Księstwa Litewskiego*, Białystok 2003; А. Кравцевич, А. Смоленчук, С. Токть, *Белорусы: нация Пограничья*, Вильнюс 2011; *Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. 1248–1377 гг.*, Гародня — Вроцлаў 2015.

**Аляксей Ластоўскі**, кандыдат сацыялагічных навук. Запрошаны даследчык Цэнтра беларускіх і рэгіянальных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня, Літва), даследчык Інстытута палітычных даследаванняў „Палітычная сфера". Навуковыя зацікаўленні: палітыка памяці, нацыянальная ідэнтычнасць, інтэлектуальная гісторыя беларускага нацыяналізму, культурная геаграфія. ORCID: 0000-0002-5034-7454.

Асноўныя публікацыі: *Recoding the Nation: Historical Politics in Belarus after the 2020 Protests*, *Constructing the Memory. Central and Eastern Europe in New Geopolitical Reality*. Edited by H. Bazhenova, Lublin 2022, pp. 163–186;

A. Lastouski, N. Zakharov, *Sacred Language in the Borderlands: Discussions on the Language of Belarusian Catholicism*, [in:] *Nationalities Papers*, 2022, pp. 1–15; *„Death Parade" on Victory Day (Minsk, 2020)* „Institute of National Remembrance Review", 2021–2022, nr 3, pp. 211–242; *От молитвы к протесту: католическая церковь в Беларуси*, „Неприкосновенный запас", 2021, № 3, с. 233–252; *Расавыя ідэі ў беларускім нацыяналізме пачатку XX ст.* „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2019, nr 12, s. 66–79.

**Ольга Мастяница**, Phd, Институт истории Литвы.

Сфера научных исследований: национальные отношения в Литве, история идентичности дворянства, интеллигенции в начале XX века. ORCID: 0000-0003-3094-3539.

Основные публикации: *Bajorija lietuvių tautiniame projekte (XIX a. Pabaiga — XX a. pradžia)*, Vilnius 2016; *Between Ethnographic Belarus and the Reestablishment of the Grand Duchy of Lithuania* [in:] *How Belarussian Nationalism Created Its „National Territory„ at the Beginning of the Twentieth Century, Spatial Concepts of Lithuania in the Long Nineteenth Century*, edited by Darius Staliūnas, Boston 2016, p. 279–312; O. Mastianica-Stankevič, J. Venckienė *Mečislovas Davainis-Silvestraitis. Dienoraštis 1904–1912*, Vilnius 2020; *The nobility in the Lithuanian national project in the late nineteenth and early twentieth century: the approach of the Catholic clergy* [in:] *Entangled interactions between religion and national consciousness in Central and Eastern Europe*, ed. Yoko Aoshima 2020, p. 84–96; *The Formation of Imperial Loyalty in the Education System in the Northwest Region in 1905–1915*, [in:] *The Tsar, the Empire, and the Nation Dilemmas of Nationalization In Russia's Western Borderlands, 1905–1915*, ed. Darius Staliūnas, Yoko Aoshima 2021, p. 259–284.

**Дзмітрый Матвейчык (Dzmitry Matveichyk),** кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела навукова-даследчай і публікацыйнай дзейнасці Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.

Навуковыя зацікаўленні: гісторыя Беларусі „працяглага XIX стагоддзя", паўстанні XIX ст. у Беларусі, гісторыя шляхецкага саслоўя. ORCID: 0000-0003-0672-2285.

Асноўныя публікацыі: *Выгнаныя з роднага краю: Пасялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830–1870-я гады)*, Мінск 2011; *Удзельнікі паўстання 1863–1864 гадоў: біяграфічны слоўнік (паводле матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі)*, Мінск 2016; *Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі*. Уклад. Дз. Ч. Матвейчык, Мінск 2014; *Паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў*, Мінск 2013; *Спроба стварэння культу асобы Міхаіла Мураўёва і яе ўплыў на развіццё гістарыяграфіі паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі (1890–1905 гг.)*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2018, № 5, с. 35–48.

**Ірина Матяш (Iryna Matiash)**, доктор історичних наук, професор, запрошений дослідник Центра східноєвропейських досліджень при Варшавському університеті.

Сфера наукових інтересів: дипломатичні відносини України з іноземними державами, історія дипломатії, історія міжнародних відносин, біографія, архіви, джерелознавство. ORCID: 0000-0002-7565-1866.

Публікації: *Іноземні представництва в Україні (1917–1919 рр.): державна місія та повсякденність*, Київ 2019; z *Podlasia do Kijowa. Wkład Iwana Kraskouskiego w organizację ukraińskiej służby dyplomatycznej i konsularnej w latach 1918–1924*, [w:] *Migracje a tożsamość narodowa mieszkańców Europy Wschodniej w XIX i na początku XX wieku*. Red. D. Michaluk, Ciechanowiec 2016, s. 255–282; *Украінскі эпізод жыцця Івана Краскоўскага*, „ARCHE", 2019, с. 61–70; *The first ukrainian diplomatic representation in Bulgaria: till the beginnings of the institutional history of ukrainian-bulgarian relations*, „Bulgarian Historical Review", 2020, № 3–4.

**Сергей Прудовский (Sergey Prudovskiy),** член Научно-информационного центра „Мемориал".

Сфера научных интересов: изучение национальных операций НКВД СССР 1937–1938 гг.

Публикации: С. Кривенко, С. Прудовский, *Статистика национальных операций НКВД 1937–1938 годов*, [online] https://lib.memo.ru/media/book/27344.pdf, [dostęp: 12.05.2023]; *„Спасская красавица": 14 лет в ГУЛАГе агронома Кузнецова*, Москва 2019; *Была такая „нация" — харбинцы. Харбинская операция НКВД в документах*, СПБ 2022.

**Аляксандр Радзюк (Aliaksandr Radziuk),** кандыдат гістарычных навук, Беларускі інстытут права (БІП), дацэнт.

Сфера навуковай зацікаўленасці: палітыка царызму на землях Беларусі ў XIX ст.; гісторыя штодзённасці. ORCID: 0000-0001-5148-2642.

Асноўныя публікацыі: *Пад скіпетрам Расейскай імперыі. Рэпрэсіўная палітыка царызму на землях Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.*, Гародня — Кракаў 2017; *Represijna polityka caratu na ziemiach bialoruskich (1863–1864)*, [w:] *Powstanie Styczniowe 1863–1864. Historia i analizy*, Kraków 2017, s. 211–238; A. Sauczuk, A. Radziuk, *Album powstańców 1863 roku z Grodzieńszczyzny*, Kielce 2021.

**Іна Соркіна (Ina Sorkina)**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, Цэнтр беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта. ORCID: 0000-0001-6648-1343.

Сфера навуковых інтарэсаў: гістарычная ўрбаністыка, гісторыя яўрэяў Беларусі. Аўтар каля 130 публікацый, у тым ліку манаграфіі *Мястэчкі Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст.* (Вільня 2010).

**Аляксандр Смалянчук (Aliaksandr Smalianchuk)**, доктар гістарычных навук, прафесар Інстытута славістыкі ПАН, сябар Цэнтра беларускіх студыяў Студыюма Усходняй Еўропы Варшаўскага ўніверсітэта. Галоўны рэдактар гадавіка антрапалагічнай гісторыі „Homo Historicus" (з 2008), „Гадавіка Цэнтра беларускіх студыяў" (з 2020).

Праблематыка даследаванняў датычыць гісторыі нацыянальных рухаў у Беларусі і Літве ў XIX–XX стст., палітычнай гісторыі Беларусі ў XX ст., гістарычнай урбаністыкі, memory studies (вусная гісторыя, lieux de memoire). ORCID: 0000-0002-1827-5083.

Найважнейшыя публікацыі: *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917*, Санкт-Пецярбург 2004; *Краёвая ідэя ў беларускай гісторыі*, Мінск 2017, *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю*, Мінск 2018; *Мітрафан Доўнар-Запольскі (1867–1934): асоба ў дакументах і ўспамінах* (рэд.), Мінск 2020; *Za pierwszych Sowietów. Pogranicze polsko-białoruskie w latach 1939–1941 w relacjach ustnych mieszkańców Białorusi* (red.), Warszawa 2021 ды інш.

**Дарюс Сталюнас**, PhD, старший научный сотрудник Института истории Литвы.

Научные интересы: Российская империя и национализм, межэтнические отношения, места памяти. ORCID: 0000-0002-1227-4776.

Основные публикации: *Making Russians. Meaning and Practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863*, Amsterdam — New York 2007; *Enemies for a Day: Antisemitism and Anti-Jewish Violence in Lithuanian under the Tsars*, Budapest — New York 2015; *Lithuanian Nationalism and the Vilnius Question, 1883–1940*, Marburg 2015 (with Dangiras Mačiulis); *Affirmative Action in the Western Borderlands of the Late Russian Empire?*, „Slavic Review", 2018, t. 77/4, p. 978–997; *Польша или Русь. Литва в составе Российской империи*, Москва 2022.

**Ніна Стужынская (Nina Stuzhinskaya)**, кандыдат гістарычных навук.

Сфера навуковай зацікаўленасці: антысавецкі ўзброены рух 1920–1930-х гг. ORCID: 0000-0002-6184-1650.

Асноўныя публікацыі: *Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 1920-я гг.* Мінск 2012; *Лесная война глазами писателя и прокурора: повстанчество на Витебщине и Смоленщине,* [у:] *„Атаманщина" и „партизанщина" в Гражданской войне: идеология, военное участие, кадры*, Москва 2015, с. 792–804; *Війна і мир Білоруської Селянської партії „Зелений Дуб",* [у:] *Економічний націоналізм.* Івано-Франківськ 2018, с. 308–314; *Гісторыя атамана Грача: на падставе сямейнага архіва,* „Przegląd Środkowo-Wschodni, 2019, nr 4; s. 77–90; *Касцёл і антысавецкі рух у Беларусі ў 1920-я гг.* [у:] Przegląd Środkowo-Wschodni, 2022, nr 7, s. 83–95.

**Сяргей Токць (Siarhei Tokc),** доктар гістарычных навук, сябар Цэнтра беларускіх студыяў Студыюма Еўропы Усходняй Варшаўскага ўніверсітэта. Займаецца сацыяльнай і палітычнай гісторыяй Беларусі XIX–XX стст., мікрагісторыяй. ORCID: 0000-0003-4543-7903.

Аўтар звыш 150 навуковых публікацый, у тым ліку навуковых манаграфій: *Сацыяльныя і культурныя працэсы ў беларускай вёсцы ў другой палове XIX — пачатку XX ст.,* Мінск 2016; *Мясцовая шляхта і дзяржаўная адміністрацыя Расійскай імперыі ў Гродзенскай губерні: лаяльнасць і супрацiў (1802–1860-я гады),* Гродна 2019.

**Ігор Чорновол (Ihor Chornovol),** доктор історичних наук.

Сфера наукових зацікавлень: історія „довгого" XIX століття, український парламентаризм, польсько-українські стосунки, теорія фронтиру. ORCID: 0000-002-1495-4417.

Основні публікації: *Компаративні фронтири: світовий і вітчизняний вимір*, Київ 2015; *Українська фракція Галицького крайового сейму*, Львів 2018; *Вибори до Галицького сейму: національний аспект і регіональний підхід*, „Народознавчі зошити", 2021, № 5, с. 1087–1095; *Значення польсько-української угоди 1890–1894 рр.* [в:] *За свободу. Українсько-польський діалог та спроби порозуміння*. За ред. М. Литвина, Львів 2021, с. 150–178.